Ян Гушча

# Грацыяншыя



Мінск 1976

И(Польск.)
Г 98

Пераклады зроблены з выданняў:

Jan Huszcza. Kręgi.
Wydawnictwo Łódzkie, 1964.
Jan Huszcza. Pan Gracjan i inni.
Wydawnictwo Łódzkie, 1970.

*УКЛАДАЛЬНІК БАРЫС САЧАНКА*

Гушча Я.
Г 98 Пан Грацыян і іншыя. Апавяданні. Мн., «Маст. літ.», 1976.
288 с. з іл.

Ян Гушча — вядомы польскі паэт і празаік, актыўны перакладчык і папулярызатар беларускай літаратуры ў Польшчы. У гэтую кнігу ўвайшлі лепшыя апавяданні пісьменніка.

Г $\frac{70304\text{-}196}{М\ 302(05)\text{-}76}$ 135-76 И(Польск)

*Мяне прасілі напісаць прадмову або пасляслоўе да кнігі маіх выбраных апавяданняў, якая выдаецца па-беларуску.*

*Я абараняўся, як мог, бо лічу, што сур'ёзныя прадмовы і даклады на розных урачыстых паседжаннях нельга лічыць спецыяльнасцю пісьменнікаў. Нават тады, калі прадмовы тыя ці даклады бываюць даволі кароткімі.*

*Нешта падобнае было і тады, калі складальнік кнігі, вядомы празаік Барыс Сачанка, папрасіў мяне назваць у маіх зборніках апавяданняў тыя, якія я хацеў бы бачыць у беларускім выбраным.*

*Тут я абараніўся,— складальнік лепш ведае беларускіх чытачоў, лепш ведае сваё выдавецтва, на мае апавяданні, якіх я апублікаваў даволі многа, позірк у яго іншы, чым у аўтара, якому нялёгка разабрацца, з якімі са сваіх, вельмі розных, дзяцей варта выходзіць на людзі.*

*Значыцца, з гэтым я ад Барыса Сачанкі абараніўся. А з прадмовай ці пасляслоўем пашанцавала менш...*

*Дык вось... Паходжу я з аколіц мястэчка Дзісна над Дзвіною, мяркую, што мовы польскую і беларускую пачуў аднача-*

*сова. Мае дзяды і бацькі на тых землях нямала папётавалі, бо з далёкае дайніны выводзіцца іх паходжанне, і тыя нівы многа ўсмакталі і іхняга поту.*

*Не буду гаварыць пра гэта больш, бо шмат сказаў у нарысе-ўспаміне «Лямпа».*

*Як паэт і празаік я часта вяртаўся да сваіх родных мясцін. Іменна ў вершах і апавяданнях. Не раз таксама вяртаўся я туды і яшчэ ўсё вяртаюся, калі з прыхільнасцю перакладаю на маю родную мову беларускія вершы і апавяданні. (Перакладаю я, вядома, і з іншых моў, скажам, з рускай і ўкраінскай або і пры дапамозе падрадкоўнікаў, але бывае гэта радзей.)*

*Найбольшы — я адчуваю так і дагэтуль — польскі паэт, Адам Міцкевіч, напісаў у эпілогу да «Пана Тадэвуша»:*

*Маленства край! Ты з намі да скanання —*
*Чысты, святы, як першае каханне.*

*Прызнаннем пачынае Якуб Колас, аўтар найлепшай — як на маё ўспрыманне — беларускай паэмы «Новая зямля»:*

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*
*Забыць цябе не маю сілы!*

*Не ведаю я дакладна, што ўяўляюць сабою апавяданні, выбраныя з майго — не пра колькасць кажучы — сціплага літаратурнага набытку, але хацелася б, каб выбар гэты зацікавіў беларускага чытача.*

*Калі ж яно збудзецца, хоць бы як найсціплейшым чынам, гэта будзе яшчэ адным маім вяртаннем у родныя мясціны — «край маленства»...*

*Ну вось, калі ласка,— з таго, што я напісаў, атрымалася штосьці накшталт прадмовы або пасляслоўя. Што ж, думка пра яшчэ адно вяртанне, да таго ж у выглядзе кнігі, чагосьці асабліва важнага для пісьменніка, вельмі хвалюе мяне.*

*Прашу прабачэння!*

ЯН ГУШЧА

*Лодзь, 14.XI 1975 г.*

# ЭКЗАМЕН



Школа! Школа!
Цябе ўспамінаю...

*Юльян Тувім, «Над Цэзарам».*

Тры выдатныя падзеі 1934 года лёгка ўсплываюць у маёй памяці, хоць толькі адна з іх была адзначана ў тагачасным польскім друку. Падзеяй, якая набыла шырокі рэзананс, была сотая гадавіна выхаду ў свет міцкевічаўскага «Пана Тадэвуша», дзве наступныя не знайшлі ніякага грамадскага водгуку, але для чалавека, які піша гэтыя ўспаміны, мелі куды больш хвалюючы сэнс.

Па-першае, выходзіць замуж нейкая Гэле́нка з шостага класа гімназіі...

Па-другое, у чэрвені таго ж года я здаваў экзамен на атэстат сталасці, гэта значыць, павінен быў атрымаць пасведчанне аб сканчэнні гімназіі.

Гэленка была высокая, зграбная шатэнка з цёмнымі вачыма, негаваркая, і гэта асаблівасць прымушала мяне верыць, што яна не толькі выключна

прыгожая, але і надзвычай разумная. Асабліва мала гаварыла яна на ўроках, калі ў яе пра што-небудзь пыталіся настаўнікі. Ім, аднак, яе маўклівасць менш імпанавала, чым мне, і таму Гэленка, што мела ўжо, як тады казалі, семнаццаць вёснаў, ледзь дапялялася да шостага класа. Яе становішча ў тым асабліва цяжкім для яе класе нагадвала становішча баржы з ільном, якая села на мель: сесці было лёгка, а зрушыць з мелі — колькі гэта патрабавала спрыту і намаганняў!

Прынамсі ўжо з год, як я закахаўся ў Гэленку, і мне здавалася, што ўся мая цудоўная будучыня залежала толькі ад зліцця майго лёсу з лёсам смуглай шатэнкі. Будучы чалавекам нясмелым, які хадзіў у пакамячаных штанах, я пазбягаў асабістых з ёю кантактаў, якія так лёгка можна было наладзіць у часе перапынкаў, і таму карыстаўся запіскамі. Не раз на працягу аднаго дня дзве ці тры запіскі я ўсоўваў у рукі Гэленкі або ў кішэні яе паліто, што вісела ў раздзявалцы. Свабоднаму доступу ў раздзявалку, вядома, перашкаджаў школьны вартаўнік, і таму — хоць мае сябры часам бессаромна кпілі з яго — я стараўся падтрымліваць з ім не толькі ветлівыя, але, па магчымасці, і шчырыя адносіны. Гэта было справай нялёгкай, бо вусач належаў да людзей фанабэрыстых, горда выпінаў грудзі, на якіх сінеў медаль у гонар дзесяцігоддзя незалежнасці Польшчы.

Усе тыя пісьмы даўно прапалі, і, напэўна, у гісторыі польскай любоўнай перапіскі з'явілася ў выніку гэтага адчувальная прагаліна. Наколькі магу прыпомніць, яны былі напоўнены смуткам, болем, скрухай і думкамі аб трагічнай і раптоўнай смерці, якая выклікала б жах ва ўсіх школьных сябровак і сяброў, калі праводзілі б маю сціплую дамавіну з сасновых дошак на могілкі. Я не ўмеў і нават не хацеў уявіць сабе іншага кахання, апрача нешчаслівага. Я стараўся мець вартую жалю бледнасць твару, але паветра было здаровае, і таму з майго твару не сыходзіў румянец. Я шукаў адзіноты, але што гэта за адзінота, калі ніхто яе не заўважаў, таму я бег да сяброў пагуляць у шашкі і ў прэферанс.

Аднак, кажучы больш дакладна, невялікае пагранічнае мястэчка, пазбаўленае якой-небудзь пер-

спектывы пры тагачасным эканамічным укладзе, пачынала бурна ажыўляцца. Тут кніжкі чыталіся без разбору, ды з якімі перажываннямі!

У мястэчку, аддаленым ад самай блізкай чыгуначнай станцыі — глупства! — усяго на сорак кіламетраў, не было нават стацыянарнай кінаўстаноўкі, але дзейнічаў там народны дом, дзе адбываліся даволі частыя на той час мясцовыя ўрачыстасці, выступленні самадзейных тэатральных калектываў, а таксама вандроўных труп.

Вандроўныя трупы, сёння ўжо з'ява зусім невядомая, існавалі аж да самай вайны. Складаліся яны пераважна з людзей, якія звіхнуліся, і ў параўнанні з ранейшымі ўдзельнікамі такіх калектываў рэдка надзеленых талентам. Людзі гэтыя выклікалі перш за ўсё спачуванне.

Да нас заглядвалі ўкраінскія і рускія трупы, нярэдка з добрым рэпертуарам, як, напрыклад, з «Віем» Гогаля. Яны пакідалі аб сабе прыемныя ўспаміны і часам неаплачаныя рахункі, аднак ніхто ўжо — як пра гэта чыталася ў шматлікіх аповесцях, і я ўспомню хоць бы хвалюючае апавяданне Зыгмунта Нядзведскага «У дарозе» — не ўлюбляўся «з першага позірку» ў артыстак, не рызыкаваў сціплай пасадай на пошце або ў кнігарні.

Найбольш частай формай бавіць час былі прагулкі ўздоўж дзвюх разгалінаваных рэчак, якія сыходзіліся за горадам каля могілак, і ў лес або блуканне па незабрукаваных вуліцах з драўлянымі тратуарамі. Бо чытаць не заўсёды надаралася магчымасць: тартак, які быў прыватнай уласнасцю нейкага пана Бімбады, падаваў у хаты электрычнасць толькі раннімі вечарамі, у адзінаццаць гадзін усюды святло гасла, а карыстацца нафтавымі лямпамі не ўсе жадалі. Гаспадыні, у якіх кватаравалі вучні, казалі, што лямпы страшэнна чадзяць, аднак, калі сказаць праўду, справа была ў ашчаднасці, бо мала хто грэбаваў тут капейкай.

Толькі ранняй вясной, пасля крыгаходу на Дзвіне, у паветры пахла залатаноснай Аляскай, Клондайкам, Залатым Берагам. Аж з самай Рыгі прыязджалі купцы лесу, каб выкарыстаць паводку і прасачыць за сплавам нарыхтаваных зімой і цяпер звязаных у

плыты бярвенняў. Сезонную работу знаходзілі плытагоны і людзі, знаёмыя са сплавам, а рэшта дарэмна наступала на пяты сытым маладым бландзінам, якія прадстаўлялі латвійскі гандаль лесам. Як высвятлялася па кожным выездзе купцоў, крыху на іх зарабілі і некаторыя мясцовыя прадпрыемствы і дзве ці тры маладыя жанчыны, вядомыя па легкадумных поглядах на жыццё. У такія часы нядрэнна адчувалі сябе клапы ў адзіным мясцовым тракціры, які меў вялізную, павешаную на дратах, скрыпучую ў ветраную пагоду шыльду: «Hotel Europa».

Ад недахопу больш разумных забаў у мястэчку мы больш цікавіліся жыццём гімназіі. Выдавалі нават свой уласны штомесячны часопіс, адбіткі якога рабіліся спачатку на гектографе, а потым ён друкаваўся ў «сапраўднай» павятовай друкарні. У штомесячніку мы змяшчалі апісанні беларускіх звычаяў і песні, апрача таго, у ім «абнародаваў» сябе паэтычны клуб «У глыбіню». Ён яўна быў пад уплывам польскай паэзіі, аднак другараднай. Зоркай жа клуба быў нейкі Антось, які толькі праз некалькі год — калі яго паэтычныя амбіцыі ўжо цалкам пакінулі — прызнаўся мне, што вершы, крыху ім адаптаваныя, ён спісваў са старых нумароў часопіса «Тыгоднік Ілюстраваны».

Мястэчка, як казалі, мала чаго магло нам даць: радыё, хоць бы нават з навушнікамі, на крышталёвых дэтэктарах, або нават патэфон ці старасвецкі грамафон былі выключнай рэдкасцю. Усё гэта і такая сітуацыя ўплывала на тое, што большасць з нас мела нейкую асабістую зацікаўленасць не толькі да прадметаў, якія выкладаліся ў школе. З паасобнымі прадметамі мы знаёміліся ў навуковых гуртках. Было іх шмат: літаратурныя, гістарычныя, прыродазнаўча-геаграфічныя, спартыўныя. А хто з нас не выступаў з дакладамі! Вядома, часам здаралася, што ў некаторыя гурткі ўступалі ў мэтах падлізвання да кіраўніка або выкладчыка прадмета. Па гэтай прычыне я быў членам гуртка класічнай літаратуры.

Але я маю на ўвазе перш за ўсё разнастайныя хобі...

Тут трэба паўтарыць старую праўду: маладыя людзі, якіх нішто не цікавіць, павінны выклікаць да

сябе насцярожанасць. З гэтага пачынаецца загніванне, і тут у пераносным сэнсе я прыводжу словы Адама Міцкевіча:

...Па купінах дрыгвяністых
Ідуць, мінаючы багны,
Абшары балот травяністых...

Мы збіралі паштовыя маркі (тады не было на іх падпіскі), гербарыі, выдзьмутыя птушыныя яйкі (сёння я гэтым не займаўся б і ў сваё апраўданне павінен дадаць, што агульную з сябрам калекцыю, якая складалася з нейкіх трыццаці відаў, мы аддалі прыродазнаўчаму кабінету), майстравалі (больш за ўсё нас цікавілі дэтэктарныя радыёпрыёмнікі, эпідыяскопы са шклом ад старых электрычных ліхтароў). Кнігі, на жаль, былі вельмі дарагія. Нават поўнага камплекту падручнікаў амаль ні ў кога не было. Затое я збіраў па адным экземпляры газеты і часопісы.

Шмат каго з нас цікавілі рэбусы і красворды. Апошнія ў значнай меры пераважылі буры і навальніцы. Яшчэ і сёння можна знайсці ў нядзельных нумарах газет азначэнні слоў накшталт: від папугая (ара), мера паверхні (ар), рэўматычная хвароба (ішыяс), уладар старой Расіі (цар), імя сабакі або рымскага імператара (Нерон). Магчыма, толькі штотыднёвік «Пшэкруй» выйшаў на прастор наватарства, карыстаючыся дасціпнымі вызначэннямі, якія патрабуюць кемлівасці.

Нас хвалявала цяга да мастацтва, хоць яна праяўлялася ў сціплых формах: песні, вершы, гітары і балалайкі. Моладзь з больш акрэсленымі здольнасцямі ішла ў музычны або літаратурны гурткі. Абодва мелі на сваім рахунку немалыя дасягненні, прыносячы вялікую асалоду не толькі адным вучням.

Сярод іншых рысаў моладзі з «крэсаў усходніх» я б назваў устойлівасць у адносінах да хітрай іроніі, празмерную, магчыма, гатоўнасць трактаваць усё значна, нейкую грунтоўнасць, сур'ёзнасць... «Так за так і не за не без светлаценю...»

Давала сябе знаць цікавасць у розных праявах: прагляд газет у школьнай чытальні, наведванне царквы, сінагогі, зацікаўленасць мінулым бліжэйшай аколіцы, назіранні за жывёламі і птушкамі.

Недахоп выхавання і вопыту з поспехам замяняла нейкая шчырая павага да людзей, да рэчаў. Павага да рэчаў была вынікам таго, што амаль усе мы ў рознай ступені прымалі ўдзел у штодзённай працы людзей, што ў горадзе здараецца рэдка.

Былі сярод нас і аматары «модных эмоцый», якія самі праглі жахаў і любілі наводзіць жах на іншых. Памятаю адну такую праяву «ўсходняга максімалізму» ў парушэнні норм. Два сябры пайшлі прычашчацца, наеўшыся перад тым каўбасы. У доказ гэтага хукалі, каб адчуўся яе пах, некалькі дзён задзірліва круціліся паміж намі. І толькі праз якіянебудзь два тыдні паспавядаліся ў граху, які дужа пачаў іх прыгнятаць.

У стылі маладой польскай паэзіі былі напісаны і мае любоўныя пісьмы. Гэленка па звычаю прыгожых істот, якіх абагатвараюць, нават і гэтай паэзіі не чытала, адказвала больш празаічна, па-зямному.

Але вось і па ёй і па мне ўдарыла, адчувальна ранячы перш за ўсё мяне, «суровая рэчаіснасць».

Гэленка была дачкой шляхціца. Тамашняя шляхта, хоць і мела сотні папераразаных імшарамі і дрыгвяністымі балотамі гектараў, не ўяўляла сабой якойнебудзь значнай гаспадарчай сілы: зямля тут апрацоўвалася прымітыўным спосабам, ніхто не думаў пра інтэнсіфікацыю, нажніцы цэн паміж сельскагаспадарчымі прадуктамі і прамысловымі таварамі нагадвалі куяўскі танец: «Я па ваду, ты па ваду...» Затое дрэнныя звычкі, фанабэрыстасць, капрызы, ганарыстасць, атрыманыя ў спадчыну ад продкаў-латыфундыстаў, не ішлі ні ў якія рэальныя суадносіны з прыбыткамі. Таму няма нічога дзіўнага, што перад зажынкамі не ў аднаго з гэтых шляхціцаў загараліся вочы, калі яны бачылі дзесяць сярэбраных злотых, не адзін з іх нізка кланяўся ліхвяру, які бываў частым госцем, пераважна разам з секвестратарам *. А ўвосень са здзіўляючай паспешлівасцю ператваралі ў грошы ўраджаі, калі не паспявалі прадаць іх яшчэ на корані, каб выбрацца на некалькі тыдняў у Вільню. Спыняліся яны ў гасцініцы Жоржа, які про-

* Секвестратар — судовы выканаўца. (Заўвагі тут і далей — перакладчыкаў.)

звішчы сваіх прыезджых гасцей абвяшчаў у мясцовай прэсе, рабіліся сталымі наведвальнікамі аперэткі «Лютня», дзе спявала Яніна Кульчыцкая, рэстаранаў «Брыстоль» і «Зацішша». Адным словам, у кампаніі дам і чвэрць- і паўсвета адраджалі на нейкі час даўні разгульны ўклад жыцця, уласцівы іх продкам.

Бацька Гэленкі ўжо некалькі год жыў у мястэчку, сутаргава трымаючыся за нейкую невялічкую пасаду ў магістраце. Бо свой закладзены за даўгі маёнтак ён прайграў у карты. З бурнай маладосці яму засталіся толькі ўспаміны ганаровых спраў, сурдут і фрак, пашытыя перад першай сусветнай вайной, часам пагардлівы позірк, рэўматызм, кіёк з пазалочанай булавешкай і партрэт прадзеда — паручніка з часоў паўстання Касцюшкі.

Найбольш легкадумныя местачкоўцы хацелі яго бачыць сваім бургамістрам. Сабраўшыся каля помпы на брудным рынку, яны гаварылі:

— Прадзед у яго быў прыстойны, ды і сам мае выгляд, як дзесяць, пся крэў, яснавяльможных! Чалавек паважны!!!

Менш легкадумныя адказвалі з'едліва:

— Хочаце, каб ён і гэту помпу, каля якой мы зараз стаім, прайграў у карты, ці што?

Пытанне было забойчае, яно мела вастрыню кінжала, смак прускага квасу, і таму бацьку Гэленкі давяралі розныя высокія пасады, але толькі ганаровыя, якія не мелі практычнага значэння: ён быў старшынёй марской і каланіяльнай лігі, засядаў у прэзідыуме сяброў гімназійнай бурсы, часам выступаў у якасці «моста лучнасці паміж мінулым і новым» або нешта накшталт гэтага...

У гэты час у мястэчка, пасля смерці старога гарадскога суддзі, прыехаў наступнік, малады і нябрыдкі кавалер. Як і здараецца з маладымі людзьмі, што нават займаюць высокія і адказныя пасады, ён праз некалькі месяцаў на адным з гімназійных вечароў пазнаёміўся з Гэленкай, закахаўся ў яе на маіх вачах, прызнаўся ў каханні і атрымаў поўную ўзаемнасць, бо суддзя ў маленькім мястэчку — гэта амаль рамантычны, выхаплены з фантастычнага рамана жыццёвы шанец. Гэленка, відаць, з радасцю (і, напэўна, не менш радаваліся таксама настаўнікі!)

пакінула сцены двухпавярховага з чырвонай цэглы будынка гімназіі, замяніла падвойнае, шматскладовае дзявочае прозвішча на нейкае ледзь не двухскладовае і ў дадатак з мужыцкім гучаннем. Аднак хто б у такім выпадку звяртаў увагу на колькасць складоў — гэта ж не пісанне вершаў!

Наша каханне скончылася! Колькі ў ім было сапраўднага, надта юнага пачуцця, а колькі сумных адгалоскаў, выкліканых прачытанымі кнігамі, на гэта мне і сёння цяжка адказаць. Ва ўсякім разе, маё апошняе пісьмо ўзнялося на недасягальную вышыню драматычнай рыторыкі. Было ў ім нешта пра рыдаючыя струны маёй душы, з якіх некалькі ў адказ на чуткі пра яе шлюб адразу і назаўсёды лопнулі... Пісаў я таксама нешта пра тое, што яна кінецца ў вір свецкага жыцця, а я буду дзесь блукаць, нібы той сухі ліст, гнаны ветрам. Мне абавязкова хацелася быць падобным да сухога ліста, гнанага ветрам! А што гэта мне не ўдалося, дык тут ужо вінаваты дрэнныя фізічныя законы, якія кіруюць гэтым светам.

Больш пісем я не пісаў, бо трохі баяўся суддзі: а раптам ён даведаецца і яшчэ ў дадатак, замест таго каб выклікаць мяне на дуэль, проста накруціць за вушы! Апрача таго, час быў падумаць пра атэстат сталасці, да якога заставалася ўсяго сто дзён, што па традыцыйнай звычцы мы адлюстравалі на цёмнасініх форменных шапках пры дапамозе вышытых каляровымі ніткамі мудрагелістых узораў.

Шапкі, як ужо гаварылася, у нас былі форменныя. Горш было з мундзірамі: мала ў каго быў дакладна форменны мундзір, бо далёка не ўсе бацькі мелі магчымасць іх набыць. Наша адзенне — саматканыя світкі, з саматканага сукна, якія зашпільваліся пад шыяй, світэры, гарцэрскія * кашулі — сведчыла аб разнастайным грамадска-сацыяльным паходжанні: у школе вучыліся дзеці местачковых яўрэйскіх гандляроў і купцоў, сынкі засцянковай шляхты з невялічкіх фальваркаў і хутароў, дзеці сялян і парабкаў, дзеці дробных служачых. Як толькі надыхо-

---

* Саюз польскіх гарцэраў — у буржуазнай Польшчы — дзіцячая арганізацыя.

дзіў тэрмін чарговай платы за навучанне, заўсёды хто-небудзь адсяваўся, заўсёды два ці тры прозвішчы не без уздыху выкрэсліваліся з класнага журнала.

Нягледзячы на сацыяльную і нацыянальную розніцу — сярод нас былі яўрэі, беларусы і рускія, нават адзін татарын, сын гарбара, і два караімы *, жылі мы даволі дружна. Калі і ўзнікалі класавыя антаганізмы, дык прычынай іх была фанабэрысдасць вучняў старэйшых класаў у адносінах да «жаўтаротых» з класаў малодшых. Пераход на «ты» з вучнем старэйшага класа даваў аванс на дружбу. Нацыянальны антаганізм, які распальваўся штучна, пачынаўся дзесьці там, на ўзроўні павета, у паліцыы старасты і паліцыі або потым ва універсітэце. Да цвёрдага разумення класавага антаганізму ў поўным сэнсе таксама даходзіла значна пазней — ва універсітэце.

На перапынках мы хадзілі гуртам, узяўшыся за рукі, і спявалі па чарзе то тагачасныя модныя песні пра Равеку, то беларускія песні пра грачанікі або папулярныя ў той час песні «Алаверды» і «Жура-жура-журавель», якія чулі на рускай мове. Блізкасць граніцы — польска-савецкай граніцай была рака — служыла прычынай таго, што мы часам спявалі па-руску «Інтэрнацыянал». Спявалі мы не таму, што займалі нейкую канкрэтную і рашучую пазіцыю, а таму, што гэта «пахла бунтам». Некалькі вучняў аднойчы нават далі дзёру на другі бераг, дзе аднак іх сустрэлі з падазронасцю.

Мы зрэдку дэкламавалі і вершы. Хоць у паэзіі пераважалі маладапольскія густы, прышчэпленыя пераважна паланістамі, гэтыя густы, як правіла, не выходзілі за рамкі Стафа, да нас усё ж пранікалі Бранеўскі, Тувім, Пейпер.

На ўроках некаторых прадметаў наогул залішне расхвальвалася пачуццёвая старасвеччына, нейкі саладжавы і недарэчны патрыятызм. Дзіўна вучылі нас, напрыклад, геаграфіі. Пачуццё гордасці абуджалі не пры дапамозе лічбаў, якія датычылі здабычы

---

* Караімы — патомкі цюркскіх плямён, якія ўваходзілі ў Хазарскі каганат. Пасля яго разгрому ў X ст. кіеўскімі князямі яны засталіся ў Крыме, а ў XIV ст. частка іх была пераселена ў Літву і заходнія вобласці Украіны.

вугалю, выплаўкі сталі і асушкі балот. Урэшце, адкуль маглі браць такія лічбы? Нам ахвотна гаварылі пра тое, што мы маем адну з даўжэйшых рэк у Еўропе, сёмую па даўжыні граніцу, адзін з найвышэйшых горных пікаў, адно з найглыбейшых і найбольш таямнічых азёр, адны з найбольш маляўнічых прастораў для палявання, а на Палессі — прыгожа квітнеючыя азаліі.

Памятаю нават, як настаўнік геаграфіі аднойчы выкрыкнуў:

— Слухайце, дзе вы знойдзеце ў Еўропе такое мястэчка, як наша? Сорак кіламетраў ад чыгункі і — ніводнага аўтобуса! Гэта ж, далібог, незвычайнае... таго... хараство!

У той час я не разумеў тонкасці іроніі і прымаў усё за праўду ў поўным сэнсе слова, але сёння пераканаын, што выкладчык геаграфіі проста злёгку кпіў.

Канфлікты, якія ўзнікалі паміж вучнямі, былі перш за ўсё сутычкамі характараў і настрояў.

У часе такіх канфліктаў пад партамі перадаваліся з рук у рукі з'едлівыя пасквілі. Адзін з іх я памятаю:

Кавалер з мястэчка Празарокі,
што не ўмее ступіць і два крокі,
харчуецца супам з грэнкамі,
лётае за паненкамі,
задаецца перад намі
модна-доўгімі штанамі...

Форма верша, як гэта відаць, шурпатая і недасканалая, але ў ім адчуваецца вялікая сатырычная сіла!

Вядома, як і ў кожнай іншай школе, у нас былі распаўсюджаны мянушкі. Праз тое, што мой бацька быў уладальнікам, дырэктарам і разам з тым адзіным супрацоўнікам бюро скаргаў да адміністрацыйных і судовых улад пад назвай «Народны адвакат» (гэту назву, як двухсэнсовую, улады загадалі потым зняць), не было нічога дзіўнага, што да мяне прыліпла, нягледзячы на маё абурэнне, мянушка «адвакат».

Толькі за два гады перад атрыманнем атэстата сталасці я стаў... «элізіяй». Не магу стрымацца, каб

не прывесці звязаных з гэтым акалічнасцей. Добрым латыністам, хоць да гэтай мовы маю і сёння шмат глыбокай пашаны, я ніколі не быў. Мяне цікавіла толькі антычная культура, якую нам выкладалі папольску. Выкладчык у той час быў вялікім аматарам марфалагічных з'яў, навукі аб будове і жыцці слоўных выразаў. Марфалогія нават у самых заўзятых зубрыл не карысталася поспехам, а што ўжо казаць пра мяне? Я запамятаў толькі правіла выпадання галоснай, каб пазбегнуць зіяння (хіятусу). На адным з урокаў латыні «збіванне малютак» было выключна бязлітасным. На зададзенае пытанне з галіны марфалогіі палова класа не магла ні адказаць, ні падказаць. Калі прыйшла чарга да маёй сціплай асобы, якая намагалася адцягнуць ад сябе ўвагу, я ўстаў і па звычцы, з выразам на твары «дайце мне святы спакой», адказаў, што тут гаворка ідзе пра элізію. На гэты раз сапраўды гаворка ішла пра элізію. Дзякуючы такому збегу акалічнасцей, я за чвэрць атрымаў па латыні аж чацвёрку. Настаўнік не зусім стрымаў слова, бо на гэтым трагічным уроку абяцаў «пяцёрку» таму, хто правільна адкажа... Разам з гэтай адзінай за час майго прабывання ў гімназіі чацвёркай па латыні — бо я пераважна плаваў, як паміж Сцылай і Харыбдай, паміж двойкай і тройкай — прыліпла да мяне і «элізія».

На «крэсах» даўжэй чым дзе-небудзь захаваліся ўсялякага роду і складу дзівакі. Гэта зразумела: дарог там было мала, людзі рэдка сустракаліся паміж сабой, седзячы на адрэзаных ад усяго свету хутарах і ў фальварках або гібеючы ў мястэчках, якія часам мелі вельмі разнастайную дэмаграфічную і этнаграфічную структуру. Прадстаўнікі вышэйшых улад неахвотна заглядвалі ў тыя глухія закуткі...

Што датычыць настаўнікаў, дык сваімі дзівацтвамі вылучаліся пераважна латыністы. Вытлумачыць гэта можна тым, што яны зносіліся з далёкім мінулым — часам вельмі жыва і эмацыянальна,— і гэта неяк выключала іх з акаляючай рэчаіснасці.

У гімназіі мы «прайшлі праз рукі» адной латыністкі (дасканалай выхавацелькі) і трох латыністаў. Найбольшымі дзівацтвамі вылучаўся настаўнік М., і пра яго варта сказаць некалькі слоў.

Я добра ўяўляю яго: паўнаваты, лысы, старанна паголены. Заўсёды ў адным і тым жа светла-шэрым касцюме, з каўняром à la Славацкі. У гэтым адзенні ён франціў летам і... зімой. Толькі ў адлігу паказваўся часам на вуліцах мястэчка ў... паношаным дэмісезонным паліто і ў аўчыннай кубанцы. Купаўся ён круглы год, не прапускаючы ніводнага дня. Нават трыццаціградусныя маразы не перашкаджалі яму апаласквацца: ён станавіўся на лёд, прасякаў сякерай падмёрзлую палонку і на хвіліну акунаўся у яе, потым хутка выціраўся прасцінай, апранаўся і паволі вяртаўся дахаты.

Пра яго гаварылі, што калі ён калі-небудзь і захварэе, дык гэта будзе першая і апошняя хвароба ў яго жыцці. Так яно і здарылася: ён памёр у Казахстане, калі яму пераваліла за семдзесят.

У людзей, якія гэтага настаўніка не ведалі, яго выгляд выклікаў перапалох або здзіўленне. Аднойчы ў марозны дзень ён са станцыі пехатою вяртаўся ў мястэчка. На ўезджаную, бліскучую і цвёрдую дарогу ўчора вечарам вецер намёў снегу, у белай пустыні над алешнікам дагарала нізкае сонца, падарожжа было цяжкае. Аднак ніводзін сустрэты беларускі селянін не падвёз яго на сваіх розвальнях: убачыўшы чалавека ў пінжаку, з расшпіленым каўняром кашулі, кожны падганяў коней і ўцякаў як ад вар'ята або — крый божа — д'ябла...

Ён атрымаў — як пра гэта хадзілі чуткі — грунтоўную філалагічную і юрыдычную адукацыю ў Маскве. Не думаю, каб яе атрыманне было звязана з якімі-небудзь вялікімі цяжкасцямі, бо прырода надзяліла яго выдатнай памяццю. Ён выкладаў без канспектаў, без заглядвання ў гісторыю рымлян, у граматыку ці сінтаксіс. Задаваў урокі, называючы старонкі з падручнікаў, загалоўкі раздзелаў, падраздзелаў і асобных параграфаў, на якія раіў звярнуць асаблівую ўвагу, па памяці. Узнёсла скандуючы словы, ён звычайна стаяў, абапёршыся аб падаконнік, і толькі час ад часу праводзіў рукой па лбе.

У мінулым ён быў талстоўцам-вегетарыянцам. На сцяне ў кабінеце настаўніка, над паліцамі і этажэркамі, вісеў вялізны партрэт пісьменніка з дараваль-

ным надпісам. З глыбокай пашанай настаўнік захоўваў таксама некалькі лістоў ад аўтара «Вайны і міру», меў поўны збор твораў Талстога на рускай мове, сярод якіх былі і школьныя падручнікі, напісаныя ім у Яснай Паляне.

На бацькоўскіх сходах ён адказваў зацікаўленым бацькам, карыстаючыся выключна дзвюма фармулёўкамі: «ву́чыцца», «не ву́чыцца»... Самыя кемлівыя маці або бацька нічога больш не маглі пачуць ад «пана прафесара».

Настаўнік ніяк не мог, нягледзячы на выдатную памяць, дасканала авалодаць польскай мовай. Яго памылкі ў націсках і відавочныя русізмы былі крыніцай пацехі для школьнікаў.

Ён аднойчы сказаў сімпатычнай, хоць і не вельмі кемлівай вучаніцы, якая не вывучыла ўрока:

— **Я думаў, что на Гельмануўну** можна «положиться», а аказваецца, што не...

Ён ніколі не ставіў пяцёрак, зыходзячы з распаўсюджанага сям-там аж да сённяшняга дня правіла, што на чацвёрку ведае настаўнік, а на пяцёрку — толькі бог!

Затое ён стварыў сваю арыгінальную градацыю ў ацэнках: маленькае, амаль мікраскапічнае «пасрэдна» пад кантрольнай работай азначала амаль двойку, а вялізнае «пасрэдна», старанна выведзенае чырвоным чарнілам — амаль чацвёрку.

Ён ні з кім не сябраваў і да таго ж быў нудны чалавек і жмінда. У сям'і ўсіх дэспатычна падпарадкоўваў сабе. У яго доме, напрыклад, тэмпература ніколі, нават і ў траскучыя маразы, не паднімалася вышэй за дзесяць градусаў. Таму нічога дзіўнага, што яго сыны — а ён меў іх аж шэсць, і некаторыя потым скончылі універсітэт — ахвотна заседжваліся на знятых кватэрах сяброў, радзей сябровак, бо з апошнімі яны трымалі сябе вельмі сарамліва.

Скупы, ён вельмі неахвотна даставаў з кішэні кашалёк, каб задаволіць хоць бы найбольш вострыя фінансавыя патрэбы сыноў. Тады даходзіла да вельмі непрыемных сцэн. Раніцай сыны пасля папярэдняй канспіратыўнай змовы хавалі яго штаны, а як толькі ён хацеў іх знайсці, каб ісці на ўрокі, перад ім

з'яўлялася дэлегацыя з двух самых адважных сыноў і не без горкага гумару абвяшчала:

— Тата, дамавы камітэт пастанавіў, што парэжа на дробныя кавалкі твае штаны, калі яму не асігнуеш дванаццаць злотых на самыя неабходныя выдаткі...— Тут пачынаўся іх пералік.

Таргаваліся доўга, не шкадуючы галасавых звязак, пакуль нарэшце — бо час не чакаў — не даходзілі да кампрамісу: тата даваў, скажам, дванаццаць злотых і семдзесят пяць грошай (бо змагаліся ўпарта і падлікі рабілі з алоўкам у руках, спрачаючыся за кожны грош), узамен жа ён атрымліваў штаны.

Калі аднойчы мы пастанавілі, каб на праваслаўны вялікдзень староста класа выказаў яму святочныя пажаданні, ён іх не прыняў, затое добразычліва і аж да канца ўрока (што было бясспрэчнай перамогай!) тлумачыў нам сваю страшэнна складаную confiteor *, спасылаючыся на грэцкіх і рымскіх багоў. Такім чынам высветлілася, што яго вера ці вераванне з'яўляліся мешанінай, злепкам грэчаска-рымска-праваслаўных традыцый.

Часам, каб сарваць урок, мы засыпалі настаўніка пытаннямі, якія павінны былі сведчыць аб нашай глыбокай зацікаўленасці прадметам. Вучні ўсіх школ ахвотна карыстаюцца гэтымі хітрыкамі. Не кожны, аднак, мог задаць пытанне, якое б адпавядала дзвюм умовам: сведчыла аб развіцці таго, хто пытаўся, і выклікала прыхільны адказ выкладчыка. Менш кемлівыя, якія хацелі выказацца, звярталіся за дапамогай да таварышаў. Адно такое пытанне зласліва падсунутае пад выглядам таварыскай дапамогі, надоўга скампраметавала вучня, які яго задаў. Знешне гэта было дзельнае, дасціпнае пытанне, але яно таіла ў сабе каверзу, вялікую непрыемнасць. Гучала яно прыкладна так: «Пан прафесар! Як гэта на самай справе было з тым Гамерам? Ці ён сапраўды жыў, ці ўсё тое, што мы ведаем, напісаў за яго брат?»

Да канца прабывання ў гімназіі вучня называлі «братам Гамера».

---

* Вера *(лац.)*.

Характарызуючы школьныя адносіны, трэба ўспомніць і пра класныя знакамітасці. На ўроках аўтарытэтам і пашанай карысталіся энтузіясты вучобы і зубрылы, працавітыя і на нешта здольныя вучні і вучаніцы, а на перапынках і за сценамі школы — уладальнікі гучных галасоў і першага пушку пад носам, жартаўнікі і свавольнікі, аматары кулакоў і падножак. Завадатарам у такіх справах быў Габрыель — сын яўрэйскага фурмана. Праўду кажучы, ён на самай справе не належаў да ціхмяных і з'явіўся на свет перш за ўсё хіба для таго, каб парушаць усе правілы і законы. Прыклейванне ж ярлыкоў было шырока распаўсюджана і тады. Калі дзе-небудзь хто нашкодзіў, а вінаватага не ўдавалася знайсці, тады адказваў Габрыель. Ён прывык да гэтага і прымаў усё з нейкай лагоднай і бездапаможнай усмешкай. Устаўшы за партай, ён спрабаваў спрачацца з тым ці іншым, нарэшце шырока разводзіў рукі і здаваўся.

— Ну, добра... добра! Лічыце, што гэта зрабіў Габрыель!

Ён зусім не супраціўляўся, калі выкладчык фізікі звальваў на яго чужую віну. І цягнулася гэта ўжо даўно. На сваё няшчасце Габрыель заўважыў аднойчы, як фізік, седзячы ў лазняку, назіраў за другім берагам ракі, з якога збягалі ў ваду нейкія голыя жанчыны. Габрыель стаіўся ў суседнім кусце і заспяваў у адрас фізіка:

Ля берага рэчкі
Плавала варонка,
Пан прафесар думаў,—
Гэта яго жонка!

Дарагі прафесар,
Не твая там жонка,
Гэта толькі птушка —
Чорная варонка.

Габрыель быў апазнаны, а яго вакальнае выступленне фізіку запомнілася значна лепш, чым выступленні так папулярнага ў той час Яна Кяпуры!

Што гэта такое — ярлык! Уявім, што Габрыеля раптам ахапілі б глыбокая скруха і роздум над часовасцю жыцця, што ён раптам стаў прыстойны, ні-

бы які святы або станоўчы герой. Напэўна, яшчэ прынамсі з год яго падазравалі б ва ўсіх свавольствах, якія зрабілі нявыкрытыя віноўнікі, а яго прыстойнасць лічылі б маскай, д'ябальскім тактычным манеўрам.

Трэба, аднак, заўважыць, што адносіны паміж настаўніцкім калектывам, вусатым школьным вартаўніком, які калісьці некаму сказаў, што апрача яго і дырэктара ёсць дванаццаць настаўнікаў, а вучні, як гэта адзначалі самі настаўнікі і класныя кіраўнікі, былі бездакорныя, паблажлівыя і добразычлівыя.

Мястэчка ляжала «на рубяжы», як любіў гаварыць са слязьмі на вачах дырэктар. Яно было запушчанае і занядбанае. Неахвотна наведвалі яго жыхары іншых мясцін. Пра мястэчка я склаў першы ў жыцці жартоўны вершык:

Яно ляжыць
На рубяжы!

Перавод жа ў нашу гімназію атрымлівалі настаўнікі мала вопытныя ў жыцці, мала практычныя або розныя лібералы і вальнадумцы, якія недзе раней паспелі паставіць супраць сябе ўлады. Мы пераважна і мелі настаўнікаў, добра «ўзброеных» ведамі, часам нават людзей незвычайных, але неважнецкіх педагогаў, дзівакаватых, расчараваных. Некаторыя потым співаліся. Не мы — «людзі тутэйшыя» — цярпелі ад нудоты, а менавіта некаторыя настаўнікі, кінутыя на «крэсы» (рыфма да слова «бесы»), што паходзілі з іншых правінцый або з такіх гарадоў, як Вільня, Кракаў, Львоў. Ад аднаго з паланістаў, Аляксандра-Баляслава Цыпса, публіцыста і лектара, звязанага з Кракавам і Лоддзю, у якой ён памёр пасля вайны, я ўзяў пачытаць твор Леніна «Дзяржава і рэвалюцыя». Ксёндз-законнік выстаўляў ацэнкі не за рэлігійны запал, а за веданне прадмета. Мой сусед па парце Алютак, які меў прозвішча са старасвецкім княжацкім тытулам, хлопец, якога выгналі з некалькіх варшаўскіх гімназій, а значыць, у розных адносінах добры прайдзісвет, калі бегла адказваў па гісторыі рэлігіі, дык на заканчэнне па-свята-тацку дадаваў:

— Я прашу ў ксяндза прабачэння, але лічу сваім абавязкам зазначыць, што я зусім у гэта не веру...

Незалежна ад усяго ён заўсёды меў па закону божаму пяцёркі.

Наогул, насуперак звычаям, якія пануюць у нашай сучаснай літаратуры, я павінен сказаць некалькі цёплых слоў пра ксяндза-законніка. Паблажлівы, ён хацеў выпрацаваць у нас хоць бы элементарнае пачуццё да ўсяго прыгожага. Вучыў, пераконваў і даводзіў на прыкладах, што ў аснове кожнага мастацтва ляжыць шчырасць і прастата, адчуванне меры і прапорцыі. Ён аддаваў перавагу габляванай са слаістым малюнкам сасновай дошцы перад дошкай, пакрытай серабром ці золатам. Высмейваў касцельныя калоны, што, як правіла, рабіліся «пад мармур». У гімназіі ён паставіў капліцу, у якой зрабіў алтар з непафарбаваных дошак і тапорныя лаўкі. Для сябе дастаў рызу ў выглядзе авальнай капы з выразам для галавы.

Самыя «перадавыя», уражлівыя вучні старэйшага ўзросту захапляліся наогул больш глыбока ці павярхоўна ўсвядомленым грамадскім радыкалізмам: існаванне навакольных вёсак, пазбаўленых перспектыў і аграрнай культуры, гаротнае жыццё пераважнай большасці жыхароў мястэчка лёгка абуджалі гэтыя настроі. Зрэшты, нават санацыя, жадаючы мець уплыў на школьную моладзь пры дапамозе вучнёўскай арганізацыі «Страж пшэдня», карысталася некаторымі лозунгамі, якія гучалі прагрэсіўна.

Толькі аднойчы мы вельмі шкадавалі, што Польшча — не манархія. Гэта было тады, калі мы прачыталі ў газетах, што ў Балгарыі ці Югаславіі з нагоды нараджэння наследніка трона давалася ўказанне, каб усім вучням ва ўсіх школах краіны аўтаматычна павысіць ацэнкі. Сёння я ўвогуле сумняваюся ў выхаваўчым уплыве такога ўказання, аднак тады ў нашых вучнёўскіх колах гэта шырока абмяркоўвалася ў духу найбольш прыхільным да яго каралеўскай вялікасці дзіцяці і да іх каралеўскіх вялікасцей бацькоў...

Аднак набліжаўся экзамен на атэстат сталасці.

Не веру, каб мой голас адыграў якую-небудзь ролю ў магчымай школьнай рэформе, але хачу аднак

выпукліць справу, якую так нялёгка сумяшчаць вучням.

Вясна. Дарогу ў гімназію, якая стаяла на пясчаным полі за мястэчкам, перасякае цэлы шэраг сцежак, што ідуць у парк, да ракі. Там буяе зеляніна, шчабечуць птушкі, скачуць вавёркі. Дачка маёраадстаўніка Мілка зноў з начальнікам пошты плыве ў лодцы на адзін з астравоў, зарослых вербалозам... А тут трэба зубрыць, зубрыць і яшчэ раз зубрыць! Выключна кантрастная, супярэчлівая сітуацыя, якая ўзнікае кожны год!

Заўсёды, як у кожным асяроддзі, так і ў школьным, дзейнічаюць два законы: закон сілы і закон хітрасці.

Адны хочуць атрымаць пасведчанне ці атэстат сталасці найбольш проста, але сумленна і ўпэўнена: яны старанна вучацца, здабываюць лаўровыя вянкі з дапамогай сілы ведаў і настойлівасці. Другія тыя самыя вянкі хочуць здабыць з дапамогай хітрыкаў і розных камбінацый. Яны мабілізуюць вучняў, якім праз вокны кідаюць у пакамячаных папяровых шарыках тэмы пісьмовых работ, адусюль збіраюць розныя ключавыя словы, шыфры, каментарыі, вывады. Варожаць на зоркі і палёт матылькоў, са слоў настаўнікаў імкнуцца даведацца, якія будуць тэмы і пытанні на вусных экзаменах, робяць незлічоную колькасць шпаргалак, выпісак з формуламі. Прыклады і азначэнні, даты і факты запісваюць нават на пазногцях.

На вялікі жаль, я павінен прызнацца, што належаў да той другой, між іншым, менш шматлікай групы.

Я так паверыў у гэтыя законы, што напярэдадні выпускных экзаменаў увогуле перастаў думаць, апіраючыся толькі на эмоцыі канспірацыі і хітрыкі, гаворачы аднакласнікам палымяныя словы аб неабходнасці ўзаемнай дапамогі.

Я меў рэпутацыю даволі моцнага паланіста і адчуваў сябе зусім упэўнена. Аднак агульны псіхоз, выкліканы гэтымі «законамі», прымусіў мяне забыцца пра сваю ўпэўненасць.

Што датычыць пісьмовай работы па польскай мове і літаратуры, дык усім было ясна, што адной з

трох тэм, прысланых ваяводскім аддзелам асветы, будзе менавіта заўсёды ўрачыста і пампезна цытаваны «Пан Тадэвуш».

У дзень гэтага экзамену, як і ў дні іншых пісьмовых работ, некаторыя вучні і вучаніцы значна папаўнелі. З'явіліся прынесеныя пад курткамі і фартушкамі ўсе, якія былі, «школьныя дапаможнікі». Да сённяшняга дня я памятаю адрас аднаго з такіх выдавецтваў «школьных дапаможнікаў»: Варшава, Бялянская, 5, Вайнер Г., хоць ужо даўно з маёй галавы зусім выветрыліся такія нават рэчы, як ураўненні з двума невядомымі!

Габрыель прыйшоў у спецыяльна пазычаных у свайго бацькі задужа вялікіх для яго ботах з халявамі, у якіх таксама прынёс «школьныя дапаможнікі». Хваляванне было вялікае: што і казаць, гэта ж быў першы і самы адказны жыццёвы парог, які мы павінны былі пераступіць...

Я выглядаў так, нібы раптам прыбавіўся ў вазе кілаграмы на тры. Уваходзіў у спартыўную залу, у якой адбываліся экзамены, нагружаны сабранымі за год шпаргалкамі, якія, перш за ўсё, адносіліся да «Пана Тадэвуша».

Мой разлік і прадбачанне не падвялі мяне. З трох тэм, урачыста напісаных паланістам крэйдай на дошцы ў прысутнасці камісіі на чале з дырэктарам, была і такая: «За што мы любім «Пана Тадэвуша»?

Калі б я быў шчыры, калі б не мог стрымаць свайго хвалявання і нервовага напружання, дык напісаў бы пад назвай гэтага задання адзін сказ: «Я зусім «Пана Тадэвуша» не люблю... «Бо і сапраўды я тады яго не любіў. Надакучыў ён нам, калі не памыляюся, у пятым класе гімназіі. А ўжо аднаму з маіх сяброў — асабліва.

Памятаю, як ён, выкліканы аднаго разу, каб нешта сказаць пра Яцака Сапліцу і Еву, дачку Стольніка, доўга заікаўся, кожную хвіліну паўтараючы:

— Ева... тады Ева... Яцак Сапліца... Яцак у Еву... пра Еву...

Выведзены з цярпення, прытым справядліва, паланіст не вытрымаў, загадаў яму сесці, працягваючы:

— Калі будзеш у тунелі і крыкнеш: «Хто з'еў яблык з дрэва?» — дык рэха табе адкажа: «Ева... Ева... Ева...»

Пазней на перапынках заўсёды мы раілі яму паспрабаваць гэта зрабіць.

Надакучылі нам, паўтараю, апісанні пачуццяў, антаганізмы вешчуноў, карты мясцовасцей магчымых ваенных дзеянняў, расказы «сваімі словамі», стылістычныя фігуры і сцежкі.

Карацей кажучы, надакучыў нам не «Пан Тадэвуш», а метад, пры дапамозе якога нас уводзілі ў тайнікі міцкевічаўскай прыгажосці. Некаторыя ж з нас былі надзвычай уражлівыя на розныя праявы, аднак шукалі іх па-свойму. Мястэчка, хоць і малое, і напалову зруйнаванае, мела вельмі старую радаслоўную. Нам былі блізкія, звязаныя з ім, легенды і паданні, да якіх ахвотна чаплялася наша галодная фантазія.

Каля мястэчка, побач з якім пад сховамі бяроз сівеў пяскамі «напалеонаўскі тракт», знаходзіўся зямельны маёнтак са старым, запушчаным паркам. У гэты парк, які высока ўзнімаўся над булькочучай па каменнях ракой, мы не раз уцякалі з урокаў, а ўвечары прыходзілі з дзяўчатамі паўздыхаць на месяц. Маёнтак Дарашковічы належаў калісьці Кастравіцкім. Адам, сын Адама, маршала Віленскай губерні, за ўдзел у паўстанні 1863 года быў высланы ў Арэнбург. Маёнтак канфіскавалі і аддалі нейкаму царскаму «унтэр-Прышыбееву» высокага звання. Маці Адама, Людвіга з роду Пангоўскіх, як вядома, добра ведала Міцкевіча, трымала апеку над арыштаванымі філарэтамі.

Верш Міцкевіча «Майтэк» быў запісаны ў яе альбом. Вось таму і хадзілі чуткі, што Міцкевіч нейкі час хаваўся менавіта ў капліцы таго маёнтка... Заўсёды ў часе прагулак мы шукалі гэту капліцу, але дарэмна. Нарэшце мы ўбачылі над Дзвіной мураваную, з вежамі сушыльню траў і даказвалі, што менавіта ў ёй хаваўся паэт. На гэту тэму з'явіліся лірычныя вучнёўскія творы. Адзін з вучняў, Мечыслаў-Дзмітры Касты, вялікі том вершаў якога пад назвай «Свентаянскія агні» гімназія выдала за свой кошт, напісаў нават нядрэнную баладу.

Трэба яшчэ дадаць, што прозвішча Кастравіцкіх, менавіта тых, з Дарашковіч, апрача ўсяго, звязана з французскім паэтам Апалінэрам. Пра гэтага вядомага паэта ніхто з нас, аднак, тады не чуў, і толькі таму ў аколіцы маёнтка Дарашковічы яго творчасці і жыццю не было аддадзена ніякай увагі.

Але хопіць ужо гаварыць пра Дарашковічы.

Дык вось, адчуваючы ў кішэнях, пад падкладкай, пад папружкай, у рукавах багаты дакументальны матэрыял, я натхнёна пачаў даказваць сваю любоў да «Пана Тадэвуша».

А чаму я павінен яго не любіць?! Я браў думкі з газетных перадавіц, са старанна выразаных вершаў, прысвечаных паэту, з канспектаў, з выказванняў сакратара Польскай літаратурнай акадэміі Ільюша Кадэн-Бандроўскага, з выступлення пана ваяводы, з настаўніцкіх распрацовак... Забыўся толькі паварушыць сваімі мазгамі!

Вынікі былі, шчыра кажучы, плачэўныя. Мая пісьмовая работа ўяўляла сабой такую бязглуздзіцу, у ёй было столькі супярэчлівых думак, што настаўнік польскай мовы, чалавек вельмі да мяне прыхільны, ледзь паставіў мне «пасрэдна» з мінусам.

Замест таго каб праклінаць свой метад і канспіратыўна прынесеныя архіўныя матэрыялы па тэме, я праклінаў «Пана Тадэвуша», якога я глыбока палюбіў — назаўсёды — ужо ў часе вайны і вандраванняў па свеце. Як мне тады прыдаліся тыя ўрыўкі, якія я вымушаны быў на памяць вывучыць у штубе *! Як я шкадаваў, што так мала іх памятаў! Я шаптаў іх часам с такім запалам, з якім шэпчуць толькі малітвы!

Калі я выпадкова натрапіў аднойчы на слабы вершаваны твор, што таксама складаўся з дванаццаці кніг, якія напісаў папулярны ў свой час раманіст і паэт Эдвард Лігоцкі і якія паводле задумы аўтара павінен быў служыць працягам «Пана Тадэвуша», ахопліваючы перыяд да лістападаўскага паўстання, дык і гэты твор нейкім асаблівым чынам крануў мяне.

Эх, каб мне цяпер хто-небудзь задаў сачыненне на тэму: «За што я люблю «Пана Тадэвуша»?!

---

* Штуба — школа, на вучнёўскім жаргоне.

# МОЙ ПРЫЯЦЕЛЬ МІШКА



І вось — хоць я і не прадбачыў гэтага ні ў адным з варыянтаў сваіх жыццёвых планаў — апынуўся ў вялікім рускім сяле паміж Паўладарам і Семіпалацінскам. Семіпалацінск, як неўзабаве аказалася, быў немалым горадам, а Паўладар, аддалены ад майго сяла на 250 кіламетраў, цэнтрам вобласці, аб якім вядомы рускі пісьменнік Усевалад Іванаў, які паходзіць з тых мясцін, пісаў: «О, гэты Паўладар!.. Ніводнага дрэва, і заўжды, колькі разоў я там быў, па вуліцы брыло цяля з паніклай галавой...»

У часе майго побыту ў Паўладары было значна болей вуліц, шмат дрэў і нават філармонія. З фаўны я бачыў там упершыню ў сваім жыцці запрэжанага ў воз вярблюда і каня (здаецца, яны пагардліва пазіралі адзін на аднаго), аднак гэта сатырычная падрабязнасць у вобразе цяляці з паніклай галавой і ця-

пер неяк характарызавала гэты напалову сібірскі гарадок.

Апынуўся я ў тым сяле разам з групай сваіх суайчыннікаў. Я адразу зразумеў, што ашаламленне і настальгія — з'явы натуральныя, аднак без працы не будзе не толькі калача, але нават буханкі пшанічнага хлеба (іншага ў той час тут не спажывалі), ля якога хоць бы час ад часу з'яўляўся гаршчочак з малаком.

Першыя прапановы працы, зробленыя мне цалкам новымі вясковымі ўмовамі, былі вельмі сціплыя і вымагалі ад мяне поўнай перабудовы.

Набытыя ў часы майго студэнцтва веды — даволі, зрэшты, праблематычныя — пісанне вершаў, фельетонаў і рэпарцёрскіх нататкаў цяпер не мелі ніякага сэнсу. «Кур'ер Віленьскі» спыніў сваё існаванне ў пачатку другой дэкады трагічнага верасня.

Пэўнае знаёмства з структурна-прававымі адносінамі ў даўняй Польшчы (паводле падручнікаў прафесара Кутшэбы) не мела тут ніякага ўжытку. Шчыра кажучы, знаёмства гэтае яшчэ на Радзіме з'яўлялася багажом чыста разумовым, практычна да нічога не прыдатным, тым больш што нават вучоныя юрысты, з магістарскімі дыпломамі ў кішэні, часта гадамі хадзілі без занятку, жыва і выразна ілюструючы сабой ідыёцкі тэзіс аб перавытворчасці інтэлігенцыі. Самай сціплай рубрыкай у газетах была тая, якая з'яўлялася пад агульнай шапкай «Прапануецца праца».

Такім чынам, я амаль адразу адчуў перавагу землякоў, якія мелі хоць бы самыя сціплыя рамесніцкія прафесіі.

Каб хоць я ўмеў вязаць на прутках!

Вялікае сяло ляжала на стэпавай, дзе-нідзе крыху ўзгоркавай раўніне, па суседству з вялікім борам, што было акалічнасцю вельмі шчаслівай, бо ў гэтых мясцінах такое суседства было даволі рэдкім. Наогул пасёлкі, сёлы і аулы, пазбаўленыя асвяжальнага суседства лесу, ляжалі часта адно ад аднаго на адлегласці ў пяцьдзесят кіламетраў. Пануючай пародай дрэў у такіх пасёлках былі таполі і дрэўцы гарохаўніку з жаўтавата-зялёнымі чупрынамі лістоты. Калі часамі і трапляўся хударлявы, запылены

кусцік бэзу, дык выглядаў ён як дзіўная з'ява з нясмелай мары. У стэпе цвілі блакітныя, белыя і крэмавыя званочкі, астраўкі снежна-ружовага спірэю, вярблюджая калючка...

Спачатку мы працавалі ў лесе. Раз у некалькі дзён мы ездзілі грузавіком за сорак кіламетраў у сядзібу лесніка. Пілаваць бярозкі, нават не вельмі тоўстыя, на спякоце было даволі цяжка, і напачатку я стамляўся хутчэй, чым кабеты з беларускіх вёсак.

Спёка мяне дэмаралізавала, а рэшту давяршыла... калода засаленых карт, якую з дна чамадана дастаў мой калега, паклоннік Гётэ, нядаўні студэнт германістыкі.

Калі іншыя, пацеючы і штохвіліны зазіраючы ў вядро з вадой, складвалі бярозкі, прызначаныя пасля праходжання розных фаз на паліва для газагенератарных машын, мы ў цяньку на траве гулялі на капейкі.

Калі праз некалькі тыдняў загадчык гаспадаркі машынна-трактарнай станцыі грамадзянін Смірноў падлічыў вынікі нашай працы згодна з прынятымі нормамі, ён схапіўся за галаву:

— Што вы ўсе гэтыя дні рабілі? — пасля, не чакаючы нашых тлумачэнняў, з горкім аптымізмам заўважыў: — Ну, нічога! Кішкі вас прымусяць працаваць!

Скручваючы аднаго разу папяросу з кавалачка прывезенай нам газеты, я даведаўся аб падзенні Францыі. Гэта падзея стала тэмай поўных трывогі размоў.

Неўзабаве я вярнуўся ў сяло на сталае жыхарства і пачаў працаваць у МТС. Звезеныя бярозы трэба было акорваць, пілаваць на цурбакі, цурбакі калоць сякерай на дробныя кубікі і сушыць на выключна надзейным і гарачым сонейку. Высушаныя і ссыпаныя пад павець, яны выносіліся адсюль у мяхах ужо як паліва для грузавікоў і некаторых тыпаў трактароў.

Праца была лёгкая — у самы раз для інтэлігентаў, як жартаваў грамадзянін Смірноў — вясёлая і даволі добра аплачвалася.

Увечары мы хадзілі з калегам-германістам у лес, каб — унікаючы дакорлівых позіркаў сваіх бліз-

кіх,— тапіць настальгію (праўда, не вельмі глыбока) у гарэлцы. Пасля мы далучаліся да групкі моладзі, якая хадзіла па сяле і пад гармонік спявала частушкі.

Увосень я нечакана для самаго сябе стаў бухгалтарам у канторы той жа МТС.

Міналі месяцы і нават гады... Я добра разумею выключную недарэчнасць гэтага скарачэння, аднак мэтай маёй аповесці павінен быць Мішка, да якога я ўсё яшчэ ніяк не магу дабрацца.

Мы і жыхары сяла, асабліва напачатку, былі адзін для аднаго пэўнай экзотыкай... Мушу аднак сказаць, што я часцей сустракаўся з прыхільнасцю і спачуваннем, чым з антыпатыяй, і зусім рэдка адчуваў да сябе варожасць. І, відаць, таму, нягледзячы на цяжкія перажыванні таго часу, я пасля стольkіх год вяртаюся думкай да тых мясцін, як да нечага блізкага і часта ўзрушана ўзнаўляю ў памяці то нечаканае аблічча, то нейкую падзею...

У канторы МТС я здабыў сабе славу дасведчанага чыноўніка, будучы ў розны час бухгалтарам, учотчыкам у трактарных брыгадах, статыстыкам, касірам. Галоўны бухгалтар — чалавек замкнёны ў сабе, хоць, зрэшты, даволі памяркоўны, дзякуючы сваім светлым натапыраным бровам, падобны на буркуна, неўзабаве намаляваў мой псіхалагічны партрэт, як мне і цяпер здаецца, вельмі трапна. Ён неяк сказаў мне:

— Ты, Ян Янавіч, усё зробіш, добра зробіш, але заўсёды перад гэтым павінен пасварыцца...

І вось аднаго разу я атрымаў вымову. Я думаў, што гэта жарт. Аказалася, што не... Мы перапісвалі ад рукі праз кальку чарговы загад начальніка палітаддзела для трактарных брыгад. Ішла вайна, не хапала запасных частак для машын, жыццё з кожным днём пагаршалася, але разам з тым рабілася ўсё больш самаахвярным. Вярталіся з франтоў калекі, прыбывалі эвакуіраваныя, удовы ездзілі ў Семіпалацінск і прывозілі мужоў-інвалідаў. Спецыялісты ішлі на фронт, іх часова мянялі свежаспечаныя жанчыны-спецыялісткі. Работа на паасобных участках выпадала з графікаў. Начальнік Акулінін быў, відаць, тыповым бюракратам і страхаваў сябе — пры-

намсі, яму так здавалася,— усё большай колькасцю загадаў. Аказалася, што ў чарговым загадзе я зрабіў некалькі памылак і, мабыць, даволі істотных, бо на арфаграфічныя тут ніхто ніколі не звяртаў увагі. Памылкі не былі маёй віной. Калі мяне звальнялі, камсамолка Аня, якая выконвала абавязкі сакратара, крадком нават усхліпвала, вядома, не таму, аднак, што сімпатызавала маёй сумніцельнай прыгажосці. Яе абурала несправядлівасць. Яна паведаміла Акулініну, што прычынай маёй правіны была яе ўласная няўважлівасць: я акуратна перапісаў памылкі з чарнавіка, якія зрабіла яна. Не дапамагло. Не дапамагло таксама і заступніцтва бухгалтараў. Тып мясцовага Аптымістанкі з «Лазні» Маякоўскага меў адзін адказ: «Адмовіць! Адмовіць!»

Галоўную прычыну гэтых несправядлівых, ці лепей сказаць, несумленных адносін да мяне, я ўсвядоміў толькі пазней, прыгадаўшы, як аднойчы, магчыма, крыху злосна, прадэманстраваў сваю перавагу над ім у адшукванні на карце пунктаў, праз якія праходзіла ў той час лінія фронту. А трэба сказаць, што кожная раніца тады пачыналася ў канторы з уважлівага выслухоўвання зводкі Саўінфармбюро і ўдакладнення названых гарадоў на карце. Прыходзілі тады ў кантору не толькі супрацоўнікі, бо ўсе ў той час жылі падзеямі далёкіх франтоў.

Кажучы праўду, мне ўжо надакучыла сядзець за сталом у канторы. І таму не вельмі абыходзіла вымова начальніка. Больш вабіла праца ўчотчыка ў адной з брыгад мясцовага калгаса «Надыртышская праўда». Праца гэта была «бліжэй» да хлеба і наогул да таго, чым магла тут служыць чалавеку скупая зямля. Я меў бы каня і трымаў бы сувязь паміж брыгадай, якая працавала за дваццаць кіламетраў ад сяла, і праўленнем калгаса, запісваў бы працадні, сачыў бы за забеспячэннем брыгады прадуктамі.

І тут — Мішка, будзь цярплівым! — мушу зрабіць некалькі агульных заўваг. Ля сяла і ў сяле студні былі толькі ў індывідуальных гародчыках і на бахчах, стэп служыў пашай для авечак і бараноў, ды і то не ўсюды, бо ў самы разгар лета на агромністых прасторах ён быў толькі тэрыторыяй, якую перадольвалі пехатой, на валах або на грузавіках. Про-

са, пшаніца, сланечнікі раслі ва ўрочышчах, часам з капрызу прыроды за некалькі або нават за некалькі дзесяткаў кіламетраў ад калгасаў. Стварала гэта пэўную — калі гляджу на гэта сёння — рамантыку, але і своеасаблівыя дадатковыя цяжкасці. Наша МТС абслугоўвала дзесяць калгасаў прыкладна ў радыусе трыццаці кіламетраў. Сенажаці нашы былі яшчэ далей, пад Іртышом.

Іртыш! Спалены сонцам пабурэлы стэп раптам заканчваўся абрывам, ніжэй пачыналася не вельмі шырокае, плоскае ўзбярэжжа магутнай ракі. Стомленага — абвяваў вільготны вецер, халадзіла паветра, чыстае ад задушлівага пылу стэпавых, хай нават часам і лясных дарог. На рацэ ляжалі ахутаныя сонечным мроівам астраўкі, парослыя вербамі. Травы на гэтай зямлі, кожную вясну ўгноенай глеем, раслі высокія, сакавітыя, буйна цвілі над імі мальвы і кусты глогу.

Маючы ўсё гэта на ўвазе, я чым хутчэй пабег да старшыні калгаса з просьбай прызначыць мяне ўчотчыкам у адну з брыгад — і калі пашчасціць — над Іртышом!

Старшыня калгаса Пётр Пятровіч Плаксін, якому я некалі расказваў пра тувімаўскага тэлеграфіста, з якога ён шчыра смяяўся, быў маім даўнім прыяцелем. Удзельнік грамадзянскай вайны, камуніст, ён ахвотна аддаваўся ўспамінам з першай сусветнай вайны. Пабываў ён у палоне, быў у Францыі, у Італіі, за нейкі бунт сядзеў у турме ажно ў Алжыры! Дзе толькі не насіла яго жыццё! Аднак вярнуўся ў сваё, летам спаленае сонцам, а зімой завеянае снегам сяло. Нідзе лепшых мясцін для жытла ён не знайшоў, хоць і да жаніцьбы выпадкі надараліся. Ніводная з дарог не здавалася гэтаму чалавеку занадта доўгай, занадта цяжкай і пакручастай, каб не звярнуць з яе нарэшце да адзінай — дарогі дамоў. Гледзячы ў яго збляклыя блакітныя вочы, слухаючы яго прыпраўленыя жартамі і анекдотамі расказы, я цікавіўся не тым, дзе ён быў і якія шляхі прайшоў, а, уласна, тым, што ён, закінуты неверагодна далёка, вярнуўся ўрэшце да роднага ачага. Ды і сам Пётр Пятровіч, рослы, плячысты, як большасць тутэйшых сялян, відаць, так ахвотна вяртаўся да сцежак свай-

го лёсу, бо хацеў мне такім чынам дапамагчы. Расказ звычайна канчаўся чытаннем пісьмаў двух сыноў з фронту, а пасля праклёнцем.

— Проклятый Гитлер! Ну, ничего, еще увидим, на чьей улице будет праздник...

Пачуўшы маю просьбу, Пётр Пятровіч відавочна ўзрадаваўся. Ён гатовы быў хоць заўтра паслаць мяне ў адну з брыгад. Праз хвіліну, аднак, прыгадаў, што павінен мець на гэта дазвол... начальніка Акуліна.

Я сядзеў на ганку калгаснага праўлення і нецярпліва лускаў семкі, калі ён вярнуўся да мяне вельмі злосны, нешта бурчаў і штохвіліны пляваў. Не ўмеючы нічога змоўчваць, ён шчыра паведаміў мне, што, на жаль, начальнік Акулінін у адносінах да маёй кандыдатуры мае пэўныя сумненні. Увогуле, я магу працаваць у калгасе, але толькі фізічна...

Я вылаяўся і пайшоў...

У сяле быў яшчэ завод,— пыхкала дымам з бляшанага коміна млячарня, дзе працавала некалькі полек. Спакусіла мяне вестка, што працаўнікі ў форме дадатковай натуральнай платы атрымліваюць брынзу і амаль штодзень маслянку (хэ-хэ... маслянка да гарачай бульбы ў мундзірах?!.). Я пайшоў да дырэктаркі, татаркі Канаевай. Прыняла яна мяне з адкрытымі, як кажуць, абдымкамі, хоць, як неўзабаве аказалася, брынза і наогул дадатковая аплата натурай — былі пладамі розных чутак і пагалосак.

Мяне прынялі на пасаду старшага інспектара. Я павінен быў кантраляваць падпарадкаваныя прадпрыемству малочныя пункты і выкананне калгаснікамі абавязковых паставак масла. У мае абавязкі ўваходзіла перавозка бідонаў і масла (звычайна растопленага, бо іншага ў гэтых кліматычных умовах не існавала).

У якасці сродка перавозкі, насуперак абяцанню, замест каня далі мне... вала, якога пяшчотна называлі Мішка. Па-польску гэта гучала б Міхась. Будучыня паказала, які я быў легкадумны, калі шукаў больш рухомага, чым у канторы, жыцця! Я хутка пераканаўся, што, бадай, гэта мяне прызначылі да Міхася, а не яго да мяне...

На падворку млячарні стаялі вазы, запрэжаныя коньмі, валамі, вярблюдамі, з поўнымі бідонамі малака. Ля іх завіхаліся жанчыны, з-пад пападтыканых спадніц паблісквалі жаночыя сцёгны, абуджаючы часам вялікую цікавасць. У гэтым гармідары пахаджаў магутны Міхась, пярэсты вол галандскага паходжання, адмахваючыся доўгім хвастом ад процьмы мух.

Валы звычайна ходзяць у ярме парамі, а Міхась, мусіць, праз свой далёкі ад нормы рост, не меў сабе пары. Ён абыякава пазіраў на мяне вялікімі цёмнасінімі вачыма, узнімаў кожную хвіліну белы, а каля ноздраў ажно ружовы пысак, шукаючы вядра з сыроваткай або памыямі. Ён быў тут, ліха яго ведае чаму, любімцам. Пра яго гаварылі:

— Немножко, язви его, психоватый, но можно привыкнуть...

Дзякуючы сваёй выключнай прыродзе, ён вёў самотнае гультаяватае жыццё, час ад часу беручы ўдзел у недалёкіх выездах па дровы для працаўнікоў млячарні. А калі ўсадзіў галаву аж па самыя магутныя рогі ў цабэрак з зеленаватай сыроваткай, дык нават сто бізуноў, падмацаваных сотняй праклёнаў, не маглі яго адагнаць. Паважна адыходзіў толькі тады, калі выхлёбтваў усё да дна, абяртаў цабэрак і старанна аблізваў не толькі кожную клёпку, а нават абручы.

Спякотнай раніцай я прыступіў да выканання абавязкаў старшага інспектара. Усцягнуў на воз бідоны, атрымаў нейкія паперкі, узяў пугу і гуньку, каб ехаць на некалькі дзён у аулы. Я зручна прымасціўся на возе і звесіў ногі. Млячарня была прыкладна ў цэнтры сяла. Да барака электрастанцыі, якая стаяла зачыненая ўжо некалькі гадоў, даехаў без прыгод. А тут раптам, якраз на вачах у знаёмых дзяўчат! — Міхась занепакоіўся. Можа, зразумеў, што яго чакае далёкая дарога, і ў ім адгукнуўся раптам, вядома, ад лішняга гультайства, лакальны патрыятызм. Ён паспрабаваў павярнуць назад. Але пуга пераканала яго, што спроба яго марная. Ён нізка звесіў галаву і пакорна пацягнуў воз. Мы шчасліва выехалі з сяла. Перад намі ляжаў стэп, ахутаны ўдалечыні блакітнай імглой.

Калі сяло засталося ззаду і я ўзяўся круціць цыгарку і палез ужо ў кішэню па крэсіва, бідоны раптам забразгалі і некалькі іх скацілася на пясок, падняўшы ў паветра безліч саранчы. Пакуль я сцяміў, што да чаго, Міхась павярнуў назад і памчаў мяне, як шалёны, з хуткасцю рэзвага каня.

Я спрабаваў саскочыць, каб затрымаць жывёлу. Нарэшце мне гэта ўдалося якраз каля электрастанцыі. Пакуль я знайшоў шапку, дык ужо не мог заступіць Міхасю дарогу, бо было гэта не толькі небяспечна, але нават немагчыма пры маіх сціплых спартыўных здольнасцях. З уласцівай мне павольнай хуткасцю я прыйшоў да выніку, што лепш не супрацівіцца злу. З цяжкасцю ўскочыўшы на хаду на воз, я пакорна дазволіў сябе везці да месца старту — на двор малочарні.

Тут толькі Міхась апамятаўся, спыніўся перад парожнім цабэркам горды, але стомлены. Ён вываліў свой шырокі, як рыдлёўка, язык і цяжка дыхаў. На дадатак да ўсяго выявілася, што ён быў яшчэ і астматык, бо дыхаў коратка, як сам пан Заглоба, з вядомага роду Учэле.

Ці варта казаць, што разам з Міхасём мы сталі вясёлай пацехай у аднастайным жыцці ўсіх, хто швэндаўся па тэрыторыі млячарні. Адны стаялі і рагаталі на ганку, другія вылезлі з аборы, а некаторыя паўскоквалі, нібы на галёрку, на плот.

Я не мог спагнаць на Міхасю сваю злосць нават бізуном. Толькі ў душы жадаў яму такога, што калі б яно здзейснілася, то і мяне і яго паглынула б пякельная пашча.

Выглядам сваім я нагадваў хутчэй зганьбаванага каля дошкі вучня, чым старшага інспектара. Я схапіў Міхася за пастронкі, прывязаныя за рогі, і вывеў дзедаўскі экіпаж зноў на вуліцу.

Воз павольна рушыў з месца, парыпваючы коламі і пабразгваючы бідонамі. Міхась крочыў спаважна, як на ўрачыстым пахаванні, з выглядам абсалютна няшкоднай жывёлы, пазбаўленай усякага тэмпераменту.

Пачыналася наша знаёмства. Калі мы наблізіліся да апошніх платоў, я саскочыў з калёс, зняў з рагоў пастронкі і павёў Міхася. Ён прыкідваўся вельмі

стомленым і пакорна ішоў за мною. Толькі кіламетры праз два такога шпацыру я асмеліўся зноў сесці на воз. Але быў напагатове: яшчэ доўга я не асмельваўся дастаць з кішэні вышываны капшук з тытунём, закурыць і заняцца сузіраннем.

Новыя рознагалоссі паміж намі ўзніклі на развілцы дарог. Я, згодна з загадам начальства, хацеў ехаць налева, а Міхась, ігнаруючы начальства, хацеў збочыць на дарогу, што вяла направа. Непаразуменне аднак было ўладжана пры дапамозе пугі. У стэпе Міхась быў больш паслухмяны.

Трэба, аднак, заўважыць, што нават тады, калі я вёў яго за пастронкі, ён не заўсёды ішоў у абраным спачатку напрамку. Здаралася, што праз некалькі кіламетраў дарогі Міхасю ўдавалася ашукаць мяне, і ён штосілы бег у сяло. Наогул натураю ён быў вельмі непастаянны, наравісты.

Чаму я ўспомніў пра Міхасёва непастаянства і наравістасць? Бо часам здаралася, што Міхась паслухмяна, без маіх указанняў вывозіў воз з сяла. На жаль, выпадкі такія былі рэдкія і не ў яго характары.

Я ехаў... Ранняе, без кроплі дажджу лета высушыла расліннасць. Расой і не пахла ні ўвечары, ні — пасля начной палёгкі — раніцай. Шэры, амаль белы пясок на палявых дарогах, іржавая трава, зялёная толькі ў выпадковых раўках і рэдка ў нізінах і катлавінах. У сасновых лясах жывіца аж сквірчыць, цэлымі днямі галінка не паварухнецца. Як добра тады ведаеш цану неадлучнай сяброўкі — драўлянай бочачкі, якая ляжыць на возе і пахлюпвае пры шпаркай яздзе вадой.

Пясок і такія самыя як у нас лісты трыпутніку перасыпаюцца паміж спіцамі колаў, сляды капытоў знікаюць імгненна, аднастайна і маркотна калышацца Міхась, гаргара ■ разложыстымі рагамі. Здаецца, ён зусім не пасоўваецца наперад. У такія хвіліны паміж намі пануе маўклівая згода, ён пераўтраўляе, відаць, нейкія свае думкі, я прабую рыфмаваць вершы, успамінаю і смакую эпізоды з мінулага жыцця.

Загублены ў прасторы, Міхась пераставаў арыентавацца і быў ужо паслухмяны аж да бліжэйшага

сяла ці аула. Жыў у ім толькі гультай, ён зусім запавольваў і без таго павольны крок. Калі я сцябаў яго, у ім абуджаўся гонар, спалучаны са злосцю, ён зноў бег, як нейкі выбракаваны конь, каб праз нейкі час спыніцца і дыхаць, вываліўшы язык.

Магчыма, я зашмат патрабаваў ад яго? У нармальных валоў у ярме, якія цягнуць воз, ролі падзелены: вол з правага боку — гэта «цоб», вол з левага боку — «цабэ». Калі трэба збочыць направа, крочыць «цабэ!», а калі ўлева — «цоб!». А тут ні тое, ні сёе... Ні цоб, ні цабэ! Можа, якраз таму, што Міхась існаваў як няпарны, ён і быў такі індывідуаліст...

Я з палёгкай уздыхаў, калі пасля дзённай, з самага досвітку, вандроўкі дабіраліся нарэшце да якой-небудзь вёскі, як да порта. Я асабліва любіў ездзіць па сёлах над Іртышом. Клопат быў толькі — як уладкаваць Міхася на начлег: не заўсёды ўдавалася яго аддаць пад апеку калгасных пастухоў.

Калі ў часе першага такога начлегу па прапанове сяброў, у якіх затрымаўся, я спутаў Міхася, як каня, і пусціў на пашу, заўтра раніцай не мог яго знайсці. Звычайных валоў пускалі нанач без путаў, і рэдка калі яны заходзілі далёка. Але Міхась — я яшчэ не мог гэтага ўсвядоміць — не быў звычайным валом. Гэта быў вол, якога наслалі злаславыя паркі, каб атруціць жыццё старшаму інспектару аднаго са шматлікіх малочных прадпрыемстваў на агромністым абшары паміж Паўладарам і Семіпалацінскам.

Я змарнаваў амаль палову дня не на пошукі падатнікаў, а на Міхася. Маё ўяўленне малявала самыя жахлівыя рэчы. Я бачыў Міхася, які тануў у шырокіх хвалях Іртыша. Бачыў яго ўкрадзенага і тайна адведзенага на бойню ў Семіпалацінск. Нехта задаволена цмокае, пазіраючы на гэту гару мяса, пакуль яшчэ абцягнутую скурай. А пасля я стаю перад раённым судом — адначасова і абвінавачаны і сведка, заікаючыся і блытаючыся, даю паказанні па справе Міхася. Пракурорам выступае начальнік Акулінін.

Нарэшце я дабраўся да нейкага статка кароў казахскага калгаса. Ці трэба гаварыць, як я ўзрадаваў-

ся, калі ўгледзеў сярод кароў Міхася, які спакойна паскубваў траву. (Што за луг! З іншай аказіі і аб іншых лугах сказаў, здаецца, сам паэт Васілій Жукоўскі: «Хацеў бы быць проста каровай!»)

Міхась нават не зірнуў на мяне. Можа, ён і заўважыў мяне, але рабіў выгляд, як гэта бывае з варшаўскімі знаёмымі, што не пазнае. Затое заўважыў мяне адразу чабан, стары казах у малахаі, падбітай аўчынай шапцы ў выглядзе зрэзанага стажка з навушнікамі, і з шалікам для шыі.

Здалёк, трасучы рэдкай бародкай, ён усклікнуў:

— Аман! Аманба!..

Ён падышоў бліжэй. Як і ў кожнага казаха, у яго выступалі скулы, глыбока пасаджаныя вочкі ў вузкіх шчылінах блішчалі, у казлінай бародцы і вышчыпаных вусах тлела сівізна. Ён быў рады, што знайшоў субяседніка.

Быў шчыра рады, што мімаволі ўслужыў мне, узяўшы ў статак Міхася.

— Тамэк барма? — запытаў ён.

Канечне, я пачаставаў яго не толькі тытунём, але высыпаў яму на далонь большую частку таго, што было ў капшуку.

Пасля ён запытаў, ці ёсць у мяне на продаж «шай», маючы на ўвазе плітачны чай. У мяне не было, але ён не траціў надзеі хоць бы на самую сціплую гандлёвую аперацыю. Пераканаўшыся, што нічога не выйдзе, ён прапанаваў нарэшце памяняць Міхася на іншага, меншага вала.

— Але ж у цябе няма такога пярэстага? — бараніўся я.

— Маю! — паказаў ён на нейкага заморка ў статку.— Скажаш, што твой схуднеў, а ў бухгалтэрыі як быў адзін вол, так і застаўся адзін вол.

Я не мог пайсці на гэта. Узяў Міхася за пастронкі і, хоць той быў вельмі незадаволены, павёў яго ў вёску.

З гэтага часу ў сваіх падарожжах я рэдка пускаў Міхася на ноч у поле, падкідаў яму сена, наскубанага са стагоў у стэпе. Нават калі начаваць даводзілася ў стэпе, я спыняўся непадалёк ад агароджанай жэрдкамі авечай кашары ці табуна коней і частаваў

яго сухім харчам, а сам засынаў побач, марачы аб той краіне, што за сямю гарамі і рэкамі.

Уночы я аднак прахопліваўся, неспакойна хапаўся за пастронкі, якія былі матэрыяльнай сувяззю паміж мною, Міхасём і возам.

Аднаго разу, калі я ехаў лесам, Міхась, якога, мусіць, моцна пакусалі авадні, раптам збочыў і памчаўся нацянькі. Ён мог зачапіцца коламі аб дрэвы, мог, калі воз скакаў праз карэнні, зачапіць аб дрэвы маім каштоўным, прынамсі, з майго пункту гледжання, ілбом, які слаба ахоўвала выцертая кепка. Ліха ведае, якія адкрываліся перад ім перспектывы расправы з маім целам і возам, які, калі б такое сталася, больш цікавіў бы бухгалтэрыю.

Нарэшце я неяк авалодаў становішчам і здабыў поўны шалёнай злосці спакой. Я распрог задыханага Міхася, прымаўляючы да яго з фальшывай чуласцю, прывязаў да сасны і пачаў акладаць пугай, якая пакідала на яго скуры палосы, а заадно выбівала з поўсці хмары пылу.

Міхась круціўся на пастронку вакол сасны і рваўся як апантаны. Я пачаў ужо баяцца, што ён вырве з карэннем дрэва. Аднак сталася інакш: Міхась сарваўся з пастронка, нейкую хвіліну я стаяў як глыба солі, якой тут, у азярцах, што высыхалі ўлетку, было даволі. Калі я нарэшце апрытомнеў, Міхась яшчэ мільгаў паміж дрэў. Здавалася, што ён проста распіхвае іх.

Ён спыніўся на палянцы кіламетры за два ад воза.

Наіўны, я хацеў накінуць на яго рэшткі пастронка.

Міхась зноў кінуўся ўпрочкі.

Калі я зразумеў, што гэтак мы маглі б за некалькі дзён, пакінуўшы воз у лесе, дайсці і да Семіпалацінска, дык вырашыў змяніць тактыку.

— Міхаська... такую тваю маць! — маліў я, выцягваючы да яго ў жальбе рукі.

Ён не кранаўся з месца, аднак і не дазваляў скараціць пэўнай, прызначанай, відаць, за нейтральную паласу, дыстанцыі.

— Мішка! Крэтын валовы! Каб цябе ваўкі задралі!..

Ён уважліва пазіраў на мяне і са стаічным спакоем поркаў пыскам у траве.

Я пайшоў да воза па лусту кавуна.

— Міхаська, глядзі, які салодкі кавун... на... на.. на...— працягваў я на далоні кавалак, імкнучыся пры гэтым увайсці ў нейтральную зону.

Міхась брыкнуў, як жарабя, і пачаў аддаляцца. Час ад часу ён прыпыняўся і пазіраў на мяне цёмнымі вачыма.

Нарэшце — ці то яму надакучыла, ці захацелася піць, ці, можа, у хвіліну аслаблення ўвагі,— ён даўся мне ў рукі. Я вёў яго да воза з ціхім, але яшчэ больш шалёным задавальненнем: «Пачакай, быдла, я ўжо табе нешта прыдумаю!»

Хацелася яшчэ раз вырабіць яму скуру, але я баяўся, што ён зноў уцячэ. А ў канец дарогі было яшчэ гадзіны дзве язды, сонца ўжо заходзіла, крывава асвятляючы высахлыя азёры, лясныя палянкі, падобныя да вожыкаў пясчаныя прыдарожныя ўзгоркі, парослыя нейкім пустазеллем, і блукаючыя па іх цені.

Думка аб тым, каб пакінуць на ноч неслуха без пашы, развеялася ў ауле ў выніку разважання: «А чым жа вінаваты Міхась?! Нас аддзяляе адзін ад аднаго шмат ступеняў. Я — духоўна найвышэйшая жывая істота, пры тым старшы інспектар млячарні. Ён — сярэдні сысун з роду капытных, прычым моцна пакусаны аваднямі... Хай ужо адчувае, прынамсі, маю маральную перавагу — хай п'е і жарэ!»

Тым не менш непаразуменні працягваліся...

Дайшло да таго, што свае няўдачы ў выкананні службовых абавязкаў я прыпісваў Міхасю. «Не маю аўтарытэту, бо прыязджаю на гэткай жывёліне!» — казаў я сабе. Зрэшты, выезды і вяртанні заўсёды выглядалі аднолькава: я цягнуў яго за пастронак!

Я саромеўся Міхася! Дзе толькі можна было, казаў, што маю да сваіх паслуг рэзвага гнядога каня (так гаварыла і дырэктарка прадпрыемства).

У вёсках, дзе сустракаў сваіх зямлячак-полек, пасля нараканняў на лёс і абмену рознымі чуткамі і весткамі з пісьмаў даходзіла да пытання:

— А на чым пан прыехаў?

— На кані, вядома! — казаў я.

І тады нехта з зямлячак прасіў пазычыць каня, каб прывезці паліва ці яшчэ чаго іншага, пакуль я буду спраўляць свае справы. Хто ж бы адмовіў? І тады я вымушаны быў прызнавацца, гаварыць пра Міхася, якога ўжо ўладкаваў у нечым двары. Насуперак майму неразумнаму ўяўленню гэта не выклікала ні здзіўлення, ні спачування. Наадварот, коні да тых умоў былі меней прыдатныя. Міхась з'яўляўся вельмі зручнай, хоць і маруднай цяглавай сілай. Дзякуючы Міхасю, я заслугоўваў часам абмытую слязьмі ўдзячнасць, што мяне заўсёды бянтэжыла, часам вельмі мілы, абяцаючы позірк удавы або дзяўчыны, і гэта на некалькі дзён прыхільна настройвала мяне да Міхася і яго капрызнага характару...

Зімой Міхась супакоіўся і стаў зусім лаяльны. Адносіны нашы былі карэктныя, хоць і без іскаркі жывога пачуцця.

Выконвалі мы свае абавязкі даволі добрасумленна. У стэпе мы маглі разлічваць толькі на сябе.

Едзем, навокал снег і цішыня, толькі сані рыпяць. А калі добра прыгледзецца, дык дзе-нідзе, пры самай зямлі, нібы невядома адкуль, прабіваецца свежы дымок. Вецер падхоплівае яго, развівае ў пасмы снежны пылок. І пасмы і вецер імчацца так нізка, што нават не кранаюць самага кароткага сцябла леташняга быльніку ці дзікіх канопляў, якія тырчаць над белым покрывам. І невядома, ці гэта прадвесце жахлівага бурану, ці толькі нявартыя ніякай увагі звычайныя свавольствы ветру. Невядома, бо тутэйшае неба ўмее раптоўна змяняць свой выгляд.

У кожным разе, дарагі Міхась, не будзем марудзіць. Тым больш што, калі мы пакідалі зімовыя кашары авец, казахі пазіралі на неба даволі падазрона і раілі спяшацца.

Брэх сабак і воклічы ў гусцеючым вечары. Наша сяло. Пахнуць дымы. Уязджаем, услухоўваючыся ў прыглушаныя гукі песні і гармоніка, якія далятаюць аднекуль з клуба. У дзявочыя галасы ўплятаецца адзін мужчынскі. У песні гучыць развітанне:

Далека ты, путь-дорога,
Выйди, милая моя,

Мы простимся с тобой у порога
И, быть может, навсегда...

Мужчынскі голас, залішне акцэнтуючы некаторыя словы, належыць, відаць, некаму, хто заўтра збіраецца ў далёкія прасторы, на фронт.

Я распрог Міхася, паляпаў яго далонню, перадаў яго вартаўніку, бідоны з маслам замкнуў у кладоўцы і пайшоў у сваю аднапакаёвую хаціну. Пад валёнкамі, добра ўжо пратаптанымі, рыпеў снег. Дымы ў марозным паветры клубіліся і роўна ўзнімаліся ўгору.

У хацінцы мяне сустрэла выключна выразнае маўчанне маці. Яна падала мне чарнілам выпісаную ў сельсавеце на шматочку газеты копію тэлефанаграмы з раённага ваенкамата.

Было гэта 19 снежня 1943 года.

Клікалі і мяне ў войска...

Я быў узрушаны, сэрца маё застукала моцна і часта: пачынаўся новы, магчыма, рашаючы этап майго жыцця.

Не быў бы аднак я да канца шчыры, калі б не сказаў, што адна з маіх першых думак у тую хвіліну была: «Нарэшце я развітаюся з Мішкам, а ён, гультай, можа, нават не заўважыць маёй адсутнасці!»

# МІЦКЕВІЧ



Пан стараста, халера ясная, вы зноў заснулі?

Гэта абурыўся я. Стараста ляжаў на пярэднім возе, насупраць гулі нейкія два грузавікі, і трэба было наш караван — вазы, запрэжаныя валамі,— прымусіць сысці з пясчанай, ледзь прыкметнай сярод палыноў дарогі.

Стараста нарэшце падхапіўся і закрычаў на валоў, падмацаваўшы дубцом свой загад.

— Гэта табе не ў павеце камандаваць! — смяяўся, паказваючы свае шчарбатыя пажоўклыя зубы, мой сусед у палапленай куфайцы, надзетай на футболку, якая разлазілася ад старасці.

— Пан прафесар, навошта вы смеяцеся са старасты?! Забыліся хіба, як было з тымі кароўкамі? — прамовіў на ламанай польскай мове рослы цыбаты беларус Іван.

— Усё яшчэ памятаеце? — пакрыўдзіўся прафесар.

А было вось што. Летась прафесар быў пастухом і аднойчы ноччу прыгнаў на ферму дваццаць сем кароў. Неўзабаве, аднак, даяркі, лаючыся на чым свет стаіць, убачылі, што сярод тых кароў былі тры валы. (Прынамсі, патрымалі ў пальцах нешта лепшае, чым каровіны цыцкі, казалі мужчыны, але назаўтра амаль да самага палудня шукалі кароў і тых калгаснікаў, якім належалі гэтыя валы. Прафесара тады пакаралі — прызначылі начным вартаўніком.)

Тым часам, калі мы ўжо збочылі з дарогі, дык пачалі раіцца наконт начлегу. Усе мы страшэнна стаміліся, да Польшчы часу ў нас шмат, дык, можа, тут і наладзім начлег.

Запярэчыў наш рабы зямляк з нейкага аула, які са сваімі трыма вазамі далучыўся да нас па дарозе з раённага цэнтра, куды, як і мы, адвозіў збожжапастаўкі.

Ён даводзіў, што машкара тут не дасць спакою, хоць вечар вераснёўскі, празрысты, а ноч, як заўсёды, будзе халодная. Ён добра ведае, што праз нейкіх тры кіламетры мы ўедзем у рэдкі сасоннік. (Праўда, без падлеску і руна, але іншых лясоў у гэтым пясчаным стэпе няма.)

Пасведчыў гэта і падлетак, смуглы казах, да якога па-руску звярнуўся рабы.

Пераадольваючы стому пасля доўгай дарогі пад сонцам, мы вырашылі праехаць яшчэ гэтыя тры кіламетры. У сапраўднасці іх аказалася болей, але вось дарога папаўзла сярод нязграбных сосен. І зацішней, і вецце для вогнішча знойдзецца. Гэта лепш чым сухая з вясны трава, якую трэба доўга збіраць.

Мы паставілі ў рад вазы, вызвалілі шыі валоў ад ярмаў. Добра, што валоў гадзіны дзве таму мы напаілі каля прыдарожнай студні. Ваду для сябе мы мелі ў бочачках.

Неўзабаве ў чорным ад сажы вядры, падвешаным над вогнішчам, закіпела вада.

У плоскай бляшанцы мы пражылі пшаніцу, якой кожны з нас меў крыху ў кішэнях і колькасць якой не мела ніякага значэння для вагі раённага свірна.

Седзячы на кукішках, мы працавіта кідалі ў рот

па некалькі гарачых зерняў. Толькі стараста кідаў па адным, бо пасля цынгі яму нялёгка жаваць рэдкімі зубамі.

— Каб у гэтую бляшанку крыху масла...— летуценна заўважыў Іван.

— Масла? Яшчэ забалеў бы ў цябе жывот...

Дастаўшы кубкі, мы набіралі вар і паволі запівалі зерне, адчуваючы ўсё большае задавальненне.

— Ты, Іван, можа, і цукру хочаш? — праз хвіліну абазваўся бурклівы Фэлек, які да вайны быў сталяром.

— А ты не?

— Я ніколі не любіў чаю з цукрам.

— А з гарбатай?

— Таксама не! — не адступаўся Фэлек.

— Тады табе добра...

Казах Куванышкан таксама смяяўся, хоць, напэўна, нічога не разумеў. Проста за кампанію.

Пасля некаторыя з нас пасклейвалі слінай цыгаркі з самасаду.

Было ціха і бязветрана, цяжкі і едкі дым ад вогнішча клубіўся вертыкальна, цяжкі і густы, бо, ратуючыся ад машкары, мы падкідалі ў агонь свежае іглістае вецце.

Часамі здавалася, што, апрача нас і валоў, якіх мы загналі на паляну, спадзеючыся, што яны далёка не пойдуць, на зямлі нікога няма.

Неба, як і мінулай начы, было ўсеяна зоркамі. З кожнай хвілінай рабілася халадней, зоркі набіралі бляску, залацістага холаду.

Спаць яшчэ не хацелася. Мы ляжалі на жыватах вакол вогнішча, падпёршы галовы далонямі.

Маўчанне абарваў прафесар. Пачаў урачыста, як малітву, а пасля ўвага яго была накіравана на тое, каб, адпаведна вымаўляючы словы, надаць вобразам рухомасць і пластычнасць...

Тым часам перанось мой дух засумаваны
У цёмны лес, на сенажаці, на паляны,
Што над блакітным Нёмнам скрозь парассціланы,
Да каляровых ніў, дзе жыта серабрыцца
І залачоная калышацца пшаніца,
Дзе грэчка, быццам снег, свірэпка, як бурштыны,
І дзяцельнік гарыць румянцамі дзяўчыны.

А на мяжы, што стужкай абвіла палеткі,
Маўкліва грушы ціхія паселі зрэдку *.

Усе, не выключаючы здзіўленага Куванышкана, заслухаліся. Пасля зноў стала ціха, і хто ведае, ці не шукалі мы вачыма Вялікай Мядзведзіцы, каб уявіць сабе нязмераныя прасторы і напрамак на захад.

— Гэта ваш верш? — запытаў рабы зямляк, мужчына гадоў пад сорак.

— А вы сумняваецеся?! — абурана ўсклікнуў я.

Але прафесар усё яшчэ быў засяроджаны і сур'ёзны. Ён сказаў, што верш гэты ўзяты з паэмы вялікага паэта Міцкевіча. На пытанне, якое было лішнім, ці спадабаўся верш, рабы адказаў вельмі сціпла:

— Вельмі! Заўтра я запішу сабе гэта...

Пасля ён пачухаў чупрыну і задумаўся. Нарэшце ўстаў, пайшоў да сваіх вазоў і прыцягнуў вялізны, можа, кілаграмаў на восем кавун.

Усе ўзрадаваліся, убачыўшы дэсерт, пра які нават не марылі.

— Адкуль вы яго ўзялі?

— З бахчы,— сказаў ён. Відаць, не выпадала пытаць аб падрабязнасцях.

Мы рэзалі яго на вялікія скібы асцярожна, нібы гэта быў хлеб, стараючыся, каб сок не сцякаў на пясок.

— Гэты Міцкевіч, аднак,— сіла,— заўважыў праз нейкі час стараста, абціраючы падбародак.— Такі цудоўны кавун!

— Але і прафесар не без заслуг! — дадаў я.

Прафесар паказаў у сарамлівай усмешцы жоўтыя зубы. На іх упаў водбліск, і яны здаліся залатымі і без шчарбін.

Назаўтра аказалася, што амаль усе бачылі сны «паводле Міцкевіча». Нават Іван. Ён пытаў, што азначае слова «дзяцельнік», бо якраз яно яму і прыснілася.

— Адчапіся ты з гэтым «дзяцельнікам»!—буркнуў прафесар, важдаючыся з умацаваннем абруча на заднім коле свайго воза.

---

* Пераклад Пятра Бітэля.

# НЕКАЛЬКІ СТАРОНАК З ВЯЛІКАГА РАМАНА



Табе пашанцавала, дваццаціпяцігадовы бландзін, яшчэ тры гады назад марыў аб заканчэнні факультэта паланістыкі, аб тым, каб асесці ў нейкім маленькім гарадку, а потым мучыць гісторыяй вялікай эміграцыі ў Парыжы дзяўчынак і хлопцаў з чырвонымі эмблемамі на рукавах цёмна-сініх мундзірчыкаў.

Па-першае, нарэшце ты выпрасіў у старшыні калгаса, які цябе любіць, пару валоў, каб прывезці сухіх дроў на паліва. Па-другое,— а можа, якраз, па-першае, бо тут цяжка ўсё правільна размеркаваць,— учора, яшчэ ўчора Марфуша, якая даўно табе падабаецца, зачапіла цябе ў мароз на вуліцы і, углядаючыся ў твае вочы, углядаючыся ў твае блакітныя вочы сваімі карымі вачыма, сказала:

— Прыходзь сёння ў клуб!

— А што, там печы напалілі і кіно будзе?

Марфуша, спяшаючыся, бо было холадна, і яна ў ватоўцы замест кажуха, засмяялася:

— Калі прыйдзеш, то і кіно будзе!

Кіно, канечне, не было. За сталом, пакрытым чырвоным палатном, у клубах марознага паветра, што ўрывалася за кожным, хто ўваходзіў, сядзела некалькі мясцовых хлопцаў, якія жартавалі з дзяўчатамі. Там была і Марфуша. Яна не дазволіла табе дайсці да стала, вачыма загадала затрымацца ля дзвярэй.

Хоць сёння і не была субота, аказалася, што напалена лазня Шапашнікавых. Старога Шапашнікава даймаў раматус, таму ён загадваў высцёбваць сябе бярозавымі венікамі, мучыць сваё азызлае, бяссільнае цела высокай тэмпературай.

— Гэтага цяпла і для нас хопіць,— сказала Марфуша, калі яны жвава ішлі ў цемрадзі, па калючым холадзе, слухаючы рыпенне снегу пад валёнкамі. Дзе-нідзе мігацелі жоўтым толькі вокны, а саміх хат відно ўжо не было.

Ты ведаў, што да чаго. Ты расцвіў радасцю зусім нечаканага поспеху.

— Але ж там і цёмна!

— Дык ты ў прыцемку бабскага зада не намацаеш, га? — пажартавала Марфуша.

Сапраўды, разумнай твая заўвага не была.

Гаспадарка Шапашнікавых была побач з домам Марфушыных бацькоў, да якіх яна пераехала неяк адразу пасля таго, як яе мужа Валодзьку ўзялі на фронт.

Вы стаялі ў канцы вёскі каля дарогі, што вяла ў стэп, дзесьці там упаўзала ў лес, невідочны нават днём. Марфуша першая пералезла цераз плот. Намагаючыся не вельмі наслядзіць на снезе, дайшлі да маленькай лазні. Марфуша адчыніла дзверы ў прылазнік, а потым і ў лазню, дзе панавала вільготнае цяпло з духам гарачай вады і водарам бярозавага лісця.

— Тут, здаецца, мокра...— сказаў ты шэптам.— Шкада, што ў мяне няма свечкі. У нас ёсць некалькі агаркаў, яшчэ з Польшчы.

Вобмацкам знайшлі лаўку насупраць каменнай печкі, на якую скінулі сваё адзенне. Ты адразу, на-

ват не дакрануўшыся, адчуў галізну Марфушы. Абое пачалі дыхаць хутка і гучна. Табе вельмі хацелася, каб яе цела было хоць трошкі асветлена, каб па ім, пакорлівым і прывабным, мільгалі цені. На жаль, нічога такога не было. Марфуша сказала толькі, што прынесла за пазухай посцілку, каб паслаць на паліцы, на якой гадзіну ці дзве назад хлабысталі венікам рэўматычнага Шапашнікава.

Апынуліся на паліцы, ад непрасохлых дошак вас аддзяляла толькі посцілка, якая хутка адсырэла. Аднак гэтага вы нават не адчувалі, бо вельмі жадалі адно аднаго. Здавалася, што вусны Марфушы пахлі, як настой бярозавага лісця, і былі ліпкія, як мокрыя лісты бярозы. Калі праз некалькі хвілін вы, зноў цвярозыя, уселіся на паліцы і спусцілі ногі ўніз, ты асцярожна спытаў:

— Марфуша, а тады ты не хацела, каб я цябе нават пацалаваў!

— Калі?

— Ты была вартаўніком на баштане, а я ноччу прыйшоў да цябе...

— Ах, мне здавалася, што ты хочаш дармавых кавуноў!

— Ці ты дурная, ці маніш, Марфуша! Цудоўна тады было, стэп палыном пах!

— Тады, тады...

Ты адчуў, што пад тваімі рукамі пачалі дрыжаць цёплыя, гладкія плечы Марфушы. Плечы пачалі дрыжаць, нібыта нешта ціснула на іх, а Марфуша прытуліла твар да твайго твару. Твар быў мокры, але не ад вільгаці лазні — ад слёз. Так, ад слёз. Так, ад слёз, яны маюць іншы смак, чым бярозавы навар. Марфуша плакала:

— Тады я верыла яшчэ, што Валодзька жывы. Я хацела чакаць яго.

— А што здарылася, Марфуша?

— Прыйшла пахаронная, што забіты. Тыдзень назад прыйшла...

Вы ўсё яшчэ былі голыя, але нейкі час трымаліся так, быццам былі апранутыя і целы не былі вам патрэбныя.

— Плач табе не паможа, Матрона Сяргееўна! — шаптаў ты, пагладжваў яе па мокрым твары воль-

най рукой. Ніколі ты не называў яе так афіцыйна: Матрона Сяргеэўна! Але як жа іначай было звяртацца да васемнаццацігадовай удавы ў такую хвіліну? Зрэшты, мусіць, ты проста не задумваўся над гэтым, неяк само прыйшло.

З лазні, аднак, выйшлі не скора. Ты пакляўся Матроне, якая так даўно падабалася табе, бо была вясёлая і ядроная, што паслязаўтра зноў спаткаешся з ёю.

Перад тым як пайсці, Матрона яшчэ спытала:

— Ці ты любіш толькі тое, што мы робім, ці і мяне?

— І цябе, Марфуша, і цябе... Ты ж ведаеш!

А цяпер, дваццаціпяцігадовы шчаслівчык, ты едзеш да лесьнічоўкі Нікалаеўкі, да знаёмага казаха Куваньшкана. У цябе многа спраў. Ты не павінен думаць аб Марфушы, бо яна і так чакае цябе. Добра ведаеш — ёй можна верыць. Помні перш за ўсё пра тое, каб прывезці сухіх дроў. Каб за некалькі рублёў (за афіцэрскія штаны мужа пані Зосі і дзве пліткі чаю) купіць як выгадней мукі, можа, прасяной крупы, а можа, нават і масла. Так, менавіта масла. Ты рашыў дасягнуць выключнай раскошы і ўрачыстасці, каб адсвяткаваць куццю за сталом з некалькіх страў. Сярод розных даручэнняў адно было лёгка выканаць, а між іншым, яно было вельмі важнае. Цябе абавязалі адшукаць і прывезці маленькую сасонку, каб з вялікай пашанай паставіць яе ў пакойчыку, бо на традыцыйную ёлку прыйдзе некалькі асоб з дзецьмі. Яе чакалі цацкі, выразаныя з газеты. Сасонку прасілі таксама і з другога канца вёскі.

Ты выехаў на золку, калі мароз быў асабліва моцны і дрэвы суха трашчалі, нібыта нешта лопалася ў іх. У паветры вісела нерухомая блакітная імгла, дым з комінаў клубіўся проста ў неба. Два валы, паслізгваючыся, цягнулі прымітыўныя сані: груба ачасаныя палазы з маладых сасонак, злучаныя дошкамі, як мастком.

Дарога, улічваючы кароткі зімовы дзень, была далёкая. Кіламетраў ці не трыццаць. Калі вёска засталася за табой, узышло сонца, у небе натужна распальваўся вогненны дыск у чырвоным, вузкім іск-

рыстым, распрамененым у неба трохкутніку — на баках яго сіметрычна палымнела яркае святло.

У цішыні палазы рыпелі далёка. Ты часта саскокваў з кінутага на сані абярэмка сена і подбегам ішоў побач, каб не замерзнуць, хаця быў у пазычаным на дзень кажушку з сабачых шкур, шапцы-бараноўцы і валёнках.

Вакол бялела бясконцая раўніна. Белым ільсніўся снег, злёгку сінеў на незлічоных узгорбінах зямлі, на роўнядзі стэпу.

Над зледзянелым закарэлым снегам высока тырчалі сцябліны дзікіх канопляў, абсыпаны снежным пылам палын і грудкі вярблюджай калючкі, а далей быў толькі небакрай.

Доўгі час твае вочы не заўважалі ніякіх змен у краявідзе. Паволі расшыраліся далягляды, адсоўваўся гарызонт, стала матавай уезджаная стэпавая дарога. Прастора ашаламляла безнадзейнай прыгажосцю пустыні, мучыла. Цяпло было толькі ад думак пра Марфушу і куццю.

Морды валоў абраслі ледзяшамі. На бурых, нібы вылітых з бронзы азадках асела густая шэрань.

Час ад часу ты разляпляў заінелыя вейкі. Стомы не адчуваў, хаця для сугрэву большую частку дарогі ішоў за санямі ці нецярпліва забягаў перад валамі.

Нарэшце ўехаў у лес. Па сасновай кары добрасумленна стукалі дзятлы. Неба тут быццам апала ніжэй, страціла сваю празрыстасць. Да леснічоўкі было ўжо каля шасці кіламетраў. Далёка ўзышоў тонкі месяц.

Дзятлы сваім сумным стукам толькі падкрэслівалі лясную цішыню. Пад дрэвамі прасвечвала зямля, чорная і трохі бронзавая ад нізкіх застыглых траў. Голы лес адкрываў ва ўсе бакі анфілады пнёў. Тут было больш утульна, дрэвы хавалі ашаламляльную прастору.

Ты пачуў брэх сабак...

Выпраг валоў, паставіў іх пад саламяны дашак на чатырох слупках, паляпаў Рабчыка, які хадзіў у правым ярме «цоба». Падкінуў сена, багата перасыпанага аерам, і разам з Куванышканам, што выйшаў табе насустрач, падышоў да зграбнай хаткі.

Сабакі замоўклі ў прысутнасці гаспадара.

Куванышкан быў лесніком і жыў у доміку, непадобным на саманныя мазанкі, прамавугольныя, без дахаў, якія будавалі ў аулах.

— Аманба́! — сказаў ты з парога.

— Аман! — данеслася ▮ глыбіні.

Агонь, што трашчаў смалякамі ў нізкай печы, асвятляў змрочны пакой. У мігатлівым святле ты заўважыў бліскучы твар яшчэ нейкага казаха, зморшчаны твар жонкі Куванышкана Руміі і дачок, якія сядзелі на цыноўках. Адна дачка нешта манатонна спявала і заплятала чорныя доўгія косы.

Куванышкан гасцінна прапанаваў скінуць кажушак, сам адразу ж сцягнуў з галавы малахай і пакінуў на каротка стрыжаных валасах толькі цюбецейку.

Калі ты расціраў рукі перад печчу, старая запаліла лямпу.

Куванышкан, ажыўлена паблісваючы вузкімі вочкамі, падкурчыў ногі і сеў на цыноўцы, ён трымаў домру і кончыкамі пальцаў выдабываў з яе сухі трэск. Ён быццам не цікавіўся табой, хаця, напэўна, абдумваў свае пытанні. Толькі Румія, якая амаль не ведала па-руску, паказвала ў прыязнай усмешцы белыя зубы.

Яна нешта гаварыла, хоць ты нічога не разумеў. Але спрабаваў адказваць і сам задаваў кароткія пытанні, пераважна складзеныя з назоўнікаў. Ты пытаўся, як жыццё? Усё ў парадку, неяк жывём. Атрымала ліст з фронту ад сына. Адна дачка дадала, што брата ўзнагародзілі. «Батыр мой сын»,— засмяялася старая. Брат Куванышкана два дні як паехаў за Іртыш. Па соль. Бо там дужа саляных азёрцаў, і соль можна лёгка прыдбаць. З дня на дзень вернецца са шматпудовымі глыбінамі. Пра гэта гаварыў ужо сам Куванышкан.

Нарэшце голас падаў і незнаёмы казах, відаць, госць таксама:

— Ты адкуль?

— З Рамадана!

Ага! Рамадан ён добра ведае, нават мае там сваяка, жанатага на рускай. А сам жыве ў ауле Джолба-

чы. Незнаёмы зноў замоўк, час ад часу мацаў свае выпуклыя скулы, шырока і гучна пазяхаў.

Старая гнеўна звярнулася да дачок. Відаць, лаяла за непаваротлівасць. Яны ўсталі з цыновак, пайшлі. Куванышкан адклаў домру, з кішэні ватных штаноў выцягнуў бутэлечку з парашком тытуню. Запхнуў сабе за шчаку добрую жменю, аддаў бутэлечку Руміі, цыркнуў у процілеглы кут рудой слінай і зноў узяўся за домру. Вы з другім казахам рабілі сабе самакруткі з абрыўка газеты.

Толькі цяпер таўсташчокая дачка прапанавала табе адзінае крэсла. Моўчкі ўсміхнулася. Ты адмовіўся. Чаму б не пасядзець, як усе,— на кукішках!

Нарэшце пачаўся рух. Старэйшая дачка прынесла з другога пакоя круглы, складзены напалам нізенькі столік. Расставіла яго пасярэдзіне.

Усе паспешна прысунуліся бліжэй, стол выклікаў агульную цікавасць, у цябе хіба найбольшую: чай! Прыселі на кукішках і сястрычкі з дужымі, нібыта вярблюджымі вачыма, з чыстай аліўкавай скурай.

На століку з'явіўся самавар; ён шыпеў і булькатаў парай з-пад покрыўкі. Старая расставіла драўляныя размаляваныя кветкамі місачкі, наліла ў кожную пахучай вадкасці, забеленай смятанкай. Калі б тут была і Марфуша, то гэты малы свет быў бы поўнасцю заселены!

Менш рухавая сястра, абвешаная срэбнымі бляшкамі, з завушніцамі, як вялікія манеты,— без слова, поўным годнасці жэстам рассыпала па стале кіслыя дзічкі, з сушанага тварагу кароткія палачкі — пшанічнае пячэнне, смажанае ў масле. На нейкі час ты апынуўся ў дастатку. Аднак есці належала паволі, перажоўваць сур'ёзна, бо тут таксама ўсяго было не дужа, толькі чаю — пі колькі хочаш.

Калі назаўтра вы раненька вярталіся з вырубак, нагрузіўшы сані камлюкамі, Куванышкан тлумачыў, каб ты нават і не думаў адразу ехаць дадому — на куццю. Ён трывожна паказваў на неба. Гаварыў, што будзе буран, можа, не зараз, але праз некалькі гадзін — напэўна. Дарога далёкая, яе замяце снег. Валы не дацягнуць. А заўтра можа быць пагода. Лепей яшчэ адну ноч правесці ў лесьнічоўцы. Тым

больш ён, Куванышкан, збіраецца зарэзаць барана. Будзе мяса і юшка — шурпа,— зацмокаў ляснік.

Вы абое былі задаволеныя сабой, хаця паціху задумваліся, каму выпала больш карысная здзелка.

Куванышкан увесь час паказваў на неба. Аднак сівыя і лёгкія воблачкі нічога не гаварылі твайму недасведчанаму воку. Ты ўпёрся, што паедзеш. І мароз нібы памякчэў. І чаму гэта павінна быць бура? Нарэшце, гэтая зіма не падобная на леташнюю, калі на дарогах загінула столькі людзей... Ну як жа застацца, усе думкі пра куццю, а перш за ўсё пра Марфушу?! Ясна, гаварыў ты сабе, тубылец умее чытаць розныя знакі, ведае законы, але можа памыліцца. Застанешся, а бурану не будзе; гэтага ж ніколі не даруеш сабе, можа, нават пасмешышчам зробішся.

Куванышкан нарэшце кінуў угаворы. Мо і праскочыш неяк перад буранам? А калі будзе вельмі дрэнна, то за пару вёрстаў ад лесу, тут жа каля чорнага слупка, трэба павярнуць налева, там у полі стаіць казахская авечая ферма. Гэта ратунак і прытулак.

Сані ішлі лёгка, сухія дровы аж звінелі на снежных выбоінах, час ад часу ты радасна пазіраў на прывязаныя торбы з крупою і мукой. На бярвеннях таксама ляжалі маладыя пушыстыя сасонкі — елачкі на гэты вечар, а у кішэні глыбока схавана літровая бутэлька з жоўтым топленым маслам. Ты з зайздрасцю падумаў: добра, аднак, жывецца лесніку, вайна амаль не адбілася на ім.

Ты ішоў каля саней, жвавы і нецярплівы. На душы цяплела пры думцы, што сёлета прыстойна спаткаеш прыгатаваную куццю. Цешыўся не таму, што вельмі ўжо верыў у святасць вечара, а што будзеш з людзьмі такога ж самага настрою. І ты пяшчотна гаварыў валам: ўё, цоб... ўё, цэбе... Ішлі роўна. Без пугі. На пустой дарозе няма каго абмінаць, а менавіта найгорай гэтае абмінанне, спіхванне валоў з дарогі пугай і словам. Раз толькі здарыўся казах на вузенькіх санках, якія цягнуў вярблюд. Але з ім размінуцца было лёгка. Ужо праз хвіліну ты пачуў

за сабой вясёлае пакрыкванне на вярблюда: «Тшууу... тшууу...»

Па соснах прайшоў шум. На паляне вецер вырваў некалькі пасмаў мёрзлага снегу, пакрышыў і рэдзенькай хваляй панёс над пнямі.

Калі ты выехаў з бору, калі быў ужо за два кіламетры ад яго, вецер усё змяшаў са снегам. Нечакана паўсталі белыя дзюны і гэтак жа нечакана рассыпаліся снежным воблакам. Снег — падняты з зямлі, снег з хмары — круціўся, кружыў, рэзаў, веяў на ўсе бакі. У гэты перадсвяточны дзень сонца паказалася толькі на хвіліну і то як светлая пляма.

Ты ўскочыў на сані, бо ісці было цяжка. Завея сляпіла вочы, душыў вецер.

Валы змагаліся з ветрам і ледзь не падалі.

Упоперак дарогі штокрок страчаліся голыя, выдзьмутыя мясціны, раслі шырокія белыя дзюны ці адкрываліся голыя выдмы.

Шморганне пугай не дапамагала. У нейкі момант вол з левага боку бездапаможна зваліўся на калені. Ты кінуўся да яго, аднак ён устаў сам.

Ты не ведаў, што рабіць: ехаць ці стаць? Не, стаяць якраз нельга! А можа, спыніцца?

Як доўга гэта цягнулася — невядома. Чвэрць гадзіны, гадзіну, тры гадзіны? Які кавалак дарогі прайшлі вы — невядома, мабыць, пакуль не адчулі сябе стварэннямі, аддадзенымі няласцы белай, страшнай стыхіі.

Набліжалася натуральна,— а можа, яе прыспешваў буран ці белая цемрадзь,— самае горшае — змрочная гушчыня.

Пранізваў холад. На спіне ты адчуваў дотык прапацелай кашулі, а рукі мерзлі, шчыпучы вецер уціскаўся ў валёнкі.

Цяжка сунуліся валы, дарэмна ўкручваліся ў снежны тунель, у снежны рухомы тунель.

Трэба было даведацца, што з вушамі, і пільнаваць дарогу. На шчасце, снег яшчэ не зусім засыпаў яе, прынамсі, пад нагамі дзе-нідзе можна было адчуць альбо разграбці пугай убіты жвір.

Потым ты ўсё часцей і дакладней намацваў дарогу. Валы збочвалі, бездапаможна правальваліся ў прыдарожны снег.

Толькі б даехаць да таго слупка, дзе можна павярнуць на ферму, Марфуша,— пакорліва думаў ты.

Белата, якая гусцела і цямнела, звузіла, а потым і зусім сцёрла далягляд. Далягляд цяпер — гэта круг з кароткім радыусам, дзе ты грабешся з валамі, а над вамі праблісквае смуга цьмянага святла. А вакол пераваливаецца цераз вас, бушуе мяцеліца. Валачэ па полі снежныя сумёты, узносіць і рассыпае іх у марозным паветры.

Са свістам несліся цэлыя хусты снегу, хлясталі па твары, тармазілі рух. Праваливаючыся і засопшыся ад стомы, ты цягнуў валоў за ланцуг, што звязваў ярмы.

З белай завіруха зрабілася зусім цёмнай. І ўсё раслі паверхі сумётаў, перакідваліся цераз дарогу, цераз сані.

Можа, гэта слупок,— падумаў ты, калі заўважыў нейкі чоткі сілуэт. Але гэта былі сасонкі, рваныя ветрам з санак. Ты нават не спрабаваў дагнаць іх, бо ўпарта імкнуўся наперад.

У нейкі момант табе, асабліва змучанаму і пакорнаму, здалося, нібы ў рухомай масе завеі прамчалася стада дзікіх звяроў. Можа, коні? Можа, вярблюды? Ці нават дзіпратадоны?.. Але стада ўжо рассыпалася ў дзіўна раскіданыя будынкі...

Ты раптам пачуў голас нябожчыка бацькі: «Сыне, дзядзька Урбан прыехаў, першая зорка ўжо загарэлася!» Няпраўда! Ты ніколі ў вочы не бачыў дзядзькі Урбана, які памёр маладым. А ты і не вельмі стаміўся. Валы нейкі час ужо стаялі. Каб яны рушылі, іх трэба моцна смыгануць ланцугом.

Табун коней ці дзіпратадонаў з іржаннем і гіканнем яшчэ раз пераляцеў цераз дарогу. Ты машынальна спыніў валоў, каб не трапіць пад ногі звар'яцеламу прабегу... А дзіпратадонаў не было... Яшчэ адзін прывід: насустрач выйшла маці з сястрой Гэленкай, стаяць у снезе. Побач — Марфуша, смяецца з іх, трымаецца за бакі. Кінь, Марфуша!

Гэта толькі прывід, помні! У сапраўднасці ж нічога не відно, а ты не адчуваеш левай нагі. Яна мерзне, бо трошкі раней ты ўдарыў яе бервяном, якое ссунулася з воза.

Ты спыніў сані. Тупаў, грязнуў у заносах, намагаўся разагрэцца, усвядоміць грозную сітуацыю.

Новая хваля завірухі наляцела з яшчэ большым шаленствам, з яшчэ большай няўлоўнасцю мяняла свае формы. Хваля паваліла цябе. Валы рвануліся і нечакана вызваліліся з ярма. Знікла пляма саней. Ты вобмацкам цягнуўся за імі.

Без сіл ты ўжо сядзеў на кукішках, на зямлю падаў снег. Змоўкла віхура, быццам яе нечым звязалі. Ці надоўга?

Ты страсянуў з сябе снег. Спрабаваў зарыентавацца ў наваколлі і апанаваць свой страх, сваю нястрыманасць. Змучыўся так, што амаль не ўзрадаваўся, калі з левага боку заўважыў упартыя агеньчыкі. Можа, ферма? А дзе ж той слупок? Мо ты збочыў і кругамі ходзіш вакол?

Агеньчыкі зніклі. Праз хвіліну бліснулі зноў. Сані стаялі нерухома, а агеньчыкі — не, гэта не трызненне — памалу набліжаліся. Адзін, два, тры...

А калі гэта ваўкі? Ты неспакойна скалануўся, бо не ведаў іхніх звычак. Спознены вецер бяссільна ўзбіў трохі снегу. Валы замычалі. Сіліліся вырвацца, білі па дышлю нагамі.

Сумненняў не было. Ваўкі. Колькі іх?

Здранцвелымі рукамі, уціснуўшы рукавіцы за пазуху, ты выцягнуў са дна саней аднастволку. А з кішэні штаноў вылавіў запалкі, каб у разе чаго падпаленым абярэмкам сена (так сабе прыдумаў) настрашыць ваўкоў слабым полымем.

Ты засяродзіўся, сабраў усю волю, каб у гэтую небяспечную хвіліну ўсё добра бачыць. І апанаваць пранізлівы, паралізуючы холад.

Цяпер ты быў толькі напружаным зрокам...

Не адчуваў стомы.

Ты ўжо падрыхтаваўся і, не цэлячыся, не думаючы, ці разумна гэта, хацеў націснуць курок памярцвелым пальцам, калі пачуў гіканне.

Аказалася, гэта над'ехала пагоня за ваўкамі.

Замаячылі конныя з фермы. Толькі цяпер спала тваё напружанне, адпусціла пачуццё ўласнай тры-

валасці. Табе здалося, што найлепшым будзе бестурботна паваліцца на дровы, а пра далейшае хай клапоцяцца незнаёмыя, але такія любімыя коннікі. Аднак ты не дапусціў сябе да такога стану, хаця зноў раскрыліся глухія глыбіны і заміравалі белыя сумёты, ты ехаў — чамусьці на вярблюдах? — паміж скірдаў сена, што акружалі будынкі фермы, якая магла падацца крэпасцю, што паспяхова падстаўляе лоб бурану.

Гэта была тая самая ферма, пра якую гаварыў Куванышкан. У хатцы з зашпакляванымі вокнамі, поўнай смуроду аўчын і струхлелага сена табе далі кіпетню, ледзь заваранага чаем. Адказваць на пытанні не хацелася, цяпер ты быў цалкам бязвольны, быццам усярэдзіне — гразкі, падмоклы пясок. Ты пачаў засынаць, седзячы пад сцяной на вязанцы шкур, хаця гарлавыя гукі казахскай мовы не сціхалі, а нават грамчэлі і запаўнялі прастору, былі як сам буран.

Ты ўздыхнуў з жалем, у тваім уяўленні ажылі блытаныя вобразы: некаторыя датычылі куцці, яшчэ адной няўдалай куцці, іншыя — маці і сястры, а яшчэ іншыя — Марфушы, Матроны Сяргееўны. Потым усё стала далёкім, недасягальным, прысыпаным густым снегам, не марозным, але пушыстым, які клапатліва ахутвае цела, пяшчотна запрашае ў свае белыя тунелі...

Знайшлі цябе толькі праз тры дні, калі ў прыродзе настаў спакой і лад. Спачатку ў снезе заўважылі кавалак чорнага кажушка з доўгай поўсцю, падумалі, што гэта тырчыць з сумёта замёрзлы сабака.

Сумёт быў за некалькі крокаў ад слупка, дзе трэба завярнуць на ферму.

Матрона Сяргееўна аўдавела другі раз.

## САМАЕ ДОЎГАЕ ПАДАРОЖЖА



Можна пра гэта падарожжа сказаць, напрыклад, так: разам з іншымі мабілізаванымі, пераважна рускімі, 19 снежня 1943 года я выехаў на санях з аднаго казахстанскага сяла і толькі 24 студзеня 1944 года, каля паўдня, дабраліся мы, бадзёрыя і ўзрушаныя, да вядомага са зводак, газет і вусных расказаў месца над Акой, з якога значна раней выехала дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі (генерал-лейтэнанта, як я аднойчы прачытаў у рускай газеце) і дзе ў той час фарміравалася трэцяя пяхотная дывізія імя Рамуальда Траўгута.

Можна таксама пра такое падарожжа, калі ў каго моцная памяць на дэталі, хапае цярпення і адпаведнай здольнасці будаваць сказы, напісаць даволі вялікую кнігу. Хто ведае, ці не была б яна цікавай па многіх прычынах! Галоўныя факты і здарэнні

наогул вядомыя, але запаўненне іх шкілета матэрыяй ваенных будняў, жыламі і тканкамі, зменлівым фонам, менш і больш значнымі сітуацыямі, роздумам звычайных людзей, сумненнямі і канфліктамі, бытавымі штрыхамі магло стаць захапляючым зместам такой кнігі.

Ехалі мы не ўвесь час. Шмат даводзілася чакаць, пачынаючы ад раённага аула, а потым не то сяла, не то мястэчка Паўладар на Іртышы, якое было цэнтрам вобласці, ці, па-нашаму, ваяводства, і паводле даных — але за 1963 год — налічвала сто дваццаць сем тысяч квадратных кіламетраў і шэсцьсот пяць тысяч жыхароў.

Да раённага аула Семіярска мы прыехалі з нашага сяла Рамадана (руская назва — Малая Уладзіміраўка) на конях. Сам раён называўся Бескарагайскі (здаецца, «бес карагай» па-казахску азначае «пяць соснаў»). У Семіярску толькі дваццаць чацвёртага снежня, падвечар, райваенкамат мабілізаваў некалькі саней, запрэжаных коньмі і вярблюдамі. Ехалі рускія, некаторыя пасля выздараўлення, ехалі палякі. У марознай і ціхай прасторы крывава разліваўся заход сонца. Наш прыўзняты настрой узмацняла тое, што нам трэба было правесці яшчэ адну куццю ў сітуацыі, якая вельмі спрыяла ўрачыстаму роздуму.

Да Паўладара, ці да чыгуначнай станцыі, было каля двухсот кіламетраў.

Ступаючы за санямі, бо мароз не даваў спакойна сядзець, я азіраўся назад, у напрамку семіярскага аула, у напрамку Рамадана, перад якім, калі пад'язджаеш, на пясчаным узгорку стаяла адзінокая, прысадзістая, разгалістая сасна. Каля яе звычайна развітваліся жыхары Рамадана з ад'язджаючымі ў армію — часта ад'язджаючымі назаўсёды.

Нарэшце я вырашыў больш не азірацца. Думаючы пра сябе, сваіх землякоў і многіх рамаданцаў, з боку якіх на працягу чатырох цяжкіх гадоў нярэдка адчуваў актыўную і пасіўную, але сапраўдную зычлівасць, я расчулена шапнуў: «Дай, божа, шчасця і нам і вам!»

На каляды 1953 года я гэту снежаньскую ноч апісаў для сябе ў вершы:

...О Казахстан, год сорак трэці!
У небе ярка зорка свеціць,
Нам трэба ехаць з Семіярска
На станцыю... Ака нас кліча!
Ідуць вярблюды, коні шпарка.
У ночы — сівае аблічча,—
Мароз... бяжым мы за санямі,
А ў думках бачым перад намі
Радзімы вобраз сэрцу мілы!
Наўкол зіма. На нашай трасе
Снягі, снягі... Патрэбны сілы —
Дарога ж толькі пачалася...

У Паўладары (на час канцылярскай цяганіны і камплектавання груп з мабілізаваных) мы разам з беларускім сябрам Змітраком Кадушкам, у далейшым артылерыстам, атрымалі назначэнне на кватэру да рускіх, нейкіх Глобавых па вуліцы Ласаля, 167. «Маразы да 25 градусаў па Цэльсію, ветры паўднёва-ўсходнія ад 10 да 12 м/сек». (І навошта я зрабіў такі запіс?)

З харчамі, пакуль, ужо як салдатам, не выдалі армейскага пайка на далейшую дарогу, было вельмі дрэнна. Уласна кажучы, толькі кіпень і пяцьсот грамаў ацеслівага хлеба. Спім на голай падлозе, пачынаюць назаляць вошы.

Цяганіне канца няма. Каб не наша цвёрдая пазіцыя, дык частка з нас была б накіравана ў рабочыя батальёны разам з казахамі. Я падгаварыў сяброў напісаць заяву на імя камісара абласнога ваенкамата і настойліва прасіць накіраваць нас у польскую армію. Толькі адзін рабаценісты хлопец не рашыўся паставіць свой подпіс пад заявай. Ён не паехаў з намі. У гэтай складанай сітуацыі нам памог камісар раённага ваенкамата, які ў той час выпадкова аказаўся ў Паўладары.

Толькі пятнаццатага студзеня а другой гадзіне дня мы цягніком нарэшце рушылі з Паўладара.

У Паўладары да нас далучыліся таварышы польскага паходжання ва ўзросце прыблізна ад семнаццаці да пяцідзесяці гадоў. Мы ехалі групай з пятнаццаці чалавек. У вагоне адчувалася ўсё большая ажыўленасць і сардэчнасць, хоць доўгае падарожжа стамляла, трывожыў недахоп харчоў. Ратаваў гарохавы суп — жоўты парашок з прыправай, што мы сыпалі ў кіпень, па які бегалі на стаянках.

Як саміх сябе, не, больш як саміх сябе, мы пільнавалі нашы рэчавыя мяшкі.

У дарозе я пазнаёміўся з сімпатычным маладзенькім лейтэнантам, які, ачуняўшы ад чарговага, трэцяга ранення, ехаў на фронт. Ён фатальна, і гэта зусім зразумела, быў перакананы, што смерці не міне. Дык чаму ж гэтак доўга «кашчавая ведзьма» заігрывае з ім? Расказваў, што ў яго аднекуль з'явіўся дзіўны рэфлекс: пачуўшы страляніну, ён не згінаўся і не падаў на зямлю, толькі рукой хапаўся за каўнер шыняля і нацягваў яго аж на вушы.

(Калі хто хоча практычна і неадкладна даведацца, што такое эстэтызм, эстэтызацыя ў мастацтве, дык няхай параўнае гэтага лейтэнанта з ...радком прыгожага верша, які перад вайной надзвычай мне падабаўся: «Ружамі стрэлаў абсыпаны, мы беглі ў атацы на Краснае...»)

Аднойчы ноччу афіцэры выкінулі з цягніка, які імчаўся ў марознай і глухой цемры, аднаго пасажыра, што хацеў украсці ў некага рэчавы мяшок. Ніякія просьбы не памаглі.

У перапоўненым вагоне лёгка завязваліся фамільярныя знаёмствы. Бо ўсё адбывалася ў скарочаным часе. Адзін з нашых, прыстойны чарнявы хлопец, закруціў любоў з маладой пасажыркай, і кожную ноч на верхняй паліцы яны давалі волю сваім пачуццям, нікога не саромеючыся. Нам хапала журботных польскіх і рускіх песень, і тая Глафіра таксама ахвотна прымала ўдзел у спевах.

Зразумела, пасажыры — гэта пераважна людзі, якія адарваны ад сем'яў і часта не ведаюць іх лёсу, таму часцей за ўсё яны любілі спяваць менавіта сумныя песні. Ажывае думка пра ямшчыка, які просіць прыяцеля, каб той, забыўшыся на крыўды, пахаваў яго ў бязлюдным стэпе. Шкадую, што дакладна не памятаю слоў, засталася ў памяці толькі мелодыя, якая нібы калыхала вагон.

Часам, каб ехаць далей, трэба было сілком прабівацца ў вагон. Так было ў Свярдлоўску. Больш двух дзён мы прасядзелі на станцыі Татарск. Гэта назва звязана ў мяне з пазбаўленнем ад вошай і... танцуючай Венай у фільме пра Штраўса «Вялікі вальс»,

які бясплатна дэманстраваўся ў адной з залаў чакання.

Татарск — гэта вялізная вузлавая станцыя. Тут большасць пасажыраў, каб ехаць далей, павінна была кампаставаць чыгуначныя білеты або іншыя празныя дакументы. Кампосцер выбіваў дату ад'езду і нумар цягніка. Нават ваенным не адразу ўдавалася зрабіць кампаставанне. Пасажыры, з'ядаючы апошнія крошкі сваіх мізэрных запасаў, сноўдаліся па залах — ад транзітнага да касавага. На начлег нас накіравалі ў ваенны інтэрнат — невялікую гасцініцу з нарамі. Не паспелі мы заплюшчыць вочы, як у некага з-пад галавы хтосьці паспрабаваў выцягнуць мяшок з сухарамі. Як мага хутчэй пакінулі мы інтэрнат, згадзіўшыся лепш сядзець на кукішках каля сцяны ў чакальнай зале. На самым досвітку ўсіх папрасілі выйсці на двор, каб зрабіць уборку. А маразы стаялі моцныя.

Семнаццатага перад поўначчу мы сілком уварваліся ў цягнік, які ішоў на Омск. У Омску застаўся, відаць, правароніў момант, Юзаф Кэндзёр. Яго рэчавы мяшок мы пакінулі на бліжэйшай вялікай станцыі. Ці знайшлі яны адзін аднаго?

У Ішыме я ледзь не стаў калекам. Вяртаючыся з кіпятком у кацялку, я памылкова ўскочыў у цягнік, які ішоў назад у Омск. Сарыентаваўшыся, што ўсё і ўсіх пакінуў на іншым пуці, я выскачыў на абледзянелую зямлю, калі цягнік пачынаў набіраць хуткасць. Спяшаючыся, перад тым як выскачыць, я нават не выкінуў кацялка з кіпенем. Некалькі дзён потым я хадзіў кульгаючы і ■ сінякамі.

Пазней толькі я ўспомніў, што Ішым — гэта месца ссылкі Густава Зялінскага (1809—1881) — удзельніка лістападаўскага паўстання, паэта, аўтара даволі вядомай у свой час паэмы «Кіргіз». Нават больш таго: у плоцкай бібліятэцы імя Зялінскага я выпадкова натрапіў на польскі каляндар з нататкамі самога Зялінскага. З дзелавых запісаў, якія перш за ўсё адлюстроўвалі фінансавыя справы і выдаткі, вынікала, што жылося яму лепш чым нам: дваранская сям'я памагала яму грашыма.

У сваёй паэме ён апявае людзей, з якімі і я сустракаўся, але краявіды ў ёй іншыя, значна багацей-

шыя. Мяне пераканала ў гэтым знойдзенае апісанне стэпу з іншай паэмы ссыльнага:

Ці бачыў стэпы, як днём зімовым
З паўночы хмары прастор заснежаць?
І дзе схаваць нам тады галовы
Ў гэтай пустыні белай, бязмежнай,
Бо пры няспынна шалёным ветры
Густая цемра ўстае ў паветры...
Ці бачыў стэпы, як днём вясновым
Паўднёвы ветрык павее мілы,
І як травінкі, набраўшы сілы,
Праб'юцца водар адчуць маёвы,
І зямлі-маці звялае лона
Дыван пакрые густа-зялёны?

Запіс: «Краснауфімск — прыгожая станцыя з невялічкай вежай паміж лясоў і ўзгоркаў».

Урал! Зноў, на гэты раз зімой, мы ўбачылі падзеленыя чашамі далін хрыбты ў выглядзе вялізных, крыху сплюшчаных вожыкаў — з дрэвамі замест калючак. Смуглыя заснежаныя яліны стралялі як дзіды ў неба, асіны выскоквалі паміж бярозамі, тонкія і высокія.

Спадарожнічалі нам на працягу некалькіх дзён і начэй горы паабапал чыгункі. Аднак гэта не быў адпаведны час для захаплення багаццем харэства. Праз гэтыя горы мы ехалі другі раз. Хрыбты былі пераважна авальныя, чорныя ад дрэў, у далінах ляжаў снег. Мы ехалі на захад. Нідзе не было тут вядомых яшчэ з даўніх успамінаў вялікіх слупоў з надпісамі: ад захаду — «Еўропа», ад усходу — «Азія».

Дзесьці за Свярдлоўскам у вагоне апынуўся чалавек сярэдняга ўзросту, яўрэй, па прозвішчы Гросман. Высветлілася, што калісьці, усяго чатыры гады таму назад, толькі ў іншых абставінах, мне даводзілася бачыць і слухаць яго. Ён граў у аркестры ў адным з трох віленскіх кафэ Штраля... Як пераблыталася ўсё, увогуле драматычна, але часам і забаўна. Гросман быў накіраваны ў нейкую літоўскую часць, хоць не ведаў ніводнага літоўскага слова. Мы ўгаварылі яго ехаць з намі, бо хто ў такім балагане разбярэцца! Ён вельмі хацеў, але не адважыўся.

З блакнота: «У Казані вечарам абед...» Відаць, пашанцавала трапіць ў вакзальны рэстаран. Справа немалаважная, калі заслужыла запісу.

У Маскве, якую я ўбачыў упершыню, раставаў снег. Для нас гэта была Масква навокал вакзала. Здаецца, Казанскага. Нас не пусцілі ў рэстаран, бо мы адмовіліся прыбіраць залу.

А вось што зноў запісана ў маім блакноце: «23.1.1944 года а 11 гадзіне ночы мы высадзіліся на станцыі Дзівава. 43 чалавекі. Начлег у палатцы. Станцыю разбамбілі, вакзал змяшчаецца ў старым вагоне на чыгуначнай ветцы. Раніцай 24-га купіў тры дранікі за 15 рублёў. Марш у Сельцы (Разанская вобласць). Праз Аку. Прыгожы бераг. Сёлы з цэркаўкамі, старыя бярозы. Нас прывітаў паручнік Мазурак. Лазня».

Нават гэты кароткі запіс, калі б яго развіць, мог бы заняць нямала месца. У ім адлюстраваны справы, важныя для аўтара: пачуццё радасці, што мы ў вялікім польскім калектыве; першая сустрэча са слядамі вайны; купля аж трох дранікаў, маленькіх, як дзіцячая далонь, і намнога танейшых, чым дзіцячая далонь; захапленне ўбачанымі краявідамі з бярозамі. І садамі. Прозвішча афіцэра, які гаварыў пра наша падарожжа і пра тое, што мы прыехалі, каб атрымаць зброю. Паручнік, мабыць, гаварыў так не першы раз, яго словы могуць гучаць сёння прэтэнцыёзна, але тады!.. І ў дадатак, якая цудоўная справа — лазня, гарачая вада!

Значна пазней я даведаўся, што мы былі непадалёк ад радзімы любімага мной у студэнцкія гады паэта Сяргея Ясеніна. Ад вёскі Сельцы, у якой размяшчаўся штаб дывізіі, да яго роднай вёскі Канстанцінава было каля дванаццаці кіламетраў. Як я шкадаваў, што ў гэтай прыгожай мясціне апынуўся зімой, калі снег, хоць яго я заўсёды любіў, спрашчае прыроду, перашкаджае бачыць яе красу, параўноўваць з іншай парой года. Для параўнання:

Твае палі, малінавая Русь,
Блакіт, што апусціўся ў рэчку...

Пра гэты смутак застаўся след у мемуарным вершы:

А сёлы рускія, а ранкі!
Карункавыя аканіцы.
І запаўзае хмель на ганкі,
Каб восенню пазалаціцца...

А далей ужо пра нашы справы:

Заснежаныя бачу далі.
Вучэнне ў полі, завіруха.
Усё па радыё пыталі:
«Ці чуеш, Вісла?..» «Люблін, слухай...»

Смуга срабрыстая, густая.
Ў зямлянцы пішуць пісьмы ўночы.
Газоўкі вочка ледзь міргае...
Прабачце, што вісяць анучы!

У часе паездкі на Аку ў мяне з'явілася дзіўнае і цёплае пачуццё нечага роднага. Пачалося гэта ў брызентавай палатцы, у якой да віленцаў з паўночнага Казахстана далучыліся львавяне з Урала і людзі з іншых мясцін. Амаль уся ноч, не зважаючы на стому, праходзіла ў гутарках. Успаміны аб радзіме, звесткі пра нядаўна перажытую нядолю, здагадкі — што будзе заўтра і не толькі заўтра.

Нарэшце паблісквае светла-зялёнае лёгкае світанне. Прыходзіць польскі афіцэр. (Мы яго першага сустрэлі на вакзале ў Маскве, акружылі, засыпалі пытаннямі.) Можна па два чалавекі, спатыкаючыся ў свежым снезе, маршыраваць, а больш дакладна — брысці. Уласна кажучы, ужо зусім блізка, нейкіх дзесяць кіламетраў, як рукой падаць.

Зноў навеяла гэтага снегу. Салдаты ачышчаюць дарогу, абстаўленую пляцёнкамі з лазовых дубцоў. Кожны ўважліва ўглядаецца ў твары прахожых, а раптам сустрэне знаёмага.

Бразгаючы ланцугамі на шынах, паўзуць цяжкія студэбекеры. Над рулямі на галовах шафёраў футравыя шапкі з аксідаваным шырокім арлом.

Хвалістыя, узгаркаватыя аколіцы. Хрыбты ўзгоркаў параслі чупрынамі лясоў: у прагалінах свецяцца сінявой іх пасмы.

Вялізныя рускія сёлы. Домікі часам з верандамі. Хвалістыя, узгаркаватыя аколіцы зрэзаны сцежкамі, дарожкамі. (Відаць, гэта пазнейшае ўражанне.)

А вось стромкая, пакручастая дарога ўніз і — гладкая роўнядзь: рака Ака. Тут гуляе парывісты вецер.

Яшчэ прайшлі драўляны, грукатлівы мост — і група апынулася на ўзлеску. Пачынаюцца пакапаныя бульбяныя палі, мясціны, дзе фарміруюцца вайсковыя часці. Спачатку — брама, сцягі, партрэты і надпіс: «Прывітанне ўчарашняму вандроўніку, сённяшняму салдату!»

Хоць бы дзеля такога надпісу варта зазірнуць у барак медыцынска-ўліковай камісіі. Там распраналіся абадранцы, скідалі з сябе лахманы і рыззё. Камісія коратка занатоўвала патрэбныя звесткі. Людзі розных прафесій, аднак пераважна сяляне. Яны апынуліся на вялізных абшарах ніколі да таго не бачаных краёў.

Калі хто-небудзь называў сябе пекарам ці каўбаснікам, дык можна было меркаваць, што ён марыў аб працы на кухні, хацеў у нейкай ступені схітрыць. Што зусім не азначае, каб у гэтым падазраваць усіх каўбаснікаў. Некалькі мужчын прасіліся накіраваць іх у парашутна-дэсантныя часці. Некаторыя хацелі, каб іх перакінулі ў партызаны. Чым гэта можна было растлумачыць? Думаю, яны кіраваліся адным: як мага хутчэй апынуцца ў Польшчы. Аднак такіх падраздзяленняў не было.

Паважаную камісію задавальнялі трактарысты і камбайнеры, бо стваралася сучасная армія. Асабліва радавалася камісія, калі хто-небудзь меў званне афіцэра або сержанта. Бо абучаных кадраў не хапала. А наогул аж не хацелася верыць, што гэтым абадранцам у лахманах, знясіленым выпрабаваннямі і перажываннямі, так хутка надаваўся выгляд рэгулярных часцей. І ўсё толькі дзякуючы намаганням людзей, якія адказвалі за гэту справу.

Аднак здаецца, што рашаючую ролю адыгрываў маральны стан навічкоў, які змяняўся ў лепшы бок. Яны вярталіся да жыцця. Вялікую ролю адыграла знаходжанне ў асяроддзі сваіх людзей, бо так яно і было ў раёне Акі. Важным у трагічныя часы было адчуванне агульнага лёсу, усведамленне знойдзенай мэты.

Хутка знікаў недавер, якога не былі пазбаўлены выпадковыя жыхары далёкіх пасёлкаў, азіяцкіх мястэчак, аулаў і сёл.

Праз некалькі дзён мы, з нашай групкі, размеркаваныя ў розныя спецыялізаваныя часці, выпадкова сустракаючыся ў лесе ці на вулачках вёскі Сельцы, у першы момант не заўсёды пазнавалі адзін аднаго.

Раскалыханыя ўсё больш зладжаным рытмам марша, ішлі на вучэнні аддзяленні, узводы, роты. Спявалі новыя песні, але іх трэба было завучыць, а таму яшчэ больш ахвотна — старыя:

Расцвілі ўсе ружы ў цішыні,
Ты вярніся, Ясю мой, з вайны.
Ты вярніся, расцалуй як след,
Дам табе за гэта белых руж букет...

Колькі ж з тых, што спявалі, загінула!

І для каго ж гэта ружа з песні ператварылася, прынамсі, на некалькі імгненных хвілін, у яву?

# ПАН ЮЗЭФАТ



Бадай найчасцей тэмай размоў жыхароў вёскі Чвеціна быў нейкі Санкоўскі. Іншых тут называлі беларускімі імёнамі і мянушкамі, яго — толькі «Пан Юзэфат»...

Уласна кажучы, жыў ён не ў вёсцы, а за гасцінцам, за старымі бярозамі на хутары з такой жа як вёска назвай.

Калі б хто захацеў сфатаграфаваць тую вёску, зрабіў бы гэта якраз з ускрайку гасцінца перад занядбаным хутарам, агароджаным высокім трухлявым парканам.

Пры дарозе, што вядзе з гасцінца да вёскі, стаяла белая цэркаўка з пяццю зялёнымі купаламі-цыбулінамі. За нізкім, дзе-нідзе вышчарбленым мурам высіліся ліпы, рос глог. Направа цягнулася вёска, перасечаная дзвюма вулачкамі і мноствам сцежак.

Хаты і гаспадарчыя будынкі крытыя былі пераважна саломай. Некалькі дамоў адрозніваліся памерам, да таго ж яны былі пад гонтай і з паўднёвага боку мелі вялікія ганкі, дзе па драўляных імшыстых слупках поўз хмель, паблізу рос здзічэлы бэз, што квітнеў у чэрвені дробнымі фіялетава-блакітнымі гронкамі. Амаль за кожнай хатай былі садовыя дрэвы і кусты чорных парэчак, якія любяць вільгаць і цень.

З левага боку з вёскай межавалася разложыстае, месцамі падмоклае ляда, за якім пачынаўся не вельмі буйны альшэўнік, а далей асінавыя гаі, што пераходзілі ў больш вялікі дзяржаўны лес, пераважна ліставы.

Гэтае ляда, абвугленыя ля самай зямлі пні і голыя асіны — позняй восенню ссівелыя пад хмарным небам — стварала пейзаж, які выклікаў нейкі невыказны смутак. І нібыта праз гэты смутак і імглу, што паволі цягнулася, а не праз ляда ляніва сачылася рэчка — маўклівая, чорная.

Пан Юзэфат, які між іншым звяртаў увагу толькі на атмасферныя змены, быў вядомы і ў мястэчку за восем-дзевяць кіламетраў. Тыя, хто па розных прычынах былі ў фінансавых цяжкасцях, адзываліся аб ім з пагардай: скнара, ліхвяр; затое дзелавыя людзі, нягледзячы на сваю нацыянальнасць і веравызнанне, ставіліся да яго з пашанай і ахвотна шукалі кантактаў з ім. Аднак пан Юзэфат часцей за ўсё падтрымліваў адносіны з тымі, хто не хацеў гэтага, але быў вымушаны абставінамі.

Вусы, лысіна і жывоцік, які круглеў з году ў год, надавалі яму выгляд чалавека, які ўжо даўно дайшоў да ўнутранага ладу і раўнавагі, што, аднак, не зусім адпавядала праўдзе. Быў ён стары халасцяк. У касцёле часта і ўзорна маліўся, але дзе-нідзе дазваляў сабе, як сам казаў, грэшныя выбрыкі: любіў таемныя сувязі з падатлівымі ўдавіцамі ці замужнімі. Трэба прызнаць, што ў такіх выпадках не шкадаваў на выпіўку, бумазею і паркаль. У бліжэйшую нядзелю пасля такога «выбрыку», калі партнёрка была замужам, ён заўсёды даваў міласціну жабракам парафіі ля касцёла, каб яны памаліліся за яе грэшную душу.

Здаецца, аднак, што гэтыя прыгоды былі больш рэдкія, чым вынікала з плётак. Вядомы ён быў тым, што, акрамя спраў, ні на што не меў часу, заўсёды — у раз'ездах.

Па некаторых плётках можна было прасачыць і цікавыя факты з маладых год. Відаць, калісьці Санкоўскі, яшчэ малады чалавек, закахаўся ў нейкую паненку з «арыстакратычнай», па паняццях малога мястэчка, сям'і. Нібыта першыя крокі — ва ўсякім разе, на ягоны погляд,— былі сустрэты нават прыхільна, але калі дайшло да пэўнага акрэслення намераў, яго абразліва выставілі паненка і яе новы паклоннік, нейкі інспектар школ у «імперыяльным», з бліскучымі гузікамі, мундзіры. Санкоўскі адразу кінуўся ў набожнасць, потым астыў і прысвяціў жыццё, як казалі, «набыццю матэрыяльных каштоўнасцей». У натуры меў нейкія схільнасці душыгроша. Сродкі сталі мэтай, і потым ён пастаянна адкладваў на далейшае думкі аб жаніцьбе, пастаянна тлумачыў, што да гэтага яшчэ не дастаткова падрыхтаваны.

Жыццё ў вёсцы не было цікавае. Калі не забірала часу праца ў полі ці на гумнах, у людзей уражлівых прарывалася пачуццё безнадзейнасці. Асаблівую сілу яно набірала позняй восенню. Тракт, што праходзіў між вёскай і хутарам, раскісаў, блішчаў лужынамі, у глiністым балоце вазы грабліся аж па восі. Ніхто не меў ні ахвоты, ні патрэбы ехаць да гміны ці мястэчка, якое было зусім у процілеглым баку. Усходы і заходы сонца былі чырвоныя — як на вецер. Зялёныя купалы царквы патаналі кожны вечар у імгле, над парэпанай травой толькі залаціліся ягады глогу. Часта ішлі дажджы, і тады людзі выходзілі з цёплага задуху хат толькі ў выпадку крайняй патрэбы. Прыкрываліся ад дажджу мяхамі.

Для некаторых маладых мужчын кожны такі дзень заканчваўся ў Мальвіны. Вечары ў Мальвіны мелі нават сваю назву — жартаўлівую ці іранічную — у залежнасці ад таго, хто гаварыў: «художественные вечера»... Змест вечароў складаўся з гарэлкі, гітары, балалайкі і заляцанняў да гаспадыні.

Мальвіна была сваячкай мясцовага бацюшкі. Некалькі год назад, пасля смерці мужа, прыехала яна

з аднаго павятовага мястэчка — маладая і прывабная ўдавіца.

Поп ахвотна прыгрэў яе, але такая зычлівасць адразу ж не знайшла падтрымкі ў пападдзі. Сваяцтва Мальвіны з папом, відаць, было не такое ўжо блізкае, а пападдзя не вельмі давярала сваймі рыжабародаму і хацела збыць пакусу з дому. Пакуса была брунеткай — прыгожая, але праставатая; твар яе нагадваў твары з пахучых паперак таннага мыла. Калі яна ішла цераз вёску, пад ружовымі вушамі паблісквалі вялікія залатыя завушніцы, больш чым трэба калыхаліся шырокія клубы, аблепленыя цеснай і кароткай сукенкай, і затрымлівалі на сабе ліпкія позіркі мужчын. Былі, канечне, у вёсцы дзяўчаты і прыгажэйшыя за яе, але ў яе быў «гарадскі лоск», які асабліва прыцягваў некаторых. Можа, толькі адзін Дзімітр, хаця і малады, пляваў на яе. З Дзімітра, аднак, ніхто не дзівіўся, ён быў нейкі іншы, негаваркі і іранічны — «большевик», у яго знайшлі ў падстрэшшы аж два абрэзы — два карабіны з адрэзанымі ствbooламі. Дзімітр толькі нядаўна вярнуўся з турмы ў далёкіх Свянцянах. Кабетамі, у кожным разе пакуль, не цікавіўся, затое часта праводзіў вечары ў мясцовага кіраўніка і — у адной асобе — настаўніка чатырохкласнай школы.

Асабліва выдзяляўся на «артыстычных вечарах» Мальвіны капітан у адстаўцы Неміровіч. Пераважна як статыст і дэгустатар гарэлкі з салёнымі агуркамі.

Адстаўны капітан быў яшчэ досыць дужы чалавек, але звольнены з прычыны недастатковай адукацыі, у польскае войска прыйшоў з царскага, зорачкі здабываў на вайне. А як вядома, людзі вельмі прыдатныя на вайне часам бываюць зусім непатрэбныя ў мірным жыцці; кожны час патрабуе іншых людзей — адсюль роспач капітана, які нічога наперадзе ўжо не бачыў, співаўся да рэшты.

Капітан карыстаўся павагай, якой патрабавалі ягоныя зорачкі, толькі да паловы кожнага месяца. Калі ж з'яўляўся ў вёсцы пасля пятнаццатага, то ў брыджах, але без высокіх ботаў — у парыжэлых гамашах. Выглядаў ён даволі гратэскава, і адразу ўсе ведалі, што ў капітана зноў запой і што прыгожыя афіцэрскія боты, якія абуджалі павагу да гаспадара,

стаяць у Санкоўскага ці ў лавачніка. Наогул, Санкоўскі такіх часовых закладаў не прымаў, у выпадку з капітанам ім кіравалі нейкія патрыятычныя пачуцці і павага да войска. А самога капітана ў гамашах усе пазбягалі: з ахвотніка да чаркі ён рабіўся настырным вымагальнікам.

На «артыстычных вечарах» часам чыталі «Беларускую дудку» Багушэвіча, але больш за ўсё многа спявалі. І модныя польскія песенькі, і рускія «цыганские романсы». Любімым рамансам быў «Ямщик». Мальвіна трошкі хрыплаватым альтам спявала сапраўды прыгожа і ўзрушана. Ніхто тут не ведаў пра дзіўны лёс верша Сыракомлі «Паштальён». Тая гісторыя ім была не вядомая, але жыла, дзякуючы перакладу паэта Трэфалева, надзвычайна папулярная руская песня. П'яныя слёзы выціскалі з вачэй строфы простанароднай гісторыі:

Когда я на почте служил ямщиком,
Был молод, водилась силенка.
И был я с трудом подневольным знаком,
Замучила страшная гонка...

Я снег отряхнул — и невесты моей
Увидел потухшие очи...
Давайте вина мне, давайте скорей,
Рассказывать дальше — нет мочи!

Недзе пад поўнач «художественный вечер» заканчваўся, удзельнікі разыходзіліся, а ў Мальвіны заставаўся толькі адзін, спрытнейшы і — як здавалася астатнім — шчаслівейшы. Можа быць, гэта не былі проста Мальвініны прыгоды без выгоды, бо сродкі ўтрымання выглядалі па-рознаму: яна прыехала ў Чвецina з некалькімі куфэркамі, атрымлівала нейкія злотыя пенсіі за мужа, нейкія грошы зарабляла на нелегальным продажы самагону, якім часта грэліся фурманы — зазяблыя, калі, прадаўшы яблыкі, варочаліся са станцыі ў мястэчка.

У кастрычніку здарылася, што на чарговы «артыстычны вечар» заявіўся Санкоўскі. Ён растлумачыў, што шукае праваслаўнага святара.

Візіт гэты не быў з'явай звычайнай, і таму на палове нейкай страфы нават перасталі спяваць любімага «Ямшчыка». Але хутка ўсё пайшло па-старому. Хтосьці зычліва наліў гарэлкі ў кілішак і паставіў перад Санкоўскім, Мальвіна — смеючыся, з вачыма, бліскучымі, як шкляныя гузікі на яе чырвонай блузцы,— падкруціла лямпу, што вісела пад столлю ў блакітным абажуры. Яна жартавала, што на дварэ холадна, і ўладкавала Санкоўскага каля сябе. Сапраўды, ад кабеты ішло цяпло з пахам танных духоў.

Санкоўскі не любіў такіх мнагалюдных банкетаў, але сёння не выказаў сваёй агіды.

На дварэ ішоў дождж, шыбы былі ў пісягах; калі пераставалі цёгаць струны гітары, лужыны за вокнамі аж булькаталі ад кропель.

Ён прыгадаў уласны стылы дом, дзе гаспадыняй засталася глухая старая, ката, які спаў на прыпечку,— і атмасфера Мальвінінай хаты хутка прымірыла яго з акалічнасцямі.

У спевах ён не ўдзельнічаў, але затое ахвотна заляцаўся да Мальвіны, якая штохвіліны, хаця і не вельмі рашуча, адпіхвала ягоную руку, бо пан Юзэфат увесь час намагаўся абняць яе.

Санкоўскі не піў чарка ў чарку з усімі, аднак, калі загаварылі пра тое, хто будзе ставіць наступную паўлітэрку,— лёгка згадзіўся на выдаткі.

Калі госці чапляліся ў сенцах за бочку з вадой і выходзілі ў цемрадзь, Санкоўскі марудзіў, адцягваў момант развітання.

На ноч застаўся ў Мальвіны.

Назаўтра Санкоўскі — наперакор небу, якое не паказвала пагоды,— з раніцы выбраўся ў дарогу. Уціснуў у торбу дакументы, узяўшы іх са схованкі пад падлогай, штохвіліны адчыняў дзверы на кухню, аддаваў загады сваёй гаспадыні.

Гаспадыня мела гадоў пад семдзесят і называла яго «панічом». Яна заўсёды першая рабіла яму заўвагі:

— Ніколі не маеш часу, панічу. Як памру, хто ж згатуе табе? Жаніцца трэба, панічу!

Сёння Санкоўскі быў у гуморы, жартаваў:

— А што, калі б Вераніка стала маёй жонкай?

Старая не цярпела такіх жартаў і з непадробным жахам затыкала вушы:

— Гэта была б кара боская! Што ты, панічу!

Нарэшце каля плота, які аддзяляў дрывотнік ад градак, стаў буланы конік, запрэжаны ў воз. Гэты буланы жвавы конік быў усім вядомы. Санкоўскі сам не гаспадарыў, зямлю здаваў у арэнду, для сябе пакідаў толькі сад і кавалак агарода. Буланы, пярэстая карова ды кот і два сабакі на ланцугах, звісаючых з дрота, працягнутага цераз увесь двор,— увесь ягоны жывы інвентар.

Санкоўскі, што было прыкметай асаблівага задавальнення , старанна пагаліўся, нават папырскаўся адэкалонам і, з усмешкай гледзячы ў люстра, гладзіў вусы на белым твары з нездаровай скурай.

Надзеўшы палінялы кажушок і рудыя буркі, паклаў пад раму сядзення барсучыную торбу, цмокнуў на каня, ляснуў у паветры пугай і рушыў на тракт у кірунку мястэчка.

Колы распырсквалі ваду з лужын, з бяроз ападалі астатнія лісты ў плямах іржы, шпаркія рваныя воблакі перасоўвалі над палогімі ўзгоркамі вокны блакіту.

Санкоўскі быў заняты выключна думкамі пра бягучыя справы. Ён вёз вэксалі да апратэставання, меў спаткацца з двума гаспадарамі садоў, якія ўжо зараз хацелі аддаць яму свае сады ў арэнду, за бесцань, зразумела; яшчэ ён хацеў праверыць нейкія арэндныя дагаворы.

Санкоўскі пазбягаў практыкуючага ў мястэчку адваката і судовага абаронцы. Усе свае справы ён стараўся залатвіць у адной з кантор, дзе пісалі прашэнні. Гаспадар канторы многія гады быў вядомы сваёй добрасумленнасцю, і таму Санкоўскі ставіўся да яго [illegible] пэўным даверам. Часам мог пакінуць яму значныя сумы для выканання плацяжоў паштовымі пераводамі і пазней нават не адразу патрабаваў распісак.

Апроч таго, гаспадар канторы танней браў за паслугі; і была яшчэ адна прычына, па якой Санкоўскі пазбягаў адваката і судовага абаронцы. Гаспадар

канторы быў самавукам, а тыя мелі за сабой школы, дыпломы. Ён добра памятаў свае «школы», не пераносіў такіх.

Сам Санкоўскі чытаў не вельмі бегла, а пісаў яшчэ горш. Затое меў выдатную памяць і наогул без чытання ведаў, што ў якім дагаворы с т а і ц ь.

Гаспадар канторы мог ухваліць не ўсё, што датычыла дзейнасці Санкоўскага, але аддзяляў маральныя ацэнкі ад абавязкаў, звязаных з кіраўніцтвам у канторы. Наогул, ён лічыў пана Юзэфата няшкодным дзіваком, які не ведае «сапраўднага жыцця» і яго выгод.

Санкоўскі штогод дзесяткамі завяраў дагаворы, шукаў сабе контрагентаў у іншых гмінах, цэлымі днямі займаўся перагаворамі, выкарыстоўваў розныя сродкі, каб толькі прапіхнуць усе свае ўмовы. Пераважна гэта былі арэндныя дагаворы аб зямлі і садах, абумоўленыя разнастайнымі агаворкамі, залогавымі закладнымі і няўстойкамі. Афіцыйна ўсе абавязацельствы складаліся ў польскіх злотых, але фактычна ўсе разлікі рабіліся ў царскіх рублях: ляскалі пяцірублёўкамі аб стол і з замілаваннем слухалі гэты звон.

Канечне, Санкоўскі — як арандатар — сам ніколі нічыю зямлю не апрацоўваў. Арандаваную зямлю аддаваў некаму іншаму, а здаралася — зноў жа яе гаспадару, але на значна менш выгадных умовах.

Санкоўскі скупаў таксама — разам з местачковымі яўрэйскімі купцамі — лён; займаўся пазычаннем грошай пад вэксаль. Прыбыткі і пазычанні былі розныя: чым меншы давер выклікаў запазычаннік, а Санкоўскі ўсё пра ўсіх ведаў, тым вышэйшы браў працэнт. Мог выплаціць сто злотых, адразу ўзяўшы вэксаль на дзвесце злотых. Яго запазычаннікі набіраліся з розных сфер — аж да зямельных магнатаў уключна. Часта сярод іх трапляліся і мясцовыя марнатраўцы — тыя, справа зразумелая, легкадумна зацягвалі свае абавязацельствы і яшчэ запрашалі пана Юзэфата на пачастунак як свайго дабрадзея. Справы з мантачамі былі першым крокам да авалодвання ў будучым часткай іх зямлі.

У мястэчку Санкоўскі вечна спяшаўся. На гэты раз ён нават не пакінуў каня на падворку ў каго-небудзь і ездзіў ад дома да дома ці ад адной яўрэйскай крамкі да другой, спыняў воз на вуліцы і на месцы рабіў справу. Часам — стаяў у магазіне, прыцэньваўся — і забываўся, пералічваў дэталі дагавору і адначасова цмокаў на каня, нібы ўжо сядзіць на возе і праз хвіліну колы з грукатам рушаць па выбоістым бруку.

Гэтым днём у мястэчку ішоў дождж, але не доўгатэрміновы. Раннім папалуднем Санкоўскі ўжо быў у дарозе назад — размяклай яшчэ больш чым з раніцы — гразь з-пад колаў, здаралася, далятала да твару.

Толькі калі Санкоўскі ўбачыў зялёныя за голымі галінамі купалы цэркаўкі, ён зноў успомніў пра Мальвіну. Успомніў і часцей стаў падганяць буланага.

Да яго вярнуўся той ранішні настрой асаблівага задавальнення. Рукой пацягнуўся пад сядзенне і дакрануўся да папяровага скрутка з шэрсцю на сукенку, кошт якой дадаткова абцяжарыў аднаго з сённяшніх кліентаў. Кліент гэты аніяк не мог уцяміць, чаму арэндная плата за сад, дакладна ўстаноўленая, упала на пятнаццаць злотых.

Памацаўшы скрутак, Санкоўскі быццам дакрануўся да азадка Мальвіны, якая прывабна ўсміхалася, а ў цёмных вачах яе іскрылася абяцанне.

Але пасля наступнага «артыстычнага вечара» Мальвіна нікому не дазволіла застацца.

Разыходзіліся ў ліпкай цемрадзі, пад няроўны царкоўны звон. Усе ведалі, што нічога не здарылася: ні набажэнства, ні пажару. Смяяліся толькі з царкоўнага панамара, які заспаў і яшчэ раз дапусціў да таго, каб да званоў дарваўся п'яны ў дым капітан Неміровіч.

Калі капітан званіў, гэта азначала, што ён знаходзіцца ў стане выключнага прыгнечання і вялікага запою.

А старыя жыхары Чвеціна, абуджаныя ад сну, спяшаліся перажагнуцца і лаялі «нячыстую сілу», якая ўпоцемках валачэ капітана.

Усе спробы Санкоўскага застацца ў Мальвіны кончыліся няўдачай.

Спачатку Санкоўскі здзіўляўся, абураўся, але хутка, незразумела для Мальвіны, перастаў думаць пра гэта, паглыблены ў справы.

А між тым тактыка Мальвіны была досыць простая.

Муж Мальвіны рана памёр; ён быў дробны служачы, любіў тарыскае жыццё, пікнікі з бутэрбродамі і бутэлькамі ў кошыку нават у верасні, не ставіў высокіх патрабаванняў ні сабе, ні ёй, калі справа ішла аб сямейнай вернасці. Быў чалавекам досыць легкадумным і яе навучыў легкадумнасці, ад якой Мальвіна якраз і рашыла вызваліцца.

Яна ведала, чаго вартая цікавасць тутэйшых мужчын да яе прыгажосці. І ведала, хаця б з часта спяваных песенек, што гады плывуць, не пакідаюць следу, як воблакі, адлюстраваныя ў чорнай вадзе рачулкі з ляда. Нейкі час у Чвеціне Мальвіну наведваў сержант заставы корпуса пагранічнай аховы, але хутка выявілася, што халасцяком ён не быў і, наогул, вёў даволі заблытанае жыццё. Санкоўскага яна мела на прыкмеце ўжо даўно і толькі марыла пра спрыяльную нагоду.

Гэта пападдзя калісьці пачала падгаворваць яе заняцца Санкоўскім. Пападдзя была ўпэўнена, што Мальвіна зробіць са старога халасцяка «чалавека», гатовага выконваць усе яе жаданні і жыць яе розумам.

Мальвіна пазбавіла пана Юзэфата ўсякіх надзей на далейшае, каб ён «адчуў большы смак», але адначасова паклапацілася аб рэкламе сваіх іншых якасцей. З такой мэтай яна пачала прыходзіць на хутар і дэманстраваць перад старой свае здольнасці весці гаспадарку.

Такія клопаты цягнуліся цэлую зіму і ўсё не далі вынікаў. Мальвіна ашукалася ў разліках і раптам рашыла змяніць тактыку і з пэўным намерам сама прыйшла да Санкоўскага.

На пачатку візіту, калі яна намагалася навесці такі-сякі парадак у хаце пана Юзэфата, у дзвярах з'явіўся заснежаны хлопец. Гэта быў сын сястры Санкоўскага. У кароткім плашчы, які сведчыў аб на-

ведванні гімназіі, канапаты, курносы — ён хацеў пацалаваць дзядзьку руку, але той не дапусціў хлапчука да гэтай цырымоніі.

Падлетку было каля пятнаццаці год, і ён быў вучнем местачковай гімназіі. Прыйшоў з мястэчка за дапамогай, бо яго аўдавелая маці не магла заплаціць чарговага ўзносу за вучобу.

— Я што, служачых, дармаедаў буду гадаваць? Не! — сурова адказаў дзядзька і нават пачырванеў. Мякка, але рашуча выпхнуў пляменніка ў кухню, толькі загадаў даць яму капусты і хлеба.

У хаце панаваў паўзмрок, заінелыя шыбы прапускалі не дужа святла, з кухні далятаў пратухлы пах зямлі і бульбы, ссыпанай за перагародкай з дошак.

Праз хвіліну Санкоўскі прачыніў дзверы, высунуў галаву і сказаў:

— Як захочаш працаваць, прыходзь пільнаваць мой сад у Загасціне.

Мальвіна спрабавала заступіцца за гімназіста, але гэта не дапамагло. Яна раззлавалася і, не звяртаючы ўвагі на гуллівыя заляцанні Санкоўскага, зноў вызвалілася з ягоных рук, надзела свой кароткі кажушок і выйшла. Можа, у бесцырымонным выгнанні канапатага гімназіста Мальвіна ўгледзела нешта са свайго будучага лёсу?

На дварэ шумеў вецер, збіваў з галін снег, падымаў яго з лугу і ляда, сыпаў у вочы.

Калі нехта, як рухомы сумёт, ехаў трактам, залівіста брахалі пад звон ланцугоў сабакі пана Юзэфата.

Мальвіна вельмі шкадавала свайго парыву. Яна абмежавала свае «художественные вечера». Калі яны і адбываліся, то амаль ужо не мелі нічога двухсэнсоўнага. У яе расла ўпартая ўпэўненасць, што яна нарэшце стане жонкай Санкоўскага, мроілася ёй, што стаіць перад аналоем ці перад алтаром у жоўтым святле, пад трэск свечак, у водары хвоі. Пры спатканнях з суседкамі Мальвіна з радасцю слухала частыя намёкі на гэтую тэму.

На жаль, ад Санкоўскага яна яшчэ дасюль не чула такіх намёкаў, хоць ужо паспела — ці толькі зда-

валася! — прывыкнуць да яго як да блізкага чалавека.

Часам ёй хацелася пайсці на хутар, каб шчыра сказаць усё, спытаць яго, чаго ён чакае ад яе і чаго яна сама можа чакаць. На хвіліну спынялася перад круглым люстрам, потым накідвала на галаву клятчастую хустку, націскала клямку дзвярэй і... адступала. Можа, рана яшчэ? Не, хай у яго будзе час зжыцца з ёй...

Потым яе зноў ахоплівала бяссільнае шаленства. Яна ж занадта прыгожая для такога, з жыватом! «Чортаў сын»,— лаялася яна, адначасова шкадавала сябе, Санкоўскага і тыя магчымасці, якія бачыла ў замужжы. «Чаго ён хоча ад яе, яна ж можа быць яму добрай жонкай?!» — разважала Мальвіна, калі ішла вытаптанымі ў снезе сцежкамі пад хутар. На начным небе мігацелі зоркі, а яна ўглядалася ў ледзь прыкметнае святло з акон Санкоўскага. Амаль што не плакала ў такія хвіліны. Калі з-пад хусткі высыпаліся халодныя валасы і спадалі на лоб, як жа яна хацела, каб хто-небудзь проста і добразычліва прылашчыў яе. Часам ёй здавалася, быццам кахае Санкоўскага.

Неяк здарылася, што ў такі момант яе спаткаў той самы сяржант-пагранічнік. І амаль з першага слова яна завяла яго да сябе. Лічыла, што робіць гэта з пагарды да сябе, Санкоўскага і цэлага свету.

Актыўнасць пана Юзэфата ў гэты час праяўлялася выключна ў мностве раз'ездаў,— нярэдка ён нават не начаваў дома. І ўсё таму, што набліжаліся тэрміны розных распродажаў у лік нявыкананых у адносінах да яго плацежных абавязацельстваў. Крэдытор ужо падрыхтаваў сабе людзей, якія на некаторых распродажах павінны былі выступаць быццам самастойна, але на самай справе — за яго грошы. Пан Юзэфат падстаўляў іх, каб абысці законы аб куплі зямлі. Розныя спробы пагаднення і адтэрміноўкі, якія прапаноўвалі некаторыя запазычаннікі, Санкоўскі цяпер адкідваў больш рашуча, чым калі-небудзь. І яны ад'язджалі з хутара, не шкадуючы праклёнаў, клікалі кару нябесную.

Пана Юзэфата істотна займалі думкі пра жаніцьбу, думкі жывіліся з розных бакоў. Мальвіна — на-

зываў яе кацапкай, бо была праваслаўная,— таксама была ўзята ім пад увагу, але перш за ўсё яна стала непасрэдным раздражняльнікам, які схіляў да разважанняў на тэму расставання з халасцяцтвам.

У прынцыпе пан Юзэфат не нагледзеў сабе кабеты, існаваннем якой змог бы абгрунтаваць свае ўсё больш інтэнсіўныя клопаты аб памнажэнні маёмасці.

У лютым здаралася, што багата ліло з дахаў і стрэх. Бярозкі ў празрыстым паветры свяцілі такой белай карою, быццам яе толькі што працёрлі мокрай анучай, а ў нядзелю званы царкаўкі мелі больш чысты і моцны гук. Дзеці рыхтавалі шпакоўні; пад свежыя, больш глыбокія сляды на снезе раптам падплывала вада, і яны, цёмна-сінія, застывалі на ноч. У ветры адчувалася рэзкасць, людзі ахвотней сустракаліся, гаварылі пра вясну, хаця да яе магла быць яшчэ не адна мяцеліца.

У панядзелак, пасля апошняй нядзелі лютага, якая дзьмухнула завеяй, па вёсцы разышлася сенсацыйная вестка, што Санкоўскага забілі. Гаспадыня, старая Вераніка, толькі вярнулася з недалёкай вёскі пасля нядзельных адведзін сваякоў і адразу падняла на ногі бліжэйшых суседзяў.

Санкоўскі, прыкрыты бруднай посцілкай, ляжаў на ложку, які больш нагадваў убогую ляжанку. Не ўсе ведалі, як скромна выглядае хата, занятая панам Юзэфатам. Падлога была ў дзірах, некаторыя дошкі вырвалі мінулай трагічнай ноччу. Вакол стала — раскіданыя скураныя крэслы, з якіх ва многіх месцах вытыркаліся спружыны. Акно, што выходзіла ў сад, з сярэдзіны было забіта дошкамі, сцены многа гадоў не бачылі пэндзля. Санкоўскага задушылі. Вакол валяліся брудныя падушкі без навалачак.

На кухні таўкліся цікаўныя, іх дарэмна распіхваў начальнік паліцыі, які прыехаў з урачом.

Ці было гэта забойства з мэтай грабяжу? Пакуль выглядала на тое, што злачынцы не кранулі грошай, срэбра і іншых каштоўных рэчаў, што стаялі ў дзвюх шафах і былі прынятыя нябожчыкам у заклад ці купленыя. На падлозе шапацелі сатлелыя рэшткі і попел вэксаляў. Толькі адно было ясна: забойцы

спалілі ўсе вэксалі і фінансавыя абавязацельствы, сярод якіх, мусіць, былі і падпісаныя некалі імі.

Апроч старой гаспадыні ніхто не плакаў па «панічу», ніхто не здаваўся асабліва ўзрушаным. Людзі выказвалі розныя меркаванні. Сярод стаяўшых на кухні і ў сенцах маглі быць і такія, у чыіх вачах хавалася радасць з прычыны знішчаных дакументаў, беззваротна ануляваных абавязацельстваў.

Уздыхалі, паўшэптам дзяліліся заўвагамі. Колькі ў тых заўвагах было спачування няшчасцю, а колькі салідарнасці са злачынцамі — невядома.

Шэпт узмацніўся, калі ў натоўпе заўважылі Мальвіну. Хоць увайшла яна з вуліцы, пад глыбока на бровы насунутай хусткай твар быў шэры, бо дні тры яна бавілася ў мястэчку з сержантам-пагранічнікам. Хто ведае, калі б не ўсе бачылі яе там, можа, у каго-небудзь і варухнулася б падазрэнне аб яе ўдзеле ў забойстве...

Мальвіна стаяла, быццам нікога і нічога не бачыла, хаця на яе глядзелі і нечага чакалі.

Чорныя бровы Мальвіны зрабіліся вільготнымі — гэта ў задусе растаў іней — была б адна, можа, раптоўна пачала б ужо не плакаць, а крычаць уголас, такі жаль разрываў яе. Забілі Санкоўскага, забілі яе слабую надзею...

«Як гэта магло быць,— камячыла ў пальцах канцы клятчастай хусткі,— каб у мяне і яго не было ніводнай дарогі да паразумення? Рабіў так, каб яго забілі... А не хацеў, напэўна, не хацеў, каб яго забілі... Ляжыць насупраць у хаце гэты чортаў сын, і няма ўжо ў яго ніякай прагі да спраў, а я стаю жывая, але каму патрэбная?»

Людзі таўкліся, невядома чаго чакалі; мужчыны часцей чым звычайна даставалі кісеты, ссыпалі махорку на танюсенькую паперку, слінілі яе край і ўважліва скручвалі папяросы.

У хляўчуку раўла карова, пра якую зусім забылі.

Потым Мальвіна рашыла знайсці даёнку і падаіць карову.

# ПЕРШАЕ І ДРУГОЕ ВЯРТАННЕ



1

Цяпер, калі мінула шмат гадоў, мне лёгка прызнацца, што тады я часам саромеўся свайго падраздзялення, асабліва калі выходзіў з хвойнага лесу на ўтрамбаваны, стракаты ад конскага калу снег на дарозе, якая вяла ў вёску непадалёк ад Акі, дзе ў адным з драўляных дамоў размяшчаўся палітаддзел. Бо ў аддзеле ў прысутнасці іншых афіцэраў, якія таксама дабіваліся газет, кніжак, паперы або алоўкаў, трэба было рэгістравацца: хто ты ды што, дзе служыш... Халера! Не ў пяхоце або артылерыі служу, нават не ў якім-небудзь гаспадарчым падраздзяленні, а ў асобным батальёне для ачуньваючых. Менавіта гэтае апошняе слова так мяне бянтэжыла, мне здавалася, што ўсе глядзяць на мяне насмешліва, і я вымаўляў гэтае слова страшэнна сарамліва, амаль шаптаў, стараючыся глытаць склады.

Іншая справа, што даволі хутка я зразумеў прычыну і сэнс існавання гэтага батальёна, у якім часам было больш людзей, чым у палку. У тых суровых умовах бяздомнасці многіх салдат ён быў ім як санаторый, а то і як родны дом. Траплялі ў батальён салдаты пасля шпіталя, каб падмацавацца і вярнуцца ў баявы строй. Там можна было спаткаць людзей здольных да вайсковай службы, але яшчэ залішне знясіленых рознымі выпрабаваннямі. Накіроўвалі ў гэты батальён таксама інвалідаў, якім не было куды вяртацца. Што таіць, там часам даводзілася мець справу і з сімулянтамі, абібокамі, дэзерцірамі і швейкамі, якім удалося ашукаць лекараў і начальнікаў.

Пра сімулянтаў і дэзерціраў я даведаўся, праўду кажучы, значна пазней, а тады я быў занадта наіўны, а наіўнасць — гэта ж адна з сясцёр маладосці, сястра вельмі мілая і сімпатычная, страціўшы якую, мы пасля таксама ці раз вельмі шкадуем...

Павел Сцяпанавіч, плячысты бландзін, з'явіўся да нас у савецкай форме з трыма зоркамі старшага лейтэнанта на пазалочаных пагонах. Кульгаў даволі прыкметна на левую нагу, абапіраўся на арэхавы кіёк. Мне яго і назначылі ў намеснікі. Калі я прыгадваю гэта цяпер, то разумею, што ў самога было багата вольнага часу, але перад намеснікам, прынамсі напачатку, не хацелася ў гэтым прызнавацца. Часу было ў мяне многа, бо заняткамі па страявой і баявой падрыхтоўцы нас не перагружалі, больш увагі аддавалі чытанню і пісанню, клубным гутаркам.

У дывізіі звычайна радаваліся, калі з'яўляўся паляк або рускі ў форме Чырвонай Арміі, хаця б таму, што ўсе шанавалі вайсковыя веды і вопыт, значна раней набытыя ў баях на розных франтах. І мы, вядома, былі задаволены, калі прыбыў Павел Сцяпанавіч. Аднак сам ён соваўся пахмурны і раздражнёны, а маю прапанову, чым яму займацца, прыняў з іроніяй, якую нават не стараўся схаваць. Ніколі, гаварыў ён, не меў нічога супольнага з палітыка-выхаваўчай работай, служыў танкістам, сведчаннем чаго быў на пагонах значок, прыехаў сюды на папраўку. Ён часта даваў усім зразумець, што як толькі пазбавіцца арэхавага кійка, то больш у батальёне яго не

ўбачаць. Што ж, сілаю ніхто тут нікога не меўся затрымліваць.

Павел Сцяпанавіч, па прычыне нейкіх часовых нястач у інтэндантстве, на працягу некалькіх дзён, а мо і даўжэй, хадзіў сярод нас у форме савецкага афіцэра. Нічога дзіўнага, што ўсе тады звярталіся да яго па-руску.

На трэці ці чацвёрты дзень, калі мы вярталіся пасля заняткаў з клуба ў нашу зямлянку, што звонку нагадвала снежны пагорак, Павел Сцяпанавіч затрымаў мяне раптам на сцежцы, дакрануўся да майго пляча, так што мы сталі твар у твар, і па-руску папрасіў, каб я гаварыў з ім выключна па-польску. Я ахвотна згадзіўся, тым больш што на адной нарадзе нам акурат і гаварылі пра неабходнасць гэтага, але папрасіў растлумачыць, чаму ён так хоча...

А як жа, разважаў ён, яго ж імя і імя па бацьку польскае. Што ж, могуць быць і польскія, зазначыў я, хаця і неабавязкова. Урэшце, аднак, гаварыў я, аб нацыянальнасці красамоўней сведчыць мова, на якой адчуваеш і думаеш, на якой гаворыш. Тады Павел, неяк не вельмі дарэчы, сказаў, дрэнна вымаўляючы:

— Сынок, няхай цябе беражэ боская рука... Умею я па-польску ці не ўмею?

— Трошкі ўмееш, пан паручнік.

Выявілася, што Павел паляк. Маці яго памерла рана, і ён запомніў яе словы: «Сынок, няхай цябе беражэ боская рука...» Бацька, чыгуначнік, эвакуіраваны ў часе першай сусветнай вайны, ажаніўся пасля з рускай, і з дому выветрылася польская мова. Зрэшты, не было ні асяроддзя, ні кніжак. Матчын малітоўнік з чорнымі вокладкамі так знасіўся, што служыў толькі памяткай. Радзіма маткі і бацькі стала толькі далёкім і невыразным міфам, зноскай да скупых бацькавых успамінаў, знявечаных ці адной перыпетыяй і панурай жыццёвай акалічнасцю. Спачатку жылі каля Оршы ў Беларусі, а потым, пад канец трыццатых гадоў, апынуліся ажно пад Семіпалацінскам, ва ўсходнім Казахстане.

Амаль з самага пачатку Павел ахвотна ўжываў, і нават залішне, слова «dziękuję». Вымаўляў ён яго кепска, але з часам яно паступова змяняла сваё гу-

чанне, пакуль нарэшце мы не пачулі прыязнае, сказанае з усмешкай задаволенасці, у найлепшым гучанні гэтае слова. Калі Павел узяў у мяне шэры томік Пруса, выдадзены ў бібліятэцы Саюза польскіх патрыётаў, я прапанаваў напісаць на лісціку паперы са спытка побач з рускім алфавітам польскі. Ён не згадзіўся на такую паслугу, пэўна, з упартасці і амбіцыі. І дапамога мая абмежавалася тым, што некалькі першых старонак апавядання «Камізэлька» мы прачыталі разам. І такім чынам Павел пачаў вяртацца да мовы, якая, мажліва, прабудзілася з вялікай дрымоты ў нейкім глыбокім слаі яго памяці.

Тым часам Павел ужо хадзіў у мундзіры польскага афіцэра, крыху цеснаватым, але ён не звяртаў на гэта ўвагі, хоць у батальёне можна было б знайсці краўца, які патрапіў бы падагнаць мундзір да фігуры. А я між тым шапнуў некаторым таварышам, каб звярталіся да Паўла толькі па-польску.

Неўзабаве Павел сапраўды прыдаўся ўсім нам. Можна нават сказаць, што ён упэўніўся ў сваёй неабходнасці. Дамовіўшыся з узводным гарманістам, які выйшаў цэлы з вераснёўскай абароны Варшавы, а страціў нагу пад вёскай Леніна, Павел сам, бо ў некаторых справах ён не любіў прымусу, скантактаваўся з аматарамі і пачаў вучыць іх спяваць песні. Акампаніраваў узводны гарманіст, але на... губным гармоніку. Навучыліся спяваць адну самую задушэўную салдацкую песню «Темная ночь, только пули свистят по степи...» А сам Павел, у даваенны час настаўнік матэматыкі і спеваў у далёкай, за тысячу кіламетраў, сямігодцы пад Семіпалацінскам, пераняў ад сваіх падапечных песеньку, якую вельмі палюбіў: «О муй розмарыне...»

Дзякуючы аднаму выпадку Павел здабыў сабе асаблівую пашану сярод салдат. Здарылася так, што двое салдат — можа, якраз замаскіраваныя сімулянты — у змове з памочнікам крамніка заняліся тайна прамысловай вытворчасцю, а проста сказаць — нагналі чатыры ці пяць літраў самагонкі для ўласнага спажывання. Калі на след гэтай вытворчасці, а дакладней — на след яе вынікаў натрапіў нейкі занадта строгі афіцэр-палітработнік, да таго ж гэта была дзяўчына,— пачаўся вэрхал. Дзяўчына, брунетка з

чорнымі біблейскімі вачыма, амаль кінулася ў істэрыку, дамагалася аддаць самагоншчыкаў пад палявы суд. Даведаўся пра гэта Павел і як мага хутчэй, калдыбаючы, адшукаў мяне ў клубе. Быў ён заклапочаны, устрывожаны і, пэўна, таму пачаў па-руску:

— Нехорошо получается! Эта пани хорунжий, эта дурочка!

— Почему она дурочка? — спытаўся я, і мы перайшлі на польскую.

Яна, разважаў ён, нічога яшчэ не разумее. Ну, такое ўжо дзіва, што хлопцы хацелі выпіць. Невядома, як доўга яшчэ пажывуць. І хіба кепска тое, што яны спрытныя. Якраз такія кемлівыя, а не бюракраты, і патрэбны ў арміі. Якая карысць ад статутаў, калі нехта не баец, а расцяпа альбо цяля на продаж?

Памочніка крамніка, безумоўна, знялі з пасады,— замала было мукі, каб у салдат адбіраць іхнюю норму хлеба. Але таксама супакоілі брунетку-харунжага. Справа не дайшла не толькі да суда, але і да рапарта камандзіру батальёна. Фактычна гэта Павел пераканаў дзяўчыну:

— Ты не была яшчэ на фронце! Што ты ведаеш? Што ты бачыла?

— Я бачыла куды больш, як табе здаецца. А ты што? — упарцілася дзяўчына.

— Я быў амаль два гады на фронце! — І Павел зняў з галавы дзяўчыны шапку-вушанку з шырокім нержавеючым арлом, прышпіленым спераду аўчыны. Гладзячы густыя валасы брунеткі, ён паўтарыў ужо цішэй:

— Амаль два гады на фронце...

Здавалася, што мы даўно і добра ведалі Паўла, але ўважліва глянулі ўсе ў густы блакіт яго вачэй. Яны і цяпер, нягледзячы на тое што ён ужо колькі часу знаходзіўся ў батальёне, былі змучаныя, запалыя. Хоць ён меў не больш трыццаці гадоў, вакол вачэй была цэлая сетка маршчынак, пэўна, бачылі яны куды болей, чым мае вочы і вочы дзяўчыны. Паручнік Павел, напэўна, лепей чым мы навучыўся разумець, што важнае, а што нязначнае і другараднае.

Потым наша тройца цудоўна зжылася, і вечарамі, калі астывалі дрэвы і пераставалі скідваць віль-

готны снег са сваіх галін, мы блукалі па лесе, абмінаючы вартаўнікоў, аддаваліся ўспамінам альбо бягучым справам.

Павел распытваў мяне пра Беласток, адкуль паходзілі яго бацькі. На жаль, не многа я мог расказаць яму пра гэты горад. Праўда, некалькі разоў мне даводзілася, будучы студэнтам, праязджаць гэтай дарогай да Варшавы, але ж тое было так даўно, у нейкі зусім іншы час, хаця не мінула яшчэ і пяці гадоў. Я гаварыў яму, што горад гэты быў фабрычны, тэкстыльны і, пэўна, мяркуючы па ўсім, не надта прыгожы.

— Але там, у цэнтры горада, ёсць вялікі з чырвонай цэглы касцёл! — дапаўняў Павел мае нікчэмныя веды аб горадзе.

— Пэўна, ёсць. У кожным польскім горадзе ёсць касцёлы. А ты што, веруючы?

— Не ведаю, ніколі пра гэта не думаў...

— Дык навошта табе гэты касцёл?

— Бацька прасіў зайсці ў гэты касцёл, калі мяне лёс закіне калі-небудзь у Беласток. Яны там, маці і бацька, шлюб бралі.

— Ага...

Мы прайшлі яшчэ некалькі крокаў. Угары месяц распальваў у галінах сосшаў халодныя вогнішчы. Унізе, на зямлі, дзе-нідзе заўважна было, як снег крыху яснеў ад цьмянага святла газовак, што прадзіралася праз маленькія акенцы зямлянак, у якіх рыхтаваліся да сну, вешалі анучы і абмоткі на трубах жалезных печак.

## 2

За паўгода ўсё грунтоўнаператасавалася не толькі ў жыцці многіх з нас, але і ў агульных падзеях. Бітвы ішлі пад Віслай. Асобны батальён ачуньваючых ціха спачываў у маіх успамінах, на якія ў мяне тады не было часу, а сам я, нічога асаблівага не прадчуваючы, працаваў у рэдакцыі адной газеты ў Любліне.

Аднойчы пасля палудня паклікаў мяне мой рэдактар у свой кабінет і, знаёмячы з чарнявым паруч-

нікам, тонам загаду — рэдактар быў у форме маёра — сказаў:

— Паедзеш з паручнікам на фронт.

— Калі?

— Праз гадзіну...— І растлумачыў: — Наша танкавая брыгада была ў цяжкім і пераможным баі, трэба пра яе напісаць рэпартаж.

— Нудна вам у нас не будзе,— уставіў паручнік нібы для заахвочвання.— У нас шмат трафейнага каньяку і добрых папяросаў.

Заахвочвання такога мне не патрабавалася.

Не было са мной ані жонкі, ані сына, сям'я знаходзілася далёка, у Казахстане, дык я адчуваў сябе вольным, не было мне нават з кім — хоць бы для прыліку і на ўсякі выпадак — развітацца. Заскочыў толькі па цыратавую палявую сумку, усунуў у яе блакнот у клетку, ручнік, прыбор для галення — амаль усё дабро, якое ў мяне ў той час было. Не чакаў абеду ў сталоўцы, мы з паручнікам паабедалі ў адным рэстаране ў Кракаўскім Прадмесці. Паручнік быў гаваркі, многа і ахвотна расказваў пра брыгаду, хваліў генерала.

Калі ўзяліся за другую чацвярцінку,— неабходнасць выпіць паручнік вельмі хітра абгрунтоўваў жніўеньскай гарачынёй,— я выказаў сумненне, ці не пашкодзіць гарэлка вадзіцелю «віліса». Але паручнік развеяў гэтае сумненне, спаслаўшыся на бяспрэчны аўтарытэт:

— Генерал штодня выцадзіць літэрку, а як вядзе! Першы пад агнём на самаходзе-амфібіі пераправіўся праз Віслу!

...Хоць на шашы панаваў ажыўлены прыфрантавы рух у абодвух кірунках, ехалі шпарчэй, чымся павінны ехаць, стрэлка паказвала 70 або 90 км у гадзіну, вядомая рэч, у мілях. Міналі часам калоны салдат, што ішлі ад Віслы. У калонах чуўся вясёлы гоман, нягледзячы на тое што салдаты былі стомленыя, у іх кроках не адчувалася пружыністасці. На скрыжаваннях дарог пільна сачылі рэгуліроўшчыцы, дзяўчаты ў вайсковых блузах і ў школьных бэрэтах, размахваючы чырвонымі сцяжкамі на палачках. Потым ужо былі толькі палявыя дарогі, што дымяцца пылам з-пад колаў. Там-сям пераезды, пера-

лазы і сцежкі пралягалі праз пераспелае жыта, пакінутае сіратой — сваім гаспадаром.

Нарэшце сяк-так выехалі праз нейкія гаёчкі без драбналесся на пантонны мост, што тарахцеў пад коламі машын, і зноў праз гады пачуўся халадок Віслы, што надаваў бадзёрасці. Гэты мост, як мне расказваў паручнік, каштаваў не адно жыццё, рускія сапёры будавалі яго пад бомбамі, што скідвалі «месеры» і «штукасы». Непадалёк тарчалі з вады рэшткі другога моста, які не ўдалося зманціраваць.

Мінаючы грузавікі з амуніцыяй і забеспячэннем, мы апынуліся на пашы, ці на лузе, дзе знаходзілася брыгада герояў Заходняга плато.

Камандзір брыгады, каранасты генерал з чорнымі валасамі, прыняў нас ветліва. Засталі мы яго ў таварыстве афіцэраў штаба на лузе. Луг быў зялёны і такі вільготны, што ў слядах ад ботаў стаяла вада. Генерал забаўляўся, і гэтую забаву лёгка можна было прызнаць за жывую ілюстрацыю да раздзела в нейкай гістарычнай аповесці. Стаялі насупраць тыповай надвіслянскай вярбы з шэрым ствалом, карослівай карой, з зялёнымі лозамі на кучаравай галаве і цюкалі шаблямі ў гэтую вярбу. Гучнае прызнанне выклікаў той, хто з большай адлегласці, чым яго папярэднік, патрапляў блішчастым вастрыём у ствол. А шабля, пакуль не замірала, уткнуўшыся ў яго, нейкі час дрыжала, рассейваючы срэбнае мігценне. Калі ж чыя шабля з бездапаможным звонам падала каля падножжа вярбы, усе смяяліся і кпілі з таго.

Генерал адлучыўся ад групы і прыняў рапарт паручніка, тады завёў нас у сваю зямлянку, выкапаную ў насыпаным супроць паводкі вале, і сапраўды пачаставаў нас трафейным каньяком, а пасля кароткай гутаркі перадаў мяне афіцэрам-палітработнікам. Афіцэры гэтыя жылі і працавалі ў іншай зямлянцы. Яны шчодра давалі мне агульную і падрабязную інфармацыю, ужываючы крыптанімы для некаторых назваў, забяспечылі мяне копіямі загадаў на тонкай паперы, у якіх давалася ацэнка дзейнасці брыгады ў баях ад 8 да 17 жніўня, што ўвайшлі ў гісторыю пад агульнай назвай бітвы за варэцкаў-магнушаўскае перадмаставое ўмацаванне паміж Пiліцай і Ра-

дамкай, для мяне, прафана, гэта зводзілася проста да дзеянняў на левым баку Віслы.

Фронт быў блізка. Зямля скаланалася ад выбухаў і нібы рыхтавалася да нейкага цяжкага палёту. Надвіслянскія раніцы, што пахлі не толькі зелянінай, але і гарам, дзе-нідзе атрутным водарам разлажэння, пачыналіся артылерыйскай падрыхтоўкай з савецкіх агнявых пазіцый, якая каламуціла пагодны жнівеньскі блакіт быццам прысутнасцю яшчэ нейкай субстанцыі. Часам дзесьці і ў нашай аколіцы нямецкі снарад ускідваў раптам угару зямлю, яна ўзлятала, як цяжкі дым, не кудлаты, але скібісты, і хутка ападала. Зіркаючы на самалёты, мы прабіраліся на матацыкле праз непраходныя, разагрэтыя, клейкія пяскі ў хвойны лес, дзе стаялі біваком асобныя вайсковыя часці, а вакол некаторых Т-34, пакалечаных некалькі дзён назад, працавіта завіхаліся ў камбінезонах мурзатыя механікі з тэхнічнай службы. Рамантавалі старанна машыны.

Для газеты мне патрэбны былі жывыя непасрэдныя фатаграфіі, і я не толькі распытваў пра шлях з Ківерцаў пад Луцкам і з Ковеля. Многа гаварыў з удзельнікамі баёў, мяне можна было ўбачыць з камандзірамі-танкістамі, з вежавымі і вадзіцелямі танкаў.

У гутарках адчуваліся дзве танальнасці: радасць, што чагосьці ў баях з захопнікамі дабіліся і вярнуліся цэлымі, і смутак, што таварышы загінулі або цяжка паранены. Аднак я ведаў, што радасць мацнейшая, больш інтэнсіўная, хаця смутак будзе трывалейшы, бо да тых, што загінулі, будуць вяртацца ва ўспамінах тыя, хто ацалеў, а пакуль жа ніхто не мог ведаць, над кім яшчэ ў наступных баях вісеў канчатковы прысуд,— будуць яны ў самых розных акалічнасцях паўтараць імёны загінуўшых да канца свайго жыцця.

На трэці дзень адзін капрал успомніў пра Паўла. Так, пасля двух-трох дадатковых пытанняў сумнення не было. Гутарка ішла пра майго Паўла, з якім мы так хутка пасябравалі ў асобным батальёне... Цяпер без сарамлівасці я кажу: у батальёне для ачуньваючых. Капрал-тэлеграфіст належаў да танкавага экіпажа, якім камандаваў Павел. Знайшлі мы з таў-

сташчокім капралам і вадзіцеля танка, каб аднавіць — не вельмі вобразна, але затое змястоўна — дэталі апошняга бою Паўла. Гэтым разам ужо на польскай зямлі. Дэталі гэтыя не маюць літаратурнай логікі, бо мае ж субяседнікі, на жаль, былі ў гаворцы сціслыя і страшэнна канкрэтныя...

Ну, што ж: найперш цэлы час вельмі хацелася піць! Ах, гэта нават лёгка сабе ўявіць, дастаткова толькі яшчэ раз адшукаць у памяці спякотныя жнівеньскія дні, пяскі, гукі, што раздзіралі нерухомае паветра, духату ў сталёвым нутры танка, пырскі зямлі, недасыпанне і трывогу...

Паўлаў танк трапляе на міну, якая пашкодзіла гусеніцу. Колькі хвілін ён круціцца бездапаможна, буксуючы і грузнучы, асядае ў яме. Няма поля абстрэлу. Трэба прыняць рашэнне! Салдаты пакідаюць машыну, крадуцца да ракі. Не звяртаючы ўвагі на небяспеку, найперш прыпадаюць да яе гразкага, глеістага берага, каб нахлябтацца вады, потым кладуцца ў вербняку. Магчыма, нават і ў густым, магчыма, і ў галіністым, але ў дадзенай сітуацыі гэты вярбняк быў, як шырока растапыраныя пальцы, праз якія ўсе тыя — у мундзірах палевага і сталёвага колеру — добра іх бачаць. Яшчэ капрал хоча ўстаць, не памятае ўжо — чаго, і ўстае, але чуе энергічны голас Паўла: «Лажыся, сукін сын!»

Абараняліся да абеду, якога не было, да вечара. Нарэшце ў кулямёце канчаюцца патроны, застаюцца дзве стужкі. Нікога са сваіх няма паблізу, толькі немцы. Непадалёк грукатала вялікая бітва, яна свідравала снарадамі зямлю і паветра, яна бушавала на пяску і ў балотах, на вадзе і ў сасновых гаях, у ёй бралі ўдзел мужчыны ў розных мундзірах, розных фарміраванняў; удалечыні ад Т-34, «фердынандаў» і «тыграў» разыгрываўся празмерна насычаны безліччу здарэнняў, поўны значэння ў кожную секунду эпізод, што вырашаў лёс аднаго экіпажа, пазбаўленага сваёй рухомай крэпасці.

Прыпёртыя да самага берага, грузнучы ў чорным балоце, жадаючы схавацца ў ім па вочы і па вушы, паўзуць да кустоў і зарасніку, каб зноў сустрэць ворага. Адкуль ні вазьміся яшчэ агонь з мінамёта. Адзін танкавы кулямёт у руках Паўла. Але ў нейкае

імгненне вока кулямёт перастаў быць кулямётам — у яго адарвала ствол. У Паўла засталіся толькі дзве гранаты. У хвіліну, калі налятаюць немцы з крыкам «хэндэ хох!», Павел у бязвыхадным становішчы. І вось гэта адзіны выпадак, калі трэба было, як гаворыць, крыху жартуючы, капрал, падняць рукі ўгору. Павел хутка падымае рукі, каб шпурнуць абедзве гранаты як найшыбчэй і не марудзячы. Павел і вежавы Станіслаў там засталіся...

І толькі праз два дні іх пахавалі ў канцы адной вёскі.

Хацеў я знайсці магілу Паўла, але на гэта не было часу. Ды і капрал не вельмі разбіраўся ў тапаграфіі. Так і не пабачыў я Паўлавай магілы, пазначанай бярозавым крыжам і дошчачкай з алоўкавым надпісам.

Мабыць, каб калі-небудзь надарылася быць у тых мясцінах, дык нічога не пазнаў бы. Вёску з чорнымі ад сажы печамі ў дамах-руінах, напэўна ж, адбудавалі. Герояў перанеслі на вайсковыя могілкі, дзе Павел і іншыя танкісты спачываюць, мажліва, побач з многімі савецкімі салдатамі гвардзейскіх сталінградскіх палкоў.

Я напісаў пісьмо да Паўлавага бацькі, хацяі мяне запэўнівалі, што гэта ўжо зроблена. Напісаў, бо ў маім блакноце быў Паўлаў казахстанскі адрас, у войску ж часта абменьваліся паміж сабою адрасамі сваіх сем'яў. На ўсякі выпадак. Спачатку я пачаў пісьмо так: «Шаноўны пане! Ваш сын назаўсёды вярнуўся ў Польшчу. У Беластоку, як мне здаецца, не змог пабыць...» Падумаўшы, я перакрэсліў пачатак, быў ён залішне агульны на чыйсьці асабісты боль, на страту, якую ніколі не паправіш. Такі пачатак мог бы пасаваць да верша ці артыкула, але не да пісьма. Я абмежаваўся толькі сціслым, як у справаздачы, апісаннем смерці Паўла і майго з ім знаёмства...

Зараз, праз гады, можа, аднак, і лепей было б тымі перакрэсленымі словамі закончыць успаміны.

# СТАНАЎЛЕННЕ МЯСТЭЧКА



1

Чатыры тыдні ў таварных вагонах, у разнашэрснай кампаніі — бо тут былі і шурпатыя коні, і худыя каровы — гэта яўна зашмат. Іншыя даўно пакінулі вандраванне, толькі мы чамусьці не маглі пачаць аседлага жыцця. Абрыдла нават машыністам да такой ступені, што яны пад канец ужо не хацелі прымаць ад нас самагонкі, далібог, праўда.

На месцы вакзала стаялі абсмаленыя сцены, але платформа — зацэментаваны сярод лугоў астравок — выглядала ахайна, чыста. На невялікай адлегласці ад станцыі ў сонечнае надвор'е драмала мястэчка з чырвонымі дахамі, над якімі ўздымаліся дзве цэленькія вежы, прычым адна з іх была падобная на касцельную. Гэта абуджала давер, упэўненасць. Няўрымслівы Вацусь — дантыст без прылад працы — і на гэты раз уцягнуўся ў дыскусію з ма-

шыністамі. Дыскусія вялася шэптам. Ён, відавочна, здолеў пераканаць машыністаў, бо яны згадзіліся зрабіць паўгадзінны перапынак. Вацусь выцягнуў веласіпед і скокнуў у мястэчка на разведку. Некаторыя, карыстаючыся аказіяй, расставілі на платформе цаглінкі, каб хуценька нагрэць вады на чай, уладальніцы каровак пабеглі з дзяругамі на загон маладога лубіну, якога ў нас амаль што не ведаюць. Тут зноў уцякла курыца з клеткі, і яе сталі лавіць.

Калі вада пачала падкідваць накрыўку, Вацусь ужо вярнуўся з мястэчка. Саскочыў з веласіпеда потны, але і радасны.

— Далібог, пустое мястэчка! І мала разбуранае.— Вацусь памахаў рукою, як бы зграбаючы паветра, у бок вагонаў: — Высаджваемся!

— Людзей бачыў?

— Не шукаў, самі знойдуцца...

Трам-ці-дзі-дара! Мы хапатліва і абы-як выгрузіліся. Паравоз, развітваючыся з намі шматамі дыму, пацягнуў за сабой цэлы састаў у майскую далячынь 1945 года, а нашы трыццаць з нечым сем'яў меланхалічна глядзелі на свае манаткі, беспарадкава раскіданыя па платформе. Астыла наша хапатлівасць, нам не хацелася варушыцца, мы як быццам акамянелі. Аднак гэта цягнулася нядоўга, бо ў мужчынах зноў абудзіўся актыўны неспакой. Яны нібы па трывозе амаль бягом рушылі адкрываць мястэчка, пакідаючы дзяцей і жонак каля клункаў і збітых з дошак скрынь. Нават тыя, у каго былі коні і каровы, пабеглі з намі, каб заняць лепшыя аб'екты. У дарозе да мястэчка ўсе паводзілі сябе так, быццам нехта нас хацеў злосна апярэдзіць, а тое, што сказаў нам Вацлаў, нібы было ашуканствам.

Пошук адпаведных кватэр і гаспадарак іменна таму, што іх было шмат, цягнуўся даволі доўга. Некаторыя яшчэ пасля цэлы тыдзень вандравалі з дома ў дом, пачыналі спрэчкі, пра якія можна было б напісаць забаўную гумарэску. Аднак у асноўным пад вечар большасць з нас ачомалася, і мы нават ўспомнілі, што на станцыі асталіся дзве ці тры бездапаможныя ўдавы з малымі дзецьмі, якім трэба было б дапамагчы. З гонарам павінен сказаць, што мы дапамаглі. Дапамога, можа, была б хутчэйшай, калі б

у тых удоў было менш дзяцей і калі б яны былі крыху прыгажэйшыя. Але і так адной з іх восенню вельмі зацікавіўся дэмабілізаваны паручнік без рукі, які іменна ў нас шукаў для сябе месца.

Што датычыць мяне і маіх старых, дык мы, трэба сказаць, уладкаваліся даволі зносна. Праўда, адзежныя шафы і куфры шчэрыліся сваім пустым нутром — відаць, нейкія майстры па адмыканню прайшлі ўжо праз гэтае мястэчка — аднак нельга было скардзіцца на недахоп мэблі, рознага абсталявання і посуду, перш за ўсё посуду.

Я заняў мураваны домік з маляўнічым дахам. Ён стаяў насупраць невялікай ратушы з вежай і некалі належаў гаспадару рэстарана. На першым паверсе быў рэстаран з нікеляваным буфетам, а на другім — кватэра, з якое я адразу павыкідваў сямейныя фатаграфіі і партрэт нейкага калматага тыпа, што вісеў у самым цэнтры.

Пасля гэтага ўчынку я выйшаў у агарод, выламаў галінку бэзу і пачаў яе нюхаць, бо мне здавалася, што настаў урачысты момант. Я ніколі не быў рэстаранішчыкам, за год да вайны пачаў працаваць у пачатковай школе настаўнікам, але пад час акупацыі так нагаладаўся, што сказаў сам сабе: пасля вайны, калі толькі дажыву, стану ўласнікам невялікай гаспадаркі або рэстарана і па чацвяргах буду выстаўляць у акне таблічку з надпісам: «Сёння флякі». Я гатоў быў ужо з заўтрашняга дня пачаць работу, калі толькі знойдзецца які-небудзь склад з сухой каўбасой і мукой грубага размолу ці бульба, бо я прывёз у адной са скрынь аматарскі халадзільнік.

У час падарожжа мы дастаткова стаміліся і мелі нямала хваляванняў. Цяпер пачалося ажыўленне, быццам усе мы вылезлі з бочкі ад гнілой капусты, у якой так доўга трымаў нас лёс. Кожны турботна ўвіхаўся, не заўсёды з сэнсам, але адчуваючы значэнне часу і яго розных магчымасцей. Мы шкадавалі, што надыходзіць ноч, якую наблізіў кароткатэрміновы дождж, пакідаючы пасля сябе цёплы туман. Каля дзесяці асоб па сваёй ініцыятыве сустрэліся каля ратушы, каб падзяліцца першымі ўражаннямі і падумаць над становішчам, якога ніколі не пера-

жывалі. Мы расказвалі адзін аднаму весткі, з якіх вынікала, што, відавочна, мы тут адзіныя жыхары, што больш нікога няма. Нехта наіўна прапанаваў пазваніць у якое-небудзь іншае мястэчка, каб ведалі, што мы тут жывём. Але, вядома, сувязі не было. Сям-там віселі тэлефонныя апараты з трубкамі, у якіх нічога нават не трашчала. Парваныя драты, можа, і ўдалося б як-небудзь звязаць, але, выйшаўшы з ратушы, мы пераканаліся, што справа гэтая больш складаная, бо слупы былі павыварочваныя, ізалятары пабітыя, ну, і відаць было, што ў дратах, якія беглі праз мястэчка, няма току. Мы адчулі сябе збянтэжанымі, затым пасмяяліся з прапановы і перайшлі да больш сур'ёзнай справы: мясцовасць гэта нам незнаёмая, яна можа таіць у сабе ўсякую небяспеку і прыкрыя неспадзяванасці. У мястэчку могуць быць немцы, марадзёры або ліха ведае яшчэ хто. Пра гэта мы шмат чулі па дарозе. Вырашылі назначыць з свайго асяроддзя двух вартаўнікоў, якія, узброіўшыся металічнымі прутамі, знойдзенымі ў складзе, усю ноч па чарзе не будуць спаць. Гэта аказалася не такой лёгкай справай. Як заўсёды, ніхто не хацеў браць на сябе абавязкаў, патрабуючы перакласці іх на каго-небудзь іншага. Тады слова ўзяў Вацак:

— Хоць ніхто з нас не тужыць па ўладзе, аднак ужо ў самым пачатку відаць, што без яе нам нельга.

— Нельга! — пацвердзілі жанчыны, а мужчыны на ўсякі выпадак маўчалі.

— Тадэвуш...— звярнулася да мяне ўдава Лесюкевіч, вельмі рашучая кабеціна.— Як былы партызан ты павінен стаць камендантам!

— Камендантам, але чаго? — з'едліва спытаўся я.

Жанчына не збянтэжылася і гаварыла далей:

— Ну, гэтай самай... міліцыі ці паліцыі. Бо інакш у нас заўсёды будуць сваркі, а трэба наладжваць жыццё...

— Так, так... Тут не да смеху,— падтрымаў удаву стары Стысла, які паспеў аздобіць сваю галаву нейкім нямецкім шапаклякам, а ў правай руцэ трымаў парасон.

— Але ж я хачу стаць уласнікам рэстарана.

— Каму патрэбны твой рэстаран? Адкуль ты ведаеш, што будзе з чаго гатаваць?

Я згадзіўся стаць камендантам гэтай нібыта міліцыі да таго часу, пакуль установім сувязь з сапраўднай уладай. Агледзеў усю групу, і выбар мой спыніўся на двух падлетках. Па вопыту ведаў, што хлопцам такія абавязкі найбольш па душы, бо яны захапляюцца нават падабенствам арміі. Я ім сказаў:

— Вазьміце гэтыя жалезныя пруты і ноччу хадзіце з імі па мястэчку! Калі заўважыце што-небудзь падазронае, стукайце ў маю кватэру! Зразумелі?

— Зразумелі, пане камендант!

— Ну, а цяпер шагам марш!

— Слухаем! — дружна адрапартавалі маладыя людзі, а адзін з іх, Войтусь, каб выклікаць у нас давер, бліснуў электрычным ліхтарыкам, хочучы даказаць, што ён адчувае сябе добра падрыхтаваным да выканання абавязкаў.

— Значыць, да заўтра! — сказаў я.

Пажадаўшы з асаблівай зычлівасцю адзін аднаму добрай ночы, мы разышліся па кватэрах, дзе нясмела замільгалі агеньчыкі газавых лямп і свечак. Агеньчыкі былі ледзь прыкметны ў глыбокай цемры.

Пасля вячэры, перад сном, я замкнуў уваходныя дзверы, зірнуў у акно і ўбачыў усяго тры агеньчыкі, ад чаго нават мне зрабілася ніякавата.

Ноч мінула спакойна. Раніцай усе мы адчувалі сябе ўпэўненымі, забыліся пра вячэрнюю трывогу і пачалі энергічна займацца ўласнымі справамі.

Я ўстаў рана, калі яшчэ лісце дрэў было мокрае ад расы, бо з'явіліся старанныя вартаўнікі... цьфу, хай іх качкі: міліцыянеры. Абодва да світання не спалі, усё знаёміліся з мястэчкам. Прынеслі крыху новых вестак.

Я наведаў Вацака. Застаў яго ў кабінеце зубнога ўрача. Ён стаяў у белым халаце каля бормашыны, відаць, хацеў уявіць сабе, як трэба прымаць пацыентаў.

— Што, зуб забалеў? — прывітаў ён мяне з надзеяй.

— Не хутка ты гэтага дачакаешся.

— Але паглядзець твае зубы я мог бы...

Вацак умасціўся на табурэтцы, а мне прапанаваў месца ў крэсле. Я сеў. Мы закурылі, і, абмяняўшыся некаторымі думкамі, я прыступіў да справы:

— Нашу невялічкую групу не вельмі турбуе агульнае становішча. Людзі рады, што знайшлі мястэчка, якое дае магчымасць выбару.

— Вечарам іх зноў агорне страх.

— Магчыма... Таму мы павінны больш уважліва агледзець мястэчка. Трэба падумаць аб тым, як арганізаваць у ім жыццё.

— Лёгка сказаць, але з чаго пачаць? У нас няма ніякага вопыту.

— Я прыйшоў да цябе з прапановай.

— Слухаю.

— Працаваць дантыстам ты будзеш, але не ў гэтай грамадзе. Пачакаем, пакуль мястэчка заселяць людзі. Пакуль гэта будзе, трэба заняцца нечым канкрэтным. Не абавязкова вялікімі справамі. Я думаю, што мы павінны зрабіць затор.

— З чаго?

— Міліцыянеры знайшлі скрыню мукі.

Вацак ажывіўся:

— Цудоўна. Зробім такі затор, што ў ім будуць бегаць бурбалкі, як кроў па жылах. І гэта, па-твойму, азначае арганізаваць жыццё ў мястэчку?

— Не крыўляйся, Вацусь! Самагонка спатрэбіцца не толькі нам. У цяперашні час гэта грошы, а мала што можа здарыцца? Таму займіся ты гэтай справай. Зараз сюды прыйдзе Войтусь, а я... Перш за ўсё трэба вывесіць хоць адзін сцяг.

— Зося! — паклікаў Вацак жонку з другога пакоя і, не даўшы ёй нават прывітацца са мной, сказаў: — Як хочаш, але ты павінна пашыць польскі сцяг.

— Мы павесім яго на вежы ратушы, пані Зося.

Зося знікла, а я працягваў:

— І, прынамсі, гэту плошчу, ля якой мы жывём, трэба назваць па-польску.

— Адольф Гітлер пляц... Як мы яе назавём?

З назваў, якія нам прыйшлі ў галаву, мы выбралі гэтую: «Навагрудская плошча», бо амаль усе мы паходзілі з Навагрудка і яго наваколля. Дамовіліся, што абвесцім пра гэта ўсім жыхарам і сцяг вывесім

урачыста, а дванаццатай гадзіне дня. Я выйшаў у мястэчка, знайшоў трох дзяўчат, што ўмелі пісаць, завёў іх у ратушу, там мы выразалі з фанеры некалькі таблічак і фарбай каліграфічна напісалі новую назву плошчы. Сёння ўсё гэта здаецца дзіцячай гульнёй, але тады ніхто не жартаваў. Зрэшты, я лічыў, што ўвагу людзей трэба заняць нечым больш агульным.

Перад тым як вывесіць сцяг у акне вежы над нерухомымі стрэлкамі гадзінніка, я сказаў кароткую прамову. Пачуліся воклічы ў славу Рэчы Паспалітай, і тут жа раздаўся і такі: «Няхай жыве наш бургамістр!»

Я здзівіўся, але таксама падтрымаў гэты вокліч і пачаў азірацца, шукаючы таго бургамістра.

Аказалася, што гэта я. Дарэмна тлумачыў людзям, што мне дастаткова абавязкаў каменданта міліцыі і што я павінен паклапаціцца аб уласных справах, бо ў мяне на ўтрыманні бездапаможныя бацькі. Не памагло. Я стаяў на мураваным ганачку ў акружэнні тых, з чыёй ласкі на мяне звалілася гэтае назначэнне. Найбольш гучна байкатавала мае тлумачэнні Рэгіна. Яна смяялася так, што аж дрыжалі яе круглыя грудзі пад жоўтым світэрам. Рэгіна станавілася на пальчыкі, бо была невысокага росту, і гукала:

— Няхай жыве першы бургамістр!

Я на момант зірнуў у яе вочы, у яе іскрыстыя залацістыя зрэнкі ў чорнай аблямоўцы. І зразумеў Рэню. У яе агітацыі за мяне я адчуў упартасць і жартоўнае жаданне ўпіхнуць мяне ў непрыемнае становішча. Рэгіну я крыху ведаў яшчэ з Навагрудка. Мы ехалі ў адным вагоне, я ахвотна перакідваўся з ёю жартамі, мы лёгка разумелі адно аднаго без слоў, калі ў вагоне ўзнікалі розныя камічныя сітуацыі, якія нас смяшылі, хоць іх гераіням — напрыклад, тым, што сядзелі на гаршках, тады, як вагоны раптам стукаліся буферамі,— было не да смеху.

Але аднойчы ноччу, калі цягнік зноў некалькі гадзін стаяў сярод поля перад нейкай станцыяй, а ўсе спалі, я пачуў, як Рэня цяжка ўздыхнула раз, пасля другі. Я падумаў пра яе і пра сваю самот-

насць, пачакаў, каб месяц схаваўся за хмары і прыпоўз да яе. Яна не пратэставала, калі я лёг побач, праўда, на знешні бок коўдры, якой яна была накрыта. Мы пачалі шаптацца:

— Ты таксама не спіш?

— Не сплю.

— Чаму?

— Розныя думкі варочаюцца ў галаве. Дзе мы спынімся? Што з Янкам? (Яе брат быў мабілізаваны ў Першую Армію). Яшчэ за месяц да нашага ад'езду ад яго не было ніякіх вестак...

— Не бядуй, Рэгіна, заўчасна. Усё ўладкуецца.

— Добра табе гаварыць, ты едзеш са сваімі.

— Але без сястры.

— Янка можа загінуць.

— Чаму цяпер усе павінны гінуць?

Я пачаў яе цалаваць. Яна не абаранялася. Знайшоў пад коўдрай яе грудзі. Адчуў, як дрыжаць мае рукі. Хутчэй пачаў корпацца пад коўдрай усё ніжэй і ніжэй. Тады Рэгіна левую нагу накрыла правай і перастала адказваць на пацалункі. Калі мае рукі сталі яшчэ больш назойлівыя, яна прашаптала:

— Мая толькі для законнага мужа...

— Можа, такі яшчэ не нарадзіўся?

— Не твая турбота. Шпар адсюль!!

З тае ночы Рэгіна гаварыла са мной, але не так свабодна і, замест таго каб жартаваць, толькі і чакала, каб надарылася аказія пакпіць з мяне. Я хацеў аднавіць яе ранейшыя адносіны да мяне, часам знарок прыкідваўся нязграбным і няспрытным, але гэта не аслабляла яе стрыманасці да мае асобы.

Толькі цяпер, калі зусім нечакана я павінен быў стаць часовым бургамістрам, Рэню моцна весяліла гэтае становішча. Я сышоў з ганка, наблізіўся да яе і, прыкідваючыся злосным, прамармытаў:

— Ублытала мяне, Рэгіна! Але яшчэ, можа, калі-небудзь за кару зробішся паняй бургамістравай.

— Таксама мне бургамістр! — пырснула яна, сплятаючы рукі на грудзях.— Бургамістр без... установы. Без чорнага капелюша на галаве.

— Але з міліцыяй.

Апошнія словы амаль тут жа былі пацверджаны. Якраз з'явіліся мае хлопцы ў нейкіх нямецкіх мун-

дзірах, выклікаючы надзвычайную сенсацыю. На рукавах у іх былі бела-чырвоныя павязкі, і адзін, Войтусь, з гонарам паказваў пісталет.

— Хлопцы, дзе вы гэта знайшлі?

— У адной такой кватэры, вунь за касцёлам,— паказаў Войтусь рукой.— Шкада, што быў толькі адзін пісталет, пане камендант... Ці можна стрэліць у паветра?

— Стрэльні, хлопча.

2

Зноў я разам з бацькамі стаў гаспадаром дома. Дом быў, як на наша разуменне і патрэбы, яўна завялікі, нават улічваючы Гэльку, калі б яна калі-небудзь вярнулася. Таму мы адчувалі сябе крыху збянтэжанымі. Затое адразу прызвычаіліся да двух пакояў на другім паверсе. У маім пакоі было дзве канапы, абцягнутыя скурай, і некалькі, таксама абцягнутых скурай, крэслаў, якія захоўвалі ў сабе нейкі прыемны халадок. У першы дзень я некалькі разоў клаўся на хвіліну на канапу, што стаяла ля акна, пасля пераходзіў на канапу ля дзвярэй, а затым па чарзе займаў усе крэслы. Седзячы ў крэсле, я курыў сігары, якія адлівалі бронзай у фанернай скрынцы. Сігары мне не падабаліся, я лепш курыў бы махорку, але ці ж яна не была б абразай для гэтых скураных крэслаў і канап. (Пасля адну канапу і два крэслы я аддаў новым суседзям.) Не смейцеся, я ведаю, што ў гэтых маіх паводзінах было нешта дзіцячае, але была і неабходнасць зразумець, адчуць, што скончылася наша вандраванне, пранікнуцца даверам да ўсяго, што магло нам быць карысным.

Як людзі ўладкоўваліся і як яны жылі ў тыя першыя дні? Пра гэта, далібог, можна было б шмат расказваць — і з'едліва, і абурэннем.

Былі сем'і, якія па два або тры разы ў дзень мянялі кватэры, шукаючы найбольш прыдатных. Былі мужчыны, якія нібы ашалелыя валаклі да сябе ўсё, што ім трапляла пад руку. Кажуць, што пляменнік пані Лесюкевіч, лысы трыццацігадовы мужчына, шнырапючы ў шафах адной кватэры, знайшоў некалькі слоікаў з жоўтай апетытнай масай. Думаючы, што

гэта, можа, мёд, ён тут жа пакаштаваў гэтую масу і поўнасцю заклеіў сабе рот. Перапалоханы пляменнік прыбег да пані Лесюкевіч. Яна распаліла ў кухеннай пліце агонь, Фелюсь схіліў над ім залеплены рот, стараючыся, каб з яго выцякала разагрэтая маса.

Два ці тры разы я павінен быў афіцыйна выступаць у якасці арбітра, бо ў гэтым пустым мястэчку адзін і той самы дом часам намагаліся заняць адразу некалькі сем'яў.

Былі і такія, якіх агортвала апатыя, абыякавасць. Яны лічылі ўсё гэта часовым, не вартым турботаў, бурчалі і нылі, ні за што не хацелі брацца. Праўда, гэта, відаць, было пазней, калі да нас зноў пачалі даходзіць газеты і плёткі. У першыя дні панавала хутчэй за ўсё ашаламленне, якое выяўлялася ў розных формах...

Маючы вольную гадзіну, я пайшоў да Рэгіны. Хацеў убачыць, як яна ўладкавалася. Спадзяваўся таксама, што мне ўдасца з ёю крыху пагаманіць.

Сям'я Рэгіны была вясковая. Яны прывезлі з сабой каня, каштанавую клячу пасля трох ці чатырох жарабят. Занялі — не без страху за бяспеку — на ўскраіне мястэчка, амаль у полі, домік. Ён быў з сядзібай, да якой прылягаў агарод.

Божа мілы, што я тут убачыў!

Рэня ў сваім жоўтым світэры, пра які я ўжо ўспамінаў, ішла за акучнікам і пакрыквала на каштанавую клячу. Яна акучвала бульбу — ні менш ні больш. Хочаш не хочаш, я зняў шапку і крыкнуў:

— Памагай, божа!

— Дзякую...

Я заняў зручную пазіцыю, абапёрся на плот з некалькіх жэрдак і, каб закрануць яе за жывое, сказаў:

— А бацька што — не можа гэтага зрабіць?

— Не можа, ён дрэнна сябе адчувае.

— Дык надзела б хоць штаны, Рэгіна, каб не палохаць каня.

— Конь да мяне прывык,— крыкнула яна здалёк, паганяючы яго па баразне між зялёных кустоў бульбы.

— І куды ты спяшаешся? Лепш падышла б да мяне бліжэй.

— Бульба прыдасца. Трэба думаць пра зіму.— І ўжо з больш далёкай адлегласці працягвала: — Поле марнуецца, пане бургамістр!

Мне захацелася згоды, даверлівага прымірэння і я ступіў між баразнаў.

— Хочаш, Рэня, дык я дапамагу.

— Ты? Ты ж інтэлігент, што ты ў гэтым разумееш?

— А што ты пра мяне ведаеш?

— Трохі ведаю, але нічога добрага.

— Рэня, можа, вечарам пойдзем у кіно? Га?

— Як будзе кіно, то пойдзем. Але ці ў гэтым мястэчку будзе кіно?

— Прыйдзе час і на кіно. Пойдзеш тады са мной?

Рэня спыніла клячу, адну руку пакінула на поручнях акучніка, другой адкінула валасы з потнага лба.

— Калі будзеш прыстойны, то пайду.

— Ну, дык памятай, Рэгіна. А я пайду. Мне таксама трэба вырашыць некалькі спраў.

Рэня зноў пакрочыла за акучнікам. На яго вузенькіх лемяхах ззяла сонца, калі Рэня пераганяла клячу ў наступную баразну.

Разважаючы над тым, якія справы ў нашым становішчы могуць належаць да найбольш важных, я падумаў сабе, што было б нядрэнна разам з Вацакам агледзець склады і падсобныя памяшканні магазінаў, каб пераканацца, што ў іх яшчэ засталося ўзяць на ўлік і прызнаць грамадскай уласнасцю. Нават не вельмі верачы ў эфектыўнасць такога ўліку, усё роўна гэта трэба было зрабіць.

Таму я накіраваўся да Вацака. Дома была толькі яго жонка, пані Зося.

— А дзе Вацак?

— Ах, божа мой, ён з самага ранку сядзіць у «бровары». І трэба ж было, каб вы даручылі іменна яму гнаць самагонку,— з абурэннем сказала Зося. Абурэнне было не вельмі натуральным, аб чым га-

варылі яе зялёныя вочы. Зося тут жа закурыла папяросу.

— А што такое?

— Вацак з раніцы п'е...

«Бровар» знаходзіўся недалёка. Гэта была нейкая павець — можа, гараж, а мо якая рамесніцкая майстэрня, хто ведае,— якую мы прызначылі для нашай нескладанай саматужнай вытворчасці.

— То я пайду ў «бровар», не буду ў вас дарэмна займаць час.

— Не, пасядзіце крыху, вы абодва з Вацакам лётаеце па мястэчку, а мне няма да каго слова прамовіць.

— У вас жа ёсць суседзі...— нясмела буркнуў я, пазіраючы на прыгожую Зосю, рыжую жанчыну з ружовым тварам і постаццю, якая ўласціва пульхным бландзінкам. Гэтую постаць падкрэсліваў каляровы, не вельмі старанна падпяразаны халат.

— Якія гэта суседзі і пра што з імі гаварыць? Пра курэй? — Зося выпусціла з вуснаў воблака дыму і ўслед дзьмухнула, каб разагнаць яго.— Калі не пад'едуць больш цікавыя людзі, я сканаю ад нуды... Ніякага таварыскага жыцця.

Яна пакорна ўсміхнулася, як быццам у гэтым я быў вінаваты. А шчыра кажучы, была вінавата сама Зося, і я вельмі спачуваў Вацаку. Вацак Даманскі перад вайной пачаў працаваць у Баранавічах, і, здаецца, яму нядрэнна жылося. Сам ён быў мужчына непрыкметны, па нейкай прычыне яго нават не ўзялі ў армію. Вацак не падыходзіў да прыгожай жонкі. У дарозе людзі гаварылі, што яна выйшла за яго, каб забяспечыць сабе добрую кампанію і дастатак.

Вацак, атрымаўшы працу, даволі часта падазраваў, што Зося заляцаецца да розных мужчын. Спачатку яны ехалі ў Польшчу іншым саставам, і там Зосі яўна спадабаўся адзін адвакат, які быў, праўда, жанаты. Яна яму таксама прыйшлася да густу. Адвакат угаворваў іх, каб яны ехалі ў Познань. Мы ведалі, што Познань была моцна разбурана, аднак ніхто не сумняваўся, што такі вялікі горад хутка адновіць сваё былое значэнне і там не цяжка будзе знайсці добрае месца для зубнога ўрача. Зося была за тое, каб ехаць у Познань, але Вацак унюхаў небя-

спеку і перайшоў у нашы вагоны. Яму было куды важней быць як мага далей ад гэтага адваката, чым у добрай мясцовасці. Наша мясцовасць была, уласна кажучы, нядрэннай. Вайна яе мала закранула, і гэта ўсяляла надзею, але ці для зубнога ўрача?

І ўсё ж, калі тут жыў раней зубны ўрач, дык можна было спадзявацца, што ўсё неяк уладкуецца. Вацак некалі мне сказаў:

— Сярод гэтай кампаніі я не бачу нікога, кім Зося магла б зацікавіцца. За гэты час я добра ўладкуюся.

І дапытліва зірнуў мне ў вочы:

— Што датычыць цябе, дык ты, я думаю, не будзеш лайдаком у адносінах да мяне?

Гэтыя словы вельмі ўсцешылі мяне па дзвюх прычынах: па-першае, я, значыць, чалавек прывабны і, па-другое, здольны быць лаяльным у адносінах да таварыша. Але справа не ў гэтым.

Я пасядзеў для прыстойнасці мінут пятнаццаць і накіраваўся ў бок «бровара».

Так яно і было. Вацак нічога не рабіў, сядзеў на тапчане, курыў папяросу, пагойдваючы нагамі. Я накінуўся на яго:

— Тут нельга курыць.

— Ты што, можа, і камендант пажарнай аховы?

— Не, але тут жа спірт...

— Хэ, ты дрэнна ведаеш справу. Гэта такі спірт, што ад запалкі не гарыць.

— Няўжо?

— Пераканайся.

Вацак устаў, схапіў пляшку з цёмнага шкла і нахіліў яе над дзвюма шклянкамі, напаўняючы іх напалавіну. Я глытнуў сваю палавіну і мяне ажно скурчыла. Шырока разявіў рот, каб хутчэй схапіць паветра.

— Змахляваў, мярзотнік!

Вацак, задаволены эфектам, засмяяўся, а пасля растлумачыў:

— Цябе лёгка ашукаць. Наш спірт толькі пачынае яшчэ брадзіць. А гэты — з маіх уласных запасаў. Мой уласны, даражэнькі. Зосю бачыў?

— Бачыў.

— Яна мне сёння столькі нагаварыла. Не можа даравацъ Познані.

— Ага... Слухай, Вацак, можа, ты пойдзеш са мной у мястэчка больш дакладна агледзець, што там ёсць?

— Мы ўчора аглядалі, ты забыў?

Вацак сапраўды быў пад мухай, бо некаторыя словы, нягледзячы на іх сэнс, ён вымаўляў з характэрным нацiскам.

— Гэта праўда, аглядалі, але не ўсё ўбачылі. І справа яшчэ ў тым, што дзве асобы ў нашых умовах — гэта ўжо камісія, а я хацеў бы зрабіць улік.

— Улік? Ты думаеш, што калі будзе ўлік, дык не парасцягваюць таго, што ёсць?

— Думаю, што не. Тут мала мужчын, а жанчыны заўсёды больш паважаюць законы. Да таго ж у нас ёсць міліцыя.

— Я не пайду, бо... не хачу...

Вацак, відаць, быў добра падпіты.

— Не магу пакінуць Зосю адну... не магу...

— На свежым паветры табе будзе лепш, пойдзем.

Я пераконваў яго. Вацак устаў. Хацеў яшчэ раз наліць шкляначкі, але я стрымаў яго. Ён схаваў бутэльку ў кут за нейкія трубы, і мы выйшлі.

3

У найбольшай зале магістрата вокны былі насцеж адкрыты, каб выветрыўся дух пасля гітлераўскага кіравання. Мы гулялі з Вацакам у шашкі, калі з'явіўся Вінцэнт Стысла — у мінулым шматгадовы касір гміннай касы Стэфчыка. Ён не зняў шапку, толькі трафейны парасон абапёр аб край стала, пакрытага зялёным сукном. Яго вочкі на зморшчаным твары злосна блішчалі з-за шкельцаў у металічнай апраўе. Ён варушыў коратка падстрыжанымі вусікамі, быў абураны:

— Я вас раскусіў. Вы санацыйная кліка!

Абвінавачанне было настолькі бязглуздым і нечаканым, што я, спакойна стаўляючы на шашачнай дошцы яшчэ адну дамку, спытаўся:

— У якім сэнсе, пан Стысла?

— Разам з Вацлавам вы гоніце самагонку.

— Ну і што з таго? Усе мы ў розныя часы займаліся і займаемся гэтым,— адказаў я, як мне здаецца, вельмі талкова.

— Вацак — гэта прыватная асоба, яму можна, а вам, чалавеку, які пачынае быць бургамістрам і камендантам міліцыі? Добры прыклад, няма што сказаць.

— А ці ж я гарэў жаданнем стаць бургамістрам?

— Калі мы вам даверылі...

— Вы даверылі для сваёй выгады, дык, значыць, мне ўжо нічога нельга?

— Можна, але каб не было злоўжывання. Вы, аднак, карыстаецеся, здаецца, мукой і бульбай, якія самі апячаталі.

— А ці вы бачылі калі-небудзь уладу, якая не злоўжывае?

Стысла задумаўся:

— Не, не бачыў. Аднак я маю магчымасць перад смерцю ўбачыць такую ўладу. Гэта ж павінна быць адроджаная Польшча. Усюды так гавораць...

Вацак быў вялы, ён не ўмешваўся, а я адбіваў удары:

— Дык што я павінен зрабіць? Выліць з цэбраў затор?

Стысла шчыра ўсхваляваўся, замахаў у паветры кароткімі рукамі:

— Барані бог. Шкада...

— Усё аддаць Вацаку?

— Ён разап'ецца. І так выглядае, будзь здароў...

— Дык што ж, уласна кажучы, зашастала ў вашай галаве, пан Стысла? — спытаўся я проста, бо паспеў ужо адчуць, што яго візіт не быў бескарыслівы.

Аказалася, што Вінцэнт Стысла сапраўды прыйшоў з загадзя абдуманым планам. А можа, яго хто падбухторыў, бо, вядома, дзе ёсць людзі, там павінны быць і інтрыгі. Ён ведае, ён добра разумее, што з дапамогай самагонкі можна будзе адчэпвацца ад розных нахабнікаў, бо цяжка прадбачыць, якія яшчэ могуць узнікнуць акалічнасці. У сувязі з гэтым неабходна скласці пратакол, выявіць, колькі ёсць

затору, а затым змераць колькасць гатовай прадукцыі і распараджацца ёю легальна, запісваючы прыход і расход. Хто ведае, можа, легальна зарэгістраваная вытворчасць самагонкі, гаварыў далей Стысла, з'явіцца пачаткам прамысловасці ў нашым мястэчку...

Я не вельмі добра ўяўляў сабе такі іменна пачатак прамысловасці, але, каб адчапіцца, сказаў:

— Добра, тады будзьце кіраўніком, не, дырэктарам гэтага... ну вінакурні.

Стысла выскаліў пажоўклыя ад нікаціну зубы, зняў шапку, адкрываючы сівую шчаціну старанна дагледжанай чупрыны.

— Прашу вас, пан бургамістр, напісаць, што я прызначаны на гэту пасаду.

Я зірнуў на яго больш уважліва, думаючы, што ён жартуе. Аднак усё гаварыла аб тым, што не, не жартуе. Тады я накрэмзаў алоўкам на нейкім выпадковым шматку паперы ўрачыстае назначэнне і, падаючы яе Стыслу, зусім сур'ёзна спытаўся:

— А калі часам захачу напіцца і я, дык што тады будзем рабіць?

Стысла яшчэ шырэй усміхнуўся:

— Будзе ўстаноўлен працэнт на ўсушку і ўтруску, тады для ўлады заўсёды знойдзецца пляшкадругая.

...Скончылася наша бестурботная нявіннасць.

Зараз я ўпэўнены, што і сплючы здолеў бы накідаць план мястэчка, а невялікім намаганнем паказаць, дзе знаходзяцца важнейшыя яго будынкі. Больш таго, я ўяўляю сабе жыццё людзей у большасці дамоў і, прынамсі, некаторыя складанасці гэтага жыцця. Вядома, мінулае лёгка прыводзіць у парадак. А тады ў нас было такое пачуццё, быццам мы знаходзімся на тэрыторыі, якая нібы абазначана, але толькі да пэўнай ступені, на тэрыторыі, якая ў сваіх закавулках, створаных рукамі людзей, можа хаваць непрыемныя для нас неспадзяванкі ў выглядзе атручаных прадуктаў, мін, снарадаў, што не ўзарваліся. Мы добра не ведалі, як адбывалася эвакуацыя мястэчка, пры якіх акалічнасцях была разбурана

станцыя і некалькі дамоў каля плошчы, не ведалі, як уцякалі адсюль жыхары, якія чалавечыя драмы тут адбываліся.

Мы звярнулі ўвагу на тое, што ў мястэчку сямтам знікла абсталяванне і некаторыя машыны. Пасля іх асталіся цёмныя месцы на цэментных фундаментах. Вечарамі бывалі хвіліны, што здавалася, быццам мы знаходзімся ў каменным лесе, праз які нехта крадзецца, падслухоўвае, нечага чакае. Аднойчы я прачнуўся ноччу з такім пачуццём, што на мяне нехта глядзіць праз адчыненае акно. Я зашпіліў кальсоны, уздоўж сцяны падышоў да акна, асцярожна высунуў галаву за фрамугу. Было цёпла, пахла мацыёламі. Іх духмянасць змешвалася з нейкім агідным смуродам. Відаць, нешта побач гніло. Не чуваць было ніякага падазронага шастання. Нягледзячы на гэта, я зачыніў акно і выкурыў запар дзве папяросы, пакуль заснуў, з цяжкасцю пераадольваючы ў сабе жаданне спаць апранутым. Магчыма, гэта давала аб сабе знаць партызанскае жыццё, якое хочаш не хочаш павінна было астацца ў маіх нервах: узяць хоць бы начныя вокны леснічовак і папераджальныя стукі ў іх маленькія шыбінкі...

Аднойчы я выпадкова даведаўся, што нават у Стыслы бываюць гулянкі. Самае дзіўнае было, што на выпіўках — удзельнчалі ў іх толькі жанчыны і гаспадар,— спявалі выключна рэлігійныя песні. Такога я ніколі ў жыцці не чуў, таму пайшоў паглядзець гэтую сцэну.

Пастукаў, але ўдзельнікі хору нічога не чулі. Тады я ўвайшоў, можна сказаць, без стуку. У абшырным пакоі было цемнавата. На велізарнай шафе гарэла свечка і пырскала лоем. Яна ледзь-ледзь асвятляла куток ля дзвярэй і выхоплівала з цемры стол, вакол якога сядзелі жанчыны. Некаторыя з іх трымалі на каленях дзяцей.

Вінцэнта, які быў самотным гаспадаром кватэры, я ўбачыў у супрацьлеглым куце, на ложку. На тым жа ложку ляжала маладая дзяўчына нагамі ва ўзгалоўе. Лыткі яе ляжалі на падушцы, а галава звісала над тазам.

Стысла, замест таго каб сядзець у нагах ложка і трымаць дзяўчыну за рукі, быў чамусьці каля па-

душкі. Левую руку ён засунуў даволі далёка пад выдатныя грудзі дзяўчыны, а правую,— я ў гэтым быў амаль упэўнены, выхапіў з-пад сукенкі над дрыжачымі ягадзіцамі. Гэта мяне крыху ашаламіла, бо я ніколі не чакаў, што ён здольны на нешта падобнае.

— Забаўляецеся?

— Як хто лічыць...— адказаў Стысла, стараючыся надаць голасу абыякавы тон.— Нас пакінулі, вось мы і шукаем ратунку. Некаторыя ў мястэчку лепш забаўляюцца, чым мы...— дадаў ён шматзначна. Нейкі момант ён глядзеў у мой бок, а пасля з уяўнай клапатлівасцю нахіліў галаву да дзяўчыны.— Разалька, можа, табе ўжо лягчэй?

— Ой, усе бэбахі выварочвае...

— Нельга даваць маладым самагон. Гэта свінства з вашага боку, Стысла! — сказаў я, але мая заўвага на прысутных не зрабіла ніякага ўражання. Мне нават не прапанавалі сесці. Я пацісну плячыма і выйшаў.

Было парна. Па цёмным небе час ад часу бегалі хвастатыя лісіцы маланак. Не спяшаючыся, я вярнуўся дадому. Раптам перад маім тварам нехта падняў на вышыню вачэй аплецены дротам ліхтар з рыжым язычком усярэдзіне.

— Добры вечар, Тадэвуш.

Па голасе — ураўнаважаным басе — я пазнаў Шаргуню. Мы спыніліся.

— Што, і вам не спіцца, Павел?

— Не спіцца...

Я ведаў, што Шаргуня прыехаў з каровай, канём, вупражжу. Ён не быў кампанейскім, адразу прывязаўся да аблюбаванай сядзібы, заняўся агародніцтвам...

— Вам, здаецца, няма падставы скардзіцца на тое, што не хапае работы? Якая тут зямля?

— Зямля добрая. Бурачная. Нават залішне добрая, як для нас. У свінарніку цагляная падлога. Усюды сцёкі і ёмкасці для гноевай жыжкі.

— Гэта не шкодзіць. Навучымся карыстацца рознымі зручнасцямі... Адкуль вы вяртаецеся?

— З касцельнай званіцы.

— Вы былі поначы на званіцы?

— Сёння я быў там другі раз. Першы раз днём, бо вельмі цікава, як выглядае наша аколіца.

— Ну і што?

— Днём далёка відаць былі нейкія вёскі і лес, а зараз навокал цёмна-цёмна. Нідзе нават маленькага святла. Чалавеку становіцца нядобра.

— Гэта будзе нядоўга.

— Каб жа, пан Тадэвуш.

— А ў нашым мястэчку дзе-небудзь свеціцца?

— Доўга трэба напружваць вочы, каб заўважыць які агеньчык.

— Добрай ночы, Павел, днём мы будзем больш вясёлыя.

— Добрай ночы.

Мы разышліся кожны ў свой бок. Па небе ўсё бегалі хвастатыя лісіцы маланак, але не грымела, і не было дажджу.

Калі ж гэта мы, уласна кажучы, прыехалі? Я проста не магу назваць таго дня. Ужо ў цягніку мы перасталі адчуваць, як пераходзіць адзін дзень у другі. Аўторак гэта быў ці серада, а можа, якога ліха, і чацвер. Не, усё ж, бадай, аўторак. Дні поўныя мітусні і беспарадку, дні без радыё, не вымераныя рэгулярнымі гадзінамі абавязкаў, дні, з якімі мы не развітваліся адрываннем лісткоў календара,— былі нейкай незразумелай магмай, якую пранізвалі розныя колеры святла і якая застывала ноччу.

Як бы там ні было, а прыйшла нядзеля. Людзі па звычцы агледзелі сябе, мужчыны старанна пагаліліся, жанчыны ўбраліся ў лепшыя сукенкі, вясковыя дзяўчаты ўпрыгожылі свае валасы нейкімі кветкамі.

Перад касцёлам сабраліся амаль усе. Стаялі невялікімі групкамі, абмяркоўвалі бягучыя падзеі, хоць, шчыра кажучы, у нашым становішчы цяжка было назваць пэўныя падзеі.

Перш за ўсё мы ведалі, што сёння нядзеля, а набажэнства няма, і няма, уласна кажучы, касцёла, бо ўсе пагадзіліся, што касцёл, ля якога мы стаялі, быў, відаць, пратэстанцкі, хоць ніхто з прысутных не здолеў бы сказаць, чым ён адрозніваецца ад ката-

ліцкага. Ну, Стысла, што стаяў каля свае Разалькі, той, бадай, ведаў больш за ўсіх. Ён з пагардай успамінаў, што ў пратэстантаў не ксяндзы, а пастары, якія, у дадатак да ўсяго, жэняцца, як усе мужчыны. Людзі гаварылі крыху пра строгую беднасць унутранага выгляду кірхі... Я не ўмешваўся ў гэтыя меркаванні, бо яшчэ перад вайной, працуючы ў школе ў далёкай вёсцы, рэдка калі ездзіў на веласіпедзе на набажэнства ў касцёл. Мне быў уласцівы, як гэта называлася ў кніжках, рэлігійны індыферэнтызм.

Пасля некаторых спрэчак дамовіліся, што трэба ўсё ж увайсці ў касцёл, сесці на лаўкі, а Стысла ўголас прачытае сёе-тое з малітоўніка, які ён прынёс з сабой. Стысла ахвотна згадзіўся, відаць было, што яму падабаецца роля ксяндза. Разалька з пашанай утаропіла ў яго свае вялікія блакітныя вочы.

Мы расселіся на лавах. Перад гэтым пры ўваходзе кленчылі і хрысціліся, хоць раней не раз заглядвалі ў гэты касцёл як у свецкі будынак. Вацак быў з Зосяй, відаць было, што ён паспеў пакаштаваць нашай прадукцыі. Стысла ўрачыста стаў перад лавамі, прачытаў некалькі малітваў, на яго думку, найбольш адпаведных выпадку, не прапусціўшы і адну асаблівую «малітву за таго, хто падае з даху». Можа, ён лічыў, што яна датычыць нас, рэпатрыянтаў? Пасля кожнай малітвы мы хорам адказвалі «Аман!», і гэта, я павінен прызнаць, гучала сур'ёзна.

Стысла закончыў нарэшце чытанне і таксама заняў месца на лаве, але воддаль ад Разалькі. Аднак прысутныя працягвалі набожна маўчаць і як бы нечага чакалі. У гэтую маўклівасць уварваўся голас удавы войта Лесюкевіча. Голас яе хоць быў і ціхі, але даходзіў да самых дальніх куткоў. Удава была даволі мажная, у пікавай блузцы, твар яе быў нібы нарумянены, прычоска на рускі лад з праборам пасярэдзіне чорных, як вугаль, валасоў (я прыгледзеўся да яе, і зусім не касцельная думка мільганула ў маёй галаве). Яна лічыла, што павінна быць пропаведзь, бо што гэта за святы дзень, калі няма пропаведзі. І яна лічыць, што калі ў нас ёсць бургамістр, дык трэба, каб ён клапаціўся і аб веруючых. Прасцей кажучы, мой абавязак — выступаць з пропаведзямі.

Думка Лідзіі Лесюкевіч многіх здзівіла, але больш за ўсіх яна здзівіла мяне. Я адчуў, што ў мяне спацелі рукі. Каб не касцёл, аблаяў бы гэтую жанчыну апошнімі словамі.

Праз нейкі момант, быццам на афіцыйным сходзе, пачуліся галасы: «Просім, просім...» І вось па прыкладу Стыслы я таксама стаў перад лавамі, набраў у грудзі паветра і... нічога. Калі я набраў у грудзі паветра другі раз, дык успомніў, што наш ксёндз пачынаў пропаведзь са слоў: «Дарагія хрысціяне!..» Я сказаў гэтыя словы, пасля пачаў гаварыць пра Марыю Канапніцкую, прачытаў на памяць усю «Роту», затым завёў гаворку пра тое, што мы крыху падобны да «пана Бальцара ў Бразіліі». Але не трэба ўпадаць у роспач, бо мы апынуліся на новай зямлі як яе законныя гаспадары. Я заклікаў людзей, каб заўтра прыбраць, прывесці ў парадак, прынамсі, нашу Навагрудскую плошчу. Пасля яшчэ гаварыў аб тым, што патрэбна згода і любоў.

Цягнулася гэта даволі доўга. Вацак глядзеў на мяне іранічна. Касцельная нядзеля скончылася тым, што жанчыны праспявалі песню «Сардэчная багародзіца, апякунка людзей».

Відаць, усё атрымалася добра, веруючыя выходзілі з касцёла задаволеныя, я — таксама. Мяне хвалілі, і найбольш за ўсіх Лідзія Лесюкевіч. (Толькі праз некалькі гадоў у мяне былі непрыемнасці з прычыны гэтай «пропаведзі» і яшчэ адной. Я быў тады членам партыі, і нейкі таварыш, відаць, падбухтораны Лідзіяй Лесюкевіч, абвінаваціў мяне ў тым, што я актыўна спачуваю клерыкалам і падтрымліваю залежнасць ад Ватыкана. Пярвічная партыйная арганізацыя правяла на гэтую тэму тры бурныя і доўгія сходы. Але не будзем перапыняць успаміны.)

Іменна Лідзія прычапілася да мяне, каб я пайшоў да яе на абед. У гэтым не было, вядома, нічога асаблівага, бо многія з нас запрашалі адзін аднаго на абеды. Я хацеў праводзіць Рэгіну — яна вельмі ўважліва глядзела на мяне, але Лідзія была настойлівая, і я не мог адмовіцца. Таму падышоў да Рэгіны і спытаўся:

— Ці можна прыйсці да цябе вечарам?

— Не, я пайду да Савіцкіх.

Магчыма, яна вырашыла зрабіць гэта толькі пасля майго пытання.

Было амаль спякотна, часамі здавалася, што чалавек з прыемнасцю, нягледзячы на тое, што на двары май, скокнуў бы з якога-небудзь берага ў якуюнебудзь рэчку. На дрэвах шчабяталі вераб'і, а праз сцежкі шмыгалі пацукі, якія сталі пасля бедствам да такой ступені, што мы вымушаны былі далёка ездзіць па катоў, бо іх прывезлі з сабой толькі дзве сям'і.

У Лідзіі абед быў амаль гатовы, сёе-тое трэба было толькі падагрэць. Яна на кароткія моманты пакідала мяне аднаго, але і тады не сціхала наша размова, бо дзверы на кухню былі адчынены.

Я чакаў абеду. Разам са мной за сталом сядзелі двое дзяцей — сямігадовая дзяўчынка і васьмігадовы хлопчык.

Пасля супу была яечня з каўбасой, якую мы запівалі гарэлкай. Лідзія знайшла недзе бутэльку даваеннай польскай манапolькі з зялёнай этыкеткай. (Удовы любяць захоўваць усё такое незвычайнае, каб іх хвалілі за прадбачлівасць і гаспадарчасць.)

Пасля абеду — была яшчэ бульбяная бабка са скваркамі — Лідзія звярнулася да дзяцей.

— Ідзіце цяпер пагуляйце.

— Куды, мама?

— Ці мала тут дзяцей. Ну, ідзіце да Явароўскіх.

Дзеці ахвотна згадзіліся, і праз момант іх не было ўжо ў памяшканні, а дакладней кажучы, у гэтым вялікім доме. Размова спынілася. Мы выпілі яшчэ па чарцы, закурылі папяросы. Лідзія наогул не курыла, але цяпер зацягнулася дымам.

— Для фантазіі часам люблю падыміць. Скажы, Тадэвуш, як ты сябе тут адчуваеш?

— У цябе?

— Не, наогул, у мястэчку.

— Як калі.

— А я, шчыра кажучы, адчуваю сябе добра. Веру, што ў мяне ўсё яшчэ неяк уладкуецца. Давай паглядзім мой дом.

Мы пачалі аглядаць пакоі. Сапраўды, усё тут прыведзена ў парадак, на камодзе стаялі нават кветкі ў крышталёвых вазах. Стваралася ўражанне, што

Лесюкевіч жыве тут ужо даўно. Наступны пасля сталовай і салона пакой быў дзіцячай спальняй, а за ім — спальня Лідзіі. Там стаялі шырокія, як плыты, з арэхавага дрэва ложкі з мноствам падушак.

— Пусты ложак выклікае, відаць, непрыемныя пачуцці, Ліда?

— Чалавек да ўсяго прызвычайваецца. Жыццё да ўсяго прывучыць.

— І ўсё ж?

Лідзія паглядзела на мяне з такой зацікаўленасцю, быццам нешта ўспамінала.

— Можа, ты і маеш рацыю. Ужо даўно каля мяне ніхто не ляжаў.

І яна лягла на ложак. Калені ў шаўковых панчохах і беражок ружовай камбінацыі выглянулі з-пад цеснай спадніцы. Ненатуральна зарагатала:

— Ляж, Тадэвуш, на гэтым другім ложку, бо я на самай справе забылася, як выглядаюць ложкі з мужчынай і жанчынай.

Нягледзячы на тое што ў галаве маёй шумела, я зняў чаравікі, каб не запэцкаць пасцель. Лёг і пачаў усё больш упэўнена думаць пра тое, што нам трэба.

Лідзія ўсё рагатала. Яна была задаволена сваёй задумай, не дазваляла, каб я перакаціўся на яе ложак, быццам нам больш нічога не трэба было. Падымала крыху галаву, параўноўвала вачыма нашы целы, паўтараючы:

— Якая я кароткая каля цябе. Кароткая і немаладая.

Мне здавалася, што мы абое раптам можам усё перадумаць. Тады я з шалам, які раптам закіпеў у маіх жылах, пачаў ірваць засцежкі там, дзе выкруглялася яе цёплае сцягно, вылузаў яе з чорнай спадніцы, а потым і з трусоў... Рогат сціх. Яна паспела толькі гучна крыкнуць, што я пакамячу яе блузку...

Вечарам, хоць і пачаўся дождж і трэба было нават зачыняць вокны, бо зрабілася холадна, я адчуваў, што пануе духата. Наведаў Вацака і Зосю, яны зноў памірыліся. Мы шчыра пагаманілі. Толькі цяпер, дома, з прыемнасцю ўспамінаючы сваю прыгоду

з Лідзіяй Лесюкевіч, усё тое, што адбылося паміж намі, я ўспомніў Рэгіну і спалохаўся. Гарэлка зусім выветрылася з маёй галавы. З'явілася адчуванне, што я нешта страціў, што я мярзотнік. Мяне агарнула скруха. Я пачаў думаць, ці не наліць сабе шклянячку і ці не пайсці зноў да Лідзіі. Абяцаў жа.

Вырашыў аднак не піць, не паддавацца скрусе. Накінуў паліто і, пераадольваючы цемру, якую прашываў дробны дождждык, накіраваўся да Савіцкіх. Але ў Савіцкіх Рэгіны не было. Перш чым развітацца з кампаніяй дзяўчат і з другім нашым міліцыянерам — шыракаплечым Стасем Савіцкім, я паслухаў патэфонныя пласцінкі. Польская даваенная песня пра скрыпача ў кафэ ў такім мястэчку, пры святле газоўкі, сярод дзяўчат, што прыехалі сюды з зусім іншага краю,— прагучала неяк нечакана, можна сказаць, сама сабе, і нікому іншаму. Але так здалося ў першую хвіліну. Пасля гэтую песню ахвотна слухалі, хоць яна ніяк не вязалася з нашым жыццём і настроем.

Я, можа, паслухаў бы яшчэ некалькі песень, але хутка сцяміў, што мая прысутнасць бянтэжыць маладых людзей. Пажадаўшы ім прыемнай гульні, я зноў апынуўся на вуліцы. Аднак не адважыўся пайсці да Рэгіны, бо мог застаць яе ў якім-небудзь пакоі хутчэй за ўсё адну, а мне здавалася, што іменна сёння я не здолеў бы гаварыць з ёю сам-насам. Іншая справа, калі б Рэгіна была ў доме Савіцкіх, у вялікай кампаніі.

## 4

Назаўтра дзень быў туманны. Ён ляніва ўбіраў у сябе рэшткі начнога дажджу. На Навагрудскай плошчы сабралася каля пятнаццаці чалавек. Прынеслі рыдлёўкі, нехта прыгнаў тачку, а бацька Рэгіны прыехаў на сваім возе. Мы выявілі пусты шматок зямлі за ратушай і вырашылі вывезці туды бітую цэглу і цэментныя камлыгі, хлам з будынкаў і смецце, якога было нямала ў розных кутках плошчы. Дзякуючы вільгаці пыл не рэзаў вачэй. Было нават невядома, адкуль узяліся гэтыя кучы смецця. Тут жа некаторы час ніхто не жыў. Дзіўная справа: у ле-

се, ля рэчкі ці на полі без людзей пануе нейкі прыгожы, свой парадак у прыродзе. У мястэчку, пазбаўленым штодзённых людскіх клопатаў, чамусьці раптам узнікае хаос і беспарадак.

Мы працавалі вельмі старанна, і праз тры гадзіны можна было сказаць, што Навагрудская плошча цалкам заслугоўвае сваёй скромнай і, як пазней высветлілася, часовай назвы, бо праз год яна была ўрачыста перайменавана ў плошчу Перамогі, хаця многія з нас шкадавалі першай назвы. Калі б яшчэ тады я быў бургамістрам, можа б, гэтага і не здарылася. Але гэта не бяда.

Выбраўшы адпаведны момант, я падышоў да Рэгіны, якая даволі ўвішна набірала на рыдлёўку смецце і кідала яго на воз. Яна загаварыла першая.

— Ну як, смачны быў абед у Лідзіі, пан бургамістр?

— Нішто сабе,— дыпламатычна сказаў я.— А ты ашукала мяне: пайшла сабе з кімсьці на рамансы і ў Савіцкіх не была.

Рэгіна перапыніла работу і сказала ўжо больш лагодна:

— Ты быў у Савіцкіх?

— Зразумела. Хацеў сустрэцца з табой.

— Быццам невядома, дзе я жыву...

— Чаму ж ты сказала, што пойдзеш да Савіцкіх?

Рэгіна пачала шоргаць рыдлёўкай і вярнулася да ранейшага тону:

— Няўжо ўдавіца не прыняла пана бургамістра ў ложку?

— Рэня, хопіць прыкідвацца, мы павінны пагаварыць сур'ёзна.

— Ты ж бачыш, што я занята справай.

— Ну дык тады, як скончыш гэту справу. Добра?

— Не перашкаджай працаваць...

— Я хацеў бы, каб мы пасля работы разам агледзелі школьны будынак. Увосень гэта, можа, прыдасца.

Рэгіна нічога не адказала. Толькі яшчэ больш старанна зашоргала рыдлёўкай.

Калі работа на плошчы крыху запаволілася, а сонечныя праменні, прабіваючыся праз разрывы

хмар, напомнілі аб тым, што ўжо надышоў поўдзень, я кіўком галавы паклікаў няўрымслівага Войтуся. Ён тут жа апынуўся каля мяне і нават хацеў афіцыйна далажыць, але я папярэдзіў гэты яго намер, бо было б вельмі смешна. Праўда, на яго круглай, старой лыжнай шапачцы быў ужо нават прымацаваны арол, і яшчэ год таму назад, у лесе, ён у такім выглядзе выглядаў бы зусім звычайна.

— Войтусь, пойдзем агледзім школу. Трэба яе падрыхтаваць. І табе, бадай, таксама спатрэбіцца.

— Правільна, пан камендант.

— Колькі табе гадоў, Войтусь?

— У будучым годзе скончыцца шаснаццаць.

— Ого! — усміхнуўся я сам сабе, з захапленнем пазіраючы на Войтуся, які здалёк рабіў уражанне сталага мужчыны. Ён быў значна вышэйшы за мяне, на вока не менш як метр восемдзесят. Але з-пад цёмна-блакітнага казырка глядзеў амаль дзіцячы тварык — блакітныя вочы і доўгі нос. Пад ім відаць быў светлы пушок, які сведчыў, што вось-вось з'явяцца вусы.— А кім бы ты хацеў быць?

— Рыбаком. Пан камендант, а ці адгэтуль далёка да мора?

— Здаецца, даволі далёка, будзе якіх сто, а то і больш кіламетраў. А што з тваім бацькам?

— Ён быў рыбак. Немцы яго забілі.

Твар Войтуся зрабіўся смутным. Не трэба пытацца ў людзей пра іх нядаўняе мінулае. Навошта я спытаўся пра бацьку?

Мы ішлі моўчкі наўскасяк праз плошчу, каб выйсці на вуліцу, у канцы якой знаходзіўся школьны будынак. Гэта дало мне магчымасць змяніць тэму размовы.

— Ты, Войтусь, хадзіў у школу?

Хлопец задумаўся, відаць было, што справа гэта далёкая і занядбаная.

— Увосень 39-га года я пачаў хадзіць у чацвёрты клас.

— О, ты павінен будзеш шмат наганяць.

— Я хачу быць рыбаком. За мястэчкам ёсць возера. Мы туды хадзілі. Там ёсць рыба.

— Ты павінен добра падумаць. Лепш, аднак, чаму-небудзь навучыцца.

Мы ўвайшлі ў двухпавярховы дом. Я ўжо тут бываў. Тады ў будынку ўсё было ў поўным парадку, не хапала, можа, толькі вучняў і настаўнікаў, не было чутно званка, такога званка, як у маёй пачатковай школе: вялікага бронзавага, з драўлянай ручкай, за які я хапаўся, каб склікаць дзяцей, што дурэлі на вясковым падворку.

Мне стала шкада Войтуся і... сябе, бо ў маім сэрцы водгуллем адклікнуўся срабрысты гук таго навагрудскага званка.

Школа, у якой мы апынуліся, нічым не нагадвала маёй драўлянай з саламяным дахам. Тут было два кабінеты з нагляднымі дапаможнікамі. Ля ўвахода ў вестыбюль на сцяне відаць быў гузічак электрычнага званка. Я націснуў гузік, хоць добра ведаў, што нічога не пачую.

У кабінетах я заўважыў, што не хапае глобусаў і некалькіх вітрын, на сценах з'явіліся накрэсленыя крэйдай непрыстойныя польскія словы. Значыць, тут ужо пагаспадарылі нашы дзеці. Мне стала сорамна, што я раней, у першы ці другі дзень, не падумаў пра тое, каб хоць як-небудзь ахаваць гэты будынак ад такога паскудства.

Войтусь здзівіўся, убачыўшы некалькі шафаў, у якіх былі кніжкі пераважна з пазалочанымі бакавінкамі. Ён ніколі не бачыў столькі кніжак. На жаль, усе яны былі нямецкія, на многіх відаць былі выціснутыя готыкай прозвішчы Гітлера, Розенберга і Гебельса. Я падумаў, што іх трэба спаліць, але спалохаўся. Лепш спачатку перагледзець усе кніжкі, сярод іх, напэўна, знойдзецца што-небудзь карыснае.

Пасля некаторага змагання з замком, мы адчынілі шкляныя дзверы шафы, у якой былі атласы. Паспешліва прагледзелі некаторыя з іх, знайшлі багата ілюстраваныя кніжкі пра грыбы і рыбу. Гэтыя два тамы папрасіў Войтусь, і я дазволіў яму ўзяць.

Мы падняліся на другі паверх. Тут было даволі холадна, бо у многіх вокнах не было шкла, але затое не адчувалася затхласці. На падлозе ляжалі растаптаныя зашклёныя партрэты. На сцяне відны былі светлыя плямы — відаць раней яны віселі тут.

— Войтусь, загад табе і Стасю: штодзённа трэба прыходзіць у школу і глядзець, каб тут не шкодзілі.

— Слухаю, пан камендант.

У канцылярыі, а можа, гэта быў кабінет дырэктара, на кардоне я напісаў тушшу вялікімі літарамі: «Пачатковая школа». Мы падабралі адпаведную зашклёную рамку, уставілі туды кардонку з надпісам, і ў нас атрымалася часовая шыльда, якую мы вырашылі павесіць на парадных дзвярах.

Калі мы спускаліся ўніз, у вестыбюлі з'явілася Рэгіна. «Аднак не вытрымала»,— убачыўшы яе, з радасцю падумаў я і, падбадзёраны, сказаў Войтусю:

— Можаш ісці. Мы гэта павесім разам з Рэгінай.

Ніхто нам тут не перашкаджала. Войтусь, як сапраўдны службіст, адрапартаваў і пакінуў нас, маршыруючы па-вайсковаму.

Мы асталіся сам-насам з Рэгінай. Трэба было напружыць увагу, каб у размове не дапусціць якой-небудзь памылкі, бо я прадчуваў, што гэта размова будзе важнай, аб чым сведчыла і наша працяглае маўчанне пасля таго, як нас пакінуў Войтусь. Я стаяў на лесвічнай пляцоўцы, а Рэгіна спынілася перад першай прыступкай лесвіцы, не спяшаючыся мне насустрач.

— Цудоўнае памяшканне для школы. Не тое, што ў нас,— сказаў я, каб парушыць гэтае маўчанне.

— Толькі хто тут будзе працаваць?

— Не турбуйся, знойдуцца.

Я сышоў па прыступках і прапанаваў:

— Хадзі сюды, пакажу табе кабінеты і настаўніцкую.

Але мы затрымаліся ў настаўніцкай і амаль нічога не агледзелі. Я спрабаваў узнавіць нашы ранейшыя адносіны.

— Сядай, Рэгіна, у крэсла, я пагляджу, ці добра ты будзеш выглядаць як настаўніца.

Рэгіна выбрала сабе адно ■ крэслаў, але, на жаль, зноў усталявалася маўчанне. Тады я праявіў рашучасць. Паволі пачаў набліжацца да Рэні. Нас раздзяляў стол, таму ў яе быў час зразумець, што да чаго. Я даваў ёй на гэта час. Але яна не выкарыстала яго. Я затрымаўся перад крэслам, прытуліў яе

да сябе і пачаў цалаваць, гладзіць цёмныя валасы.

— Паабяцай, што не будзеш хадзіць да... да Лідзіі Лесюкевіч...

— Не буду...

Рэгіна ўстала, абняла мяне правай рукой за шыю і ціха сказала:

— Калі хочаш, дык я прыйду да цябе сёння ноччу.

— Гэта сур'ёзна?

— Сур'ёзна, Тадэвуш.

— Не, Рэня, тады я прыйду. Уначы непрыемна хадзіць па мястэчку.

Сёння раніцай, калі ўсе яшчэ, напэўна, спалі,— пра гэта расказваў Шаргунь, які з'явіўся да нас крыху ўсхваляваны,— нібыта ішоў цягнік. Шаргунь, вельмі ўражаны, паспяшаў на станцыю, каб сустрэць гэты цягнік. Ён не быў упэўнены, але меркаваў, што іменна з гэтага цягніка і, нават яму здалося, што іменна ў яго выгрузіцца яго швагер з сям'ёй і маёмасцю. Аднак цягнік не спыніўся, і здалёк не ўдалося ўстанавіць, пасажырскі гэта ці таварны. Зрэшты, у саставе маглі быць, як гэта вельмі часта ў той час здаралася, вагоны і тыя і другія.

Шаргунь змоўк, выняў капшук і ў кавалак газеты насыпаў самасаду. Ён не збіраўся куды-небудзь ісці і нічога не гаварыў. Толькі выкурыўшы да палавіны самакрутку, сказаў:

— Дрэнныя справы.

Я не мог падтрымаць яго гаворкі, бо яшчэ быў сонны. Сон мой быў глыбокі, а дзень — пахмурны, воблачны — уварваўся ў яго вельмі настойліва, я нават сказаў бы, агрэсіўна.

— Дрэнныя справы... Ніхто ў наша мястэчка не заглядвае, а мы таксама нікога нідзе не шукаем.

— Калі б чалавек ведаў, што знойдзе нешта добрае, дык шукаў бы.

— Наперад ніхто ніколі не ведае. Бабы,— асцярожна пачаў Шаргунь,— некаторыя бабы, больш дурныя, гавораць, што ў мястэчка можа прыйсці нейкая зараза, тыф або яшчэ што: дык як тады будзе? Дзе будзем шукаць дапамогі?

— Трэба дбаць, каб было чыста, тады ніякая зараза да нас не прыстане. Яе іменна прыносяць і прывозяць людзі,— з'едліва адказаў я.

— Можа, так, а можа, і не так... Пацукоў многа развялося...

Шаргунь належаў да людзей негаваркіх, і на гэтым скончыўся яго візіт.

З другога боку Шаргунь быў чалавекам вельмі сур'ёзным, калі не браць пад увагу яго апасенняў. Мінаюць дні, я заводжу нейкія раманы, падлічваю маёмасць і ўвесь час ухіляюся ад найважнейшай справы — наладжвання сувязі з навакольным светам, спадзеючыся, што гэта адбудзецца само па сабе. Напэўна, адбудзецца, але калі?

Я пайшоў да Вацака. Застаў яго ў найлепшай згодзе з Зосяй. Не было і гаворкі аб тым, каб напіцца, што мяне вельмі ўсцешыла. Я ведаў, што ў размове аб неабходнасці шукаць сувязі з шырокім навакольным светам знайду саюзніка іменна ў Зосі. Не пайшоў, аднак, на гэта, бо мяне стрымалі добрыя адносіны да Вацака. Гэта магло зноў пасварыць іх, навошта ж людзей лішне засмучаць? Таму прычакаў, калі Зося занялася сваімі справамі, і толькі тады пачаў:

— Войцусь, мы ўсё ж павінны нешта зрабіць.

— Мала мы зрабілі? У нас нямала спірту, трэба паклікаць Стыслу, няхай напіша той свой пратакол.

— Не ў гэтым справа...

— А ў чым?

— Самае галоўнае заключаецца ў тым, каб зразумець наша агульнае становішча.

— Што, засумаваў па рознай дрэні?

— Не я, а ўсе.

— ...няўжо і я? — Вацак пачаў нервова хадзіць па пакоі.— Я за тое, каб цяперашняе становішча працягвалася як мага даўжэй. Ты хочаш, каб у нас з'явіліся чыноўнікі? Каб людзі біліся і сварыліся за кожную анучу, за кожную кватэру?

— Чаму гэта павінны быць бойкі і сваркі? Зрэшты, раней ці пазней людзі даведаюцца пра наша мястэчка — гэта ж не іголка ў стозе сена.

— Гэта праўда, але я не прыкладу рукі да таго, каб нас хутчэй знайшлі. На мяне не разлічвай.

— Не магу цябе зразумець: марыш пра пацыентаў, пра заработкі і адначасова нічога не хочаш зрабіць для таго, каб наблізіць гэтую магчымасць.

Вацак сеў, абхапіў твар далонямі і сказаў нейкім не сваім голасам:

— Тадэвуш, ведаю, я кажу глупства. Без людзей не абыдзешся, але сярод іх зноў знойдзецца які-небудзь адвакат з вусікамі ці іншы спрытнюга, што лыпае вачыма і ўмее гаварыць прыгожыя словы...— Ён змоўк, а потым выбухнуў: — Зноў будуць ліпнуць да Зосі...

Я ўстаў:

— Спачуваю табе, Вацак. Але ў гэтых умовах будзе таксама нялёгка. Зося сама гаварыла мне, што яна сумуе без кампаніі. І на гэта не дасі рады, рэўнасць рэўнасцю, а жыццё жыццём.

— Ты гаворыш так, быццам я абсалютны дурань.

— Глупства. Цябе ахапіў шалёны страх, ты мітусішся паміж супярэчлівымі намерамі, хоць вядома, што ўсё гэта кату пад хвост. Давай возьмем веласіпеды і паедзем шукаць павятовае кіраўніцтва, добра? Найлепш вырашыць адразу.

— Добра, але толькі не сёння. Тадэвуш, я згодны, але не сёння. Яшчэ ёсць час.

Пасля абеду я зняў чаравікі і лёг на канапу крыху адпачыць. Прачытаў цэлы раздзел «Патопа» Сянкевіча. Трылогію я ведаў добра, але любіў зазіраць у яе час ад часу, асвяжаючы ў памяці асобныя фрагменты. Гэта былі адзіныя кніжкі, што мне ўдалося прывезці з сабою. Праз нейкі момант — гэта не мела сувязі з Сянкевічам — мяне агарнуў сон. Сёння я ўстаў вельмі рана. Змарыла сытасць, усведамленне пэўнасці, бо быў ясны дзень. Я сагнуўся, падцягнуў крыху калені. Пад маімі павекамі ўзніклі нейкія малюнкі. Яны паступова станавіліся ўсё больш цьмянымі, і я заснуў.

Спаў, відаць, даволі доўга, да таго моманту, калі пачуў, як нехта расказвае: «Верны Сарока вёз свайго палкоўніка праз густыя лясы і сам не ведаў, куды ехаць, што пачаць, дзе разгарнуцца...»

Далей я нічога не чуў, прачнуўся, глянуў на гадзіннік, было ўжо каля чатырох гадзін. А за дзвярыма Лідзія Лесюкевіч гаварыла:

— Хай вас гэта не бянтэжыць. Мы свае людзі. Я вазьму гэта вымыю.

— Ці ў вас мала сваіх клопатаў...— мая старая яўна адмаўлялася ад дапамогі, і я пачаў разважаць, ці варта мне даваць знак, што я ўстаў. Больш зручна было рабіць выгляд, што я драмлю. Зрэшты, размова паміж намі так ці інакш павінна адбыцца, дык што з таго, што сёння я яшчэ магу ад яе ўхіліцца? Маё становішча не належала да прыемных. Мяне можна было абвінаваціць, што я ўвёў у зман або ашукаў адразу дзвюх жанчын. Хоць з такой пастаноўкай пытання я не мог бы цалкам пагадзіцца. Лідзіі я без дай прычыны ў нядзелю абяцаў, што прыйду да яе вечарам, а Рэні нічога ж не абяцаў. Тым не менш я сам яўна адчуваў, што тут нешта не так, хоць усё можна было вытлумачыць збегам акалічнасцей. Зірнуў у люстэрка, прыгладзіў рукой валасы і выйшаў у пакой, які можна назваць салончыкам.

— Добры дзень!

— Добры дзень, я думала, што ты спіш.

— Спаў, а цяпер вось тут.

— Тадзё,— прамовіла маці,— я сапраўды не ведаю, як зрабіць, пані Лесюкевіч такая добрая, такая спагадлівая... Хоча памыць бялізну.

— Нельга, мама, гэтага рабіць. У пані Лідзіі свае дзеці і свае турботы.

— Але я здаравейшая і мацнейшая за пані Міхаліну.

Я зірнуў пад стол, дзе ляжаў вялікі клунак з бялізнай. Маці вагалася:

— Бачыш, Тадзё, тут справа ідзе аб тваіх кашулях. Каб яны былі бялейшыя...

— Я сам іх памыю, здолею...

І, каб скончыць з гэтым, я вывалак клунак у кухню, развязаў яго і ўсё, што там было, параскідаў, а пасля запрасіў Лідзію да сябе ў пакой. Прапанаваў ёй папяросу. Яна ўзяла. Мы размаўлялі то седзячы, то стоячы. Гутарка была цяжкая, трэба было праявіць рашучасць.

— Лідзія, чаго ты ўмешваешся ў нашы дамашнія справы?

— Хацела дапамагчы тваёй маці.

— Сапраўды? А чаму табе раней, у цягніку, не прыйшло гэта ў галаву?

— Мы ехалі ў розных вагонах. Калі б ты хацеў...

— Я ніколі нічога ад цябе не хацеў.

— А ў нядзелю, Тадэвуш, у нядзелю ты таксама ад мяне нічога не хацеў?

— Ну, здарылася. Выпілі гарэлкі...

Я глянуў на Лідзію, якая пакорна схіліла галаву, і таму дадаў больш лагодна:

— Ты была добрая. Мы патрэбны былі адно аднаму. Але пра гэта, Лідзія, забудзь.

— Думаеш, што гэта так проста?

— А што ў жыцці простае. Ідучы да цябе, я не меў ніякіх скрытых намераў. Мы абое аднолькава вінаватыя.

— Ведаю, цяпер наш Тадэвуш мае ахвоту да Рэгіны.

— Не ўмешвай сюды Рэгіну.

— Ага, не ўмешвай. Які ж ты шляхетны і далікатны...

— Лідзія, сапраўды было б лепш, каб мы разышліся ў згодзе.

— А прыйдзеш? Я ў той вечар так цябе чакала. Прыйдзеш?

— Не!

— Не будзе згоды?

— Як хочаш...

Цікава, што здарылася б, калі б мястэчка доўгі час — месяц або два — дзякуючы якому-небудзь збегу акалічнасцей, не ўключылася ў агульную сістэму? Напэўна, жыццё было б вельмі прымітыўным, хоць яно ішло б у зручных і камфартабельных дамах, і асноўных прадуктаў пакуль што не бракавала б. Справа тут не ў гэтым. Але трэба думаць, што маглі б узнікнуць канфлікты, сваркі, якія цяжка прадбачыць, нягледзячы на тое, што сярод нас мала было мужчын, пераважалі старыя, а жанчыны паходзілі з вёскі, і многія з іх былі мнагадзетныя. У нека-

торых сем'ях кагосьці не стала назаўсёды, іншыя чакалі, што вернуцца мужы і сыны з арміі, сёстры — з работы і лагераў. Я сам дрыжаў ад думкі, як знойдзе нас Гэленка, якую вывезлі ў Нямеччыну.

Убачыўшы мяне, некалькі жанчын зноў пачалі плакаць. Я спытаўся, што за прычына. Яны нічога не адказвалі. Аднак гэта растлумачыў Войтусь, з якім яны былі больш шчырыя.

— Яны, пан камендант, баяцца.

— Чаго?

— Самі добра не ведаюць, чаго...

— А ты баішся?

— У мяне ёсць зброя, дык чаго баяцца. Пан камендант! — Войтусь амаль прыліп да мяне, нібы хацеў паведаміць мне нейкую тайну.

— Гавары, у чым справа.

— Стысла быў у Савіцкіх, прасіў, каб яму пазычылі воз і каня.

— Няўжо? Навошта яму конь і воз? Ён жа служачы — дырэктар.

— Пан камендант, ён прасіў Савіцкую дазволіць яму паехаць са Стасем.

— Куды?

— Гэтага я ўжо не ведаю, але ён хоча на дзень або два паехаць.

— І што Савіцкая?

— Каня яму дае, а хлопца не пускае... Стась вельмі шкадуе, што маці яго не пускае.

— Мае рацыю. Яшчэ магло б здарыцца што-небудзь дрэннае. (Значна пазней я даведаўся, што Стысла меў намер адыграць важную ролю ў жыцці нашага мястэчка. Здаецца, што па сваёй ініцыятыве ён хацеў устанавіць сувязь з навакольным светам і, можа, нават дабіцца, каб яго назначылі бургамістрам... Мне вядома таксама, што ён падбухторваў Лідзію Лесюкевіч, каб яна паехала з ім, але яна нешта не згадзілася. Шкада. Няхай бы сабе паехалі. Калі б дзе-небудзь заблудзіліся, вось было б смяхоты.

Тым не менш, вестка аб намерах Стыслы ўразіла мяне. Я ўявіў сабе, што падарожжа яго адбываецца паспяхова і ён вяртаецца ў мястэчка ў якасці новай улады. І раптам адчуў, што мне вельмі важна мець гэтую пасаду, хоць я быў перакананы, што згадзіўся

стаць бургамістрам толькі таму, што нехта павінен ахоўваць парадак. Уга!)

У магістраце мы з Вацакам яшчэ раз спыніліся перад картай, што вісела на сцяне, падрабязнай картай былой Германіі... З яе пераканаліся, што за якіх дваццаць, а можа, і менш кіламетраў ад нас павінен быць павятовы цэнтр. Пачалі верыць, што мы знойдзем там польскую ўладу ці хоць бы савецкую ваенную камендатуру і наш пункт рэгістрацыі.

Вырашылі, нарэшце, сесці на веласіпеды і ехаць шукаць павятовы цэнтр. Я быў за тое, каб пра гэта нікому не гаварыць. Вацак выступіў супраць.

— Сваім трэба сказаць.

— Навошта?

— Каб ведалі. Ліха ведае, што можа здарыцца: можа, напрыклад, узняцца паніка, якая-небудзь баба або Стысла пачнуць крычаць, што мы ўцяклі.

— Дык мы абернемся за адзін дзень.

— А як з намі што-небудзь здарыцца? Час не такі спакойны, мясцовасці мы не ведаем.

— І Войтусю таксама скажам пра гэта?

— Можна.

Калі мы ўжо вырашылі ехаць, мне зрабілася неяк маркотна. Чаму мы павінны шукаць сувязі са светам? І ці добра гэта скончыцца? Я нічога не сказаў аб гэтым Вацаку, але і ў мяне з'явілася нешта падобнае на жаданне адцягнуць той момант, калі мы разам з Вацакам рушым з мястэчка, каб пакласці канец нашаму цяперашняму крыху дзіўнаму становішчу.

Жаданне гэтае было тым больш моцнае, што яшчэ сёння я павінен наведаць Рэгіну, і мне былі не з рукі адначасова дзве такія важныя справы.

Недзе каля поўначы, калі мястэчка відавочна спала і не драмаў толькі калега Войтуся, я накіраваўся да Рэні. Хоць днём мястэчка было невялікае і знаёмае, цяпер яно здавалася зусім іншым, на вуліцах і сцежках узнікалі розныя перашкоды. Некалькі разоў я спатыкнуўся і, як мне здавалася, пабіў сабе калені. Я свяціў ліхтарыкам, але асцярожна, каб ніхто не прыкмеціў мігатлівага святла.

Зайшоў з боку агарода. Хоць веяла начным холадам, умоўленае акно Рэні было адчынена. Калі я

апынуўся ў пакоі, Рэня адразу ціха і асцярожна зачыніла акно і кінулася ў мае абдымкі. Яна была нейкая вялая, рукі халодныя. Мне здавалася, што яшчэ нядаўна яна плакала, бо яе вейкі былі вільготныя.

Мы хутка апынуліся ў ложку і праляжалі ў ім — то шэпчучы, то моўчкі — амаль да світання. У тую ноч паміж намі не было нічога такога. І, бадай, правільна. Чаму мы павінны спяшацца зрабіць тое, што з'яўляецца такім важным і што, напэўна, павінна было адбыцца? Мне таксама здавалася, што Рэня не падрыхтавалася да таго, каб выканаць сваё абяцанне. Яна баялася гэтага перажывання, а ў мяне было ў адносінах да яе, маёй жонкі, маёй сапраўднай жонкі нячыстае сумленне праз Лідзію Лесюкевіч.

Пад ранак я сказаў Рэні аб нашай ініцыятыве і прасіў яе, каб яна спакойна чакала нашага вяртання.

Калі я ішоў дадому, неба ўжо чырванела. Адчуваў сябе шчаслівым, ляжаў на сваім ложку да белага дня, не думаючы нават аб тым, каб закурыць. Прымушаў сябе да сну, каб адпачыць хоць дзве гадзіны, але дарэмна.

Прымаючы пад увагу, што ўсю ноч я не спаў, вырашыў ехаць толькі заўтра. І не сумняваўся, што Вацак ахвотна прыме маю прапанову.

## 5

...І тады я пачуў два стрэлы, пасля крык, расшчэплены на паасобныя словы і воклічы, якія даносіліся з боку касцёла. У ранішняй празрыстай цішыні яны былі чуваць вельмі выразна. Я схапіў цяжкі кій з сярэбранай булавешкай — ён на ўсякі выпадак увесь час стаяў каля ложка — і выбег. Праз нейкі момант сустрэў Стыслу і некалькіх жанчын, якія, у сваю чаргу, спяшаліся ў тым самым напрамку.

На месцы здарэння мы ўбачылі чатырох жанчын, якія схіліліся над Войтусем, што ляжаў на зямлі. Відаць, лямант жанчын і ашаламленне незвычайным становішчам зрабілі на яго такое ўражанне, што ён не спрабаваў нават сесці. Адна жанчына апырскала

яго твар вадой, і Войтусь, пакуль мы прыбеглі, апрытомнеў. Я папрасіў прынесці больш вады і ручнік, хуценька расшпіліў яго самаробны фрэнч, уся верхняя левая частка якога была прамочана крывёю. Я шукаў рану. Спачатку мне здалося, што куля трапіла яму ў ключыцу, і я спалохаўся.

— Як адчуваеш сябе, Войтусь?

— Не ведаю...

— Не жартуй, дружа.

— Не жартую, пан камендант.

Нейкая жанчына сказала, выклікаўшы ў мяне адчуванне сораму:

— З дзяцей нарабілі міліцыянераў, і вось да чаго дайшло...

Праз момант у мяне з'явілася надзея, бо відаць было, што куля прабіла толькі дэльтападобную мышцу. Важна было, каб кавалак кашулі ці ніткі з адзення не трапілі ў рану, бо гэта магло выклікаць паскуднае нагнаенне.

Адну жанчыну я паслаў да Вацака, каб ён найхутчэй узяў апеку над сваім першым пацыентам, хоць тут справа была не ў зубах, а Стыслу папрасіў, каб ён паклапаціўся дастаць дзе-небудзь хоць якія насілкі.

Падрабязнасці ранення Войтуся я ўзнаўляю на аснове пазнейшага данясення. Аказалася, што ён устаў пад ранак, выбраўся на шпацыр — па справах службы, як пасля ён падкрэсліваў,— і зусім нечакана ўбачыў грузавую аўтамашыну з брызентавай будай, у якую дзве асобы ў камбінезонах падавалі нейкія машыны. Грузавік стаяў на краі невялічкага могільніка, перад домам, што высіўся насупраць касцёла. Нам здавалася, што гэта парафія ксяндза. Таму туды ніхто не заглядваў, каб не было падазрэння, што нехта хоча яе абакрасці. Цяпер выявілася, што ў абшырным цёмным, падзеленым на некалькі частак сутарэнні пад парафіяй нейкія грабежнікі, відаць, яшчэ перад нашым прыездам зрабілі склад машын, абсталявання і розных прылад, і цяпер яго паступова ачышчаюць.

Убачыўшы людзей каля аўтамашыны, Войтусь легкадумна падышоў да іх і запатрабаваў, каб паказалі дакументы.

— Нашто яны табе, шчанюк? — пачуў ён у адказ.— Табе было б лепш, каб ты нічога не бачыў.

Разам з двума грабежнікамі была жанчына, якая знаходзілася ў грузавіку пад брызентам і, стоячы там, прымала машыны і прылады.

Войтусь настойваў на сваім. Запатрабаваў, каб яны спынілі пагрузку рэчаў, інакш ён будзе страляць. Грабежнікі паводзілі сябе так, быццам Войтуся тут і не было. Яны не звярталі ўвагі на яго прысутнасць і гаварылі жанчыне:

— Ірэна, не звяртай увагі, рабі сваё.

Калі Войтусь і далей катэгарычна дамагаўся, каб яны спынілі рабунак, мужчына ў пілотцы пхнуў яго так, што хлопец упаў на каменны бардзюр, што акаляў клумбу. Яму крыху забалела, але ён зараз жа ўсхапіўся на ногі, стаў на другім баку клумбы перад грузавіком, які засланяў уваход у сутарэнне, і пачаў крычаць:

— Людзі, ратуйце! Тут грабяць!

Ён, можа, не вельмі і верыў, што яго пачуюць, але думаў напалохаць грабежнікаў. Акрамя таго, быў наіўна ўпэўнены, што ён цяпер не адзін. Войтусь крычаў і адначасова выхапіў пісталет. Пасля гэтага падзеі пачалі разгортвацца шпаркімі тэмпамі. Грабежнікі спынілі пагрузку, з трэскам зачынілі задні борт грузавіка, ускочылі ў кабіну, і адзін з іх завёў матор. Калі раскалыхаліся важкія калёсы, Войтусь стрэліў у кабіну. Які вынік быў гэтага стрэлу, мы так ніколі і не дазналіся. Трэба думаць, што не было ніякага выніку, бо Войтусь першы раз карыстаўся зброяй у такіх акалічнасцях. Ён пачуў толькі звон шыбы, а пасля ўбачыў бляск стрэлу і ўпаў ранены. Грузавая машына знікла, не пакінуўшы на рудым жвіры амаль ніякага следу. На прыступках у сутарэнні стаяла машына для вырабу рукавіц, ці прыблізна нешта такое.

Далей чакаць было нельга. Дзень сёння пачаўся рана, і трэба было гэта выкарыстаць.

Вацак лічыў, што Войтусю нічога сур'ёзнага не пагражае. Яго, відаць, можна было пакінуць пад доглядам Зосі, якая ахвотна згаджалася на гэта. Тым

не менш, Вацак, спасылаючыся іменна на стан здароўя Войтуся, у апошнюю хвіліну адмовіўся ехаць разам са мной у павятовы цэнтр.

Я апынуўся ў цяжкім становішчы. З кім жа мне цяпер ехаць? У першую хвіліну падумалася аб Рэгіне. Напэўна была б добрым таварышам. Аднак, разважаў я сам з сабою, на незнаёмай дарозе з маладой жанчынай лепш не паказвацца. Пачаў думаць, каго б тут падгаварыць. Другі міліцыянер, прымаючы пад увагу настрой у мястэчку, павінен быў астацца тут і глядзець, бо і «цывільныя» пасля гэтага ранішняга выпадку забяспечылі сябе палкамі і віламі. Іх ахапіў мабілізацыйны настрой.

Нарэшце я ўзяў з сабой старэйшага хлопца ў Яворскіх, пачапілі мы на веласіпедах партфелі з харчамі і рушылі ў паход адкрываць павятовы цэнтр.

З вузкай дарогі з'ехалі на шашу, якая толькі сям-там зеўрала праломамі, але нідзе не была загароджана. Падбітыя нямецкія танкі і бронемашыны былі сцягнуты на палі. Мы даволі заўзята ціснулі на педалі, бо нашы меркаванні наконт адлегласці не спраўдзіліся. Яна аказалася значна большай, і гэта шчасце, што дзень быў, для разнастайнасці, бадзёры, халаднаваты.

Нарэшце мы прыехалі ў мястэчка, якое, паводле нашага меркавання, мелася быць сядзібай павятовай улады.

Мястэчка было моцна зруйнавана, дзе-нідзе сцежкі ішлі праз кучы друзу і цэглы. Але тут было куды больш насельніцтва. Па мястэчку снавалі чырвонаармейцы, больш відаць было рэпатрыянтаў і асаднікаў, сям-там паяўляліся немцы. Сярод іх пераважалі пажылыя ў чорным адзенні жанчыны.

Ведучы веласіпеды, мы з радасцю спынялі польскіх прахожых, каб даведацца, адкуль яны. І хоць ніхто з іх не паходзіў з Навагрудчыны, яны ўсё ж здаваліся нам блізкімі, быццам мы іх некалі ведалі і цяпер вось знайшлі. А яшчэ зусім нядаўна, перад тым як асесці ў сваім мястэчку, мы не раз абвінавачвалі суайчыннікаў, упікалі іх, а па дарозе да мес-

ца назначэння нас нярэдка сустракала іх абыякавасць і нават варожасць.

Так, мы адчулі сябе зноў у хаатычнай рэчаіснасці.

Ну, вядома, нам адразу паказалі сядзібу ўпаўнаважанага, ці старасты, бо інфарматары называлі іх усяляк.

Хоць у чакальнай зале было шмат людзей, мы палічылі сябе наведвальнікамі асаблівымі і, нікому нічога не тлумачачы, пастукалі ў дзверы і ўвайшлі ў кабінет. На наша вітанне ўстаў малады чалавек у польскім мундзіры з зоркамі паручніка.

Мы сказалі паручніку аб мэце нашага візіту. Ён падсунуў нам невялікія крэслы і выклікаў з суседняга пакоя сакратарку — жанчыну з сівымі валасамі. Сказаў, хай яна напіша на нямецкай машынцы (я захоўваю гэтае пісямко без дыякрытычных знакаў!!) ад майго імя прапанову, каб надаць мне адміністрацыйныя функцыі. Такім чынам усяго за некалькі мінут, пакуль я сцяміў што да чаго, мяне афіцыйна назначылі бургамістрам. Калі б у мяне тады ў адміністрацыйным парадку — суха і з пагардай — спыталіся пра што-небудзь, дык я, магчыма, без усякіх ваганняў адмовіўся б ад гэтага назначэння. Але што зробіш, калі староста толькі зазірнуў у мой прафсаюзны білет, у якім значылася, што я быў настаўнікам. Затое ў білеце былі запісаны маё сапраўднае прозвішча і прафесія. Мне прыйшла думка, каб пры гэтай аказіі атрымаць паперу з круглай пячаткай і арлом усярэдзіне для Вінцэнта Стыслы. Але я своечасова спахапіўся: чорт з ім, ён не заслужыў маёй прыхільнасці.

У кабінет старасты тым часам дабіваліся іншыя наведвальнікі, але ён пакуль што адмовіўся прымаць іх. Паабяцаў нам, што прышле ў наша мястэчка ўпаўнаважаных, абяцаў таксама тэхніка, які праверыць, ці ёсць магчымасць прывесці ў дзеянне сувязь і, можа, нават разгледзець справу падачы электраэнергіі ў мястэчка. Усё гэта, вядома, зрабіць было нялёгка.

Сакратарка на машынцы выстуквала нейкае новае пісямко для нас. Мы атрымалі просьбу да савецкай камендатуры, напісаную ад рукі па-руску, каб

яна выдала нашай грамадзянскай міліцыі (цяпер гэта гучала ўсур'ёз) дзве вінтоўкі і тры пісталеты. А стараста-паручнік адным швом паўтараў:

— Таварышы! Ахоўвайце маёмасць. Людзей будзе ўсё больш, прыйдзе дзень, калі спатрэбіцца кожная рэч.

— Правільна! — сказаў я, падтрымліваючы старасту.— Накіруйце да нас які-небудзь эшалон з рэпатрыянтамі.— І дадаў: — Каб нам было кім кіраваць. А інвентарызацыю маёмасці мы збольшага ўжо зрабілі.

Паручнік засмяяўся:

— Ну і галава! Яшчэ нацешыцеся ўладай. Усяго добрага, таварыш!

Хацелася б даўжэй пасядзець у гэтым кабінеце, бо мы так мала спраў абмеркавалі і баяліся, што, выйшаўшы адсюль, зноў адчуем сябе самотнымі. Але не было рады, іншыя наведвальнікі няспынна рваліся ў дзверы.

З прыемнасцю паблукалі з маладым Яворскім па мястэчку. Зайшлі ў «Забужанку», бо даўно не былі ў рэстаране. Не для таго, каб піць там гарэлку, а проста пасядзець за конаўкай піва, калі яно было, у чым я моцна сумняваўся.

Затым, падпарадкуючыся закаранелай і жывучай у нас прывычцы да розных устаноў і ўспомніўшы пра пісьмы, што нам даручылі ў мястэчку, мы пачалі шукаць пошту. Людзі, у якіх мы пыталіся, дзе яна знаходзіцца, паціскалі плячыма, а хтосьці сказаў, што яе трэба шукаць у будынку старасвта. Таму мы вярнуліся ў старасвта, у калідоры нам паказалі пакой, дзе сядзела шчуплая дзяўчына, якая быццам была начальнікам пошты.

Мы паклалі перад ёю пісьмы жыхароў нашага мястэчка. Дзяўчына сказала:

— Не ведаю, ці дойдуць яны. Я сама ўжо два тыдні чакаю пісьма ад мамы.

У блакітных вачах начальніка пошты з'явіўся смутак.

— Але ж «адтуль» вы, мусіць, сёе-тое атрымліваеце? — пацікавіўся я.

— Атрымліваем. Пасылаем карэспандэнцыю з аказіяй. Калі ад нас адпраўляецца службовая машы-

на. І да нас прыходзяць пісьмы, але ў большасці такім людзям, якіх у нас няма.

Яна выняла з шафы некалькі канвертаў і трыкутнікаў, паказала іх нам і спыталася, ці часам няма ў нас такіх адрасатаў. На жаль, усе прозвішчы былі нам незнаёмыя.

— Ну, дык дзякуем,— сказаў я.— А вы не сумуйце, пісьмо ад мамы прыйдзе.

Мы выйшлі, бо трэба было спяшацца. Нам неабходна было наведаць камендатуру.

Малады, кудлаты сержант з дзявочымі сакавітымі губамі не ўчыняў нам ніякіх перашкод. Ён загадаў напісаць хімічным алоўкам распіску на лістку паперы і выдаў нам тыя дзве вінтоўкі і тры пісталеты з патронамі. Яму хацелася пагаварыць:

— Толькі немак не чапайце.

— У нас іх няма. А ў чым справа? Ах, вось што...— рассмяяўся я, зразумеўшы намёк.

— О, так, табе добра,— з зайздрасцю ў голасе сказаў сержант, збіваючы на патыліцу пілотку з чырвонай зоркай.— А ўсё-такі яны прыгожыя жанчыны, чорт пабяры! — працягваў ён, вешаючы замок на дзверы склада.

Мы спыталіся, ці ёсць тут урач.

— А як жа, ёсць. Вось ён,— паказаў рукой на пажылога мужчыну з загарэлым тварам. Гэта быў капітан у свабодна накінутым на плечы шынялі. Я падышоў да яго. Ён спыніўся. Я расказаў яму пра выпадак з Войтусем.

— Добра,— адказаў ён. — Заўтра прыедзем.

Заўтрашні дзень здаўся нам недзе далёка за гарамі. Я пачаў прасіць яго, ці не мог бы ён наведаць нас сёння. І, крыху рызыкуючы, дадаў:

— Спірт у нас уласны. Не пашкадуем.

Капітан паблажліва ўсміхнуўся і, не звяртаючы ўвагі на маё абяцанне, зрабіў рукой кароткі жэст:

— А колькі кіламетраў?

— Будзе якіх дваццаць, але без нас не трапіце.

— Ну добра, пачакайце.

Праз якія паўгадзіны перад намі з шумам спыніўся «додж». Я сеў у кабіну паміж шафёрам і доктарам. У капітана была з сабой вялікая сумка з пры-

ладамі і медыкаментамі і, на ўсякі выпадак, аўтамат. Яворскі заняў месца на лаве ў кузаве, каля другой лавы мы яшчэ раней умасцілі нашы веласіпеды.

Трам-ці-дзі-дара! Праз некалькі мінут зусім нечакана будзем дома. Не ведаю, як Яворскі, але ў мяне было пачуццё, што мы вяртаемся з разведкі, якую правялі даволі ўдала.

Павярнулі з шашы і ўбачылі сваіх. Яны чакалі нас перад мястэчкам па абодва бакі дарогі, уздоўж якой раслі чарэшні. Аказалася, што тут, як толькі мы выехалі, размясціліся біваком амаль усе жыхары мястэчка. Некалькі жанчын — гэта я заўважыў крыху пазней — сядзелі на клунках, падрыхтаваныя да чаго? Іменна, да чаго?

Шафёр спыніў машыну. Я выскачыў. Мы апынуліся ў цесным коле цікаўных. Я з радасцю адказваў на ўсе пытанні, а са свайго боку пацікавіўся толькі адным: як Войтусь?

Падышоў да нас і Стысла, які разам з Лідзіяй Лесюкевіч, дзвюма жанчынамі і трыма падлеткамі даўжэй за ўсіх стаялі воддаль. Зрабіўшы афіцыйную міну, ён спытаўся ў мяне пра дакументы...

— Якія дакументы, чорт пабяры, вас цікавяць?

— Хачу ведаць...— і тут жа паправіўся.— Хочам ведаць, хто вы, уласна кажучы, такі?

— Я?

— Вы...

Усе моўчкі прыглядаліся да гэтай сцэны.

Я зразумеў. (Увечары Рэня расказала мне, што Стысла правёў агітацыю, каб яго выбралі бургамістрам). Я выняў з партфеля назначэнне, змацаванае пячаткай з арлом.

Ён прачытаў дакумент, патрымаў яго крыху ў зморшчаных пальцах і нарэшце вярнуў са словамі, якія прамовіў урачыста:

— Я шаную пячатку з арлом.

Мы пайшлі ў мястэчка, бо доктар спяшаўся. За намі асталася невялікая грамада людзей. Яны адчувалі сябе больш спакойна і былі задаволены, што мы звязаліся з навакольным светам.

Шкада толькі, што не было брамы з бярозавых гонтаў, папрыбіваных накрыж да аздобленых яловымі галінкамі жэрдак. Трам-ці-дзі-дара!

# БУЛКА ХЛЕБА



Пан Даняляк, з якім я пазнаёміўся ў піўной курорта, любіць расказваць пра здарэнні са свайго мінулага. Ён захапляецца такімі выпадкамі, якія сведчаць альбо пра яго спрыт, альбо пра асабліва спрыяльныя акалічнасці.

На гэты раз здарэнне адбылося ў студзені 1945 года.

Мясцовасць, у якой пан Даняляк апынуўся з прычыны нейкай дробнай здзелкі, звязанай з забеспячэннем уласнага рэстаранчыка, якраз не трапіла ў паласу ваенных дзеянняў. Спачатку чуліся гарматныя стрэлы з усходу, потым цяжкія выбухі перанесліся на захад. Па шашы на досвітку праехалі транспарцёры ворага, таропка прайшлі групы пехацінцаў.

З высокага ганка драўлянага дома можна ўба-

чыць, як над рэчкай нейкія салдаты, якія здалёк нагадвалі лялек, пападалі ў снег. Зрэдку тутукалі кулямёты. Нібы марудзячы, па адным уставалі салдаты, прыгорбіўшыся перабягалі праз рэчку. Было як у летнюю навальніцу: відаць, як ідзе дождж, чутны ўдары перуноў, але ўсё гэта адбываецца ўбаку.

Праз нейкі час запанавала цішыня, галінкі дрэў выразна вырысоўваліся на ясным блакіце. Яны застывалі на фоне гэтага блакіту і раней, але толькі цяпер гэта кінулася ў вочы. За рэчкай нешта чарнела на снезе — гэта ляжалі забітыя.

Да пана Данеляка, які стаяў на ганку, падышоў салдат у шапцы-вушанцы, аброслы, немалады. Не, ён не можа зайсці ў дом, хоць і вельмі стомлены, бо спяшаецца. Не, ён не мае часу нават выпіць чаю. Але затое яму хацелася здабыць булку хлеба. Выявілася, што ў яго вільготным, пачарнелым ранцы ёсць ліхтар. Серабрысты ліхтар з прыгожым арнаментам. Пан Данеляк узяў яго ў рукі, ліхтар быў халодны і цяжкі: калі б яго кінуць на цвёрды снежны шарон, дык праламаў бы яго і ляжаў, мала чым адрозніваючыся колерам ад снегу.

Узрадаваны пан Данеляк вынес з дому булку аржанога хлеба. Салдат хутка пачаў аддаляцца да рэчкі. Не прайшоў, мабыць, і трыста метраў, як пачулася некалькі стрэлаў, напэўна, з алешніку, у якім, як здавалася, нікога не было.

Потым зрабілася ціха, чуваць было вераб'інае чырыканне, сінічкі абселі куст закасцянелага бэзу, іскрыліся марозныя іголкі — светлякі зімовай пары. Пан Данеляк асмеліўся наблізіцца да забітага.

— Дык яшчэ, пане, і хлеб вярнуўся да мяне. Мне нават не трэба было вымаць яго з рукі. Булка ляжала побач з пачырванелым снегам.

Пан Данеляк засмяяўся, намагаючыся развесяліць і мяне. Смяяцца я, аднак, не мог, але ветлівасць вымушала пацвердзіць, што я ўважліва выслухаў яго расказ.

— А пану не ўдалося прадаць гэту булку хлеба з такой жа выгадай другі раз?

— Ну, гэта ўжо было б занадта! Не думаў, што пан такі хцівы...

Цяпер і я засмяяўся.

# КАЗІК



Змяніў ты палатку на кіёск тытунёвы,
Людзі купляюць па тры папяросы ці пачку,
Цені забітых прыходзяць у кіёск закурыць добрай махоркі...

*Адам Важык, «Кіёск інваліда».*

Мы пілі другі дзень. Пераважна ў невялікай старой піўнушцы на адной з уроцлаўскіх вулічак.

Напярэдадні ў малочным бары я сустрэў адразу аж трох прыяцеляў — з іх два адной роты, у якой мы служылі ў часе вайны.

За выключэннем Сыльвека, які жыў ва Уроцлаве, мы знаходзіліся тут па службовых справах і ў той жа дзень павінны былі пакінуць горад. Дамовіліся, што разыдземся адразу пасля першай бутэлькі. Але, вядома, так не атрымалася.

Спачатку гутарка мела хутчэй інфармацыйны характар: дзе хто жыве, дзе працуе. Потым мы ўспаміналі тых знаёмых з мінулага, якім пашанцавала стаць або славутымі, або багатымі.

Назаўтра мы паглыбіліся ва ўспаміны, звязаныя выключна з арміяй і вайной. Гаварылі пра тых, якія

загінулі. Па ініцыятыве Сыльвека, поўнага мужчыны сярэдніх гадоў, успаміналі пераважна Казіка.

Сыльвек гаварыў парывіста, па-п'янаму заплятаючыся.

— Як я яму зайздрошчу, што маладым загінуў! І прыгожай смерцю.

— Ён застаўся ў памяці як добры сябар, прыстойны хлопец і герой! — дадаў Генек.

Казік, відаць, загінуў у той момант, калі падняўся з-за наспех насыпанай кучкі пяску і шпурляў гранаты пад нямецкі танк. Ён пасмяротна быў узнагароджаны ордэнам «Virtuti Militari»*. Яшчэ раз падумаўшы пра гэта, я кінуў з кута, дзе сядзеў каля вешалкі, словы сумнення:

— Але, можа, ён не загінуў? Уласна кажучы, яго цела не апазналі, бо ўсе былі знявечаны. Мы ж тады былі за рэчкай, да якой немцы не дайшлі, і ведаем пра гэта толькі з чужых слоў.

— Дык як ты гэта сабе ўяўляеш? Дасюль бы ён хаваўся? — злосна перапыніў мяне Сыльвек.— Пра Пухальскага не было чуваць пяць гадоў, але я ўрэшце яго сустрэў. Я, браце, усю Польшчу праехаў уздоўж і ўпоперак!

— Дурмай расказваў, што бачыў Казіка ў Кашаліне. Казік ішоў па тратуары на мыліцах — у яго да калена не было нагі...— сказаў Генек.

— Дурмай схлусіў! — заўважыў Павел, маўклівы і змрочны.

— Шмат было выпадкаў, калі людзей, якіх лічылі загінуўшымі, потым знаходзілі,— абараняў я сваю думку.

— А за што Казіка пасмяротна ўзнагародзілі? — гарачыўся Сыльвек.— Ужо там, у штабе, ведалі, што з кім і як.— Сыльвек, найменш стрыманы, кульнуў чарку без чаргі.— Шчаслівы, што загінуў,— ён расшпіліў пакамячаны пінжак, з-пад якога выглянула брудная кашуля.— Бо інакш быў бы сёння такі, як я,— п'янчужка, якога кожны год выганяюць з работы. Ужо ніхто і не памятае, што я таксама маю «Virtuti Militari»!... Вось якія мы былі!—

---

* Польскі баявы ордэн.

Ён дастаў з задняй кішэні брудны цыратавы бумажнік, выцягнуў з яго фатаграфію.

Гэта быў момант вячэрняй паверкі. Дзве доўгія шарэнгі ў цяні соснаў. Пяты злева ў першай шарэнзе — Казік. Здымак быў пабляклы, як вочы старога чалавека. Трэба было разбудзіць фантазію, каб пад шапкай разгледзець востры акрэслены нос, шырокія дугі броваў, кволы, як першая траўка, вусік.

— Шчаслівы...— правакацыйна паўтарыў Сыльвек, асцярожна хаваючы здымак, які абышоў ужо ўсе рукі.

— Даражэнькі, але ж Казік ніколі не піў,— сказаў я не зусім далікатна.

— Што з таго, што тады не піў. Але калі б стаў забеспячэнцам, дык распіўся б! — Сыльвек схапіў мяне за рукаў чорнага світэра.— Зрэшты, справа не ў гарэлцы. Ці ведаеш, браток, што значыць мець жонку, дваіх дзяцей і цешчу на шыі?

— Ён меў нявесту ў Львове...— уставіў невядома для чаго Павел.

— Даўно выйшла замуж! — паведаміў Сыльвек.

— О, сцерва! — крыкнуў я, адчуваючы вострую крыўду на невядомую мне жанчыну.

— Чаго ж ты хочаш? — абурыўся Павел.— Пасля яго смерці прайшло гэтулькі год...

— Не выйшла б ні за каго іншага, калі б жыў Казік...— задумліва сказаў Генек.— Калі б Казік жыў, дык мы пайшлі б цяпер да яго шукаць пратэкцыі. Абрыдла быць бухгалтарам, мне, былому страявому афіцэру, які ўночы падымаў на ногі ўзвод па свайму жаданню!

— Пайшлі б... пайшлі б...— кпіў Сыльвек,— а ён, убачыўшы нас такімі, можа, зрабіў бы выгляд, што не пазнае...

— Зараз Казік быў бы такі лысы, як ты!— зарагатаў Павел, тыкаючы пальцам у жывот Генека.

— Казік не палысеў бы! — абурыўся я.— Ён быў брунет і меў такія валасы, што хапіла б на траіх.

— Палысеў бы! — Сыльвек нібы зноў траціў прытомнасць.— Брунеты лысеюць хутчэй за бландзінаў. Ты таксама праз некалькі год будзеш лысы!

— Ну і разышліся ж вы! — слушна заўважыў

Павел, беручы прынесеную афіцыянтам бутэльку, каб напоўніць чаркі.

— Аднак жа, шчаслівы ён! — разважаў Генек.— Яму не трэба цяпер кланяцца розным гаўнюкам, не трэба чакаць жонкі, якая, напэўна, вяртаецца ад любоўніка, а гаворыць, што спазнілася на аўтобус.

— Табе, Генек, здраджвае жонка? — падхапіў я.— А ты ж быў такі бабнік!

— Ну, не... Я так кажу ўвогуле...

— Я таксама кажу ўвогуле: кінь яе к чорту! За наша халасцяцтва! — выгукнуў я рашуча, зноў падымаючы чарку.

— Лёгка так сказаць, але...— Генек узяўся рукамі за галаву.

— Шкада слоў, хлопцы! — Сыльвек сутаргава трымаўся сваёй тэмы.— З нашай пяцёркі гэта ўдалося толькі Казіку.

— Блюзнерыш! — абурыўся Павел.

— Не блюзнеру, такую вашу маць!

— Хлопцы, ці нельга спакайней?! — напомніў я, разглядаючы нібы праз імглу залу, запоўненую цяпер гасцямі, бо, здаецца, ужо звечарэла. Кожную хвіліну хто-небудзь прыходзіў. Па адным і па некалькі чалавек. І вось дзверы зноў адчыніліся, і зайшла дзіўная пара. На гэты раз, відаць, то былі не госці. Яна, ярка размаляваная, выглядала як прастытутка, ён — з гітарай на раменьчыку, перакінутым праз шыю.

Яны разглядаліся, ці аплаціцца тут спяваць.

Раптам толькі ён застаўся ў імглістым полі майго зроку. Стаяў, абапіраючыся на мыліцы, ў зашмальцаваным мундзіры, з адной драўлянай нагой.

Першы, аднак, крыкнуў Генек:

— Хлопцы, гэта ж наш Казік!

— Казік... Казік...— шаптаў я.

Сыльвек заўважыў яго пазней за ўсіх, але затое аж зароў:

— Дзякуй богу, Казік жывы!

Але, як хутка высветлілася, інвалід з гітарай толькі крыху нагадваў Казіка. Ён быў здзіўлены, што, яшчэ не даўшы магчымасці выступіць, мы частавалі яго з такой, можна сказаць, чуласцю, нібы доўга і з нецярпеннем чакалі з ім сустрэчы.

# ВОСЕНЬ У ГАРАХ



Хвіліну назад я старанна пагаліўся, надзеў паплінавую кашулю, зірнуў на сябе ў люстэрка і пераканаўся: выглядаю з белым трыкутнічкам насоўкі ў верхняй кішэні як элегантны мужчына.

Пакуль што стаіць добрае надвор'е, але верасень ужо канчаецца, значыць, можна хадзіць з парасонам. Парасон у мяне новы. Іншыя мужчыны на курорце ўвогуле ходзяць абы-як. Асабліва тыя, што могуць сабе дазволіць на нешта лепшае. Я, на жаль, не магу.

Першы раз я апынуўся на курорце ў такую пару года. Ехаў цягніком з кіслым настроем, часам драмаў сабе, праклінаў начальніка за тое, што даў мне водпуск ў такую капрызную пару. Пойдуць дажджы, раніцы і вечары будуць зябкімі. Прыйдзецца гуляць у брыдж або далучацца да выпадковай кампаніі

жанчын і мужчын, абменьвацца з імі самымі банальнымі заўвагамі і асцярогамі.

Аднак усё тут аказалася даволі прыгожым. Восень у гэтай горнай мясцовасці зіхаціць багаццем колераў. Тут яшчэ слівы вісяць на дрэвах, у агародах квітнеюць мальвы, усюды нешта адлівае золатам, блакітам, уздоўж лясных сцежак расце ажына.

Сонца быццам занавешана муслінам, які часам варушыцца ветрам, але на паркавай гары, куды падвозіць фунікулёр, можна загараць. Там поўна курортнікаў, праўда, не першай маладосці.

Праз некалькі дзён пасля таго, як людзі, з якімі я пазнаёміўся ў час сумесных снеданняў, абедаў і вячэр, аказаліся пасрэднымі, я вырашыў жыць самотна, трымацца ўбаку, перажываць восень сам-насам. Але, зразумела, пачынаў свой дзень з кафэ, якое знаходзілася ў драўляным доме і было даволі прыстойным. Кожны ранак там тоўпіліся людзі, а пасля адзінаццаці ўсе, як правіла, разыходзіліся, каб карыстацца паветрам.

У сераду я крыху спазніўся. А ў кафэ, калі няма свабодных столікаў, людзі звычайна падсаджваюцца да тых, якія ўжо заняты. За адным столікам сядзела самотная жанчына.

— Ці магу я заняць свабоднае месца?

— Калі ласка.

Неяк няёмка было пачынаць размову, бо магло здацца, што я знарок выбраў іменна гэты столік. Тым не менш, у павільён мінеральнай вады мы пайшлі разам.

Паводзілі сябе даволі цырымонна, стрымана. Я люблю стрыманасць.

Як яе завуць, я даведаўся выпадкова на другі дзень. Нейкі ягомасць у спартыўнай куртцы ўвайшоў у кафэ, пакланіўся і прамовіў:

— Добры дзень, пані Зося!

Яна як быццам неахвотна кіўнула галавой і не сказала ні слова. Я выкарыстаў гэтую акалічнасць.

— Прашу прабачэння, але гэтае імя вам не да твару,— праявіў я зычлівую зацікаўленасць.— Калі б вы дазволілі, я называў бы вас... Аннай.

— Чаму?

— Ваша рамантычная прыгажосць і некаторая таямнічасць асацыіруюцца з Аннай Карэнінай. Гэта быў прыгожы фільм, хоць ён вельмі трагічна закончыўся. Вы яго глядзелі?

— На жаль.

— Думаю, што яго яшчэ будуць паказваць. Абавязкова паглядзіце.

— Пастараюся.

— Ну дык як?

— Калі ласка, магу быць Аннай.

Яна зірнула ў люстэрка пудраніцы, памадай падмалявала яркія губы. Толькі пасля гэтага пацікавілася маім імем.

— Караль.

— Як прэзідэнт Францыі.

— Іменна. Можа, што-небудзь вып'ем?

— У прынцыпе не п'ю, але...

Я падаў ёй меню, заpraўленае ў пласцікавы трымальнік. У меню значыліся розныя віны і толькі два гатункі каньяку: савецкі і венгерскі. Хоць я іх не адрозніваў, але параіў:

— Прапаную венгерскі. У яго духмянасць... французскага.

Я заказаў дзве двайныя порцыі каньяку і па аднаму піражнаму.

З гэтага моманту я, прынамсі, два разы ў дзень суправаджаў Анну. Яна добра выглядала, і разам з ёю прыемна было паказвацца на людзях. У яе нейлонавай сетцы акрамя конаўкі для піцця мінеральнай вады заўсёды знаходзіліся два вялікія тамы. Гэта быў раман Томаса Мана «Доктар Фаўстус». Здаецца, гэта не мела нічога агульнага з медыцынай. Гаварыла, што гэта цяжкі твор, але яна з асалодай і паволі ў яго ўгрызаецца.

Я шматзначна ўздыхнуў:

— Мы, людзі тэхнікі, на жаль, не маем часу на літаратуру. От для адпачынку часам возьмем які-небудзь дэтэктыў.

— Вы інжынер?

— Нешта падобнае,— адказаў я агульна, каб не вельмі маніць і праўду не казаць.

Найбольш ахвотна шпацыравалі мы па дарожцы, што вяла ў павільён мінеральнай вады. Часам садзіліся на адну з лавак, якіх тут было шмат і на якіх гультаяватыя курортнікі стараліся загараць. У нас наогул мала хто любіць доўга хадзіць.

Ідучы з ёю, я часта думаў: «Увагу ўсіх звяртала добрая пара: ён высокі, з ледзь прыкметнай сівізной на скронях, заўсёды з парасонам. Яна з тварам багіні і шляхетнымі жэстамі. З таго, як яны звярталіся адно да аднаго, было відаць, што гэта не муж і жонка, што на нейкі час яны пакінулі сваё ўласнае жыццё, якое вялі асобна, недзе ў розных месцах. І, можа, толькі кожны год сустракаюцца тут, зайздросна захоўваючы сваю таямніцу».

Я стараўся быць у баку ад якой-небудзь кампаніі з дома адпачынку. Ды яшчэ так шчасліва склалася, што ў мяне быў асобны пакой, таму што нехта — невядома па якой прычыне — не прыехаў і не заняў свайго месца.

Навошта мне тая кампанія? Два гады назад я далучыўся быў да нейкай групы, што рагатала ўвесь час і без усялякай прычыны. Пасля з адной мілай асобай мы пачалі аддзяляцца. Бегаў я за мілай асобай, ну і што? Вярнуўся дадому стомлены, змардаваны, як з бальніцы. Яна мала спала, любіла пляж, кожны дзень па некалькі разоў я бегаў для яе па марожанае, любіла забавы, але, на жаль, без адплаты натурай. Эгаістка без культуры.

— А гэтая Анна Карэніна, уласна кажучы, хто?

Мы адышліся з лежакамі крыху далей ад людскога гоману, паставілі іх паміж двума высокімі кустамі ядлоўцу з блакітным бляскам і, лежачы з прыплюшчанымі вачыма, паглыналі праменні лагоднага сонца.

— Вы і кніжку не чыталі?

— На жаль, яна чамусьці не трапіла мне ў рукі.

— А я прачытаў яе пасля фільма. Дык вось тая Карэніна мела старога мужа, царскага чыноўніка

высокага рангу, мела сына Сярожу... у Пецярбурзе. Яна закахалася ў прыгожага афіцэра-арыстакрата. Яго звалі Уронскі. І ён і яна — добрага выхавання, з вышэйшых сфераў.

— Была ўзаемнасць?

— Была. І ў гэтым якраз уся справа. Яна кінула дом у імя кахання, а ў той час у тым асяроддзі гэта было, уласна кажучы, злачынства.

— Ого!

— Пасля пачаліся нелады і паміж каханымі. Нарэшце Анна зразумела, што яна апынулася ў безвыходным становішчы. Яна была не толькі прыгожая, але і гордая. І кінулася пад цягнік.

— Як гэта добра, што ў мяне няма прычыны кідацца пад цягнік.

— З такой прычыны цяпер ніхто не кідаецца пад цягнік.

— Іншы час.

— Так, іншы час, Анна.

— Брунетка ці бландзінка?

— Не памятаю. Ведаю толькі, што ў яе былі шэрыя вочы пад густымі вейкамі.

— Вы сказалі, што яна была прыгожая і гордая, а я?

— Вы таксама.

— Гэта хораша з вашага боку.

— А ў вас ёсць дзеці ці хаця б сын?

— Здагадайцеся самі. Калі пра каго-небудзь усё вядома, дык ён перастае быць цікавым. Як вы думаеце?

— Можа, яно і так.

— Значыць, цікаўнасць — справа лішняя.

Анна села на ляжак, павярнула да мяне ясны шырокі твар з шэрымі вачыма, а пасля жартаўліва ляпнула рукоў па маім калене. Я хацеў злавіць яе руку, але мне не ўдалося. Яна хутка рванула яе і сказала:

— Ці ж прыстойна лавіць руку Карэнінай?

Правільна, непрыстойна. Было добра на сонцы і ў ціхай гамонцы. Чаго ж яшчэ трэба на курорце? Ленасці — іменна ленасці...

Шашою мы выйшлі за мястэчка, пасля сышлі на пясчаную сцежку. Яна вяла ў лес, дзе быў папуляр-

ны сярод курортнікаў невялічкі рэстаран. І Анна ўжо некалькі разоў напамінала пра яго, і ўсе лічаць наведанне гэтага рэстарана галоўным атракцыёнам. Таму не было рады, трэба было ісці.

І сапраўды: прайшоўшы крыху лесам, мы апынуліся на ўзлеску перад драўляным домам, дзе знаходзіўся той рэстаран. Хоць была нядзеля, але людзей там было не шмат. Баяніст, акампаніруючы сам сабе, спяваў нейкія песні.

Столікі стаялі блізка адзін каля аднаго. Мы занялі месца ў другой зале. З лёгкім страхам перад разлікам, я ўсё ж заказаў дзве порцыі фарэлі, чвэртку гарэлкі і каву. Некаторыя столікі былі сервіраваны проста раскошна.

— Я люблю назіраць.

— І ўсяго толькі?

Мне здалося, што Анна з прыемнасцю пайшла б танцаваць. Але я танцаваў кепска. Іншая справа дома, а тут... Тут мяне перасталі б паважаць. Я стараўся звяртаць увагу на гасцей, пасмейваўся з некаторых пар.

— Звычайных шэрых курортнікаў тут, здаецца, мала.

— Напэўна...

Ля суседняга століка сядзелі два не па-святочнаму апранутыя мужчыны сярэдняга ўзросту. Здавалася, што яны таксама назіраюць. Мы пачулі ўрыўкі іх размовы.

— Бачыш вунь таго?

— Бачу. Ну і што?

— Я ведаю яго. Ён «нясе людзям паслугі».

— А я быў упэўнены, што гэта які-небудзь... ну, прафесар медыцыны. Вельмі шаноўны, скажам, хірург. Так выглядаў доктар, які рабіў мне аперацыю.

— Можа, ён так і выглядаў, але ў яго не было «мерседэса».

— А яго сатэліты?

— О, гэтыя хутчэй за ўсё з добрай кампаніі. А ён іх трымае ў сваіх руках. Яму гэта не мала каштуе, але ён напакаваны грашыма, як свіння жалудамі.

— Дык ён што, на тваім уліку?

— Не. Я маю на ўвазе таго, які расказвае, што выйграў мільён, і кідае грошы направа і налева.

— Каторы гэта?

— Службовая тайна.

Мы з Аннай шматзначна паглядзелі адно на аднаго. Ці ж варта танцаваць, калі ёсць магчымасць дазнацца што-небудзь пра людзей. Проста кажучы, мы пачулі фрагмент дэтэктыўнай аповесці.

Вярталіся назад больш блізкімі, тым больш што дарога была няроўная, сям-там тырчалі сасновыя карэнні, і я вёў Анну пад руку, стараючыся, каб яна не спатыкнулася ў цемры.

Мне здавалася, што шумяць зоркі, а не лес. Да самай шашы мы адчувалі духмяны водар травы, што ўжо сохла, соснаў. Пасля мы ўбачылі святло мястэчка на розных узроўнях, што было вельмі прыгожа, пачулі ціхае бульканне ручайкоў. На гэтую тэму я гаварыў яшчэ і ў мястэчку. Шкадаваў, што не ведаю якога-небудзь адпаведнага верша на памяць. Дэкламацыя ў такіх абставінах вельмі адпавядала б нашаму настрою.

Зрэшты, Анна таксама была схільна да філасофскіх разважанняў. Яна зноў гаварыла пра тое, што добра, калі людзі не вельмі блізка знаёмыя. Яны заўсёды выклікаюць да сябе цікаўнасць, не тое што ў сваім асяроддзі. У гэтым яна бачыла дадатковае значэнне курортнага жыцця. Я не пагадзіўся з ёю, але хутчэй для таго, каб падтрымаць размову.

Яна не дазволіла, каб я яе праводзіў аж да пансіяната.

Усю ноч і амаль да паўдня ішоў дождж. Людзі маркотна хадзілі з месца на месца, скардзіліся, не ведалі, што пачаць. Курортнікі не могуць пераносіць дрэннае надвор'е, адразу губляюцца, не ўмеюць быць самотнымі і самастойнымі.

Пасля снедання я лёг у ложак і, зрабіўшы выгляд, што думаю пра тое, як там дома, проста цешыўся дажджом. Нават адчыніў акно. Дождж мана-

тонна шумеў у лісці, і гэта супакойвала. Зрэшты, я чалавек з вёскі, дзяцінства і маладосць навучылі мяне быць сам-насам, бо нельга ж весці размову з каровамі ці з коньмі.

Да таго ж у мяне ёсць транзістар, я магу доўга слухаць музыку, дбаючы пра тое, каб радыё не грымела вельмі гучна.

Затым дождж раптам сціх, і адразу засвяціла сонца. Тут надвор'е мяняецца інакш, чым у нізінах. І людзі высыпалі на двор. Я пайшоў на шпацыр. Патокі ўзмацніліся, бурая вада, што бегла па каменным дне, нагадвала, дзякуючы гэтаму каменню, няправільна сплеценыя жаночыя косы.

Чырвонае і бронзавае лісце зіхацела свежасцю, быццам яго пакрылі лакам.

У драўляным абшырным павільёне мінеральнай вады было цесна, сюды сышліся ўсе, нават тыя, хто не п'е. Сышліся паслухаць музыку, паглядзець, паштурхацца.

Я ўбачыў Анну, але яна была не адна, стаяла ў групе нейкіх мужчын і жанчын, і я толькі ветліва пакланіўся. Стараўся не адыходзіць далёка ад гэтай групы, употай круціўся паблізу, спадзеючыся, што нарэшце мая прыгажуня падыдзе да мяне. Так яно нарэшце і сталася. У нейлонавай торбачцы акрамя конаўкі у яе ляжаў Ман.

— Вам сумна?

— Мне? Я часам люблю быць самотным у натоўпе.

— Дык, можа, я парушыла самотнасць?

— Не ўсе, хто парушае самотнасць, з'яўляюцца непажаданымі.

— Але тут стала душна.

— Можа, пойдзем вып'ем кавы?

У нас яшчэ было крыху часу да вячэры. А гадзіна вячэры ва ўсіх санаторыях і дамах адпачынку адна і тая ж. Мы знайшлі месца толькі ў садзіку пад каляровым грыбком. Праўда, крыху дакучаў холад, набліжэнне ночы.

Я пачаў расказваць пра Парыж, бо не так даўно ўважліва прачытаў аж дзве кніжкі пра гэты горад, дзе зіхацяць агні, дзе ўсе з ранку да вечара п'юць віно.

Відаць, расказваў я даволі жыва і так, быццам я там калісьці быў, бо Анна слухала з цікавасцю, задавала пытанні.

Тут я ўбачыў сваю застольную пару і, зрабіўшы выгляд, што захоплены сваім расказам, узяў Анну за руку, каб такім чынам надаць нашым адносінам характар інтымнасці. Хай ведаюць тупіцы, што мая самотнасць у доме адпачынку мае свае натуральныя прычыны.

Мы дамовіліся, што заўтра паедзем у суседнюю курортную мясцовасць.

Сустрэліся на аўтобусным прыпынку.

Дарога была цудоўная. Зрэшты, цягнулася яна нядоўга. Шаша змяілася серпанцінам паміж узгоркаў, над якімі вісеў лёгкі туман. Пасля яна апынулася над абрывам, унізе імкліва струменіў Попрад. Незнаёмы мужчына, што сядзеў перад намі, паведаміў сваёй суседцы:

— За Попрадам пачынаецца Славакія.

Я паглядзеў з яшчэ большай цікавасцю. На нашым баку былі пакрытыя лясамі горныя вяршыні, а злева ўнізе чыгунка і рэчка, за якой распасціраліся лугі, віднелася вёска, а можа, мястэчка з касцёлам. І хоць гэта была граніца, прынамсі, на вока, а ўсё выглядала аднолькава. Розніцу можна было выявіць далей, недзе ў глыбіні краіны. Я сказаў Анне, што так мірна выглядаюць, бадай, усе граніцы, а колькі разоў, менавіта за іх, хоць не канкрэтна за гэтыя, вяліся смяротныя баі. Я сам некалі ехаў на машыне праз сасновыя лясы на Пілу. І вось у адным месцы мой начальнік, гадоў на дзесяць старэйшы за мяне, загадаў спыніць машыну. Мы выйшлі з яе, і тады ён сказаў мне:

— Ці ведаеце вы, што ў гэтым месцы праходзіла старая польска-нямецкая граніца? Недзе тут загінуў мой брат.

Я не ведаў і разглядаў лес з напружанай увагай, спадзеючыся ўбачыць нешта асаблівае. І нічога не ўбачыў.

Гэта была сапраўдная горная мясцовасць: параскіданыя дамы адпачынку і санаторыі, што хаваліся

сярод дрэў на схілах. Дастаткова было сысці з шашы, якая тут, уласна кажучы, выконвала ролю адзінай вуліцы, каб пераканацца, што яна пнецца ўгару.

Мы з прыемнасцю блукалі каля дзвюх гадзін. Адзін раз я забыўся, сказаў «пані Зося» і быў здрузгатаны.

— Я Анна. Так, як Карэніна... Прынамсі, для вас.

Пасля гэтых слоў Зося, выбачце, Анна рассмяялася, можа, нават іранічна.

Вяртаючыся назад, я думаў: іранічна ці звычайна?

Зрэшты, глупства. Да канца курорта ўжо недалёка. Сышоўшы з аўтобуса, я прыгадаў свае словы: «Увагу ўсіх звяртала добрая пара: ён высокі, з ледзь прыкметнай сівізной на скронях, заўсёды з парасонам, яна з тварам багіні і шляхетнымі жэстамі. З таго, як яны звярталіся адно да аднаго, было відаць, што гэта не муж і жонка, што на нейкі час яны пакінулі сваё ўласнае жыццё, якое вялі асобна недзе ў розных месцах. І, можа, толькі кожны год сустракаюцца тут, зайздросна захоўваючы сваю таямніцу».

— Можа, зробім здымак, ён вельмі будзе пасаваць для справы аб разводзе.

Мае мары былі груба парушаны надакучлівым фатографам са старым сабакам.

Я хацеў рэзка адказаць, але Анна прапанову прыняла зычліва і, чакаючы, паглядзела на мяне.

Ну што ж, мы сталі на фоне каменнай, абвітай чырвоным плюшчам сцяны.

Анне не толькі падабалася пазіраваць з сабакам, але яшчэ ў дадатак накінула на плечы гуральскую куртку. Яна была вельмі задаволена сваёй выдумкай, хоць я сумняваўся, каб гэта сведчыла аб яе добрым гусце.

Манатоннасць і нуда, д'ябальская нуда. Аднак я лічу, што позна ўжо мяняць лад жыцця. Тры гадзіны вандраваў па лесе. Хоць сёння трэцяе кастрычніка, але я раздзеўся да пояса, хай дыхае скура. Пачаў шукаць грыбы, бо як толькі знойдзеш першы, дык вочы ўжо не хочуць адрывацца ад імху, ад

пажоўклага лісця, ад мастацкіх веераў мядзянай папараці.

Знайшоў багата маслякоў, некалькі падбярозавікаў і нават аднаго баравіка. У мястэчку аддаў іх кабеціне, якая з выгляду здалася мне хатняй гаспадыняй.

Горш трохі справа з грашыма. Ёсць іх крыху ў ашчаднай касе, але я не думаў, што трэба будзе частку затраціць. Ці астанецца на веласіпед для Стася?

Сонца выглядае ўсё радзей, яно нейкае вялае, затое часцей ідуць дажджы, але добра, што кароткатэрміновыя. Бывае холадна. Раніцай здараюцца замаразкі. Тады добра ісці па траве, што рыпіць пад нагамі. Мясцовасць з кожным днём становіцца ўсё больш тутэйшай. Раней мясцовых жыхароў амаль не было відаць, хоць яны церліся таксама каля нас, і дзякуючы ім мы маглі бестурботна адпачываць або лячыцца і выхваляцца тым, што мы іншыя.

Я нават не вельмі шкадаваў, што набліжаецца дзень ад'езду. Маючы гэта на ўвазе, я сказаў Анне:

— Сустрэнемся ўвечары?

— Бадай-што не.

Я не пытаўся чаму, але яна сама мне растлумачыла:

— Перад ад'ездам хацелася б закончыць Мана.

— Ну што ж... Тады я сёння спрабую пазваніць у Варшаву. Хай прышлюць па мяне машыну. Не хачу вяртацца цягніком, хочацца па дарозе назад паглядзець крыху Польшчу... І вас, Анна, забяру! — сказаў я, думаючы, а што тут такога: вытлумачыць адсутнасць машыны як-небудзь здолею.

Анна на нейкі момант разгубілася.

— Я не еду проста ў Варшаву. Хачу наведаць сястру ў Жэшаве.

Ну, поўны правал! Дык, значыць, яна таксама жыве ў Жэшаве. Які ж цесны гэты свет!

Зірнуў на сябе ў люстэрка. Нядрэнна загарэў, выглядаю проста здорава. Ну, сапраўдны джэнтльмен. І ў гэтую хвіліну са смуткам падумаў, што канчаецца курортнае жыццё. Тут я ўсё-такі нешта значу. А там зноў шэрасць.

Вырашыў вечарам паехаць на Паркавую гару, дзе знаходзіцца самы дарагі рэстаран з дансінгам. Сяду самотна за столік ля акна і буду задуменна глядзець на елкі, што цямнеюць за шыбамі, буду іранічна назіраць за танцуючымі парамі, асабліва на заможных жанчын, што апранаюцца дорага і безгустоўна, бо часцей за ўсё ў іх ёсць грошы, буду глядзець на гэтае падрыгванне і выкрутасы, якія на думку іх аўтараў павінны быць вельмі эфектнымі.

Хоць ля касы фунікулёра стаяла ўсяго некалькі асоб, адзін ягомасць захацеў заняць чаргу перад намі, бо яму, відаць, здалося, што вагончык вось-вось адправіцца.

Думаючы пра тое, як буду сядзець самотна за столікам, я рассеяна крыкнуў:

— Чаму вы прыкідваецеся хамам?

— Я? Прыкідваюся? — у голасе ад акенца касы гучала шчырае здзіўленне.

Я ўсё-такі дзівак: гэта ж быў сапраўдны хам. Іх, сапраўдных, у нас усюды хапае. Нават на курорце, дзе не трэба спяшацца і дзе наогул больш лагоднымі становяцца звычкі. Аднак на мяне націснулі нейкія дзве жанчыны, і мы вымусілі хама стаць у чаргу за мной. Ён яшчэ нешта бубніў, але я не адзываўся.

Я ўвайшоў у рэстаран у самы разгар танцаў. Знайшоў свабодны столік акурат каля акна. Думаючы, што б такое заказаць, каб было не вельмі дорага, я ўбачыў у нішы для аркестра Анну. Якую ізноў Анну? Зосю!

Яна ўпершыню была ў штанах. Хоць і не вельмі шчуплая, як і Карэніна, але танцавала яна энергічна, жвава. Пры гэтым усміхалася партнёру, твару якога я не бачыў.

Пакуль я ачомаўся, пакуль вырашыў непрыкметна выйсці, яна заўважыла мяне. Я пакланіўся, але холадна, абыякава.

Аркестр сціх. Людзі пачалі садзіцца за столікі. Яна з партнёрам вярнулася ў вялікую кампанію. Нешта яшчэ выпіла, а затым падышла да мяне. Была сярдзітая.

— Вы гаварылі з Варшавай?

— На жаль, давялося доўга чакаць, і я страціў цярпенне.

— Вы не просіце, каб я прысела?

— Але ж, калі ласка,— спахапіўся я, ветліва падсоўваючы ёй крэсла.— Як там Ман?

— Чорт з ім! — Відаць яна здорава падпіла.— Як там машына з Варшавы?

Значыць не верыла. Усё было страчана. Не валодаючы сабой, я крыкнуў:

— Маркіза! Каўнер шырокі, а пяты голыя.

Яна не засталася ў даўгу.

— Багаты Цімошка: сабака ды кошка.

І засмяялася. Смяялася доўга, з выклікам.

Ну і што? Я заказаў бутэльку гарэлкі і дзве кавы.

Калі мы пяты ці шосты раз падымалі кілішкі, яна запрапанавала выпіць на «ты».

— Зося!

— Каролік!

Пайшлі танцаваць. Яна была цяпер вялая, без бадзёрасці. А як вярталіся за столік, сказала:

— Калі ты сапраўды адзін у пакоі, дык пойдзем...

У паветры было ціха, святло ліхтароў залаціла галінкі блізкіх дрэў.

Мы ішлі хутка, спяшаліся. Але часам я адчуваў сябе недарэчна ад таго, што не выехаў дадому на дзень раней.

# ТЭЛЕВІЗАР



Калі людзі гавораць,— а гавораць, бадай, шчыра, бо ім таксама некалі гэта будзе важна,— што чалавек, якому пяцьдзесят гадоў, не мае права называць сябе старым, дык я іх ахвотна падтрымліваю, бо мне і самому так здаецца, асабліва калі ўзяць пад увагу, што я не магу адчапіцца ад розных спакус, аб якіх непрыемна адкрыцца ні жонцы, ні блізкім людзям, а часам і... сабе, бо гэта спакусы блазенства. Таму я прызнаю, што яны маюць рацыю, аднак гэта не дае мне задавальнення, бо ж не ўзрост і не сама спакуса сведчаць аб тым, што чалавек стары.

Пачуццё самотнасці — вось сведчанне, што чалавек стары.

З гэтым пачуццём я даўно і дарэмна змагаюся. І не магу знішчыць ці хоць бы пераадолець гэтага агіднага пачуцця. Розныя акалічнасці выклікаюць

гэтае пачуццё, у дачыненні да якога я, як правіла, бездапаможны.

Усё пачалося з таго, што маё мястэчка, у якім я нарадзіўся і дзе пад час выбуху вайны мне было дваццаць два гады, з'яўляецца не толькі для знаёмых, але і для жонкі, сына, дачок, зяцёў (гэта ўжо не так важна) абстрактным паняццем, пунктам на карце, пры ўмове, вядома, калі карта выключна падрабязная. І ўсё таму, што гэтае мястэчка — мая Мекка і Медзіна — апынулася за межамі краіны. Сам я па розных прычынах ад часу выбуху вайны не бачыў таго мястэчка, і думаю, што яно разам з людзьмі, вуліцамі, дамамі, касцёлам, царквою і ажно трыма сінагогамі існуе толькі ў маім сэрцы. Бо як жа можа быць інакш, калі два гады назад, сустрэўшыся з калегам па гімназіі, сардэчным калегам (на жаль, ён жыве ў горадзе, які даволі далёка ад майго мястэчка), мы ахвотна пачалі прыгадваць мінулае, і раптам паміж намі ўзнікла спрэчка аб тым, якія былі вочы ў Іры — карыя ці блакітныя. А трэба сказаць, што гэтай дзяўчынай мы абодва захапляліся, як школьнікі. Ён гаварыў, што карыя, а я даводзіў, што блакітныя. Дайшло да таго, што ў далейшай гутарцы мы закраналі толькі сучасныя пытанні, а пасля, каб пазбавіцца прыкрага ўражання, пачалі жартаваць, што на добры лад дык таго мястэчка ніколі і не было, што гэта толькі міфалогія, у дадатак вельмі пакутлівая, прынамсі, для мяне. Бо калі б было інакш, дык я дачакаўся б двух запар вольных дзён,— а гэта ў календары здараецца — завёў бы ўсю сям'ю — а мы займаем пяць пакояў і жывём даволі дружна,— дык значыць завёў бы ўсю сямейку на станцыю, паехалі б мы ў маё мястэчка, і я вадзіў бы ўсіх па вулічках і завулках. Глядзіце, гэта дом майго бацькі, якога ўжо няма, але дом стаіць (ён быў знішчаны, аб гэтым мне сказаў чалавек, якому я веру), а гэта — гімназія (яе разбурылі снарады), дзе я хапаў двойкі, але не заўсёды; тут жылі муж і жонка Маліноўскія, а ў гэтым доміку з садам, у якім вельмі рана спелі найлепшыя папяроўкі,— сям'я Клімашэўскіх, з думкай якіх заўсёды лічыліся мае родзічы, бо з чыёйнебудзь думкай трэба лічыцца. А з чыёй думкай можна лічыцца ў вялікім горадзе, калі людзі тут

працуюць у адным месцы, ядуць і гуляюць у другім, а фільмы і спектаклі глядзяць у трэцім. Хто за намі ўвесь час назірае, а значыць стварае аб нас думку не на аснове нейкай адной рысы ці аднаго моманту? Усе або ніхто. Хто нас асуджае ці хваліць? Тыя, ад каго мы залежым па службе, але гэта ацэнка афіцыйная, бюракратычная, пазбаўленая сантыменту, прадыктаваная бягучай тактыкай, якая, у сваю чаргу, вынікае з нашай тактыкі. Некаторыя лічаць, што так нават лепш, што можна хавацца, бо ўзаемаадносіны ў малым мястэчку бываюць нязносныя. Гэта, аднак, не датычыць майго мястэчка, прынамсі, па дзвюх прычынах. Па-першае, таму што я вельмі рана яго страціў, каб у ім расчаравацца, па-другое, я ўсё больш пераконваюся, што там было вельмі бестурботна, што людзі там былі добрыя, хоць і не пазбаўленыя некаторых заган. Але ім таксама дапамагала тое, што яны былі ў нас на вачах. Я не паспеў пазнаць, што такое самастойнасць, не зарабляў грошай, не ўмешваўся ў інтрыгі, у розную грызню. Таму ўсе мне здаваліся памяркоўнымі і... разважлівымі. І папраўдзе, там я нават на могільніку не адчуваў сябе чужым, надпісы на бляшаных таблічках і каменных плітах быццам звярталіся да мяне, быццам нябожчыкі працягвалі жыць. А ў гэтым вялікім горадзе мяне пахаваюць каля крыжоў з прозвішчамі, якія нічога мне не гавораць. Можа, і недарэчна, але з гэтай прычыны я баюся смерці. Мне здаецца, што там, дзе частка людзей асабіста знала адзін аднаго, а ўсіх астатніх толькі з выгляду, там лягчэй можна пагадзіцца з натуральным завяршэннем лёсу.

Мае дочкі і мой сын не маюць ніякіх адносін да мінулага, мой бацька загінуў у невядомым мне месцы свету, маці, яшчэ маладая, памерла у тым мястэчку, брат знаходзіцца ў Канадзе, а раней быў у Аўстраліі, і ён не адклікаецца, бо яму, здаецца, не шанцуе. (Ён, напэўна, пачуццёва звязаны з мястэчкам, таму я сабе ўяўляю, як атручана яго жыццё! Ёсць такія людзі — хто ведае, можа, заўсёды будуць такія, і гэта мяне крыху цешыць,— якія за межамі свае айчыны будуць толькі выгнаннікамі, таму што не ўмеюць наладзіць свайго жыцця!)

Мае дзеці лічаць сваё існаванне ад таго моманту, які захаваўся ў іх свядомасці. Калі б мы жылі ў тым мястэчку або калі б яно было дасягальным, іх свядомасць была б значна старэйшай, пачуццё адказнасці большым. А так яны, уласна кажучы, без радаслоўя, жывуць, як набяжыць, у іх няма ніякіх жывых традыцый, мая скромная асоба не з'яўляецца пацверджаннем гэтых традыцый, тут, як і ўсюды, патрэбны сведкі.

Яшчэ мой дзед — добра яго памятаю — кожную нядзельную раніцу, перш чым пайсці ў касцёл, склікаў усіх на агульны спеў малітвы. Я не любіў дзеда, не любіў малітваў, тым не менш гэта была сувязь, прыналежнасць да нечага. Мы ведалі, што яго бацька і яго дзед таксама склікалі іх на агульныя малітвы, і наша жыццё, нават самых малодшых, заўсёды брала пачатак у мінулым, хоць гэтае мінулае і было міфічным. Аб ім сведчыла шмат праяў і фактаў, шмат размоў, да якіх можна было прыслухоўвацца.

Я часам стараўся нават пераконваць сябе, што з гэтай прычыны магу быць смешным і незразумелым. Але што зробіш. Дробныя падзеі станавіліся важнымі. І іх трэба было доўга перажываць хоць бы таму, што дзеці яшчэ амаль не мелі асабістай мінуўшчыны. Можна было спадзявацца на будучыню, надаючы ёй розныя варыянты, з якіх пасля ніводзін не стане нечым сапраўдным. І не таму, што гэтыя варыянты былі вельмі смелыя. Дык не здзіўляйцеся, што нават тую нуду можна было любіць. А ўжо цішыні там было вой як шмат, гэта, бадай, адзіная рэч, якой было зашмат. Цішыню гэтую можна было адчуць, і як жа часта ёй падсвечваў вялікі бронзава-зіхоткі месяц! Часам мне самому здаецца, што важнейшым тут было не само мястэчка, а тое наіўнае пачуццё бестурботнасці.

Дык вось мы жывём, сустракаемся, спім у кватэры з пяці пакояў (мне ўсё-такі ўдалося забяспечыць, прынамсі, фізічную блізкасць усёй сям'і, але і гэты дом павінны разбурыць і на яго месцы ўзвесці высотны будынак). Амаль у кожнага з нас багата клопатаў, нашы справы і абавязкі забіраюць у нас шмат часу, днём усе мы ў розных месцах. Так павін-

на быць, і так было, бо гэта жыццё. Але дзе тыя агульныя справы, агульныя інтарэсы, агульныя тэмы, дзе тая сямейная традыцыя? Што мы, напрыклад, усе аднолькава любім у горадзе? Як на тое няшчасце горад брыдкі, лягчэй дамовіцца аб тым, чаго мы не любім. А ці ж гэта дае пачуццё агульнасці? Не, не дае.

Вядома, у нас нямала агульных спраў, але гэта хутчэй за ўсё справы практычнага жыцця. Яны, сын і яго жонка, дочкі і іх мужы як быццам не звязаны з гісторыяй, адарваны ад мінулага, канкрэтна ні да чаго не прыпісаны. Ну, цікавяцца часам Ягелонамі і нават Казімежам Вялікім, распытваюць пра часы Пілсудскага, але тут справа не ў нацыянальных традыцыях. У нас няма агульнай радаслоўнай абалонкі, агульнай мінуўшчыны.

Два гады назад я з радаснай надзеяй падтрымаў ініцыятыву сына, які прапанаваў купіць у растэрміноўку тэлевізар. Паставілі мы яго ў пакоі, які служыць невялікім салонам для ўсёй сям'і, і там пачалі збірацца. Я думаў, што, прагледзеўшы які-небудзь спектакль, мы будзем заўзята яго абмяркоўваць, што некаторыя рэчы, убачаныя на блакітным экране, будзем хваліць або ганіць. Але вось мы гасілі святло, папярэдне заняўшы крэслы, і пачыналася маўчанне. Часамі хто-небудзь рабіў заўвагу, затым канчалася перадача, і гледачы адразу разыходзіліся па сваіх пакоях, акуналіся ў сваё жыццё. У дадатак да ўсяго, у тэлевізары не было нічога пра маё мінулае, пра даваеннае жыццё, якое тымі ці іншымі рысамі было б падобным да майго жыцця. У тэлевізары нічога не было нават пра мой пяхотны полк, які ваяваў адважна, хоць і роспачна. Ніколі нічога не было пра лёс тых палякаў, да якіх і я належаў (з гэтай іменна прычыны я перастаў браць удзел у выплаце далейшых узносаў за тэлевізар. Сыну і дочкам з іх мужамі ён больш патрэбны, як мне).

Усе яны стараюцца, каб я не зразумеў, але я гэта адчуваю і перакананы, што ніхто з маладых не верыць у маё мінулае, а калі і верыць, дык ставіцца да яго абыякава. Яно, гэтае мінулае, не мае значэння, бо яго адзіны матэрыяльны след — бяспечная брытва з чорнай ручкай — прадмет, які не выклікае

ніякіх асацыяцый. (Аднойчы да нас зайшоў мой таварыш па службе ў арміі, адважны ў свой час паручнік, і я думаў, што вось пахвалюся, прадстаўлю яго сыну, шаравокай Басі, якая нам палюбілася, дочкам і іх мужам, што вось сядзем піць чай, я пастаўлю пасярэдзіне абруса вялікі графін парэчкавага віна свайго вырабу. З размовы мы даведаемся, што мой паручнік працуе дырэктарам важнай установы. Я буду цікавіцца яго поспехамі ў жыцці, а ён, у сваю чаргу, пачне ўгаворваць мяне, каб у будучым годзе я згадзіўся зрабіць разам з ім тыднёвае падарожжа па Польшчы на яго машыне. Я нічога яму не паабяцаю, бо наогул нікуды не езджу, але ў вачах прысутных заўважу мілае здзіўленне: вунь які ў мяне сябра мінулых год. Усе пачнуць уважліва слухаць нашы ўспаміны, і тады маёй асобе нешта перападзе з бляску таварыша па зброі. На жаль, мой паручнік быў пад мухай і нагадваў агента па аб'явах. Ён апынуўся ў нашым горадзе праездам, хацеў пазычыць у мяне сто злотых. Я маргаў яму, каб зрабіць гэта як-небудзь тайна, у прыхожым пакоі, але ён патрабаваў сотню зычным голасам. Мне ледзь удалося ад яго пазбавіцца. Я ўціснуў яму ў руку няшчасную сотню, відавочна, на вечныя часы, і некалькі дзён хадзіў прысаромлены, бо і грошы аддаў, і парэчкавага віна не было. Гэта мой бацька любіў рабіць віно з розных ягад, садавіны і нават з зерня. Ён ставіў яго ў крыштальных графінах. Найпрыгажэй пералівалася ўсімі колерамі вясёлкі віно з парэчак, калі здараліся якія-небудзь урачыстасці. Хто сёння здолее рабіць такое віно?)

Жонка прымае ўдзел у маім мінулым, але, мне здаецца, толькі фармальна. У яе ёсць свой родны горад, які стаіць над Віслай. У гэтым горадзе звоняць яшчэ даваенныя званы, у яе гімназіі нехта і цяпер вучыцца. І кожны раз, калі я ўспамінаю сваё мінулае, яна ўнутрана абураецца, хоць гэтага не паказвае, і нават рашуча пярэчыць. Але так яно ёсць — калі ўлічыць, што да гэтага часу забывае нават імя майго дзеда, не памятае, што дачка Клімашэўскіх, старэйшая дачка, бо ў Клімашэўскіх ажно тры дачкі — загінула ад самагубства. Гэта было ў альтанцы адваката Гіевіча. Яна кахала яго малодшага сына,

шчыра кажучы, лайдака і нягодніка. (Нашы дзеці гарнуліся больш да маці, бо яна можа пасведчыць сваё мінулае, можа яго паказаць ім і часам гэта робіць.)

Калі б я умеў, прынамсі, успамінаць вобразна, літаратурна, можа, тады здолеў бы намаляваць нейкую карціну свайго мінулага. Але я не ўмею! Адзін раз нават звярнуўся да пісьменніка з прапановай, што я бясплатна даю яму цікавую тэму, бо наш дырэктар некалі сказаў, што ў іх якраз не хапае тэм. Пісьменнік быў даволі ветлівы, але што з таго, калі ён далікатна адмовіўся ад прапановы і сказаў, што нават добры пісьменнік (а ён такім сябе не лічыць) павінен быў бы пра такое мястэчка напісаць цэлы том, каб чаго-небудзь дасягнуць. І яго самыя лепшыя намеры маглі б не ажыццявіцца, бо калі б ён сеў пісаць, дык, відавочна, яго захапіла б гэтая пісаніна, сам працэс пісання, і ён стварыў бы зусім не тое, што хацеў, усё перайначыў бы. Зрэшты, можа гэта і праўда. Я сам іншы раз на сходах бяру слова і, скончыўшы прамову, заўсёды вяртаюся на месца з гадкім перакананнем, што сказаў зусім не тое.

Ды што там гаварыць пра пісьменнікаў. Хай сабе п'юць гарэлку і пакутуюць ад таго, што ў іх не хапае тэм. У мяне няма мінулага, няма гісторыі. Усё зводзіцца да гэтага!

Праўда, мы працягваем іншы раз сядзець перад тэлевізарам, глядзім тую ці іншую перадачу, адчуваем, перажываем яе, але кожны па-свойму, і рэдка калі ўсе, усёй сям'ёй, як гэта было спачатку. Бо і ў вячэрнія гадзіны некаторыя з нас бываюць у горадзе. Тым больш што, на думку дзяцей, па тэлевізары мала перадаюць сучаснай музыкі! Як для каго!

Зрэшты, я і сам вечарамі іду ў горад. Гуляю са знаёмымі ў рэмі, зразумела на грошы. Гэта невялікія грошы, яны не могуць зруйнаваць нашых асабістых бюджэтаў. Гуляем засяроджана, моўчкі. Мы не ведаем біяграфій адзін аднаго. Калі пра што-небудзь пытаемся, дык рассеяна («Ой, выбачайце, калі ласка, мне здалося, што вы родам з Радама».) І толькі адно ясна: ніхто не хоча прайграць.

Гэта такая сувязь.

# ПАН ГРАЦЫЯН І ІНШЫЯ



Летам цэнтр горада, дзе я жыву, падобны на вялікую залу кінатэатра, у якой, не праветрываючы, круцяць дзесяты падрад сеанс. Нічога цікавага. Вядома, для пачатку і гэта няблага: адзін фельетаніст, адзін чырванатвары гаспадар галантарэйнай лаўкі, адзін мастак-пейзажыст, пра якога вось ужо дзесяць гадоў як ніхто не напісаў ніводнага добрага слова.

Мы п'ём спакваля, як бы не ў ахвотку, каб пасядзець даўжэй.

Праз некаторы час мне робіцца сумна — хочацца іншай кампаніі. Там заўсёды ёсць агульныя тэмы для гутарак, там умеюць заняцца, чым хто хоча. А тут Фабіянскі збірае вялікую даніну, раздаючы заказы на рэкламныя стэнды. Пані Балюціна, бадай-што, зноў пры надзеі. І, здаецца, сама не знае вінаватага. А ці ведаеце вы, што без засцежак артыкула

77 нельга канкурыраваць з імпартнымі курткамі для падлеткаў? Мне хочацца закрычаць: «Годзе! Годзе! Што мне да куртак вашых! Вы не ведалі Грацыяна Гінтаўта. Яго гасціннасці. А якія ў яго былі каўбасы! Вэнджаныя на ядлоўцы, гадамі вяленыя на кроквах! Тоненькія скрылікі, прыгожа раскладзеныя на фаянсавых талерачках,— аж свяціліся, кладзеш такі лісцік у рот — аб'ядзенне! Смаката!»

Я мог бы спыніцца на ўсіх дэталях, але слухачы мае родам з таго самага горада — мяне перапынялі б рознымі ідыёцкімі заўвагамі, пытаннямі, ікаўкай, залётамі да жанчын за суседнімі столікамі. Які ж тут кантакт!

І пакуль не позна, пакуль магазіны не зачынены, я карыстаюся любой нагодай, каб знікнуць.

Купляю некалькі бляшанак рыбных кансерваў, некалькі пляшак гарэлкі. Усё складваецца цудоўна, у пакоі пуста, нікога няма, вокны выходзяць на поўнач, і таму крыху прахладна. Жонка паехала адпачываць, дачка пайшла ў адведкі да хворай сяброўкі, як мне здаецца — пакінутай мужам.

Дома, выпіўшы грузінскага каньяку, я падумаў:

«Сучаснасць нішчыць мяне. Будучыня, кожны яе новы дзень, дадае сівізны. Дзе ж яшчэ можна пажыць у ахвоту? Дзе можна з прыемнасцю прабавіць некалькі гадзін, у ідэальнай кампаніі, з карысцю для душы? Канечне, у мінулым, каб вы здаровы былі,— у мінулым!»

— За нашу нязбытную дружбу, пане Грацыяне!

Пан Грацыян Гінтаўт быў чалавек, можна сказаць, багаты і хлебасольны. Можа, нават больш хлебасольны, як багаты. Бо хто толькі ў яго не гасцяваў. Ахвотнікаў выпіць і закусіць на дурніцу заўсёды хапала.

Але бывалі ў яго і людзі, вартыя самай высокай і шчырай павагі. Бывала адна ўдавічка, спадчынніца графскіх жрэбіяў, жанчынка, я б вам сказаў, з даволі-такі абгрунтаванымі прэтэнзіямі, разумная, начытаная. Бываў пан стараста, ці больш правільна — пан экс-стараста, бо ўжо на той час вайсковы асаднік, якому тут далі фальварак Малінаўку, колішні царскі палкоўнік з вялікімі заслугамі ў ліквідацыі польскіх паўстанцаў.

Мяне заўсёды і больш за ўсё здзіўляла прысутнасць Блока. Даруйце, мне здаецца, я пачынаю парушаць храналагічную паслядоўнасць ці, можа, нават які іншы агульнапрыняты парадак расказу. Але з якое такое рацыі я павінен чапляцца за храналогію, я перадаю падзеі так, як гэта адпавядае маім пачуццям, душэўнаму настрою, а ў душы маёй часам парадак бывае зусім іншы. Мусіць, у той вечар Блок прыйшоў пазней звычайнага, магчыма, што спачатку нават не ён сам, а толькі прыйшлі яго вершы, ці яшчэ больш правільна — асобныя строфы, радкі з яго вершаў, якія я спрабаваў прачытаць памянёным у пачатку шаноўным сабутэльнікам. А цяпер я павінен пачаць з Блока, бо інакш я не магу,— ні складу не будзе, ні ладу. Дык вось, значыцца, Блок! Аляксандр Аляксандравіч. Так, так, той самы, славуты паэт. Хочаце верце, хочаце не,— насуперак афіцыйнай версіі ён не памёр у 1921 годзе, а эмігрыраваў. І пасля зрабіўся ўласнікам невялікага, местачковых маштабаў, бровара, якому ён даў дзіўную, як на тутэйшыя моўныя традыцыі, назву — «Пегас», а сам, калі яго часам пыталі пра паэта Блока,— а здаралася гэта не вельмі часта, бо і хто тут сапраўды мог цікавіцца той вашай паэзіяй,— гаварыў, што Блок — яго стрыечны брат, і пры гэтым шматзначна падміргваў мне. Пры бровары ён трымаў карчомку, дзе ахвотна адкрываў невялікі крэдыт кожнаму, хто любіў прыкладвацца да куфелька, аднак не выклікаў даверу ў сэнсе плацежаздольнасці. Але, як той казаў, абы каб чалавек людскі!

Быў ён прыгожы, плячысты, рослы. Тварам крыху ўжо расплыўся, але затое вочы — зелянкавыя, замглёныя зварушліва-жаласнай меланхоліяй, парадзелыя валасы над высокім ілбом — вяночкам. Хрыплаватым голасам ён дэкламуе маё любімае:

В моей душе лежит сокровище,
И ключ поручен только мне.
Ты, право, пьяное чудовище,
Я знаю: истина в вине...

А я яму ў такт:

Там, на радзіме, куды не вярнуся,
Возера ў лесе вялікае, лодкі,
Хмарак дзівосных на небе чародкі
Я ўспамінаю, калі азірнуся...

— Сам напісаў?

— Дзе мне! Але гэтыя радкі, ды яшчэ калі пад чарчыну, яны мяне вяртаюць у родныя мясціны. Ведаеш, там у маіх стрыечных былі свае хутары.

Калі гэтыя хутары яшчэ стаяць, ніхто, напэўна, ужо не памятае, чые яны былі да вайны. Хутары як хутары. Але затое недалёка ад іх было возера ў казённым лесе. Невялікае, яно, аднак, цяпер што ні год, то ўсё робіцца большым і большым і ўжо можа прыняць у сябе ўсё маё мінулае разам са мной, адзіным, хто памятае яго з кожным годам лепш і лепш.

За возерам, за лесам былі валоданні пана Грацыяна Гінтаўта. Пазнаёміўся я з ім, нягледзячы на нашу вялікую розніцу ў гадах, у мястэчку, дзе мой бацька меў дом. Адзін раз у год у мястэчку спраўлялі на тры дні свята з саракагадзінным набажэнствам у памяць і ў гонар заступніцы парафіяльнага касцёла св. Тэклі.

Не ўсім рупела маліцца ў барочным храме, залачоная разьба ў якім настройвала на зычлівасць да ўсяго свету, а мардаценькія анёлкі вельмі нагадвалі амураў. Проста гэта былі зборышчы навакольных жыхароў, якім трэба было хоць раз у год з'ехацца ўсім разам, на агульны фэст. Пан Грацыян рабіў нам нічым не заслужаны гонар, пакідаючы на нашым падворку сваю жоўтую брычку на рысорах, у якую ён запрагаў харошую пару. Яго жонка, прыгажуня пані Беата, рабіла ўражанне гераіні вельмі складанага, насычанага эмоцыямі рамана. Я любіў глядзець на яе правільны твар з вялікімі глыбокімі вачыма. Як бы нават вільготнымі. Лёгкі, прыемны пах тонкіх духоў, саламяны капялюшык з шырокай блакітнай стужкай — усё гэта разам так чаравала, захапляла, што я часам міжволі шаптаў:

Зорка! Зорка, з небасхіла
Ты зляцела.
І якая ў табе сіла
Зазіхцела?

Спачатку я бачыў яе, калі быў гімназістам, потым ужо студэнтам. І заўсёды яна мне падабалася. Не тое, каб я закахаўся, не. Яна для мяне ўвасабля-

ла прыгажосць свету, яго дасканаласць; тутэйшы свет наш, можа, нават быў у іншых адносінах нікчэмны, бедны, затое прывабны сваім ладам, настроем. Мяне ён задавальняў цалкам. Гэта няпраўда, што чалавек любіць раскошныя сонечныя краявіды. Можна да смерці любіць гасцінец з трыпутнікам абапал каляін, алешыны на варце прамоклага лугу або коней, якія адвячоркам пасуцца на ўзлессі. Мне здаецца, яны заўсёды там пасвіліся, коні. Крыжастыя, вараныя. Цішыня адвячорка, павільгатнелая трава, паволі меркне пазалота позніх аўсоў, такая спакайнота — і ў гэтай лагодзе толькі конскае фырканне; усё абуджае давер і поўную бяспеку. Але потым, на жаль, на вялікі мой жаль,— вылупліваецца ў чалавеку прага да кантрасту, а значыць, вы ўяўляеце, з якой радасцю я ішоў да Грацыянавых, бо колькі ж можна спажываць цішу, аўсы, драчоў.

Прыёмы ў паноў Грацыянавых, пераважна на хаду імправізаваныя,— наогул ніколі нічога загадзя не абвяшчалася,— звычайна пачыналіся ў салоне, даволі хаатычна застаўленым крэсламі і этажэркамі. Потым мы з лямпамі перабіраліся ў сад, у альтанку, што хавалася пад арабінамі. Шчыра кажучы, пан Грацыян не шмат часу ахвяраваў гаспадарцы, ён не быў матэрыялістам. А з таго — і сад быў прызапушчаны, не ўсе дрэвы давалі плады, альтанка трымалася на падгнілых слупках, і, калі б не арабіны, не сукаватае голле, то хто яго ведае — ці ўтрымалася б. Праз арабінавыя шаты свяціліся ясныя зоркі. Вось як цяпер бачу — жнівеньскія зоркі, Вялікі Воз на паўнеба, ліхтары кантрабандыстаў, жылі ж мы паблізу ад граніцы. Пра іх я ведаў толькі па чутках. Бо вадзіліся яны недзе да 1930 года.

У альтанку перабіраліся толькі самыя-самыя, рэшта кампаніі разыходзілася, раз'язджалася раней, была занадта рассудлівая, каб траціць ночы марна. Колькі ж гэта чалавек магла ўмясціць тая альтанка? Нешта з шэсць, калі не восем. Абапал круглага стала, патрэсканаю ножкай якога быў пень некалі спілаванага дрэва, здаецца, ліпы, стаялі вузюткія лавачкі на ўкапаных слупках.

Сама Грацыянава, пані Беата, не любіла тых перасяленняў, заўсёды ўгаворвала нас, каб мы такса-

ма ішлі спаць,— але дзе ж ты ўгаворыш,— і праз некаторы час знікала. Праводзіў яе Леан, але неўзабаве вяртаўся да кампаніі, каб, крый божа, не падумалі. Каб не падумалі? Чаго не падумалі? Ніхто ж бо не сумняваўся ў вернасці пані Беаты. Леан заўсёды адседжваў з намі да канца, хаця сам і не піў. Можа, яго больш турбавала, каб начное бязладдзе не вылілася ў якую авантуру, можа, проста хацеў вызваліць пані Беату ад лішніх клопатаў пра нас. Як бы стаяў на варце яе спакойнага сну. А ці спакойна яна спала, хто ж гэта вам скажа. У кожным, бадай, разе ўсе мы, за выключэннем хіба што самога пана Грацыяна, добра ведалі, што якраз на ёй ляжала заняпалая гаспадарка.

— Зноў гэтыя ўспаміны! — нецярпліва перапыняе пані Беата.— Лепш я вам нешта спяю!

— Панечка мая, Беатачка даражэнькая, каб не паважаў я вашага мужа, то закахаўся б у вас да смерці.— Я цалую яе вузкую руку, доўгія тонкія пальцы, кожны асобна.— А што вы паспяваеце?

Але аказваецца, што якраз у гэты вечар пані Беата не ў голасе, ахрыпла. І значыць, мы павінны неяк дыпламатычна выйсці з гэтай далікатнай сітуацыі. Леан, магістр паланістыкі, які вынес столькі пакут, раней чым загінуў пад Леніна ў 1943 годзе, кладзе на дыск патэфона пласцінку, доўга накручвае, і нарэшце мы чуем, як пані Беата выводзіць голасам папулярнай у той час Ганкі Ардануўны:

Любоў усё чыста прабачыць,
Смутак аберне на смех,
Любоў так прыгожа тлумачыць
Здрады, падманы і грэх...

Я, мусіць, п'яным-п'яны, бо нічога не саромеюся.

— Пані Беата, але ж гэта няпраўда! Вы ж прынялі атруты, каб не дараваць пану Грацыяну яго мімалётнай страсці.

— Бо гэта было ў хвіліну маёй найбольшай слабасці. Сама сябе не памятала. І калі б я вытрымала, то сёння была б сівая жанчына. Грацыян — цудоўны муж. Я пайшла за яго насуперак бацькам.

— А тым часам вас да смерці кахаў пан Леан! — я ківаю на Леана, які стаіць каля патэфона.— Ці ж

гэта не магло падтрымаць ваш дух? Брунет з профілем, як на залатой манеце. Ураўнаважаны...

— Але тады я яго толькі цаніла і паважала... Але... Шшш!

Аказваецца, да нашай гутаркі пачынае прыслухоўвацца сам пан Грацыян. Сёння ён нейкі на дзіва паблажлівы. Больш таго — дабрахотлівы і сардэчны.

— Шкада, Беатачка, што не зацікавілася панам Леанам. Адплаціла б мне ласкай за ласку. А так пакінула мяне з дакорамі сумлення да канца дзён маіх.

(«Заўсёды табе не хапала здаровага глузду, мой ты пане Грацыяне»,— падумаў я сам сабе.

— Ах вы, мужчыны,— шкадуе пані Беата.— Калі б вас дакарала сумленне за жывых, хто б гэта калі труціўся!

І пані Беата зноў спявае голасам Ганкі Ардануўны, якая чаруе мяне і цяпер, праз столькі гадоў:

Любоў усё чыста прабачыць,
Смутак аберне на смех,
Любоў так прыгожа тлумачыць
Здрады, падманы і грэх...

Але ж не будзеш слухаць гэта бясконца. Я ўголас:

— Аляксандр Аляксандравіч, вып'ем! — гэта Блоку. Наліваю ў дзве шклянкі і кажу: — Ёсць людзі, якія не ўмеюць жыць на чужыне. Не патрапляюць неяк. Выбіваюцца з каляіны...

— Бо іх распірае змест, якога яны ніколі ў сабе не мелі! — іранізуе Блок.

— Можа, я сёе-тое і перабольшваю, але гэта зусім не мяняе справы.

Блок, як бы ўжо набыўшыся, знікае.

— Вып'ем, пані Беата! — прашу я, на дзіва хутка забываючы пра Блока.

— Не люблю і ніколі не любіла! — бароніцца пані Беата.

— Ну, дык вып'ем, пані Грацыяне!

Гэтага не трэба ўгаворваць. Чакаем толькі зручнай хвіліны, калі выйдзе пані Беата. Бо чаму мы павінны дапякаць прыкрасцю гэтай чароўнай, гэтай цудоўнай жанчыне. Тым болей у такім мілым саламяным капялюшыку з блакітнай стужкай. Яе трэба

шкадаваць, захапляцца ёю, яна ж атруцілася, і, можа, ужо колькі гадоў як ніхто не прыходзіць на яе магілку. Бо хіба ж каму закарціць дагледзець тую магілку,— пра гэта я яшчэ скажу,— калі ўжо і пан Грацыян сама мала гадоў пятнаццаць як не жыве. І ніхто з нас пасля вайны не быў у тых мясцінах, ад якіх застаўся толькі гэты просты, няхітры верш:

Там, на радзіме, куды не вярнуся,
Возера ў лесе вялікае, лодкі,
Хмарак дзівосных на небе чародкі
Я ўспамінаю, калі азірнуся...

— Ой, мусіць, вам ужо хопіць,— лагодна ўгаворвае Беата, якая зноў апынулася насупраць мяне.

— Пані Беата, дарагая, калі я перастану піць, дык можа стацца, што той радзімы няма і ніколі не было. Што і вас таксама не было! А я не згодзен!

А ўсё ж было. Леан захапляўся прычоскай пані Беаты, калі мы ішлі на возера. Гарэзлівы ветрык кудлаціў яе каштанавыя валасы, капрызна перакідаў пасмачкі на лоб. Часам Леан аж енчыў:

— Калі б я быў паэтам, я б напісаў толькі адзін томік вершаў. Гэта былі б вершы пра Беату.

— Беата гучыць, як Беатрычэ! — кпіў я, каб крыху астудзіць занадта разгарачанага дзецюка, які атрымаў першую ў сваім жыцці пасаду — настаўніка гімназіі, а ў мястэчку гэта не абы-што.

Пані Беата была жанчына крыху самотнай натуры. Не тое, можа, каб самотная, але заўсёды яна была як бы крыху адсутная. Не бачылі мы ў ёй ні занадта вялікіх, ні частых перамен. Заўсёды ў саламяным капелюшы з блакітнай стужкай. Да таго ж ён у свой час выйшаў з моды. У гаспадарцы несумненна практычная і рашучая, у нашай кампаніі пані Беата была мілая, ласкавая, лагодная — і гэта нягледзячы на тое, што сярод нас траплялiся і круцялі, што тут часам чуліся даволі сакавітыя, а то і проста непрыстойныя словы. У глыбіні душы я не сумняваюся — не любіла яна гэтых п'яных зборышчаў, але да ўсіх гасцей ставілася з увагай і павагай. Калі і пакідала, дык з усмешкай прабачэння.

У дальнім куточку саду, што каля гасцінца,— гэта ўжо не быў сад у поўным сэнсе слова, а на гас-

цінец выходзіла алея са старых бярэзін,— была там выкладзеная з дзёрну лавачка. Можа, гэта лавачка — канечне, яе паднаўлялі — была тут не адзін дзесятак гадоў. У вольныя ад хатніх клопатаў хвіліны, якія прыпадалі часцей за ўсё на будныя адвячоркі, часам, бывала, і раніцай, пані Беата з кніжкай у руцэ любіла пасядзець на гэтай лавачцы. Можа, тут яе бабуля развітвалася з каханым, калі ён ішоў на паўстанне. Можа, і не толькі бабуля сустракалася каля гэтай лавачкі. Можа, нават сама пані Беата, перш чым пазнаёмілася з панам Грацыянам... Але ці варта пра гэта? Відаць, некалісь тут была каменная лавачка, бо яшчэ і цяпер пасярэдзіне дзярніны віднеўся адшліфаваны людскімі рукамі абломак каменя. Ну, гэта лавачка і алея былі куточкам светлых успамінаў, сапраўдных і выдуманых.

Пан Грацыян, хоць ён быў са старога, мяркуючы па прозвішчы, роду, стаў уласнікам невялікага маёнтка дзякуючы жаніцьбе на пані Беацы. Ён быў са шматлікіх, даўно змізарнелых Гінтаўтаў; вядома, у адпаведны перыяд жыцця — маладзенькі, прыгожы, з чароўнымі вусікамі,— ён уцёк з тэрыторыі, што была пад Расіяй, у Галіцыю, дзе было непараўнальна больш свабоды.

Вярнуўся ў родныя мясціны легіянерам, салдатам-пераможцам. Яго неабыякавасць да чаркі вынікала, бадай-што, не з таго што ён нібыта быў слімак, не, хутчэй, напачатку, з лішку жыццёвых сіл здаровага мужчыны, які дасягнуў свайго і не ведаў, які сэнс, які кірунак надаць далейшаму жыццю. Вайна, скончыўшыся, звычайна многіх мужчын як бы пазбаўляе ўлады, забірае ў іх нешта са здольнасці весці звычайнае карыснае жыццё. Грацыян не быў сентыментальны, хаця, калі піў, ніколі не забываў сказаць свой дзіўны тост, падобны да свецкай хаўтурнай:

— За тых таварышаў, што зямельку парань! За тых, найлепшых нашых!

Ён не любіў лавачку, не пераносіў нават напамінку пра яе — з ёю ў яго былі звязаны сумныя падзеі: зрывы, нездзяйсненні, развітанні, марныя чаканні. Ён нават аднаго разу хацеў перакапаць увесь дзё-

ран, зраўняць лавачку з зямлёй. І ўсё бегаў, усё лапатаў, як гусак, размахваючы то кіркай, то рыдлёўкай, лапатаў, як некалькі гусакоў:

— У нас ёсць Польшча, якая яна ёсць, і ніякіх ёй слёз не трэба!

Першы і апошні раз бачыў я пані Беату разгневаную:

— Чуеш? Не дапушчу! Ніколі! Гэта лаўка — сведка жыцця некалькіх пакаленняў, яна — сімвал!

— Але ж гэта сімвал няшчасця. Хопіць няшчасця!

— Маўчы! Нічога ты не разумееш!

Аж мне зрабілася горка, што я выпадкова стаў сведкам іх спрэчкі. Мне здаецца таксама, што пана Грацыяна, відаць, злавалі шпацыры пані Беаты па бярозавай алеі — усяго некалькі сотняў крокаў, а як яны аддалялі. Зразумела, я прыняў бок пані Беаты, што, канечне, не лепшым чынам сведчыла пра мой практычны розум. Яшчэ горш — я на некаторы час страціў павагу і прыхільнасць пана Грацыяна, калі ён даведаўся, што гэта я быў той самы саматужны паэт, які склаў сентыментальную песеньку пра лаўку. У падарунак на імяніны пані Беаты.

Пані Беата сама падабрала мелодыю, і, мусіць, не раз, калі была ўпэўненая, што ніхто яе не чуе, садзілася да карычневага лакіраванага піяніна, якое шмат гадоў не бачыла наладчыка, і спявала маю песеньку. Я памятаю словы. Будзь што будзе, я працытую іх, бо, што зробіш, мне яны чамусьці зноў вельмі падабаюцца.

У Польшчы ёсць лаўкі
пад шатамі клёна,
а зоркі-мігаўкі
свіцяцца замглёна.
У апусцелых алеях,
дзе жальба, надзея...

Прабабкі чакалі
каханых з дарогі,
з вандровак далёкіх,
і сохлі з трывогі.
У апусцелых алеях,
дзе жальба, надзея...

Прытулак дзярновы,
прытулак каменны —

гучалі тут словы
размоў патаемных.
У апусцелых алеях,
дзе жальба, надзея...

І маткі чакалі
сыноў тут з паходаў,
дні шчасця мінаді
і ночы нягодаў.
У апусцелых алеях,
дзе жальба, надзея...

Але і былога,
мінулага цені,
любоў і трывога,
мае летуценні —
усе праляцелі
спадзяванні, надзеі...

Пані Беату знайшлі мёртвую ў альтанцы. Аказалася, смерць не была для яе нечаканасцю — яна напісала апошнюю волю. Яна заклінала, каб яе пахавалі пад гэтай травяной лавачкай. Яна, няшчасная, не забыла і мяне... Дасталася мне бранзалетка з двух тонка, па-майстэрску выкананых залатых вужоў, якія ў нашых мясцінах з даўніх часоў лічыліся хатнімі талісманамі. (Бранзалетку гэту ў вайну я памяняў на бульбу.)

Затое пані Беата зусім абышла ўвагай Леана, і гэта выклікала ў ім вялікае шкадаванне. Няўжо да мяне ў яе было больш ласкі і сімпатыі, чым да Леана? О, калі б я гэта ведаў раней...

Пакуль пані Беата ляжыць мёртвая ў альтанцы пад арабінамі, перш чым прыедзе доктар, каб афіцыйна засведчыць яе смерць, можна спакойна (які тут спакой?) пагаварыць з панам Грацыянам. Як мужчына з мужчынам.

Пан Грацыян гаворыць:

— У мужчын ёсць маладосць. З ёю звязана самае важнае ў жыцці. У Польшчы яе праводзяць на вайне, у турмах або ў вандраваннях. І гэта застаецца, не забываецца да смерці. Як святое прычасце. Усё астатняе жыццё — толькі зноска да маладосці. А жыццё жанчыны набірае поўнага сэнсу і значэння, калі яна робіцца маці. У мужчын жыццё канчаецца каля трыццаці. Бо пасля або нічога няма,

або суцэльная прэснасць. У жанчыны жыццё толькі тады і пачынаецца, калі яна робіцца маці і пачынае прымаць удзел у жыцці сваіх сыноў і дачок...

— Гэта містыка, містыка цела, пане Грацыяне.

— Не, чыстая праўда. Прашу даравацъ мне за параўнанне, але вазьміце для прыкладу некаторых насякомых. Бывае, што пасля вяселля самка проста з'ядае самца. Для нас рэшта жыцця — толькі дадатак да маладосці, для іх маладосць — прага, мара, а сталасць — уступ да жыцця.

Пан Леан як былы легіянер меў нада мной перавагу ў жыццёвай дасведчанасці. Я саступаў яму, хоць ён і не пераконваў мяне. Затое цяпер, у гэты вечар, а можа, ужо і раніцай, а можа, і апалудні, я ведаю, што я блізкі да нейкай сваёй праўды. Усе свае пазнейшыя амбіцыі і абавязкі мы разглядаем як нешта часовае, што, хай і не даючы асалоды і задавальнення, замяняе маладосць. І не іх, не жанчын датычыцца конрадаўская* «смуга ценю». Яна датычыцца нас, мужчын. Мужчына робіцца бацькам, але часам нават на аліменты яго нестае. Выродлівыя маці — і цяпер хутчэй выключэнне або ахвяра нядобрых абставін.

Доўга нікога няма. Мне ўжо і засвярбела, паціху юрзаюся, такое адчуванне, нібыта ў мяне сівая барада. Гляджу ў люстэрка, але гэта толькі таму, што я не паголены. Сяджу адзін за сталом. З-за вокнаў чуваць трамваі. Як непрыемна яны трызвоняць. У гарадах не бывае сапраўдных начэй! У гарадах? Ужо, можа, нідзе няма сапраўднай ночы. Цяпер у кожнага свой шум, многія носяць яго з сабою. Радыёпрыёмнікі на транзістарах. Я, каб не чуць суседзяў, уключаю электралюкс. Каштуе гэта кучу грошай — але што зробіш! А тады, калісьці, у кожнага была свая цішыня. Верхнія пакойчыкі Гінтаўтаў заўсёды былі гатовы прыняць гасцей. Адчыніш, бывала, акно, і цемра нібы расколваецца аб блакітны абажур лямпы. Сядзі хоць да світання, слухай галасы (а можа, гэта былі пахі?) з мокрага лугу за садам. Галасы, якія яшчэ больш выдзялялі цішыню.

---

* Конрад, Джозеф (Юзаф Тэадар Конрад Кажанёўскі — 1857—1924) — англійскі пісьменнік польскага паходжання.

Пах-ціша! Ціша-пах! Часам нават здавалася, што чуеш, як падаюць znічкі. Можа, якраз таму так цягнула на вершы. Было іх, зрэшты, менш чым цяпер, але не было ад паэзіі ніякай дакукі. Заўсёды больш горнешся да таго, чаго ў цябе мала. На талерцы ляжалі, у залежнасці ад месяца, розныя фрукты. І налітая сокам залаціста-жоўтая папяроўка была вартая больш, чым цэлы трактат пра розныя смакі. Румяныя асеннія яблыкі ў святле лямпы давалі такую кампазіцыю, якое не заменяць ніякія самыя дасканалыя ў мастацкім выкананні нацюрморты з самым дакладным, самым вытанчаным светлаценем. Тры цёмна-карычневыя кальвільскія яблыкі, схрупаныя табою без лішняга спеху, як бы прадметна, асязальна прыносілі моцны, здаровы сон — так ніколі не адпачнеш ні пры якіх люмінісцэнтных лямпах! У пана Грацыяна дык і пахмелле — а праявы яго былі жудасныя, месца сабе чалавек не знаходзіў нават на даволі шырокім дворыку,— праходзіла пасля тых кальвіляў. Каб быць бліжэй да ісціны, скажам: пасля пэўнай колькасці хатняга соку з кальвіляў або з чырвоных парэчак...

— Можа, я і не атруцілася б...— вяртаецца ў пакой пані Беата.— Ах, напэўна, не атруцілася б, калі б не два фатальныя супадзенні. Як жахліва,— заплакала яна,— страціць веру ў мужа, якога не любілі мае бацькі, і пры гэтым не мець дзяцей, жыццём якіх можна было б неяк жыць...

Зноў нікога няма. Можа, задрамалі? Але чаму тады на стале, каля адчыненых кансерваў, стаяць аж тры налітыя па беражкі шклянкі? Радасна, з верай у будучыню, я смяюся:

— Нічога кепскага не здарылася, нават калі ўсе паўцякалі, па-англійску, мне больш застанецца. Бо жыццё — гэта вам не адзін вечар, не адзін дзень.

Так яно так, але на душы ўсё роўна прыкра. Адчуванне такое, нібы цябе нехта ўзяў і атрос, як папяросіну ў вялізную брудную попельніцу. Хвілінàчку цярпення, зараз усё паправіцца.

— Леан, слухай, Леан, мы — няўдальцы!

— Мы ўдаліся, але жыццё, у якім апынуліся, яно не для нас.

— Не ведаю, ці мае сэнс тое, што ты гаворыш.

Але давай не будзем пра гэта! Лепш вып'ем! Заснём моцным сном у Гінтаўтаў... О, якое прыемнае будзе абуджэнне! Там заўсёды пахне яблыкамі! І сушанымі грыбамі.

«Але, перш чым гэта будзе, Ардануўна, паспявайце! Ардануўна, спявай!» — крычу я, як той сяржант, што выганяў нашу роту з казармы на муштроўку. У яго гэта таксама выходзіла неяк жорсткачула: «Рота, песню!» Сам служылы салдат, ён ведаў, у якой краіне мы жывём, і хацеў зрабіць з нас салдат, якія ў выпадку чаго паложаць жыццё хоць з якім-небудзь сэнсам. І шчыра радаваўся, калі песня нам удавалася. Не перабіваў нас свісткамі, нават калі набліжаўся непрыяцельскі самалёт і трэба было маланкава разбягацца і хавацца. Увогуле, нас вельмі смяшыў гэты ягоны пасвісцёлак, бо з тым разбяганнем і хаваннем — чыстая пацеха. Часам мы нават наўмысна давалі фальшу, абы каб толькі налятаў непрыяцельскі самалёт...

— Ардануўна, спявайце!

Божа, зноў людна. Я кланяюся ўсім да зямлі.

Пакуль я п'ю, вы ўсе жывяце. І жыццё ваша цудоўнае... Пане Грацыяне, прысягніце пані Беаце, што ніколі яе не пакінеце.

— Я ніколі цябе не пакіну! — скрушлівым голасам гаворыць Грацыян Гінтаўт і падае на калені.

Нарэшце я давёў-такі гэтых людзей да поўнай згоды. Я ўпершыню бачу пані Беату такою шчаслівою. Валасы яе развявае вецер. Выгляд — зухаваты. Яшчэ ніколі не быў ёй так да твару саламяны капялюшык з блакітнай стужкай. Здаецца, гэта людзі, якія ведаюць усё чыста на свеце. Або наадварот: анічагусенькі...

Цяпер і я магу спакойна пайсці спаць. Хоць ужо, можа, і не варта было б — узыходзіць сонца, паружавелі воблакі...

— Дабранач, дарагая! — кажу я пані Беаце і першы раз у жыцці, крыху сумерыўшыся, цалую яе ў пухлыя, мясістыя шчокі.

Мусіць, я яшчэ не ацверазеў, бо чую:

— Татуся, ці ты не пазнаеш мяне?

— А хто ты, ягадка мая?

— Я ж ад сяброўкі. Два дні сядзела каля яе.

— Ад якой такой сяброўкі? Не, вы паслухайце, смеху варта...

Там, на радзіме, куды не вярнуся,
Возера ў лесе вялікае, лодкі,
Хмарак дзівосных на небе чародкі
Я ўспамінаю, калі азірнуся...

І я крычу непрытомна, ашалела, на злосць дачцэ, на злосць самаму сабе і ўсім:

— Налівай гарэлкі, каб ужо ніколі не выйсці з мінулага! Застацца ў ім назаўсёды. Глядзіце, як свецяцца вокны ў Гінтаўтаў! Цэлая ілюмінацыя! І ніякай электрычнасці не трэба. Арданоўна, спявайце! Як гэта геніяльна прыдумана, што нават мёртвыя могуць спяваць, як толькі мы захочам паслухаць іх голас. Накруціў ручку, паклаў пласцінку... закруцілася... і вось ужо нябожчыца вяртаецца з нейкага вашага Бейрута і спявае...

Не памятаю, колькі я прабыў у доме Гінтаўтаў. Азіраюся, засяроджана прыглядваюся — і нідзе нікога, нідзе нічога, ніякага... Ні сцен, аклееных залацістымі шпалерамі, ні этажэрак са старымі падшыўкамі «Тыгодніка Ілюстрованэго».

Нада мною трое ў белым. Адзін латашыць мае кішэні, у чаравіках паразвязваны шнуркі. А трое такія злавесныя, хаця і выскаляюцца.

— Яшчэ адзін алкаголік! — смяецца найменшы, у акулярах каторы. Такі, халера, курдупель нягеглы. Сучасны унтэр Прышыбееў.

— Пан Грацыян! — крычу да возера.— Лясні, пане, з дубальтоўкі! Пан Грацыян, ратуй!

Але пана Грацыяна няма. За кратамі акенца, за чорнымі шыбамі расплывіста мільгаціць твар Аляксандра Аляксандравіча Блока. Блок таксама выскаляецца, задаволена пацірае рукі. Пухлыя, як у колішніх прыставаў. Гэта ж трэба — такі славуты паэт і такі злы чалавек. А, што тут доўга балабоніць! Хіхікае, нібы гномік з вогненна-рыжай барадой, які насеў Блоку на плячо, як папугай на скрынку з індульгенцыямі ў дзень св. Тэклі, заступніцы нашай парафіі.

# ЛЯМПА



1

Я па чарзе націснуў выключальнікі: згасла лямпа на стале і тая, што вісела ў каляровым каўпаку пад столлю. Праз высокія шыбы акна ў пакой уварвалася не зусім цёмная ноч, і таму няцяжка было знайсці карабок з запалкамі, зняць пузатае шкло з прыземістай газніцы і даткнуцца полымем запалкі да яе крыху выкручанага кнота. У шкле над каўпаком бліснуў жоўты паўкруг з пашкуматанымі краямі.

Было гэта на другі дзень каляд 1967 года. Гэту звычайную, найбольш распаўсюджанай формы лямпу я атрымаў у падарунак ад знаёмай сямейнай пары. Яна штогод праводзіць канікулы ў Беластоцкім ваяводстве і дужа хваліць тамашніх людзей і краявіды. Святло лямпы здалося мне такім слабым, што, каб пры ім чытаць, трэба як мага больш наблізіцца да яго з кніжкай, адчуваючы лбом нагрэтае

шкло, удыхаючы смурод копаці, і, нягледзячы на гэта, вочы спачатку ледзь разбіраюць літары. Я адвык ад такога святла. Шмат гадоў не даводзілася карыстацца газніцай. На той выпадак, калі адключаецца электрычны ток, у нас ёсць свечкі, і пры іх святле мы чакаем, калі засвецяцца электрычныя лямпачкі. А я ж правёў пры газніцы каля дваццаці першых гадоў жыцця. Хіба толькі пры ёй? Памятаю лоевыя свечкі, якія пырскалі тлушчам, і ўвесь час трэба было абразаць нажнічкамі чорны кнот, бо хто ж там мог мецъ для гэтага спецыяльныя шчыпчыкі. Нешта падобнае было і з капцілкай, якая асвятляла маё вячэрняе жыццё ў час вайны.

Газніца як сродак асветлення стала мне чужой. Без прывычкі, якая вымагала часу, я не мог бы пры ёй працаваць, затое яна акунула мяне ва ўспаміны самага ранняга дзяцінства. Балюча адчуваючы гарачыню шкла, я перанёс лямпу бліжэй да паліц з кніжкамі і не без цяжкасці адшукаў томік вершаў грэчаскага паэта Кавафіса ў перакладзе і апрацоўцы Зыгмунта Кубяка. Хацелася мне яшчэ раз прачытаць верш «Пасля дзевятай вечара», які спадабаўся мне за два апошнія, простыя і пранікнёвыя радкі:

Палова першай. Праляцеў як час!
Палова першай. Як прайшлі гады!

2

Падымаю лямпу, каб выклікаць з мінулага, са змроку і далечыні сваю маленькую Атлантыду. Няхай свавольнік-агеньчык прабіваецца праз дажджы, завеі і завірухі! Мая Атлантыда знаходзілася ў акоііцы двух кіламетраў, яе цэнтрам быў драўляны дом у фальварку Задвор'е, а сталіцай — мястэчка Дзісна, якое маляўніча раскінулася ў вусці двух рэк: Дзісенкі і Дзісны.

Задвор'е, размешчанае на адлегласці васьмі вёрст на паўднёвы ўсход ад Дзісны, было невялічкім маёнткам, раздзеленым паміж трыма братамі. Яго землі з аднаго боку абмывала рэчка Васьмёрка, праз гэтыя землі праходзіў пясчаны, а вясной і позняй восенню ўсеяны лужынамі напалеонаўскі тракт, якому сям-там спадарожнічалі разгалістыя бярозы. Да падзелу

маёнтка на тры часткі дайшло даволі позна, бо дзед быў у пэўнай меры дэспатычны, з патрыярхальнымі поглядамі. Нават жанатыя сыны пасля першай сусветнай вайны доўга жылі пад непасрэдным наглядам яго выцвілых вачэй. Падзел зямлі, аб якім я памятаю з расказаў, праходзіў даволі драматычна. Цэнтр быў аддадзены майму бацьку, які абавязаўся ўзяць апеку над дзедам Вінцэнтам і бабкай Антанінай. Урбан і Вінцэнт атрымалі ўчасткі за трактам. Кожны з іх збудаваў хутар, і першы назваў яго Наваселлем, другі — Наваполлем. Гэта былі па-гаспадарску дагледжаныя і ўпарадкаваныя хутары з маладымі садамі. Урбан выкапаў частку пладовых дрэў са старога саду, што было прадыктавана прагнасцю, але яго праца не прынесла карысці — неразважліва перасаджаныя дрэвы не прыняліся.

Дзесьці за Васьмёркай, ад якой блізка было да зялёнай граніцы, сонца ўзыходзіла, а за Наваполлем і Наваселлем, у казённых лясах, яно заходзіла.

Праз якія дзве вярсты вы маглі апынуцца ў Загасцінні, уладанні бацькоў маёй маці. Навакольныя вёскі — гэта Канаршчызна, Субочава, Капцёва. Але пакінем назвы, якія нікому нічога не гавораць, хоць і трымаюць у сабе неабходную інфармацыю. Дададзім толькі яшчэ, што быў у нас дрэнны сусед Сачыўка, альбо ён таксама меў дрэнных суседзяў, што не выклікала здзіўлення, калі ўспомніць, што яго ўладанні, якія складалі каля сямі дзесяцін, знаходзіліся ў цэнтры абшару трох фальваркаў і ў адным месцы даходзілі да самых будынкаў сядзібы.

Вядома, ніякія спрэчкі і канфлікты не закраналі дзяцей — яны дружна прымалі ўдзел у гульнях, хоць часам і абзывалі сябе рознымі мянушкамі.

Задвор'е — маёнтак ці фальварак? І ці ў гэтай фармальнасці справа. Яго ўладальнікі адчувалі сябе значна ніжэй за памешчыкаў, былі працавітыя і сціплыя.

Вялізны двор з рабінай пасярэдзіне акружалі гаспадарчыя будынкі; да агарода прылягала лядоўня. Яе дах з замшэлай гонтай, які абапіраўся на зямлю, пакрываў глыбокі пограб, у якім на маёй памяці лёду не было, але і без яго ў ёй стаяў холад, што доўга трымаў свежым малако і розную жыўнасць.

Дом быў не надта вялікі, на дзве палавіны з падмураваным ганкам, дашак якога падпіралі дзве невялічкія калоны. Дах казыталі бярозавыя галінкі, пад застрэшшам віселі кошыкі для галубоў, якіх шанавалі таму, што яны быццам бы ратавалі ад перуноў. За домам пачынаўся даволі вялікі сад, абрамленне якога было выключна багатым: некалькі старых елак і чародка ліп, бярозавая алейка, дзе можна было знайсці маслякі і баравікі, маленькі гаёк каля тракта, арэшнік. Ляшчына, што зацяняла адно з задніх акон дома, давала плённы ўраджай «гатунковых» прадаўгаватых арэхаў. Паблізу ад яе раслі бэз, язмін, а паміж рабін, што былі абвіты хмелем і ўтваралі ўнізе амаль квадрат, стаяла трухлявая альтанка з укапаным пасярэдзіне сталом. Там адбываліся часам вечарынкі, аб лямпу бесперапынна білася машкара. Завадатарамі вечарынак былі тры легкадумныя дзядзькі з Загасціння. За іх кошт спачатку пілі прадстаўнікі пагранічнай варты, а потым, калі выявілася, што на ажыўленай у тыя раннія гады граніцы, якая спакушала не толькі кантрабандыстаў, варты не хапае, пілі прадстаўнікі корпуса пагранічнай аховы, для якіх па суседству з нашымі сядзібамі пабудавалі драўляную заставу з назіральнай вышкай — самае высокае і самае вялікае збудаванне ў аколіцы.

Звону кялішкаў і ажыўленым размовам, розным заляцанням амаль заўсёды ўторыў гармонік. Бацька вельмі не любіў гэтых прыяцельскіх налётаў, шуміхі і мітусні.

За свірнам і хлявамі, у напрамку Дзісны, цёмна паблісквалі невялічкія стаўкі — было іх аж пяць — у двух з іх увосень мачылі лён. Каля самага вялікага з іх стаяла лазня, у некаторых вадзіліся карасі, але найбольш было п'явак. У тых стаўках я навучыўся плаваць, хоць кепска, і заўсёды, вылазячы з вады, я ўважліва аглядаў сябе — ці не прысмакталася п'яўка. Вучыліся мы плаваць на паплаўках — двух пучках чароту, звязаных вяровачкамі.

Стаўкі я заўсёды ўспамінаю ў серабрыстым вячэрнім тумане. У іх я назіраў адлюстраванне месяца. У іх і ў запушчанай студні са згніўшым зрубам, бо ваду кожнай раніцай прывозілі ў бочках з Васьмёркі.

Калі я вучыўся ў Вільні, дык напісаў пра Задвор'е верш, напоўнены паэтычнымі пераўвелічэннямі, але па настрою даволі праўдзівы:

Чорнымі вачыма стаўкі неба бачаць
І сівыя вейкі з надбярэжных лозаў,
А бяроз галінкі нібы срэбрам плачуць,
У алеях вецер шастае трывожна.

Пугаў пастушыных чуюцца ляскані,
Выплывае месяц медзяны з-за хмары,
Але ўжо ў альтанцы не тыя спатканні,
І мяне не тыя ўжо даймаюць мары.

Алеі — гэта наша бярозавая алея. Пугі не належалі фарэйтарам ці кучарам, а пастухам, якія гналі вечарам кароў, свіней і авечак з пашы, бо гаспадарка вялася па трохпольнай сістэме. Пастухі насілі доўгія пасталы з кароткімі аборкамі, любаваліся спрытным ляскаем пугаў, стралялі імі з асалодай, размашыста, па-майстэрску. Увесь дзень яны ахвотна дзьмулі ў трубы, якія дасягалі аж двух метраў даўжыні, насілі іх на шнурках, як вінтоўкі. Ахвотна са зрэзаных галінак вярбы скручвалі кару і рабілі дудкі, умелі таксама майстраваць і іншыя цацкі, таму я часта наведваў пастухоў у полі. Лыкавыя лапці былі ў маёй мясцовасці рэдкасцю, нават пастухам больш даспадобы былі скураныя пасталы. У дождж пастухі насілі або капішоны-башлыкі або мяшкі, вывернутыя накшталт капішонаў.

Кожнага з іх, вядома, суправаджаў, прынамсі, адзін Тузік, Лыска ці Шарык, імёны якіх вымаўляліся па-беларуску. Заўсёды некалькі цюцькаў круцілася на двары, часам уздымаючы з нудоты гармідар, чакаючы са смуткам якога-небудзь чужынца — пешага або на калёсах ці ў санях-розвальнях, якія нагадвалі растаптанае крыло. Сабак я ўспамінаю з любасцю, але мая любасць — аднолькавая да ўсіх, бо ніводзін кудлаты не вылучаўся якой-небудзь асаблівай індывідуальнасцю, ці, можа, я проста гэтага не заўважаў.

Родная сэрцу тапаграфія! Здаецца мне, што ўсе любяць краявіды звычайныя, бо адна рэч — захапленне пышнасцю або хараством, а другая — прывязанасць, любоў да іх. Бліжэйшае наваколле нічым

не вылучалася: яно было ў асноўным раўніннае, з невялікімі лясамі, частымі пералескамі і гаямі, паасобнымі вербамі і бярозамі. Хвалепадобная паверхня пачыналася ў аддаленым на нейкія тры кіламетры Чорным бары, аздобай якога было возера.

Калі б радыус падоўжыць, дык тады, вядома, можна было б больш пабачыць азёр з плоскімі або крыху крутымі берагамі, белым у стылі барока касцёлам, капліўкай, якія часам праглядваліся ўглыбіні. Можна было б спаткаць і яры, у якіх вясной буяла чаромха. І ўсюды хмель, які абвівае ствалы і галіны, робіць кусты больш пушыстымі. Яшчэ часцей за яры можна было б спаткаць багністыя лясныя азёры, дрыгву, твань, над якімі быццам бачны былі блакітныя агеньчыкі, а як хто меў схільнасць, дык бачыў і духаў ці зданяў — гэта слова мае зразумелую этымалогію і не патрабуе тлумачэння.

Неба прыгадваецца нізкае, з раскіданымі хмарамі, хоць былі і пагодныя леты — тады шмат гаварылі пра пажары — бывалі сонечныя, асеннія дні колеру спелых арэхаў, калі цішыню парушала толькі траскучае тарахценне малатарняў, якія рухаліся коньмі, запрэжанымі ў прывод.

Мне падабаліся некаторыя адценні непагадзі. Можа, у гэтым была нейкая схільнасць да роздуму і развагі. У непагадзь — у імжу і слоту, калі ўсё было, як студзень, а неба нагадвала жабурынне — людзі больш цягнуліся адзін да аднаго, ахвотна сустракаліся і даўжэй гутарылі, частуючыся махоркай з капшукоў, якую паволі закручвалі ў папяросную паперу, выдраную нібы з маленькіх запісных кніжачак. Магчыма, людзей прыгнятала адзінота.

Мяцеліцы я не лічыў за непагадзь. Белізна зямлі, гурбы пад вокнамі і заносы на дарогах, белізна ў паветры, кіпучая, віхурыстая, а ў першы момант, калі сонца яшчэ не зусім знікала, светлаватая,— хіба ж гэта смутак!

### 3

Да некаторых сваякоў мы з дзяцінства адчувалі сімпатыі і антыпатыі. Часам чытаеш ва ўспамінах аб паважаных цётках, лепш апранутых і акуратных,

чым іншыя кабеты, з пахам ужываных імі парфумаў, з прываблівымі і спакуслівымі Тэліменамі*. У гэтым ёсць нават нейкая эратычная асалода. З'яўляюцца таксама дзядзькі па матчынай і бацькавай лініі — легкадумныя бабылі, якія сваімі свавольнымі паводзінамі палохаюць дзяцей са строгім выхаваннем.

Не толькі ў далёкім мінулым, але і ў пазнейшыя гады найбольшым маім любімцам быў дзядзька Урбан, малодшы брат бацькі. Лысаваты, з вялізнымі рыжымі вусамі. Гэта — мастак, скульптар, з несумненным талентам, але самавук, які больш пераймаў, чым шукаў свайго шляху. Ён знаходзіў задавальненне ў тым, што бескарысна раздаваў скульптуры і карціны навакольным касцёлам, якія часам знаходзіліся ад яго хутара за паўсотні кіламетраў. Ён вельмі перажываў, калі які-небудзь з ксяндзоў не прымаў яго дароў. Часта своеасаблівым спосабам ён дэманстраваў непрыхільнасць да такога ксяндза з касцёла, які стаяў ў мястэчку кіламетраў за восем ад нас і які быў нашым парафіяльным касцёлам. Як толькі ксёндз узыходзіў на амбон, каб прачытаць евангелле і сказаць казань, дзядзька, заўзята стукаючы па падлозе ботамі, што аж рэха разлягалася, дэманстрацыйна выходзіў на касцельны цвінтар.

Я часта бываў у Наваселлі. Са старэйшым сынам дзядзькі Урбана, калі той быў заняты ў полі, мы высоўвалі са стала вялізную шуфляду. У ёй ляжалі сшыткі для рысавання, а ў іх — алоўкавыя эскізы голых мужчын і жанчын. Мы разглядвалі перш за ўсё старонкі з жанчынамі.

У гэтым салонным, калі можна так сказаць, пакоі, падзеленым драўлянымі перагародкамі, за якімі знаходзілася бацькоўская спальня, прапахлым пакостам і алейнымі фарбамі, панаваў артыстычны беспарадак: карціны на сценах, палотны на мальбертах, скульптуры ў натуральную велічыню і мініяцюры, рэпрадукцыі, бляшанкі з фарбамі, нарэшце, паліцы з кнігамі. Некаторыя кніжкі я пазычаў. Спрабаваў прачытаць «Дон Кіхота», але захаплялі мяне больш лёгкія, прыгодніцкія творы. З прыемнасцю магу

* Тэлімена — цётка Зосі, галоўнай гераіні паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

назваць двух пісьменнікаў: Уладзімежа Корсака з яго «Да індыйскай граніцы», «Па слядах прыроды» і Уладыслава Умінскага з яго «Перdesignamoжцамі акіяна», «На аэрастаце да полюса», «Падарожжам без грошай», «Маладым індзейскім палонным».

Што засталося пасля дзядзькі? Наведваючы некалькі год назад стрыечную сястру на Мазурах, я прывёз адзін «Сшытак для рысавання», сшытак з эскізамі пяром, некалькі пажоўклых сшытых аркушаў, якія былі алюстраваным фрагментам мемуараў. Дзядзька нязграбным вершам напісаў багата ілюстраваныя ўспаміны з нямецкай няволі пад назвай «Янак з крэсаў». На жаль, гэты тоўсты том загінуў, а ён, дзякуючы дакладна ілюстраваным розным падзеям, мог бы мець дакументальную вартасць, хоць бы нават для самаго аўтара.

Я часам пазычаў і гэтыя ўспаміны. У маёй памяці захавалася назва мясцовасці, у якой знаходзіўся лагер для ваеннапалонных: Касель. Але ў падрабязным геаграфічным атласе ёсць некалькі пунктаў з такой назвай. Заселі ў маёй памяці некаторыя падрабязнасці з нядолі палонных, напрыклад, як яны, галодныя, накідваліся на бульбяныя шалупайкі. Памятаю апісаную і дапоўненую малюнкам сцэну пакарання нейкага палоннага, які быў прывязаны на некалькі гадзін да крыжа, пастаўленага для гэтай мэты. Больш у маёй памяці пра дзядзьку амаль нічога не засталося.

Як мой дзядзька трапіў у няволю (бо тады такое слова ўжывалася)? Ён служыў у пяхоце ў арміі генерала Самсонава, якая з арміяй генерала Рэненкампфа перайшла граніцу Усходняй Прусіі. Самсонава акружылі сярод мазурскіх балот і азёр, а немец Рэненкампф бяздзейнічаў. І вось збег акалічнасцей: шмат палякаў ужо тады крывёю парадніласся з гэтай цудоўнай зямлёй. Дзядзька быў кантужаны і апрытомнеў толькі ў палоне. Наступленне на Усходнюю Прусію, як сцвярджае гісторыя, каштавала Расіі сто пяцьдзесят тысяч забітых і некалькі сот тысяч узятых у палон. А Самсонаў, не даехаўшы з рапартам да цара, застрэліўся на віленскім вакзале.

Трэба яшчэ дадаць, што наша сям'я паходзіла з Браслаўскага павета. Там калісьці мой продак, яко-

га звалі Тадэвушам, атрымаў пасаду прыказнага пры трыбунале і меў грамату, падпісаную каралём Станіславам Аўгустам. Потым сям'я пераехала ў Дзісненскі павет.

Дзяды мелі шмат дзяцей, усіх прымушалі працаваць, спачатку вандравалі па «запашках», гэта значыць, апрацоўвалі зямлю і дзяліліся ўраджаем з яе ўладальнікам, потым дасягнулі большага — сталі арандатарамі. І нарэшце купілі невялічкі маёнтак Задвор'е, які суседнічаў з вялікім панскім маёнткам Прасёлкавічы.

4

У свой час я ахвотна хадзіў у Загасцінне, якое запісана ў маёй метрыцы, калі толькі такая дзе-небудзь існуе. Там, у бабкі Стэфаніі, я быў бадай-што самым жаданым госцем. Загасцінне раней называлася Загасцінцам, у ім было чатыры хаты і сорак адзін «каталіцкі» жыхар, як падае «Геаграфічны слоўнік Польскага каралеўства».

Жыццё бабкі Стэфаніі, жанчыны простай і сардэчнай, якая гаварыла на мяшанай польска-беларускай мове, было гаротным, хоць сварак у іх доме ніколі не было. Яна рана аўдавела, тры яе сыны з кожным годам усё больш співаліся, позна ажаніліся, ды і то толькі два з іх,— да раздзелу зямлі не дайшло. Бабка на Віленшчыне праз некалькі гадоў пасля вайны памерла, старэйшы сын апынуўся аж у Англіі, сярэдні памёр услед за ёй, а малодшы быў капралам у 1-й арміі, памёр у 1968 годзе.

Віктар, дзед па матцы, амаль ніколі нічога не чытаў. Любіў прыкладвацца да чаркі, але пра гаспадарку дбаў, купіў у таго самага пана, што і мае продкі па бацьку, тое Загасцінне, якое налічвала каля васьмідзесяці дзесяцін. Рана памёр ад запалення лёгкіх. У мяне засталіся пра яго ўспаміны, якія таксама добра могуць быць падмацаваны расказамі маёй маці. Ён нібы любіў насіць мяне на руках, здаецца, я помню яго рыжую бараду, але адначасова баюся, што яго твар і галава крыху нагадваюць мне рысы Мікалая II на залатых пяцірублёўках.

У выпадку раптоўных непаразуменняў, якія ўзнікалі з прычыны бацькавай запальчывасці, а значыць і кароткачасовых, Загасцінне рабілася і месцам прытулку для маці. Ісці трэба было напрасткі па сцежцы, вытаптанай праз наш сад, потым па гасцінцы, з левага боку якога віднеліся будынкі маёнтка Прасёлкавічы ў зялёных прысадах, з правага — мінаць лес і неўзабаве паварочваць на сцежку, што вяла праз падмоклыя лугі да Загасціння.

Пад'езд да фальварка з гасцінца быў досыць пышны, дарогу ўпрыгожвалі высокія італьянскія таполі. Дом у Загасцінні хутчэй нагадваў хату, у якой былі сенцы, кухня з глінянай падлогай і размешчаны вышэй пакой з драўлянай падлогай. Лепшы дом, з ганкам і вялізнымі вокнамі, не ведаю чаму, займаў арандатар — барадаты яўрэй Шлёма. Думаю, што гаспадары былі надзвычай прывязаны да хаты з пачарнелай столлю, пад якой віселі пучкі траў ад шматгадовых святкаванняў сёмухі. У памяці паўставала пачарнелая пазалота абразоў у куце над сталом, заўсёды засланым карункавым абрусам.

У сенцах стаяла драбіна, па якой можна было ўзлезці на гарышча. Гарышча загасцінскага дома было цікавейшае за наша. Я аказаўся шчаслівым уладальнікам чытанкі «Снапок», аповесці Нямцэвіча «Ян з Тэнчына», кніг віленскага гаваруна Ілюша Хараіна. Я цяпер здзіўляюся, што памятаю выцвілыя фарбы вокладак тых кніжак, але не змест. Там можна было знайсці клавіятуры старых гармонікаў, нейкія шрубікі, розныя часопісы, адным словам, можна было рабіць дробныя акрыцці, якія так захаплялі дзяцей, бо ў дадатак на гарышча мы лазілі без дазволу, а калі б пра дазвол папрасілі, дык пачуўся б адказ: «Звалішся і зломіш нагу!»

Малому госцю падавалі сподачкі з вішнёвым і парэчкавым варэннем (апошняе было самае смачнае), частавалі агуркамі і піражкамі.

Загасцінне суседнічала з беларускай вёскай Субочава, сярод яго жыхароў пераважалі праваслаўныя. Уклад жыцця дзядзькоў быў такі, што ў доме панавала панібрацтва: заўсёды хто-небудзь у пакоі курыў махорку, вяліся бясклапотныя гутаркі, складаліся планы святкавання бліжэйшай нядзелі, абмяркоўва-

ліся падрабязнасці мінулых вячорак. Беларусы — наогул людзі спакойныя. Пазней распаўсюджваліся чуткі аб крывавых пабоішчах на вячорках, дзесьці кагосьці забілі праз каханне, але такіх выпадкаў у маім наваколлі не здаралася.

І тут мяне называлі панічом! Сямейная легенда расказвае аб сапраўдным здарэнні, якое было ў 1920 годзе. Нехта хацеў падбухторыць бальшавікоў супраць майго дзеда, нахлусіўшы, нібы ён «памешчык».

— Давайте его сюда!

Не зайздрошчу дзеду ў тую хвіліну. Прывялі нядужага, ссутуленага чалавечка з сівой шчацінай на твары, у брудным, заношаным кажушку, з кійком у руцэ, з якім ён ніколі не разлучаўся.

— Да разве это помещик? — звярнуліся з дакорам да двух невядомых мне паклёпнікаў, мабыць, прагных да крывавых відовішчаў, а перш за ўсё аматараў рабункаў.— Ступай себе, старик!

Вядома, рэквізіцыі пазбегнуць не ўдалося. Ды і хто іх не рабіў? Шмат год яшчэ людзі расказвалі пра нейкіх асабліва прыгожых, і з году ў год ўсё прыгажэйшых, беспаваротна страчаных конях. Хоць, можа, іх і ўвогуле не існавала. Найбольш распаўсюджанай формай прымусовых нарыхтовак быў фураж, а прымусовых паслуг — падводы, з якіх у многіх выпадках не так лёгка было вярнуцца.

Немцы, што дайшлі сюды ў 1915 годзе, у адпаведнасці з успамінамі, якіх я нямала наслухаўся, былі бязлітаснымі педантамі. Такая з'ява ў маёй мясцовасці сустракалася, відаць, рэдка, бо на яе адразу звярнулі ўвагу. Калі адна з вёсак у назначаны час не выканала рэквізіцыйных патрабаванняў, адразу з'явіліся салдаты з кулямётамі і пачалі іх наводзіць на людзей, і мэта была дасягнута. Немцы за ўсё забранае выдавалі квіткі, якія, аднак, не мелі ніякага практычнага значэння. Яны любілі лавіць жаб, што выклікала кплівыя насмешкі. З нямецкіх слоў засталося «шпэк» — сала.

Кожная мясціна мае і свайго вар'ята. У нас найбольш вядомым быў Юзэф-Юзюк (з націскам на другім складзе), які працаваў пастухом у маіх дзядзькоў. Чалавек сярэдняга ўзросту, прозвішча якога

ніхто не ведаў, ён даволі добра спраўляўся са сваімі абавязкамі, але адразу звяртаў на сябе ўвагу: быў густа перапаясаны папружкамі, узброены драўлянай шабляй і драўлянай вінтоўкай, а часам і пікай, баяўся кіргізаў, пра якіх, напэўна, не меў ніякага ўяўлення. Спаў ён на печы ў адным з дамоў, ніколі не расстаючыся са сваім «узбраеннем». Яго дзівацтвам патуралі.

Мае дзядзькі мелі стары грамафон з пласцінкамі рускай спявачкі Вяльцавай, аднак больш любілі забавы, у якіх героем быў Юзюк. Асабліва дзядзька Францішак ахвотна садзіўся каля грубкі, у якой весела патрэсквалі дровы, і прыкідваўся кіргізам. Ён гучна, на ўвесь дом крычаў:

— Шапатыры-мататыры... Гапатыры-тататыры... Юзюкіс-шмукіс...

Юзюк саскокваў са сваёй печы і з шабляй у руцэ пачынаў шукаць кіргізаў за другой печчу, дзе, між іншым, стаяў ложак дзядзькі.

— Ах вы, нехрысці, усіх вас разганю!

Калі гэта паўтаралася некалькі разоў, у мяне стваралася ўражанне, што Юзюку ўжо гэтай забавы даволі, але змушае яго да яе шматгадовая звычка. Мажа, я памыляюся.

Перад лепшым домам быў садок, абгароджаны частаколам, а больш дакладна — палянка, абсаджаная кустамі і дрэвамі, пасярод якой на адной назе стаяў круглы стол з шашачнай дошкай.

У тым садку аднойчы ў нядзелю адбылася своеасаблівая імправізацыя, як разнавіднасць маёўкі. Да Юзюка падышла жонка нашага пана, шчуплая і прыгожая жанчына, што памерла потым ад сухотаў, імя якой не памятаю. Яна іграла ролю дачкі цара, якая за тое, што Юзюк так адважна змагаецца з кіргізамі, прагне выйсці за яго замуж, як у класічных народных байках. Юзюк з захапленнем падаў перад ёй на калені, прызнаваўся ў каханні, іграў на губным гармоніку, вытвараючы нейкія выкрутасы, крыўлянні, якія азначалі танец.

Не былі гэта забавы, якія заслугоўвалі пахвалы, але адно паказальна: ніхто Юзюка не баяўся, лічылі яго за свайго і шмат гадоў давалі яму прытулак, па-свойму клапаціліся пра яго. На каляды, калі ўво-

гуле канчаліся ўсе ўмовы з парабкамі (не на Новы год, а менавіта на каляды), яму спраўлялі новае адзенне, бо ён хутка абношваўся.

А можа, аднак, прынамсі ў некаторых выпадках, Юзюк толькі прыкідваўся, аддаючы належнае традыцыі? Бо калі царэўна са світай, у якой быў і я, паехала дадому, ён, здаецца, ні разу пра яе не спытаўся. Ды і наогул я не прыпамінаю, каб Юзюк быў гаваркі.

5

Што знаходзіцца за гарызонтам? Можа, якія-небудзь палацы, асветленыя сотнямі газніц? Можа, дзеці, якія гуляюць не ў «класы», а ў іншыя гульні? А што, калі сустрэнеш там добрага Бая з калыханкі?

Назойлівая спакуса, спалучаная са страхам рызыкі. Бо яшчэ ж чуліся расказы пра часы прыгону, пра ліхога пана са здзеклівай усмешкай, які загадваў дзяўчатам і хлопцам лезці высока на дрэва і кукаваць, каб ён мог страляць у іх як у зязюль. Што будзе, калі нам хтосьці загадае прыкідвацца вось такімі зязюлямі?

Вясковыя дзеці, бясспрэчна, карыстаюцца большай свабодай, чым гарадскія. Лугі, палі і лясы не ўяўляюць для іх яўнай небяспекі. Меншы клопат, а да таго ж і кантроль меншы. Яны наведваюць адзін аднаго, ходзяць да брацянікаў з суседніх хутароў. Аднак калі хто вельмі затрымаецца і вернецца дужа позна, тады такому блуднаму сыну пагражае дома наганяй, можа, нават добрая лазня — усё залежыць ад настрою бацькі. Для дамашніх трэба прыдумаць нешта ў сваё апраўданне, што адцягнула б увагу ад маленькай асобы,— увайсці ў пакой і адразу падзяліцца нейкай сенсацыйнай навіной: на хутары дзядзькі акацілася кошка! Гэта надта цікавае здарэнне, але не для ўсіх. Во, здохла цяля! Адразу спытаюцца: якое? Бо нядаўна ж на хутары ацяліліся дзве каровы. На большыя сенсацыі нельга сабе дазваляць. Я калісьці паведаміў, што згарэла стадола. Здарэнне было блізка прынята да сэрца, мяне распытвалі пра падрабязнасці, здзіўляліся,

што на такой недалёкай адлегласці не бачылі полымя, але мой выйграш быў у часе. Назаўтра высветлілася, што я схлусіў, і вынікі не былі для мяне прыемныя, хоць адцяжка часу іх змякчыла.

Але гаворка ідзе пра больш ранні час: што за гарызонтам? Блакітным паўколам апускаецца ён адразу ж за Васьмёркай. Дрыжыкі прабіраюць пры думцы аб momanце, калі яго пераступіш. Мы выходзім з двара на мяжу, некалькі хвілін затрымліваемся каля гумна і тока, падобнага да адрыны, з той толькі розніцай, што ў ім складваюцца торпы снапоў для абмалоту, але ўсё гэта даўно вядома, і мы шпарка накіроўваемся да Васьмёркі.

Аказалася, што над Васьмёркай гарызонт зусім да нас не наблізіўся. Па той бок рэчкі, за поплавам, шуміць бярозавы лес, і гарызонт апынуўся за тым лесам. Параіўшыся, мы брыдзём па мелкай вадзе, асцярожна ступаем паміж дрэў. На жаль, у лесе пачынаем блукаць. Калі б мы не саромеліся адзін аднаго, дык, напэўна, заплакалі б. Але чым дапаможа плач, калі нападуць на нас ваўкі! Праз нейкі час, калі хваляванне пачынае ўступаць месца стомленасці, мы выходзім на ўзлесак, спыняемся перад полем. Як цудоўна: за стаўкамі нейкі незнаёмы хлопец пасе кароў. І вось, аказваецца, што хоць да Задвор'я, праўда, і не зусім блізка, але відны яго прысады.

Калісьці я прымаў удзел у адным такім паходзе. Мы знайшлі не палац, а сяло з невялічкай царквой. І колькі было радасці: мы ведалі яго толькі па назве, а зараз вось ідзём па яго вуліцах, разглядваем хаты і домікі з чыстымі ганачкамі, каля якіх растуць аксамітныя вяргіні. Па дарозе назад мы сталі сведкамі дзіўнай з'явы. На працягу некалькіх хвілін ішоў кароткі і пры святле сонца вясёлы дождж. Заблішчала гліністая дарога. У адным, аднак, месцы высветлілася, што дарога зусім сухая, лісце трыпутніку пакрыта пылам. Ніхто з нас да гэтага не мог сабе ўявіць, што дождж не ахоплівае ўсёй прасторы, што ў яго ёсць таксама свае зоны. Па некалькі разоў пераступалі мы мяжу паміж вільготнай і сухой зямлёй.

Першыя адкрыцці — гэта былі знойдзеныя прадметы, забытыя або легкадумна пакінутыя дарослымі. Мы крадком адчынялі шафы, дзе магла быць яшчэ адна бляшанка ў форме куфэрачка з-пад чаю з рускімі літарамі, шнырылі па застрэшшах, шукалі закануркаў у будынках.

Далейшыя адкрыцці ўсё часцей насілі прыродагеаграфічны характар. Высочванне ліса ў пясчанай нары пад струхлелым пнём было тэмай многіх размоў, бо вельмі шкада было, што, на жаль, не ўдалося яго злавіць або знішчыць.

Наваколле расшыралася, рабілася ўсё больш загадкавым. Першы паход — у мястэчка, які найбольш запомніўся (бо былі ж і ранейшыя), раўняўся падарожжу ў які-небудзь буйны цэнтр.

Праз некалькі год прыйшла чарга на вялікае падарожжа. Бацька запрог найлепшага каня ў брычку на рысорах, мы набралі харчоў, захапілі шэрыя буркі і паехалі ў Браслаўскі павет. Я тады не зусім усведамляў, што бацька хацеў наведаць мясціны свайго дзяцінства і маладосці, паказаць іх мне, каб я больш адчуў сябе звязаным з мінулым нашай сям'і.

Другі начлег наш быў у засценку Мацюкі, над возерам, у нейкіх Гушчаў, магчыма сваякоў, не ведаю. Потым заехалі ў мястэчка Міёры. У гэтым мястэчку, як высветлілася, я нейкі час жыў з маці ў 1920 годзе. Маці не раз расказвала, што я прасіў малака, але малака не было, і я запатрабаваў: «Тады, мама, дай хоць смятаны!» Гэта сітуацыя бадай-што нагадвае анекдот пра каралеву Марыю-Антуанету, якая, убачыўшы ўсхваляваны натоўп, спыталася: «Чаго яны хочуць?» — «Хлеба!» — «Калі ў іх няма хлеба, дык няхай ядуць булку!» Аднак выпадак з малаком і смятанай не выдуманы, бо мая маці ніколі не ведала пра існаванне Марыі-Антуанеты, а ваенныя і нават пасляваенныя гады былі вельмі цяжкія.

Міёры запомніліся мне па касцёле з чырвонай цэглы, блакітна-белай фігуры маткі боскай каля мястэчка і возеры з плоскімі берагамі. І па казані ксяндза Бародзіча, вядомага з расказаў многіх людзей, аўтара ўспамінаў «На возе і пад возам», які

апісвае розныя прыгоды, часам забаўныя, а часам і недарэчныя. Гэта быў ксёндз дэспатычны, упэўнены ў сабе і ўпарты — з характарам, як звычайна гаварылі пра паважаных людзей. Ён не вагаўся, змагаючыся ўсялякімі спосабамі з царскай уладай, і нямала рабіў прыкрасцей прадстаўнікам польскіх улад. Калі справа датычыла патрэб касцёла, ён не прасіў, а загадваў. Пасля казані ў сувязі з нейкімі рамонтнымі работамі ён зачытваў спіс парафіян і вызначаў іх абавязкі на бліжэйшы тыдзень: хто і калі павінен даць фурманку ў яго распараджэнне.

Здаецца, усё працавала як гадзіннік. І калі нейкі засцянковы шляхціц не з'явіўся па выкліку і адразу пасля гэтага выпадкова даволі моцна пашкодзіў сабе саломінай вока, у бліжэйшую ж нядзелю веруючыя пачулі ў казані, што гэта няйнакш сустрэла яго боская кара.

Ці ж трэба дадаваць, што казань ксяндза Барадзіча слухалі ўважліва і часам са страхам. Зусім інакш было з казанямі іншых ксяндзоў. Дабрадушны і разважлівы прыхадскі ксёндз Б. з Дзісны, напэўна, сам быў крытычнай думкі наконт свайго прамоўніцкага таленту, але пры тым вызначаўся добрым пачуццём гумару. На час казані ён пасылаў касцельнага вартаўніка з бутэлькай нашатырнага спірту ў руках. Той уважліва сачыў за прыхаджанамі. Як толькі хто-небудзь з іх задрэмле, вартаўнік непрыкметна падсоўваў яму пад нос незакаркаваную бутэльку. Гэта ажыўляла настрой у свяцілішчы.

Гадамі пазней у сваякоў якогасьці пасёлка, а ездзілі мы туды на фэст, я бачыў сутычку з польскай паліцыяй. Ксёндз пачаў там будаўніцтва касцёла, не ўзгадніўшы з адпаведнымі ўладамі яго месца. Дайшло да бойкі. Адзін з прыхаджан быў паранены ў нагу штыком, праўда, лёгка. Ксёндз, каб зрабіць выгляд, што раненне сур'ёзнае, адразу намасціў пацярпелага mortis *, пасля чаго той пайшоў на вячоркі.

У выдадзеных успамінах, якіх, на жаль, я не магу нідзе знайсці, быў апісаны заклад з нейкім наіўным папом. Ксёндз сцвярджаў, што поп не зрушыць

---

* Намашчванне, якое робіцца паміраючаму.

з месца брычкі з ім. Заклаліся на пяць рублёў. Як і можна было прадбачыць, нягледзячы на тушу ксяндза, бацюшка з лёгкасцю і задавальненнем павёз брычку, але фатограф, які прытаіўся ў кустах, увекавечыў гэта здарэнне, і здымак быў распаўсюджаны ў мностве экземпляраў.

Высылка ксяндза, пазней прэлата, у Рыбінск на Волзе скончылася пабудовай вялікага касцёла ў тым горадзе.

Па дарозе мы затрымаліся перад нейкімі вясковымі закінутымі могілкамі, на якіх бацька адшукаў зарослую травой магілку з ледзь прыкметнай напаўсцёртай бляшанай таблічкай на драўляным крыжы. Ён загадаў і мне прачытаць малітву за яго брата, які памёр яшчэ маленькім.

Найбольшае ўражанне на мяне зрабіла Друя на Дзвіне, колішні Сапежын. Брук быў і тут у выбоінах, але наша Дзісна, хоць і старая, не мела помнікаў, а тут бялеў кляштар, было некалькі касцёлаў і капліц. Пасля польска-савецкай граніцы я ўбачыў тут другую ў жыцці граніцу — польска-латвійскую. Выглядала яна ідылічна: два пагранічнікі, што стаялі па абодва берагі Дзвіны, надрывалі галасы, перагаворваючыся паміж сабой.

Дзвіна — гэта ў старажытнасці Рубон.

Спыніліся мы ў старым яўрэйскім заезным доме з прыбудовамі і мансардамі. Я заўсёды любіў такія дамы, адчуваючы ў іх таямнічасць, нейкае рамантычнае мінулае, а гэты ў дадатак меў ніколі мной не бачаную ўнутраную лесвіцу. Без патрэбы, але з задавальненнем я шмат разоў узбягаў па ёй уверх і спускаўся ўніз. У Друі, таксама ўпершыню ў жыцці, я ўбачыў паравоз з вагончыкамі і вузкакалейную чыгунку, якая вяла аж да Варапаева — адной са станцый па дарозе на Вільню.

На некалькі дзён мы завіталі ў паддруйскі маёнтак, які належаў ці то сваякам бацькі, ці то яго даўнім добрым знаёмам, бо, слухаючы гутарку, не заўсёды можна было што-небудзь даведацца аб ступені сваяцтва. Дзеясловы адпавядалі займенніку «ты», але яго замянялі назоўнікамі: брат, братавая, кум, швагер. «Ці ведаеш, брат, гаварыў дзядзька Вінцэнт бацьку Яна,— якая здарылася гісторыя з...»

Уладальнік маёнтка быў, бадай, чалавек несамавіты, сціпла апрануты, але заможны: ён паказваў нам збожжа ў засеках, ільняное семя ў свірнах, якое не прадавалася па некалькі год, бо гаспадар чакаў лепшых цэн. Ці гэта чаканне дало жаданы вынік, мне цяжка сказаць. Дзяцей ён меў шмат, бо шляхта была надзвычай пладавітая. Аднойчы мне давялося быць у засцянковай сядзібе на абедзе, за які ўселася сям'я з трыццаці чалавек. Самая старэйшая дачка штодзённа ездзіла конна ў друйскую гімназію, якой кіравалі айцы мар'яны, што праз некалькі год сталі прадметам палемікі ў віленскай прэсе, бо высветлілася, што яны заўзята спрыялі беларусізацыі.

Усё ў жыцці вельмі складана, і толькі дурні марацъ аб спрашчэнні.

У маёнтку нас прымалі «па-княсцку»: кожны дзень на вялікіх паўмісках — свежае парася. Гаспадар спалучаў у сабе кантрастныя рысы: скнарлівасць і час ад часу жэсты шырокага размаху. У незалежных у розных адносінах людзей, якія апіраюцца на сваю волю, часта сутыкаюцца супярэчнасці. Такая замкнутасць выпрацоўвае ў іх арыгінальны, больш таго, дзівацкі нораў. Іх капрызныя паводзіны цяжка ўкладваліся ў агульнапрынятыя знешнія формы. Расказвалі, што наш гаспадар павёз хрысціць сваіх дзяцей толькі тады, калі іх набраўся вялікі гурт.

Вярнуўшыся з падарожжа, я доўга думаў пра тую дзяўчыну, што кожны дзень ездзіла конна ў друйскую гімназію, зграбна седзячы ў сядле, і яна здавалася мне амазонкай з нейкай аповесці. Але сёння мне хочацца абудзіць у памяці ўражанне ад краявідаў, асабліва ўспомніць доўгую калдобістую дарогу праз нізкарослыя ляскі, назваў якіх не прыпамінаю, іх імглістую блакітнасць у хмарны, імжысты дзень, бронзавыя паплавы паміж узгоркамі, увенчанымі мізэрнымі вольхамі і бярозамі, карканне мокрых варон, шмыганне зайцоў перад брычкай, цокат конскіх капыт. Лясы часам канчаліся, пераходзячы ў лугі з рудаватымі травамі, блакітнасць рабілася яснейшая. Хто ведае, можа, якраз там пачаўся верш, напісаны мною праз шмат год пасля вайны:

Паміж кустоў вербалозу,
Вольхаў, пажухлых траў
Стаіць адзінока бяроза,—
Холад лісцё пакусаў.

Чырвоныя гронкі каліны,
Там, дзе пачатак лугоў.
Мігам бягуць тут гадзіны,—
Так неахвота дамоў.

Яшчэ б жураўоў над балотам
Пачуўся запознены крык...
Бліснуў прамень пазалотай
І зноўку за хмарамі знік.

## 6

— Скажы, бацька, ці можна перапілаваць ката ржавай пілой?

Бацька — гэта ойцец па-польску.

Дзеці ў пэўным узросце бываюць жорсткія, у іх нараджаюцца жахлівыя ідэі, ажыццяўленне якіх, аднак, не мае нічога агульнага з жахлівымі ідэямі, што ў шырокім маштабе ажыццяўляюцца дыктатарамі. Рэдка якое дзіця вызначаецца жорсткасцю на доўгі час.

Жабы, птушкі, каты становяцца часам іх ахвярамі, і робіцца гэта дзеля таго, каб потым спраўляць урачыстыя пахаванні. На шчасце, часцей за ўсё гэтыя пахаванні датычыліся стварэнняў, якіх спасцігла натуральная смерць. І па гэтай прычыне карысную ролю адыгрываюць байкі, у якіх звярам і птушкам надаюцца чалавечыя рысы, што робіць высакароднымі адносіны да іх.

Аднак наогул дзеці шануюць і любяць звяроў і птушак. Гэта бывае і тады, калі яны ставяць пасткі і сілкі, бо ўсе хітрыкі пускаюцца ў ход толькі ад жадання займець непасрэдны кантакт са звяркамі ці птушкамі.

У акружэнні, у якім я рос, з усімі гэтымі праявамі вялася рашучая барацьба. Птушанят загадвалі адносіць назад. І не дзіва, што зімой наша гумно раілася ад птаства, у садзе ў маі можна было ўдосталь наслухацца салаўіных спеваў, вароны і гракі,

шукаючы чарвякоў і лічынак, крочылі ўслед за плугам ці сахой, якой акучвалі бульбу.

І ўжо ніхто не адважваўся спалохаць бусла, які паважна разгульваў па мокрым лузе.

Дрэннай славай карысталіся толькі лісы і ваўкі, бо шкода, якую яны рабілі, бывала адчувальная. Нягледзячы на гэта, сама прырода лісавай хітрасці і спрыту заслугоўвала павагі: яго славіць не ўдалося!

Да куніц адносіліся паблажліва. Нас перасцерагалі ад гадзюк, якія траляліся ў карчах. Хадзілі мы пераважна босыя — асабліва калі стаяла нясцерпная спёка і павялічвалася спажыванне квасу з хлебных скарынак з дадаткам дражджэй, які з ахвотай пілі б і ў непагадзь,— але збіралі мы чарніцы ці буякі з асцярожнасцю. Цёмныя кусцікі з цвёрдымі, як дрот, сцяблінкамі, былі абсыпаны ягадамі. І на ўсялякі выпадак мы зрывалі іх з верхніх галінак.

## 7

Хто ж гэта стаіць каля печы, грэецца, амаль дакранаючыся рукамі да бляшанай засланкі? Хто гаворыць галаслівым, манатонным голасам, часам пакашліваючы? Гэта ж цётка Марыня. Яна рана аўдавела, разы са два кожны год прыязджае з сынам і дочкай у адведзіны з іншага павета. Па чарзе жыве па некалькі дзён у сваіх трох братоў, а ад'язджае з нагружанымі санямі або калёсамі.

Яе візіты крыху нагадваюць наведванні пагарэльцаў. Магчыма, тады яшчэ не дзейнічала шырокая сістэма страхавання, і пагарэльцы часта з'яўляліся ў Задвор'е. Але цётка Марыня не пагарэлка, у яе проста дрэнна склалася жыццё, муж, напэўна, быў няўдачнік або цяльпук — гаварылі па-рознаму — адносіўся да яе стрымана. Вядома, за беднымі сваякамі не ганяюцца, да іх маюць затоеную непрыхільнасць або літасць, сам жа бедны сваяк нібы глядзіць на ўсё ў заможных вялікімі зайздроснымі вачыма. Зрэшты, і цётка Марыня мела вялікія, сумныя вочы пад маршчыністым ілбом. А мне што да таго — госці прыносяць у дом ажыўленне!

На сясцёр братам не пашанцавала — часта даводзілася мне чуць. У нашым доме, у пакоіку за кухоннай печчу, з акном на язміны і рабіны, жыла цётка Броня — «старая панна». З ёй было найбольш клопатаў. Не хачу, не магу закранаць тых сямейных спрэчак, якія адышлі ў нябыт, нельга выносіць катэгарычнага прысуду, гэта самая небяспечная справа, бо кожная дробязь набывае злавесны сэнс, усё нагадвае міннае поле, і дастаткова неасцярожнага намёку, каб узарвалася адна з мін,— а ў выніку потым цяжка вярнуць раўнавагу!

З найбольшай цеплынёй успамінаюцца заўчасна памерлыя. А цётка ж Эмілька нібыта была надзвычай добрая, сардэчная і ціхая, памерла на дваццатым годзе ад сухотаў. Яе вось і супроцьпастаўляюць жывым сёстрам, перш за ўсё цётцы Броні.

Калі б жыў дзед, магчыма, не даходзіла б да сварак. Дзед, нягледзячы на свой невысокі рост, да канца жыцця карыстаўся аўтарытэтам. Калі чулі яго скрыпучы голас, тупат ног і пастукванне палкай, перад ім скараліся. Дзед памёр неяк раптоўна, але пасля споведзі і прычасця. Уласна кажучы, ён і не хварэў, а спавядаўся і прычашчаўся некалькі разоў — вось і знясілеў. Мне вельмі падабалася пахаванне, першае пахаванне роднага чалавека. Усе мелі паважны выгляд, былі негаваркія, а самым паважаным і самым маўклівым быў дзед. Ён ляжаў у чорным адзенні пасярод пакоя, у скрыжаваных на грудзях руках трымаў вялікі драўляны крыж, з усіх бакоў яго цьмяна асвятлялі палымяныя язычкі васковых свечак, якія мы ўвесь час ачышчалі ад нагару. Пахла яловымі галінкамі, якімі была ўслана падлога ў пакоі, гліняная падлога ў сенцах з кухоннай печчу, ганак і сцежкі, што разыходзіліся ад яго. Смерць яшчэ доўга не абуджала трывогі, не набывала формы катастрофы, а хутчэй узвышала, надавала надзвычайную важнасць асобе, якую яна забірала. Смерць была велічная, змрочная, але чароўная.

А што ўсё ж трывожыла цётку Броню? Фальшывае завяшчанне, у якім яна не ўпаміналася. Нават не фальшывае, а толькі напісанае раней. А як было на самай справе? Думаю, што праўда выглядала так: цётка ў маладосці мела намер пайсці ў мана-

стыр, яшчэ і зараз яе бачылі з малітоўнікам і ружанцам у руках, долю, якая належала ёй, дзед сплаціў рублямі, забяспечыў ён і цётку Марыню, якая раней за ўсіх з радні завяла сваю сям'ю. Потым цётка Броня, даволі забяспечаная асоба з амаль чорнымі валасамі і карымі вачыма, перадумала і ў манастыр не пайшла. Бабка, у залежнасці ад настрою, то станавілася на бок дачкі, то на бок сыноў. Пачаліся працэсы, ганебная цяганіна. Некаторыя святочныя раніцы, калі дрэннае надвор'е перашкаджала ісці ў касцёл, а малітвы дружна і старанна спяваліся дома, расцягваліся аж да абеду і былі запоўнены ўзаемным пералікам грахоў, прэтэнзій і скаргаў, якія з кожным разам выказваліся ўсё больш рэзка. Здаралася часам, што дапякалі адно аднаму, не грэбуючы ніякімі сродкамі. Асабліва з таго часу, калі цётка «ўчыніла мезальянс» — зусім нечакана для ўсіх узяла прымака, маладзейшага за сябе чалавека, светлага бландзіна з нейкай вёскі,— гэта значыць, пан Юзэф «выйшаў замуж».

Аднойчы з гміннага пасёлка выклікалі паліцыю з прычыны таго, што бацька нелегальна трымае рэвальвер. Вобыск у доме і надворных будынках працягваўся некалькі гадзін, шнырылі ў засеках, пакалолі штыкамі стрэхі, ды яшчэ ў прысутнасці сведкаў з суседняй вёскі, а чужога вока ў нас заўсёды баяліся. Бо здараліся ж і налёты з мэтай аграблення. Аднойчы нейкія тры рослыя беларускія хлопцы, безумоўна, падбухтораныя цёткай і яе мужам, абвінавацілі майго бацьку ў тым, што ён іх адлупцаваў. Аднак суддзя, хоць і незычлівы да бацькі і дзядзькоў, убачыўшы абвінавачанага на фоне трох бамбіз, іранічна спытаўся:

— Дык як гэта было? Вы ціхенька стаялі на дарозе, пакорліва дазваляючы, каб абвінавачаны вас біў?

— Ён біў палкай, ваша высакароддзе!

Справу закрылі, а тыя тры хлопцы мелі дадатковыя непрыемнасці за фальшывыя паказанні. З таго часу працэсы спыніліся.

Браты спрабавалі памірыцца: прапанавалі цётцы надзел з некалькіх гектараў, але тая не згадзілася — была яна вельмі самалюбная і раззлаваная.

Здараюцца выпадкі, сітуацыі, пры якіх людзей прываблівае поўны пройгрыш. Бо ўрэшце яна нічога не атрымала і перабралася са сваім прымаком у яго вёску,— што ў дадзеным выпадку дае падставу глыбока паважаць цётку. Пасля навальніцы настала цішыня.

Прыстойныя людзі, вядома, пазнаюцца ў бядзе. У канцы 1939 і пачатку 1940 года пан Юзэф прыязджаў да нас у мястэчка, бескарысліва памагаў нам, часам прывозіў трохі сена для кароў і дровы паліць у печы.

Я ведаю, што цётка памерла пасля вайны ў той жа вёсцы, а вось пра свайго няроднага дзядзьку і іх дачку, сваю дваюрадную сястру — нічога не ведаю.

## 8

Каля невялікага альховага ляска пасвяцца коні, а сярод іх — прыгожы гняды з такім бліскучым круглым задам, што хацелася б рукой па ім паляпаць. У святле вячэрняга сонца цямнее густая атава, ад яе цягне халадком. Гнядога лепш не ляпаць, бо ён наравісты, незнаёмага можа нават укусіць. А я калісьці гадзіны са дзве праляжаў непрытомны, бо аднаго з нашых коней, між іншым, спакойнага інаходца, спрабаваў, дурань, падышоўшы ззаду, схапіць за хвост. Спрытам я не вызначаўся: праз нейкі час з таго ж самага інаходца, які спакойна скуб траву і на якім я хацеў праехацца без сядла, я ўпаў так няўдала, што зламаў сабе руку.

Мы зараз з двума сынамі дзядзькі Вінцэнта гуляем у бандытаў на землях хутара Наваполле. Сярод шматлікіх браценікаў яны першыя сталі таварышамі гульняў, самыя старэйшыя яшчэ ў Задвор'і. Адзін з іх праз некалькі гадоў памёр пасля няўдалай аперацыі — ампутацыі нагі: ён упаў з ложка, нават сам на гэта не звярнуў увагі, а потым выявілася, што нешта пашкодзіў у калене, пачаўся нейкі небяспечны працэс. Наогул дзядзьку не шанцавала на дзяцей. Адзін сын, які яшчэ толькі поўзаў, утапіўся ў стаўку, што быў выкапаны дзядзькам каля самых будынкаў. Пасля вайны два старэйшыя не

вярнуліся з далёкіх падарожжаў. Самому дзядзьку ў першую сусветную вайну пашанцавала: ён вярнуўся толькі без вялікага пальца на правай руцэ.

З усіх трох братоў гэты дзядзька быў найбольш гаспадарлівы і руплівы. Аб гэтым сведчаць і будынкі, добры малады сад, мноства ляшчын і слівенгерак, сведчыць нават і гняды жарабок, на якім працуюць толькі ў крайнім выпадку: ён служыць для выездаў. Цётка ў кухонных шафах хавае шмат слоікаў з варэннем не толькі аднаго года. Самае смачнае — гэта больш старое, густое і ліпкае. Пад застрэшшам вісяць на ветры вэнджаныя шынкі.

У дзядзькі шмат выездаў рабілася на конях; то ў драбінках, то гуртам на брычцы, у сяло, у краму па газу, цукар, запалкі. У доме панавала чысціня, было аж некалькі лямп з рознакаляровымі каўпакамі. Калі дзядзька аднойчы выконваў абавязкі солтыса, ён атрымліваў шмат розных ілюстраваных праспектаў і цэннікаў, за якія мне заўсёды можна было што-небудзь выменяць у браценікаў. Любыя лістоўкі ці брашуры, якія мне ўдавалася дастаць, выклікалі ў іх захапленне.

Нават з мястэчка, будучы ўжо вучнем гімназіі, я прыходзіў часам на нядзелю да дзядзькоў. Мы спалі на сене ў пуні, што стаяла амаль каля самага лесу, які часткова належаў Наваполлю, а часткова — Навaселлю. З навасельскімі браценікамі мы дамаўляліся «на граніцы».

У верасні паветра, калі праходзіш па дарозе, то там то сям насычана вострым і непрыемным пахам мочанага льну — мочанага або ўжо выцягнутага з вады і разасланага на ржышчы, каб падсох, перад тым як трапіць на ток, дзе яго апрацоўвалі льномялкамі, аддзяляючы кудзелю ад кастрыцы. Адсюль і назва месяца — кастрычнік. Перад гадамі эканамічнага крызісу, калі яшчэ шырока не разышліся «нажніцы цэн», лён быў у гэтых краях найбольш прыбытковай культурай. Асабліва добра ён радзіў на дзірвановых цалінных глебах, якіх на хутарах было ўдосталь, бо пасля падзелу зямлі штогод рабілася працаёмкая раскарчоўка, ачыстка ад карэнняў, пнёў і хмызняку.

Сіняватыя льняныя загоны як бы прыносілі спа-

кой не толькі вачам. Такімі катэгорыямі я думаю сёння, а ў той час не было патрэбы ў спакоі. Позняй восенню, калі вечары станавіліся доўгімі, і зімой — у многіх хатах туркаталі калаўроты, стукалі кросны. Доўга і ахвотна людзі хадзілі ў сваёй саматканай вопратцы, ткалі ўласныя капы і посцілкі, самым танным зімовым адзеннем служылі кажухі, якія часам патрэбны былі і ў цудоўным месяцы маі, які бываў халодны і кусаў за босыя ногі.

Каноплі вырошчвалі значна радзей, пераважна толькі для вяровак, затое яны часта дзікаром раслі за хлявамі, горка пахлі, нагадваючы нібы серабрысты палын, з гронак расцёртых у далонях канапель мы здабывалі смачнае насенне.

Толькі хутары мелі свае невялічкія ляскі, куды ўсе хадзілі ў грыбы і арэхі, на пасекі — па чэрвеньскія суніцы, а пазней — па маліну.

9

Для адных — работа, для другіх — прыемнасць. Адны кійкі нам служылі замест коней, а другія, крыху падструганыя, замест шабляў, якімі мы бязлітасна секліся пераважна з лапухамі, знішчаючы з размаху іх вялізныя, сівыя спадыспаду лісты. Урэшце надакучвала. Весялей за ўсё рабілася тады, калі ў фальварку збіралася больш людзей.

Гэта было ў часе талакі — грамадскай дапамогі суседзяў па вывазцы і разбіванню гною ў полі. Жанчыны разбівалі, мужчыны вазілі. А сярод іх быў рослы, рабы, упрыгожаны густымі вусікамі пад кірпатым носам Спірыдон, які з любой прычыны смяяўся губамі і блакітнымі вачыма, але і гатоў быў парнуць каго-небудзь віламі. Пра яго казалі, што ён не дае спакою ні жонцы, ні дзяўчатам.

Як там было з дзяўчатамі, не ведаю, ды і адкуль мне ведаць. Аднак думаю, што не адна сарамліва, але спакусліва смеючыся, выходзіла да яго на спатканне ў гай, бо маладосць вясковых кабет бывае такая кароткая.

На талацэ працавалі заўзята, апоўдні сыходзіліся на шумны абед, потым спалі, а пасля адпачынку працавалі да позняга вечара. Талака была бескарыс-

лівая, канчалася пачастункам з гарэлкай. Прагна высочвалі дзяўчат, каб іх разгушкаць і кінуць у ставок. Такі быў звычай.

Мы адчувалі сябе вельмі добра ў гэтым працавітым ажыўленні, карысталіся поўнай незалежнасцю, ніхто за намі не сачыў, і, акрамя таго, прыемна было крочыць за поўнымі вазамі, каб потым, стоячы ў возе і трымаючы ў руках лейцы, гнаць коней назад.

Значна багацейшыя і найбольш захапляючыя перажыванні прыносіла касьба. Накляпаўшы косы малаткамі на бабках, мужчыны ў зрэбнай бялізне ішлі на сенажаць, станавіліся ў рад, і адразу паралельна клаліся па тры-чатыры шырокія пракосы. Чуўся свіст кос і шоргат мянташак. Мы чакаем, каб хто-небудзь з касцоў раптам агаліў заечае або качынае гняздо — на жаль, не абыходзілася без ахвяр ад бліскучага ляза.

Абед прыносілі касцам на месца; упоўдзень яны драмалі пад кустамі, якіх процьма на беразе Васьмёркі.

Найбольш нас цікавілі чмяліныя гнёзды. Мы былі чмелярамі і мелі падрыхтаваныя маленькія борці з бяросты. Рызыкуючы быць уджаленымі, мы перакідвалі ў іх чмяліныя гнёзды з мохам, з невялічкімі гронкамі, якія складаліся з мноства скленеых ячэек накшталт буйных гарошын. Вечарам злятаўся ўвесь працавіты рой, засынаў, і тады мы нашы борці пераносілі на кветнікі перад домам. Паступова мы рабіліся ўладальнікамі маленькіх пасек. Час ад часу мы вымалі гронкі і саломінкамі высмоктвалі мёд. Ён быў куды смачнейшы за пчаліны. Увосень рой паміраў, заставаліся толькі маладыя маткі. Гэтым і засмучала нас восень. Найбольш небяспечнымі, але і ройнымі былі малыя чмялі з жоўтымі брушкамі.

Сена і нам прыносіла шмат прыемнага занятку: варочаць граблямі пракосы, каб хутчэй сохла, грэбці, бо конную сенагрэбку меў толькі дзядзька Урбан, укладваць копы, нарэшце, звозіць яго, сухое, хрумсткае, духмянае, у пуні. Неўзабаве амаль усе галінкі кустоў уздоўж палявых дарог выглядалі як скрэблы — на іх начапляліся сівыя жмуты сена.

Жніво — гэта зноў косы, але з прымацаванымі да іх маленькімі ветразямі, каб не ламаліся сцябліны, і сярпы — перш за ўсё сярпы. Не адных нас даймалі клопаты з наймам касцоў і жней, бо ва ўсіх было жніво, і кожны спяшаўся, каб пераспелыя каласы не абсыпаліся. Калі ўсюды стаялі мэндлікі, пакідалася толькі нязжатая невялічкая лапінка, на якой сцябліны з калоссем сцягваліся ў ажурны снапок, перавязваліся істужкай і ўпрыгожваліся кветкамі. Са жнівом жыта і пшаніцы скончана. Каб толькі яшчэ на пэўны час, пакуль перавезці снапы, не было дажджу. Жнеі вярталіся з песнямі; у валасах дзяўчат сінелі васількі; наперадзе ішла Сенька з вянком на каштанавых валасах, роўненька расчэсаных на абодва бакі; яна ж была і першая жняя. Наладжваўся ўрачысты пачастунак. Нельга скупіцца, асабліва з гарэлкай, бо нядоўга здабыць і дрэнную рэпутацыю.

## 10

Школа. Галоўным імкненнем бацькі было адарвацца ад зямлі і вясковага жыцця. Ажыццявіў ён яго не поўнасцю. Хацеў здаць экзамен на адваката, але, відаць, не ўдалося пераскочыць праз нейкія калючыя драты законаў, хоць да выбранай прафесіі рыхтаваўся грунтоўна і з веданнем справы. Скончылася тым, што ён узначаліў бюро скаргаў у адміністрацыйныя і судовыя ўлады. Ён быў яго ўладальнікам і адзіным службоўцам. Купіў пішучую машынку, на якой я першы навучыўся друкаваць, на жаль, адным пальцам левай і адным пальцам правай рукі. Нявесела жылося б нам, калі б існаванне нашай сям'і залежала толькі ад прыбыткаў гэтага бюро. Асноўнай нашай базай да канца заставалася гаспадарка ў Задвор'і.

У вайну бацьку мабілізавалі на нестраявую службу. Ён працаваў на дрэваапрацоўчых прадпрыемствах, якія выраблялі шпалы, бэлькі для палявых умацаванняў і дарожныя па́лі. На памяць яму засталіся залацістыя пагоны з адной зоркай і эмблемай тэхнічных войск, але вузейшыя за пагоны страявых войск. Мая маці нейкі час была з ім.

Пасля таго як Польшча атрымала незалежнасць, ён быў па чарзе гмінным сакратаром у Мікалаеве, Стэфанполі і Залессі. Памятаю сельскую школу ў Стэфанполі, дзе дзякуючы таварыскім адносінам паміж бацькамі і настаўніцай, я «зайцам» прысутнічаў на некаторых уроках. Бываў на ўроках і ў Залессі. Настаўнікам працаваў там пан Нядзеля, які застаўся ў памяці чалавекам даволі высокага росту, з металічным кійком у руцэ. Ён прымушаў свавольных вучняў перагінацца цераз крэсла, што стаяла каля дошкі, каб было найбольш зручна сцёбаць кійком.

Паходзіў ён з Галіцыі. Не раз я чуў зласлівыя заўвагі пра галіцыйцаў. Яны былі адукаваныя, і аўстрыйскія ўлады прыцягвалі іх да адміністрацыйнай працы ў органах мясцовага самакіравання. Аднак мясцовыя людзі лічылі, што тыя адбіраюць у іх хлеб, зайздросцілі іх адукацыі.

Колькі гэта мне тады магло быць гадоў? Чатыры, пяць, шэсць? Але як гэта ўстанавіць, калі няма ні верагодных сведкаў, ні сямейных папер. Аднак паспрабую. Пачну з адзінага, што ёсць у мяне, з пасведчання за першае паўгоддзе шостага класа гімназіі за 1931/32 навучальны год, і пачну год за годам адлічваць назад. 1917 года нараджэння, а значыць у школу я, мусіць, пайшоў у 1924 годзе. Значна раней, яшчэ ў Стэфанполі, дачка школьнага вартаўніка вечарам у цемры на ложку за перагародкай наладзіла з іншымі дзецьмі «гульню ў дарослых». Памятаю гэта цьмяна, але не забыўся, як яе звалі. Памятаю вусы яе бацькі, яго яшчэ царскую шапку. Памятаю марачныя банкноты, памятаю паміраючага ад сухотаў начальніка ці кіраўніка пошты, які хадзіў у царскім мундзіры, але ўжо без знакаў адрознення.

Ёй магло быць восем ці дзесяць гадоў, і я не думаю, што «гульня ў дарослых» вынікала з нейкай эратычнай свядомасці,— проста недзе штосьці бачыла, нешта дзесьці чула. Напэўна, у агульнай спальні бацькоў, за той перагародкай. Збіраючы абрыўкі ўласных уражанняў і пачутых пазней расказаў, я мог бы шмат напісаць не толькі пра Стэфанполь, у якім баяўся страхаў, якія расказвалі не толькі

пра Залессе, але нават і пра Мікалаева. Памятаю набажэнствы ў касцёле, памятаю некалькі эпізодаў з тых часоў, калі мы былі бежанцамі, зрэшты недалёкімі. Але ўсё гэта не мае непасрэдных адносін да маёй мясцовасці.

Вось школа ў вёсцы Мётлы, што ад Задвор'я за якіх-небудзь тры вярсты. Не навука, а звязаныя з ёй акалічнасці паглыналі час, абуджалі ўражлівасць.

Я гатоў думаць, што нямногаму можна было навучыцца ў той чатырохгодцы, нягледзячы на самыя лепшыя пажаданні і намаганні настаўніцы, прыгожай панны Буйвідуўны, якая любіла насіць аранжавы світарок сваёй работы.

Па мосціку праз яр, які тут цякла Васьмёрка, трэба было ўзысці на ўзгорак, на якім раскінулася вёска Мётлы. На самым яе канцы стаяла вялікая хата са страхой, з сенцамі, ці раздзявалкай, і вялікім пакоем — нашым класам. За перагародкай была настаўніцкая — клетка, катух. У тым пакоі адбываліся заняткі ў дзве змены: да абеду за партамі ў два рады сядзелі першы і другі класы, пасля абеду — трэці і чацвёрты.

У школе было толькі самае неабходнае абсталяванне: парты, стол, шафа з некалькімі дзесяткамі кніжак. На сцяне насупраць увахода вісеў вялізны арол у рамцы з дубчыкаў вербалозу, пераплеценых мяккімі пасмамі рафіі * саламянага колеру; віселі таксама партрэты прэзідэнта і маршала Пілсудскага. Ад верхніх вуглоў сцен да сярэдзіны столі былі працягнуты гірлянды з нарэзанай саломы і каляровай паперы; цэнтрам іх была вялізная газавая лямпа, падвешаная на дроце.

На школьных занятках заўсёды панаваў гармідар, бо некаторыя вучні прыходзілі з самага ранку, хоць нават былі з другой вёскі. Часцей за ўсё час вызначалі па сонцу, а не па гадзінніках. Зімой гулялі ў снежкі і ляпілі баб, летам гулялі ў квача, а больш за ўсё — у «малыя кучкі», гэта значыць штурхаліся і валілі адзін аднаго з ног, у выніку чаго

* Рафія — род дрэва з сямейства пальмавых, з гіганцкімі пёрыстымі лістамі. З вонкавага слою тканіны лістоў мадагаскарскай пальмы атрымліваюць моцнае, мяккае, гладкае валакно — рафію.

на зямлі вырастала бурлівая кучка хлопцаў і дзяўчат, якім своечасова не ўдалося ўцячы. Настаўніца не вельмі магла ўплываць на сітуацыю, бо сярод хлопцаў былі і пятнаццацігадовыя, якія хадзілі ў школу па некалькі зім. Менавіта зімамі лічылі тэрмін вучобы ў школе, бо ў іншыя поры года многіх адрывала ад заняткаў праца на гаспадарцы. Для некаторых дзяцей польская мова была блізкай, хоць чутай толькі ў школе. І нічога дзіўнага, што пасля трох-чатырох зім навучання многія з іх умелі чытаць, але толькі «па сваёй чытанцы». У большых местачковых школах была і беларуская мова як прадмет неабавязковы. Калі ж я трапіў у такую школу, дык высветлілася, што аматараў неабавязковага прадмета было вельмі мала.

У Мётлах не патрабавалі сшыткаў, якія можна было купляць не толькі за грошы, але і за яйкі. Ужываліся сланцавыя грыфелі ў форме алоўка, шэрыя слюдзяныя дошчачкі ў драўляных рамках, што перайшлі ў спадчыну ад бацькоў. Усё недарэчы напісанае сціралася пасліненай анучкай або і пасліненым пальцам.

Ранец быў рэдкасцю, кніжкі і сшыткі разам са слюдзяной дошчачкай звязваліся папружкамі. Некаторыя вучні на саматканым верхнім адзенні замест гузікаў мелі засцежкі, выструганыя з дрэва. Тузаючыся адзін з адным, іх заўсёды абрывалі. Канчатковай перамогай над праціўнікам лічылася поўнае абарванне засцежак. Вельмі магчыма, што ў гэтай бязлітаснай барацьбе супраць драўляных засцежак была падсвядомая пашана да гузікаў, якіх ніколі не абрывалі.

Настаўніца разы два на год арганізоўвала нават вечары самадзейнасці. Я прымаў у іх удзел як дэкламатар.

Святы ў школе адзначаліся часцей, чым дзе-небудзь, хоць абавязковымі былі толькі дзяржаўныя і каталіцкія, але вучні-католікі складалі мізэрную меншасць, таму ў праваслаўныя святы школьны пакой пуставаў. Мне прыгадваецца такі дзень, калі толькі я адзін быў прадстаўніком двух старэйшых класаў, а мой брацелік — двух малодшых. Нягледзячы на слабы нагляд за намі, панна Буйвідуўна

выключна з пачуцця абавязку аб'яднала два класы, пасадзіўшы нас за парту перад сталом, які служыў кафедрай. У пакоі панавала незвычайная цішыня, а ў мяне, як на ліха, бурчала ў жываце, чаго я вельмі саромеўся і таму ўвесь час адчуваў сябе няёмка.

Мы ахвотна хадзілі ў школу, але не таму, што нас прываблівалі ўрокі, а таму, што нам падабалася дарога, перапынкі паміж урокамі, сустрэчы з сябрамі. Аднак зімой нават і я прапускаў урокі, калі над палямі завывалі мяцеліцы, што заносілі сцежкі і дарожкі, сям-там намяталі гурбы на тракце. Здаралася, што лёд на Васьмёрцы быў чысты і пакрываў нават паплавы, тады ўсе мы любілі коўзацца. Хто на падэшвах, а хто на драўляных каньках у форме чоўнікаў з прымацаваным знізу дротам, крыху завостраным напільнікам. І той, хто меў хоць адзін жалезны канёк, няхай нават прывязаны да чаравіка вяровачкамі, выклікаў павагу і зайздрасць.

Часам суседзі дамаўляліся і па чарзе адвозілі дзяцей у школу. Што датычыць мяне, дык бацькі вырашылі зняць куток у хаце аднаго з гаспадароў, таму я вяртаўся дадому толькі ў больш пагодныя дні.

Дзякуючы таму што я быў на кватэры, я навучыўся рабіць пасткі і ставіць нераты, бо ранняй вясной Васьмёрка разлівалася, рабілася амаль ракой, гнала воды з пеністымі пырскамі, здаецца, нават зрывала дзесьці масткі. З ракіты хлопцы плялі нераты, ставілі іх на быстрыні пасярод ракі, перагароджваючы цячэнне лазовымі пляцёнкамі. Кожную раніцу даводзілася даставаць іх і вытрасаць — траляліся акуні, плоткі, шчупакі. Вядома, калі толькі хто-небудзь больш спрытны не зрабіў гэтага раней.

Летам той ці іншы з нас пахаджваў з восьцямі ў руках уздоўж Васьмёркі, якая сям-там была падобна толькі на нітку вады, і шукаў больш глыбокіх мясцін, што нагадвалі натуральныя басейны. У бронзавай вадзе, у цяньку вольхаў, драмалі нерухомыя шчупакі. На жаль, часам гэтыя жалезныя відэльцы траплялі ў іх.

Нягледзячы на ўсё, я ў школе сяму-таму навучыўся. У коле знаёмых выхваляўся дэкламацыяй

вершаў, а ў школе, відаць, меў даволі значныя поспехі, бо панна Буйвідуўна дала мне магчымасць скончыць чатыры класы за два гады — гэта не забаранялася законам. Потым мяне адвезлі на кватэру ў мястэчка, дзе я скончыў пяты і шосты класы сямігодкі. У гімназію я хадзіў ужо з дому, які бацька купіў у мястэчку. Бываючы ў Задвор'і, я заглядаў часам у школу ў Мётлах, хоць і не было ў ёй панны Буйвідуўны. Новы настаўнік, пан Юршэвіч, прымаў мяне зычліва, рэкамендаваў вучням як «выпускніка». Панна Буйвідуўна паходзіла з больш далёкіх нашых аколіц і, мабыць, выйшла замуж. Нават калі яна мела шмат хатніх абавязкаў, дык можна меркаваць, што спраўляцца з імі было лягчэй, чым кіраваць чатырма класамі, адначасова праводзячы заняткі з двума класамі ў пакоі, гэткім душным зімой, бо вокны знадворку да паловы былі абшыты дошкамі і ўцеплены, не адчыняліся, і для доступу свежага паветра служылі толькі дзверы ў часе перапынкаў.

А якім было жыццё настаўніцы на вачах усёй вёскі! Ды і мы часам падкрадваліся пад асветленае акно пакоя, у якім яна жыла, каб праз фіранку падглядзець, што робіць «пані вучыцелька» — асо́ба, якая найбольш цікавіла не толькі адных нас.

11

Бацька любіў успамінаць адзін эпізод са сваіх школьных часоў. Настаўнік пытаецца, як завуць гасудара-імператара. У пакоі мёртвая цішыня, нарэшце вырываецца менавіта бацька, перакананы, што заслужыць добрую ацэнку:

— Мікалай!

— Ах ты, дурань! — закрычаў настаўнік, і замест таго каб паставіць бацьку добрую ацэнку, ён загадаў усяму класу пісаць за партамі і шмат разоў паўтараць афіцыйны, доўгі тытул «его императорского величества». Дакладныя дадзеныя, якія датычылі гадавін, дзён нараджэння і імянін царскай сям'і — святочныя дні ў Расійскай імперыі,— нават прыводзіліся ў польскіх календарах. Яны кішэлі імёнамі вялікіх княгінь і вялікіх князёў. У школе іх

трэба было ведаць даволі грунтоўна, а таксама павінен быў іх памятаць кожны праваслаўны і руплівы чыноўнік.

Заняткі часцей за ўсё пачыналіся з таго, што мы абслугоўвалі прыватную гаспадарку настаўніка і школу: падмяталі, калолі дровы, палілі ў печах, напаўнялі драўляныя кадушкі вадой.

Калі б не гувернёры — ужываю гэта слова загадзя,— дык мала чаму навучыліся б мой бацька і яго браты ў школе. Да таго ж, не былі яны стараннымі вучнямі. І ў першыя гады незалежнасці на школу мала звярталі ўвагі, прынамсі, у нашых краях. Бытавала дрэнная традыцыя, а таксама перакананне, што самая галоўная апора — гэта зямля. Але на зямлі рабілася цесна, выявілася таксама, што, незалежна ад веравызнання і нацыянальнасці, нават з атэстата сталасці можна мець пэўную карысць. І ў гімназіі пачалі вучыцца не толькі дзеці з мястэчкаў, з маёнткаў, фальваркаў і хутароў, але і сялянскія дзеці, якіх часам вызвалялі ад платы за вучобу і аблягчалі ім, хоць і ў нязначнай меры, існаванне праз інтэрнаты. Па праўдзе кажучы, у перыяд вялікага крызісу зарадзілася змрочная думка аб лішку інтэлігенцыі, але нішто ўжо не магло стрымаць абуджанай цягі да асветы.

Жыццё у перыяд «запашак» было нялёгкае, збіралі багацці гадамі, цярпліва, у мазолістай працы. Каб прабудзіць павагу і зайздрасць у суседзяў, што працавалі побач у полі, бацька, несучы ў гаршках абед брату, здалёк крычаў:

— Вінцусь, ідзі есці клёцкі са смятанай!

Але якая магла быць гаворка пра славутыя літоўскія калдуны і кіндзюкі! Бульбяная бабка са скваркамі, кішка, начыненая кашай,— гэта былі дэлікатэсы! І, вядома, грыбныя стравы.

Да грыбоў і на маёй памяці адносіліся пераборліва. Бо іх расло столькі, што шмат якімі можна было грэбаваць. Карысталіся поспехам баравікі, маслякі, падасінавікі, апенькі, якія цэлымі сем'ямі абсядалі карэнні пнёў, рыжыкі, што выглядалі з травы пад хвойкамі. Мы не звярталі ўвагі на сыраежкі, не разумелі вартасці шампіньёнаў. Шмат грыбоў, прыдатных да яды, называлі «воўчымі».

Сакавіцкае неба з лёгкай сінявой смугі з таго боку, дзе павінна быць сонца, свяцілася ружавата-чырванаватым колерам. Чарнеюць кусты і дрэвы, іх контуры выразныя, снег і зашклёныя лужыны, часам чорная ледзяная корка застылай зямлі.

Пры ранішнім аглядзе гаспадаркі не было цяпер патрэбы ў ліхтары з кажаном на выпуклым шкле за драцяной сеткай. Хіба толькі тады, калі чакалі, што акоцяцца авечкі або ацеляцца каровы.

У алешніку блукае імгла, якая нагадвае воблачкі махорачнага дыму, але яны ўсё часцей робяцца больш лёгкімі і празрыстымі, бо з дня на дзень прыбаўляецца святла. Старэйшыя назіраюць атмасферныя змены па розных прыкметах, спасылаюцца на прымаўкі, прыстасоўваюць іх да надвор'я:

Першы дзень пасля посту
Пагоду лета пакажа,
Другі — якой будзе восень,
Трэці — зіму прадкажа...

На блакітна-белым тракце — звонкія ледзяшы, конскі кал і жоўтыя плямы ад конскай мачы, на бярозах — шчэбет вераб'ёў, якія час ад часу шпаркай чародкай мяняюць месца збору. Часам на момант выгляне сонца, прыносячы радасць.

Яшчэ ёсць шмат вольнага часу, таму нават самыя працавітыя карыстаюцца кожнай выпадковай сустрэчай, каб, абапёршыся аб плот, пагутарыць, частуючыся махоркай з капшукоў або вышытых кісетаў. А што ўжо казаць пра абібокаў, якіх усюды хапае! Такія, калі ў млыне было дужа завозна, ніколі не клапаціліся пра сваю чаргу, ахвотна ўступалі месца больш нецярплівым. У выпадку патрэбы нешта вырашыць у гміне яны не адчуваюць сябе шчаслівымі, калі здарыцца, што можна без затрымкі ўладкаваць справу і вярнуцца.

Бацька лічыў за лепшае сядзець дома, заўсёды любіў шмат чытаць. У Задвор'і ў яго было для гэтага менш магчымасці, але ў такі час, пра які ідзе гаворка, ён надзяваў акуляры і схіляўся над сталом. Заўзята збіраў газеты, часопісы, кніжкі. Каштавалі

яны нядорага, і іх лёгка было набыць. «Тыгоднік ілюстраваны», пецярбургскі «Край» і «Клосы», рускі «Нива», аповесці Гогаля і Жаромскага. Не да ўсіх бацька даваў мне доступ. Жаромскага, напрыклад, ён трымаў пад замком ў шафе, але асцярожнасць была лішняй — цікавасць да Жаромскага прабудзілася ў мяне толькі ў гімназіі.

Затое заінтрыгавала мяне маленькая кніжачка ў жоўтай папяровай вокладцы: Мацей Бурачок, «Беларуская дудка». Мяне вельмі здзівіла, што існуе літаратура на мове навакольных вёсак.

Мне здавалася, што чытаць будзе лёгка, бо напісана ж лацінскімі літарамі, але выявілася, што трэба засвоіць розныя надлітарныя знакі, напрыклад над «и», якое было кароткім і доўгім, ды і не ўсе словы я разумеў: мова тутэйшых людзей, часта нават і шляхты, уяўляла сабой мешаніну. Да польска-беларускіх слоў прымешваліся рускія, адпаведна прыстасаваныя. Аднак пазней я стаў панібратам «Беларускай дудкі» — у нас гаварылі «жалейка», якая ўяўляе, мабыць, больш красамоўны адпаведнік польскай «фуяркі»,— з яе вершамі пра долю беларускага селяніна, казкамі і прымаўкамі.

## 13

Вайна дакацілася да самых далёкіх, у мірны час амаль зусім забытых куткоў. Пасля яе засталіся не толькі расказы, але і крыжы на кожным кроку, інваліды. На сценах у многіх хатах як успамін вісяць фатаграфіі маладых мужчын — пехацінцаў з закручанымі ўгору вусікамі. Яны былі ў гімнасцёрках са стаячымі, зашпіленымі пад барадой каўнярамі, з шырокімі пагонамі з нумарамі палкоў, у шапках без казыркоў. Марадзёры, адступаючы, спалілі частку задворскага дома, і ён ніколі не быў адбудаваны, толькі паблізу бацька паставіў хаціну, у якой пад канец нашага прабывання ў Задвор'і жыў «запашнік» пан Пракапенка, чарнявы мужчына з доўгім гарбатым носам, даволі гультаяваты, падобны на цыгана, але, здаецца, паходзіў ён з казакоў. Былі ў яго сыны Аляксандр і Дзмітрый. Першы, гады на два старэйшы за мяне, утапіўся, купаючыся ў стаў-

ку маёнтка Прасёлкавічы, які межаваў з намі з захаду. Гэта быў хлопец з рэзкім характарам, нетыповым для тутэйшых, якія вызначаліся хутчэй за ўсё меланхоліяй і флегматычнасцю.

У лясах, якія і тут былі па-зладзейску высечаны, траплялiся акопы, ужо са згладжанымі насыпамі, парослыя травой і малiннікам. Пустэч у тых краях было шмат, а вайна іх памножыла. У багністых імшарах, у дрыгве гінулі салдаты розных радоў войск, іх кроў была падобна да шчодра ўрадлівых журавін, якія заўсёды прадаваліся толькі вёдрамі, як і брусніцы з сасновых бароў. Выворваліся артылерыйскія снарады, а вінтовачныя патроны пераходзілі ў дзяцей з рук у рукі. Колькі разоў мы кідалі іх у вогнішчы, уцякалі ў яр або хаваліся за які-небудзь выступ на зямлі і, стаіўшы дыханне, слухалі, як яны ўзрываліся, раскідваючы галавешкі і недагарэлае ламачча.

Мае маленькія сябры і сяброўкі з вясковай школы былі амаль усе змізарнелыя, з ясна блакітнымі вочкамі на бледных тварыках, якія нагадвалі звялую лебяду. А ў цяжкія і доўгія зімы пуд сена каштаваў столькі, колькі і пуд ільну, таму са стрэх выдзіралі найменш трухлявую салому на сечку для схуднелай жывёлы. Сабакі хадзілі з запалымі бакамі.

І замест цукру да чаю нам нейкі час служыў сахарын у выглядзе маленькіх таблетак у зялёных кардонных пачачках. Стаяў марозны ранак, калі маці рабіла свечы з лою: мы апускалі звітыя з нейкіх нітак кнаты ў таз са смярдзючым тлушчам, потым вымалі, каб яны астылі і паступова патаўсцелі, ператвараючыся ў бясформенныя камякаватыя свечкі, якія, калі гарэлі, моцна пырскалі.

Толькі праз некалькі год тварыкі дзетак, што нарадзіліся пазней, пакрываў румянец, з іх пачынала знікаць змарнеласць. У вёсках пераставалі карыстацца ступамі, у якіх таўклі зерне на кашу, маслёнкамі, ці бойкамі, усё радзей ужываліся жорны. З'яўляліся млячарні, пускаліся ў ход вадзяныя і нават паравыя млыны. Адносны дастатак з часу вайны і першых пасляваенных гадоў паволі ператвараўся ў абмен тавараў і паслуг, якія апіраўся на грошы. У вясковай моладзі прабудзілася цяга да крамнага адзення, у

некаторых хлопцаў — да клёшных штаноў і гамашаў, з якімі канкурыравалі ваўняныя брыджы і боты з бліскучымі цвёрдымі халявамі. Загучалі гарадскія модныя песні. З'явіліся гадзіннікі з ланцужкамі, лічылася шыкам чапляць паміж кішэнямі камізэлькі ланцужок са срабрыстым або залатым бляскам. Часцей за ўсё гэта была падробка.

Маладыя мужчыны звярталі ўвагу, як і ўвогуле ў вёсцы, перш за ўсё на чыстае галенне, на боты і штаны — на ўсё астатняе можна было не зважаць. Зрэшты, не ўсё было і па кішэні.

Маладыя жанчыны шмат часу трацілі на расчэсванне валасоў. Пачыналася гэта з дзяцей, маткі кожны дзень прычэсвалі дачок, што мела і практычнае значэнне: зручны момант, каб пашукаць у галаве.

Жанчына, якая прычэсвае валасы,— гэта прыгожы сюжэт не адной карціны. Валасы аж да сённяшняга дня жанчыны дужа шануюць і ганарацца доўгімі косамі і каронамі, звітымі з іх. Самая бедная дзяўчына выглядала прывабна, калі магла пахваліцца пышнымі, добра прычасанымі валасамі. У свята ўплеценая ў валасы кветка пад сонечнымі промнямі яшчэ больш падкрэслівала прыгажосць прычоскі.

Як шкада, што я не мог быць зусім свядомым сведкам узнікнення Наваполля і Навасельля! Але добра прыжыўся я на тых хутарах, ужо калі яны мелі выгляд абжытых сядзіб з садамі, абнесенымі плятнямі, са студнямі, сваімі сажалкамі, з кветкамі ў гародчыках.

Толькі дрэвы, якія акружалі забудовы, сведчылі аб маладосці хутароў. А пачыналася з нічога, і нават пасля двух гадоў цяжкай працы хутары яшчэ нагадвалі мясціны ссылак. А аб цяжкай працы яскрава сведчылі рукі дзядзькоў: пачарнелыя пальцы з цвёрдымі мазолістымі падушачкамі, з закарэлымі далонямі, якіх нічым не адмыеш.

Раскарчоўка, высечка хмызняку, апрацоўка пустэч у свой час прынеслі дзядзьку Урбану шмат зусім нечаканых клопатаў. Нечым усхваляваны, ён аднаго разу неасцярожна сказаў фанабэрыстаму прадстаўніку дзяржаўнай паліцыі:

— А што мне паліцэйскі? Кожны парабак можа стаць паліцэйскім!

Дзядзька наклікаў на сябе яшчэ большую бяду тым, што фармальна да яго рэплікі нельга было прычапіцца. Аднак пакрыўджаны прадстаўнік улады знайшоў іншую магчымасць, каб адпомсціць, не шкадуючы пры гэтым ні часу, ні намаганняў. Ён спаслаўся на закон аб лясах — правільны закон, які дазваляў высечку за год не больш адной васьмідзесятай плошчы лесу, але абавязваў засеяць лесам гэткую ж плошчу. І хоць закон меў мала агульнага з раскарчоўкай, якая датычыла хмызнякоў і мізэрных парасткаў, майго дзядзьку абвінавацілі ў драпежным вядзенні гаспадаркі. Шнырылі па вёсках і старанна збіралі звесткі, вербавалі сведкаў сярод тых, каго дзядзька наймаў на раскарчоўку або каму бясплатна аддаваў гэтыя карчы і высечаныя ці выдраныя кусты. Добра памятаю, што было складзена больш за шэсцьдзесят пратаколаў. З гэтага моманту час ад часу трэба было запрагаць каня і, адрываючыся ад гаспадарчых работ, ехаць у мястэчка на суд. Усе справы скончыліся апраўданнем, але колькі цяганіны, выдаткаў, часу і клопатаў! Толькі пасля замены ўчастковага паліцэйскага дзядзька ўздыхнуў лягчэй. І не дзіва, што ён да канца быў апазіцыянерам, хоць палітыкай не займаўся, а быў патрыётам Польшчы. Пры гасцінцы ён паставіў вялізны крыж, на якім выразаў надпіс: Gloria Deo in Restitutione Polonia*.

Варта сказаць некалькі слоў аб Прасёлкавічах, з якімі межавалі мы з захаду. Гэта быў маёнтак, і жылі ў ім, як здавалася майму акружэнню, людзі іншай катэгорыі — паны.

Мы бывалі ў гэтым маёнтку. Паміж старых дрэў стаяў вялікі белы дом з каланадай ганка. На прасторным двары перад домам быў шырокі круг газона, які аздаблялі вяргіні, півоні, настуркі, аксаміткі.

Мяне, летуценніка са схільнасцямі да пошукаў слядоў мінуўшчыны, больш за ўсё вабіла закінутая і бяздзейная дваровая капліца, да якой прылягаў вя-

---

* Хвала богу за адраджэнне Польшчы *(лац.)*.

лікі ставок, часткова пакрыты раскай, а сям-там парослы чаротам. У капліцы было некалькі запыленых карцін. Запомнілася мне самая меншая з іх, што стаяла каля сцяны на падгнілай падлозе. На ёй быў намаляваны чэрап са скрыжаванымі пад ім пішчалямі і надпіс на лацінскай мове: Hodie mihi, cras tibi *.

## 14

Пуні, або адрыны з сенам для коней і з аўсянай саломай для кароў, з якой часам рабілі трасянку, каб была больш смачная і спажыўная,— гэта часцей за ўсё пабудовы са страхой. Дастаткова ў адпаведным месцы прыткнуць аганёк запалкі або выкрасаць іскру з крэсіва, як усё можа згарэць выпадкова ці ў выніку чыёй-небудзь помсты. Падпалы з мэтай помсты здараліся сярод сялян і тут, асабліва ў больш далёкія часы. Пазней помста «мадэрнізавалася», прымаючы характар даносаў.

Да наступлення замаразкаў, маразоў ахвотна спалі ў пунях, знаходзячы ў іх сховішча ад цеснаты хат і часам ад людскіх вачэй. Трапляліся і такія, што не баяліся холаду і начавалі ў іх на працягу ўсяго года.

Летам у пуні стаяла прыемная прахалода, пранізаная ў некаторых месцах сонечнымі промнямі, па ўтрамбаванай зямлі бегалі залацістыя зайчыкі, бліжэй да сцен пахла гніллю, струхлелым хмызам, але над усім разносіўся водар мурагу — найлепшага сена з траў і кветак.

А вось на сене з балоцістых лугоў у часе сну можна было парэзаць цела вострай асакой. Але затое паблізу былі парослыя водарасцямі сажалкі, сну спрыяў канцэрт жаб — нястомнае і аднастайнае кваканне. Ніколі пасля гэтак не спалася.

У пунях яшчэ і грашылі, дамаўляліся пра сустрэчы або стараліся знянацку наляцець на спячых дзяўчат, каб лягчэй авалодаць імі. Хлапчук прыслухоўваўся да гутарак мужчын, нанятых касіць сена ці ў верасні — малаціць. Ён не разумеў сутнасці справы, але яго вабіла хараство пазнання таямніцы.

* Сёння мне, заўтра табе *(лац.)*.

Мужчыны дужа няўдзячныя. Яны зведваюць з жанчынамі асалоду, а потым няславяць іх брыдкімі словамі ў кампаніі іншых мужчын. А калі часам грэх прыводзіў да непажаданых вынікаў, яны з пагардай адносіліся да лёсу байструкоў, ці «крапіўнікаў», якія нібыта зарадзіліся пад плотам, у крапіве. Прыводжу аж два народныя, менавіта пагардлівыя беларускія сінонімы для няшлюбных дзяцей.

Мужчыны адносяцца з павагай да тых жанчын, якія ім не паддаліся. Але, у сваю чаргу, у той павазе ёсць таксама і пагарда. Пра такіх гавораць: «правічка» — па польску, «цэлка» — па руску. Іншая справа, што і жанчыны ўмеюць весці вельмі нясціплыя размовы, аднак яны робяць гэта больш тонка.

У маёй маленькай аколіцы славілася падатлівасцю Сенька, ці Ксеня. Была, напэўна, свая Сенька з нястрымным тэмпераментам у кожнай вёсцы, але я памятаю толькі гэту адну, бо яна часта з'яўлялася ў нашым фальварку. Зрэшты, яна і жыла ў бліжэйшай вёсцы, якая сваімі землямі межавала з нашымі. Высокая, дзябёлая і дужая, яна ахвотна бралася і за мужчынскую работу. Былі ў яе правільныя рысы твару, мясістыя губы, якія наводзілі на параўнанне з вішнямі, ружовыя шчокі. Бойкая, язык, калі ўжыць выраз Гамера, з-за агароджы белых зубоў у патрэбны момант кідаў вострыя рэплікі. Такая не дасць сябе пакрыўдзіць.

Здаецца, яна любіла спаць у пунях і зімой. Гэта былі яе харомы. «Ай-ай-ай!» — звычайна так яна выказвала адчуванне асалоды. Яе ахвотна паляпвалі па задніх выпукласцях, на што яна адказвала смехам, так званым спакушальным. За вочы пра яе казалі: пастаялы двор, заезны дом.

Яе сястра — сціплая, мізэрная і брыдкая — па характары была ёй поўнай супроцьлегласцю. Нейкі час Мальвіна працавала ў нас служанкай.

У іх на дзвюх была хаціна ў вёсцы. Сенька потым пасталела і скончыла даволі дзіўна. Колькі разоў пазней, выключаючы зімы, ходзячы з мястэчка ў Задвор'е, я заўсёды бачыў, што перад іх хацінай у агародчыку з мальвамі сядзеў нейкі даведзены да галечы шляхцюк, ужо стары, сівы, вусаты, які жыў у сясцёр і зрабіўся няшлюбным мужам Сенькі.

Я калісьці бачыў Сеньку голую. І яе галізна была цудоўная, прывабная. З некалькімі беларускімі хлопцамі мы пайшлі ў Чорны бор — вёску, якая раскінулася ў сасновым лесе, над вялікім возерам (прынамсі, у той час яно было для мяне вялікім, надта вялікім), каб пакупацца, пашукаць птушыных гнёздаў. Мы ўбачылі некалькі дзяўчат, якія плюскаліся ў вадзе. Прыселі мы на вузкім пясчаным беразе каля бязладна раскіданых паркалёвых сукенак і льняных кашуль. Дзяўчаты схаваліся ў вадзе аж па шыі, пачалі неўзабаве ад холаду ляскаць зубамі, аднак саромеліся выйсці на бераг.

Хлопцы дражнілі іх і правакавалі. Адзін з іх бессаромна заспяваў:

Три деревни, два села,
Восемь девок, один я.
Куда девки, туда я...
...Девки в баню, на полок,
Я — за черный хохолок!

Не ручаюся за поўную дакладнасць цытаты. Гэта ўжо не так і важна. Важна тое, што Сенька, не саромеючыся, выйшла з вады голая. Хочаце — паглядзіце! А потым, кленучы нас апошнімі словамі, усіх паразганяла, бегаючы за кожным асобна.

У нас у кожнага багацейшага селяніна была свая лазня, якая называлася «баняй». Не магу зразумець, чаму гэтыя будыначкі, што так добра служаць гігіене, не распаўсюдзіліся па ўсім нашым краі. Палок — гэта паліцы, накшталт прыступак, на якіх выбіраючы вышэйшы або ніжэйшы, у залежнасці ад вытрымкі, хвасталіся бярозавымі венікамі, паддаючы пары.

Адкуль бралася пара? На печ з каменняў, нагрэтую перад гэтым да чырвані, лілі ваду.

Хвастанне цела пад парай — гэта была дэманстрацыя вынослівасці. Найбольш моцныя хвасталіся доўга на самым высокім палку, кожную хвіліну просячы паддаць пары. Памятаю, мой дзед апранаў на галаву нейкую лямцавую ярмолку і, нягледзячы на пажылы ўзрост вытрымліваў доўга. Я ў гэты час, скурчыўшыся, сядзеў на падлозе і асвяжаў сябе халоднай вадой з драўлянай балеі. Некаторыя мужчыны пасля такой працэдуры выскоквалі зімой у снег, часам у сажалку, а некаторыя — у крапіву.

Разагрэтыя целы, чырвоныя і мокрыя, з прыліплымі да іх сям-там лістамі ад распараных бярозавых венікаў, павінны былі такім чынам загартоўвацца ад рэўматызму. Ад гэтых ліпкіх распараных лістоў паходзіць трапная руская прымаўка пра надакучлівых людзей: «пристал, как банный лист к ...».

Ваду ў цэбрах грэлі каменнямі, што перад гэтым напальваліся ў печы, якую, вядома, палілі бярозавымі дровамі.

Лазня была нечым цырыманіяльным, хоць не ў такой ступені, як купанне ў іудзеяў ці мусульман. Жанчыны заўсёды мыліся пасля мужчын. Зрэшты, гэта мела і сваё практычнае абгрунтаванне: мужчыны любілі больш гарачую ваду і пару. Пасля лазні сустракалі словамі:

— Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус!

Пры гэтым адчувалі нешта накшталт катарсіса, святога ачышчэння. Незвычайнасць такога суботняга ці перадсвяточнага вечара падкрэслівала абавязковая чарка гарэлкі, чым нават не грэбаваў і мой бацька — чалавек, які не піў і не курыў.

Прыгадаю яшчэ лазню ў старавераў у вёсцы Залессе каля Глыбокага, якое пасля першай сусветнай вайны было адміністрацыйным цэнтрам Дзісненскага павета. Гэта лазня з усімі выгодамі, яна зіхацела чысцінёй, печ у ёй была накрыта тоўстай бляхай, на якую лілі ваду. Мыліся ў гэтай лазні разам мужчыны і жанчыны. Барадатыя стараверы, найбольш непахісныя ў сваіх прынцыпах, звычайна нават не давалі напіцца вады людзям іншай веры з конавак, якімі самі карысталіся, і таму, як я апынуўся ў іх лазні, не памятаю.

У стараверау (можа, таму, што мужчыны і жанчыны мыліся разам), нягледзячы на іх ахайнасць, былі распаўсюджаны венерычныя хваробы.

Я ўспамінаў гутарку ў лазні. Увогуле кажучы, людзі ў нас не дужа развязвалі языкі — ні маладыя, ні старыя. Часцей за ўсё пакідалі нешта для домыслаў, ужывалі словы асцярожна, нават калі да таго не прымушалі абставіны.

Рэдка чулася сакавітая руская лаянка ў поўным яе гучанні. Словы замяняліся, змякчаліся. Мой дзед па бацьку меў уласныя праклянцці: «Каб на цябе

пранцы...», «Каб цябе паляруш...» А што меліся на ўвазе сіфіліс і параліч, я даведаўся пазней.

У людзей была ўнутраная, іх уласная стрыманасць.

Да хадзячых беларускіх прымавак, якія замянялі цяжкія праклёны, належала: «Каб цябе трасца!» Трасца — гэта малярыя. Жанчыны наогул саромеліся брыдкіх слоў. Мяне надоўга прывучылі не ўжываць слова «чорт», бо перад смерцю ён пакажацца столькі разоў, колькі ты вымавіў яго ў жыцці. Але некаторыя віды чарцей бывалі сімпатычныя. Адзін з цудоўных беларускіх паэтаў, які маладым памёр ад сухотаў, Максім Багдановіч напісаў прыгожы верш пад назвай «Старасць», які я ў свой час пераклаў на польскую мову. Верш датаваны 1909 годам.

Палаюць асіны, каліны,
Чырвоныя сыплюць лісты
І вязкай жаўцеюшчай гліны
Цяжолыя крыюць пласты.

Брыдзець, пахіснуўшысь панура,
Лясун на раздоллі дарог.
Абшарпана старая скура,
Зламаўся аб дзерава рог.

Дарога ўся ў лужах. Размыта
Дажджом праліўным каляя.
Гразь чаўкаець жадна капыта,
Шуршыць, упаўзая, змяя.

Касматая шэрсць перамокла,
Стаміўся ён, стары, прадрог;
Лёд тонкі і востры, як сцёкла,
Капыта царапаець ног.

Спяшыць ён дайсці да трасіны:
Там — мяккія, цёплыя мхі,
А тут толькі плачуць асіны
Ды б'юцца галіны альхі.

15

...Праз вокны пабачыць шэры
дзень, што навіс імглою,
пад плотам хмель пачарнелы,
сплецены з крапівою.

Іскрыстыя росы на хмелю,
што дожджык пакінуў рана,
асеннюю позьнюю зелень,
пах сена і яблык духмяных...

Часам здаецца, што самыя важныя і салодка-пакутлівыя ўспаміны — неканкрэтныя, не звязаныя з тымі ці іншымі людзьмі, з іх тварамі, якія можна ўявіць толькі павярхоўна, з выразна акрэсленымі абставінамі. Гэта ўспаміны, якія мяжуюць з явай і сном, калі ты яшчэ спіш, а аднекуль даносіцца сардэчны, але надакучлівы шэпт: «Уставай, уставай!»

Галасы і шэлесты, якія ўзнікаюць самі па сабе. Цуркат дажджу па лісцях, а калі дождж перастане — капанне кропель, якія падаюць з іх. Начныя выбухі сабачага брэху. Шамаценне дрэў, раптоўна раскалыханых ветрам. Булькатанне струменьчыкаў вады з-пад гурбаў падталага снегу. Купанне івалгі ў першых ручаінках. Свіст пары з-пад вечка самавара.

Пах яблык, акуратна раскладзеных на падлозе, карэнняў, што захоўваліся ў шуфлядах, хлебнага цеста, расчыненага ў дзяжы, снегу, які абтрасалі венікамі з адзення і абутку.

Святло на лісцях, сонечныя зайчыкі на падлозе. Іскаркі смолкі ў траве. Світанне і раса. Прадвячэрнія прасветліны і праяснені ў хмарныя дні. Праменьчык настуркі пад плотам, калі яшчэ не наступілі замаразкі, але холад прыгінае лісце. Сустрэча з ліхтаром у руках бацькоў, якія ў зімовы вечар аднекуль вярнуліся на санях.

Рух і вандраванне воблакаў. Абтрасанне ляшчын з арэхамі. Калёсы, якія пераваліваюцца з боку на бок на гасцініцы ў вясеннія і асеннія разлівы. Праз акно відаць, як нехта павольна брыдзе ў фальварак.

А з вышыні плота ўдалечыні добра відзён заяц, які куляй ляціць у балоцісты гай.

## 16

Звычаяў і абрадаў, звязаных са святамі або сямейнымі ўрачыстасцямі, не прытрымліваліся тут паслядоўна, у дакладна акрэсленых формах. Ці таму, што гэта адбывалася пасля вайны, якая заўсёды нешта разбурала, перайначвала, нявечыла, змяняла і павялічвала розныя патрэбы, што аднак было вынікам уніфікацыі і сцірання форм многіх жыццёвых акалічнасцей, ці, можа, перш за ўсё таму, што суіснавала паміж сабой каталіцкае і праваслаўнае на-

сельніцтва, ды і іншых веравызнанняў, а гэта прыводзіла да лепшага ўзаемаразумення, да сцірання розніцы, да збліжэння і парадnення. Галоўнай рысай сумеснага жыцця рабілася цярпімасць.

Зразумела, што ў нейкай ступені гэта датычыла яўрэйскага насельніцтва. Калі чарнявая Мірэлэ, адна з дачок арандатара Шлёмы прыняла каталіцкую веру і выйшла замуж у гмінным пасёлку за гміннага чыноўніка пана С., дык урэшце маладая пара вымушана была выехаць адтуль, бо сівабароды пан Шлёма часта скардзіўся на шкоду, якую прынесла яго інтарэсам рэдкая падзея; ён у вачах сваіх адзінаверцаў зрабіўся трэфным, тым больш што замужжу дачкі не вельмі супраціўляўся.

Пан В., стары халасцяк, уладальнік крамы ў сяле, часты госць у Загасцінні, бо быў гулякам на ўсё наваколле, прымаў таксама ўдзел у народных гуляннях і ўрачыстасцях, звязаных як з каталіцкімі, так і праваслаўнымі святамі, любіў летні фэст у гонар боскай маткі Адзігітрыі і трохдзённы асенні — святой Тэклі, на якія ў мястэчка з'язджалася многа народу і якія задавальнялі як яго рэлігійныя патрэбы, так і гаспадарчыя ў часе шматдзённых кірмашоў.

Пан Станіслаў, сівы невысокі селянін з Субочава, што заўсёды пыхкаў люлькай, пчаляр, які з замілаваннем вырабляў скрыпкі і для якіх з цяжкасцю знаходзіў пакупнікоў, хоць не меў бы клопатаў з продажам балалаек і мандалін, але пагарджаў гэтымі інструментамі,— ён таксама, згодна з каталіцкай і праваслаўнай літургіяй, хадзіў адпяваць нябожчыкаў, а за чаркай выхваляўся веданнем стараславянскай і лацінскай моў, што хутчэй за ўсё не адпавядала праўдзе.

Гэта веданне магло нагадваць расказы бацькі пра баб, якія ў царскія часы ў літаніі, якая спявалася па-латыні, замест «ora pronobis», гаварылі «skora pronobis», а па-беларуску «скора», з націскам на «о», азначае «неўзабаве», ці «хутка».

З задавальненнем любіў бацька ўспамінаць свайго рускага прыяцеля, які з цікаўнасці пайшоў на святую імшу ў касцёл.

— І што там было ў касцёле?

— Нічога асаблівага. Кожны раз ксёндз паварочваўся ад алтара, разводзіў рукі і выспеўваў пытанне: «Ці дома біскуп?» На гэта хор яму заўсёды адказваў: «У кума Спірыдона...» Відаць, меліся на ўвазе «Dominas vobiscum» і «Et cum spiritutuo».

Прыходзілі да нас розныя дзяды за міласцінай. Мне часам здавалася, што гэта нейкія пераапранутыя шпікі. Яны станавіліся каля парогаў хат і спявалі псалмы або іншыя песні, смешна скажоныя згодна з іх моўнымі і фанетычнымі правіламі, прыкладаў чаго ў розных кнігах столькі, што мне няма патрэбы прыводзіць цытат. («Адным калпыком збабіў Галіяфа» замест «Адным камяком забіў Галіяфа».) Лепш я вярнуся да нашых, не так даўніх часоў. У доме, з якім мы сябравалі, дзеці дашкольнага ўзросту вакол ёлкі ўторылі дарослым, якія спявалі калядкі, і замест «а Юзэф стары дзіцятка пястуе» вымаўлялі «а Юзэф Сталін дзіцятка пястуе». У вакальных адносінах усё выходзіла гладка.

Каляды былі святам у дамашнім коле. Завеі, гурбы, марозы. Нягледзячы на гэта, і мяне ўзялі аднойчы, цёпла апранутага, на пастэрку, начную імшу, у мястэчка. Гэта была адна з самых цудоўных паездак у дзяцінстве. Мяне разбудзілі, бо звечара я занадта наеўся на куццю, за якую садзіліся пры першай зорцы, і я з малодшай сястрой нецярпліва чакаў гэтага моманту. У дарозе я не адчуваў холаду, зрэшты, вазок быў утульны, я сядзеў зацісьнуты ўсярэдзіне, нашы ногі прыкрываў цяжкі аўчынны кажух, дарога была крыху наезджаная, бо яшчэ да нас тут паспелі праехаць раней больш жвавыя. Парыпвалі палазы, пад іх рыпенне я перабіраў у галаве нейкія словы, пазвоньваў званочак пад дугой над канём. Часам абапал дарогі сям-там мігала святло ў заспаных вёсках.

У мястэчку ў чарнявага крамніка Арона — крама бакалейных і галантарэйных тавараў — ніхто не спаў, бо не мы адны спыняліся ў яго.

Святло свечак ад алтара, за якім стаяў ксёндз у бліскучай рызе, ад пазалочаных люстраў, шкляныя падвескі якіх зіхацелі, як крышталіны, святло крыху прыцьмілася ў распараным ад дыхання набожных паветры. Свежы пах марозу нейкі час не пакідаў

кажухоў, футраў і світак. З хораў далятаў радасны спеў і зліваўся з гучаннем аргана, усё гэта разам ператваралася ў паток урачыстых гукаў, якія пранікалі ва ўсе закуткі трох нефаў.

Вярталіся мы на досвітку, калі пачыналі вырысоўвацца цьмяныя сілуэты дрэў і будынкаў, вельмі яшчэ загадкавыя ў сваёй невыразнасці.

Яшчэ з большай нецярплівасцю чакалі мы вялікадня. Зімы тут былі роўныя і доўгія, таму ў канцы дакучлівыя, з раніцы ў пакоі бывала холадна, мароз шчыльна замуроўваў шыбы акон. Бацька ўставаў першы, прыносіў абярэмак дроў з-пад паветкі каля свірна; яны былі мёрзлыя, і ён падкладваў пад іх для распалу шмат трэсак, і толькі праз некаторы час у печы пачынаў весела гудзець агонь, а бацька з мятлой і сякерай ішоў прабіваць палонку, ачышчаць ад лёду і снегу доўгае карыта, што потым напаўнялася вадой, якой раніцай паілі худобу. Калі я не ленаваўся, дык ахвотна памагаў яму.

Посту прытрымліваліся вельмі строга, у некаторых хатах гэтаму спрыяў недахоп харчоў. У пост адзін ранак прыносіў асаблівую прыемнасць. У сераду, на чацвёрты тыдзень, мы ўсхопліваліся з ложкаў рана, выбягалі на двор, дзе на галінках заснежаных дрэў вароны развешвалі для нас пакецікі з ласункамі і markнымі цацкамі. Знаходзіць іх памагала маці. Калі, у якую сераду я перастаў верыць у гасціннасць варон, цяжка сказаць. Больш карысна было, мабыць, прымаць за праўду гэты прыемны падман.

Чым бліжэй да вялікадня, тым больш цікавымі рабіліся змены ў прыродзе, нам не сядзелася ў хаце, бо весялей шчабяталі птушкі, на ляшчынах звісалі жоўтыя крохкія завушніцы, галінкі вярбы і лазы ўпрыгожвалі пушыстыя коцікі, большала святла, змяншаліся ледзяшы пад стрэхамі, снег пачынаў рыхлець, набываючы ў цяньку форму невялічкіх астраўкоў, булькатала вада ў ручаінах і рэчках, лужыны ператвараліся ў цэлыя азёрцы; а раніцай яшчэ ўсё доўга храбусцела і трашчала пад нагамі.

Вербная, або пальмавая, нядзеля часта прыпадала на па-сапраўднаму вясновы дзень,— зелянела рунь, усё смялей стралялі сцяблінкі траў, якія спачатку павольна выклёўваліся з зямлі і былі бялявыя, нібы

пазбаўленыя хларафілу. Хлопцы цікавалі за дзяўчатамі, каб са словамі «я не б'ю, вярба б'е» адсцябаць, часам не зусім сімвалічна, іх пругкія лыткі.

Усё больш разнастайнымі рабіліся гульні. Зноў можна знайсці сухую лапінку зямлі для «класаў», потым і для «чыжыка», і для «лапты», і для «серсо». Нарэшце, на больш вільготнай зямлі, і ў «рэпку». «Рэпка» — гэта цэлы комплекс кідкоў складанчыкам; таго, хто прайграе, можна накарміць зямлёй, выразанай у форме рэпкі, але такія дурні трапляліся рэдка: кармленне зямлёй часцей за ўсё замянялася дамоўленай колькасцю пстрычак, што таксама не дужа прыемна, і часам лепш адкупіцца некалькімі старымі пёрамі.

У доме пачыналася перадсвяточная мітусня: пяклі пірагі, смажылі мяса, ставілі гаршчочак з маладым аўсом, у якім знойдзеш цукровы абаранак. Усё гэта выстаўлялі на стол. Мы ішлі па дзеразу, якой аздаблялі абрус, абдзіралі на тарцы выкапаныя ў садзе сукаватыя карэнні хрэну, і не абыходзілася без слёз — хіба толькі ў гэтым выпадку вясёлых. Мы памагалі фарбаваць яйкі ў шалупінні цыбулі, а яшчэ большае задавальненне нам прыносіла распісванне яек, што патрабавала кемлівасці і ўмення.

Вялікдзень — гэта ажыўленне сяброўскіх сувязей, адведзіны, часам вяселлі. Вялікдзень святкавалі тры дні, як і каляды, лічылі, што ўсё залежыць ад якасці падрыхтоўкі да свят, а не ад колькасці святочных дзён. Калі часам каляды патаналі ў снежных гурбах, тады рэдка хадзілі пад вокнамі калядніке з зоркай, асветленай з сярэдзіны свечкай або лямпай, а вось на вялікдзень з гармонікам і лубянкамі або кошыкамі для дароў божых вандравалі ад вёскі да вёскі, ад хутара да хутара валачобнікі, часам гуртам; разлягаўся спеў рэлігійнай песні, чулася: «Хрыстос, сын божы, Хрыстос!»

Пачыналі рыпець арэлі, падвешаныя на папярэчыне паміж двух слупоў, спецыяльна ўкапаных для гэтай мэты. Арэлі — гэта найлепшае месца пафліртаваць і дамовіцца пра спатканні на вечарынках.

Дзіцячыя гушкалкі прасцейшыя: дастаткова дошкі ці бруса, пакладзеных на падвешаныя вяроўкі. Аднак найбольшы азарт выклікалі гульні ў пі-

санкі і крашанкі. Гэта значыць — у мацакі. Уладальнік неразбітага яйка (а моц яго шкарлупіны ён праверыў перад гэтым аб зубы) забірае яйкі пераможаных праціўнікаў. Найбольш дзяцей збіраецца, каб качаць яйкі па нахільна пакладзеным доўгім жалабку з кары. Яйка на зямлі, да якога дакранулася скочанае, пераходзіць ва ўласнасць таго, хто качаў. Шчасліўчык, які дабіваўся поспеху, дзякуючы свайму спрыту, выйграваў часам па чвэрць капы яек.

Для дынгуса* служылі цыркалкі — скручаная кара з галінкі вярбы, накшталт дудкі. Няўрымслівыя жартаўнікі са старэйшых хлопцаў пускалі ў ход поўныя вёдры вады. Калі гэта быў сонечны дзень позняга вялікадня, дзяўчаты не адважваліся праходзіць каля сажалак. Усё магло здарыцца. Шкада сукенкі з белага або ружовага батысту, падпяразанай шырокай істужкай са спражкай, за якой відаць заткнутая хустачка з карункавымі краямі, што служыла не так насоўкай, як упрыгожаннем або веерам у душным паветры халупы, калі ўсё калацілася ад шалёных танцаў.

## 17

Мае дзядзькі доўга не жаніліся, але гэта зусім не значыць, што ў іх жыццёвых планах не было прадбачана шлюбу. Яны не спяшаліся. Некаторыя давалі аб'явы аб заручынах, з амбона зачытваліся імёны і прозвішчы, а дзядзькі лічылі за лепшае ездзіць у знаёмыя сем'і без акрэсленай мэты, на правах гасцей, без сватоў.

Адзін з іх узяў мяне неяк з сабой, і я вельмі сумаваў: ніхто з прысутных не быў гаваркі, карысталіся карткамі з «сяброўскага флірту». І толькі самавар на рагу накрытага стала, духмяныя каўбасы і горы хрусту на паўмісках з бутэлькай паміж імі крыху ажывілі кампанію. У дадатак, як сёння гэта памятаю, там пражывалі тры панны, вельмі падобныя адна да адной, таму прыняць рашэнне ў такой сітуацыі сапраўды было не лёгка. Я, вядома, павінен

---

* Дынгус — абрад аблівання вадой на другі дзень вялікадня.

быў прачытаць вершык, бо і мяне выкарысталі для ажыўлення вечара. Значна ясней успамінаецца вяртанне цёплай асенняй ноччу, доўгая дарога праз лес, дзе папераменна колы то груэлі ў пяску, які з хрустам перасыпаўся паміж спіцамі, то весела тарахцелі па бялявай роўнядзі, а месяц свяціўся ў дрэвах. Пахла зляжалай ігліцай і збуцвелай лістотай.

І вось нарэшце — сенсацыя: старэйшы дзядзька адважыўся, знайшоў сабе нявесту ў іншай гміне. Узялі пазыку.

Хоць была зіма, але і я апынуўся ў кавалькадзе з некалькіх саней, з п'янаватым гарманістам на пярэдніх. Захапіўшы з сабой коркі для пугача, я з гэтага выпадку скромненька салютаваў. Вясёлы гармідар у доме маладой панны скончыўся толькі раніцай, калі вырушылі ў парафіяльны касцёл.

Затое два дні і дзве ночы гулялі ў Загасцінні. У вяселлі прымалі ўдзел запрошаныя і незапрошаныя, пакоі для начлегаў падрыхтавалі ў лепшым доме, у якім раней жыў Шлёма, у тым жа доме ўладкаваліся і маладажоны. Прывіталі іх з хлебам і соллю, сабралі для маладой пары падарункі. Больш блізкія з радні кідалі і пяцірублёўкі, стараючыся пры гэтым звярнуць на сябе ўвагу.

Знайшоўся яшчэ адзін гарманіст.

Дзве асобы вылучаліся паміж гасцей. Вось з'явіўся Сільвестр Пухала. Было яму, мабыць, гадоў дзевяноста, але дакументаў не меў. Калі ў яго пыталіся пра дату нараджэння, ён адказваў, што нарадзіўся ў пятніцу вечарам перад праведніцай. А ў якім гэта, аднак, магло быць годзе, ніхто па-сапраўднаму не ведаў. Ён даўно не працаваў. Часам плёў кошыкі. Больш за ўсё любіў хадзіць па вёсцы, перасоўваючы ногі рыўкамі, нібы быў спутаны. У руках трымаў кій з выслізганай, нібы вытачанай з касці ручкай. Ужо даўно часткова аглух, зморшчаны крэмавы твар яго нагадваў нейкі складаны карункавы ўзор, пад вылінялымі бровамі чырванелі пялёсткі павек. Жылы на скронях выступалі чорнымі ўздуццямі, па іх паволі цякла кроў. Пад носам звісалі вусы, калісьці сівыя, а цяпер, уласна кажучы, жоўтыя. Расказвалі ■ павагай, што яшчэ гады два таму назад кожную суботу ён хвастаў цела венікам у такой гарачай

пары, што іншыя ледзь вытрымлівалі на падлозе. Верыў толькі ў царскія грошы. Як найбольшы скарб хаваў сіняватыя пяцірублёўкі. Меў іх, хрусткіх і новенькіх, поўную торбу з лісінай скуры. Пасля першай вайны апрача яго хіба ніхто гэтак моцна не верыў у трываласць якіх бы там ні было грошай. Да польскіх улад ён адчуваў непрыязнасць з таго часу, калі нейкі пранырлівы прадстаўнік фінансавага аддзела знайшоў пасярод жытняга поля лоўка замаскіраваны астравок тытуню, які пышна квітнеў. Знайшоў, скрупулёзна зважыў вырваныя сцяблІны разам з карэннем і прыліплай да іх зямлёй, наклаў даволі вялікі штраф. З таго часу Сільвестр Пухала, які да гэтага зусім не цікавіўся палітыкай, стаў рашучым праціўнікам і тагачаснага і будучых польскіх урадаў. «Якія гэта ўрады, калі і тытуню сеяць не дазваляецца! Пры Мікалаі Аляксандравічы, бывала, сей, колькі душа захоча!»

Як толькі ён з'явіўся, яго пад руку ўвялі ў другі пакой, далі яму месца за састаўленымі сталамі, абступілі з абодвух бакоў. Адны зрабілі гэта з павагі, іншыя — з цікаўнасці і ў надзеі на пацеху.

— А скажы, дзядуля, калі ж мы дачакаемся белага цара?

— Майце цярпенне! Прыйдзе, прыйдзе белы цар, дзеткі мае каханенькія. Я стары, можа, ужо не дачакаюся, але вашы сэрцы парадуе...— І змяняў тон: — Божухна, як бы я хацеў, каб мяне там пахавалі, дзе і бацьку, каб ля яго ножак ляжаць...

Стары, відаць, не памятаў, што яго бацька знайшоў вечны спакой дзесьці ў Сібіры.

Душой вяселля быў сваяк, Міхал С., прыроджаны кум, сват і шафер. Чалавек з пышнымі вусамі, які любіў кампанію і выпіўку, але ніколі не губляў галавы. Выступаў у чорным сурдуце з высокім гутаперчавым каўнерыкам і візітных штанах у палоску, якія памяталі яшчэ даўнія часы.

У абодвух пакоях чуўся сіплаваты барытон:

Галаву мне кінь марочыць,
Быццам ты была ў Варшаве,
Бо не бачыла і ў вочы
Ты яе на самай справе...

Як толькі канчаўся чарговы танец, ён выходзіў на сярэдзіну пакоя:

Мне далі вінтоўку
З бульбяным набоем,
Стрэліць загадалі
Ў жонку перад строем...
Ды я не пацэліў —
У другі бок стрэліў.

З усіх бакоў чуліся крыкі захаплення:

— Ах, каб яго качкі! Які жартаўнік! Каб нават і хацеў, дык не стрымаешся ад смеху!

На кароткі час засыналі, той ці іншы знікаў, а хто-небудзь уваходзіў з запасам свежых сіл, і зноў працягвалася гулянка. Шыбы акенцаў ні разу не пакрыліся марозам, бо было душна...

Нешта не магу прыгадаць бацькі на тым вяселлі. Калі ён і быў, дык не выказваў ніякіх эмоцый, бо да дзядзькоў адносіўся крытычна. Лічыў іх лёгкадумнымі. Гаварыў пра іх часта, спасылаючыся на раман Ганчарова «Абломаў». Прыводзіў неаднаразова сцэнку з піццём квасу. Прыводжу яе і я, не звяраючы з кнігай. У гладышы з квасам было поўна мух, але тым, хто яго піў, гэта не перашкаджала. Яны толькі аддзьмухвалі мух ад губ. Раззлаваўшыся, ён гаварыў сваім братам, што жыццё для іх — гэта трын-трава, што яны плююць на ўсё. Папракаў іх за лайдацтва і паразітычныя адносіны да жыцця, якія выказаны ў прымаўцы: «Пасля нас хоць патоп».

Радзела цемра лютаўскай ночы, гучна кукарэкалі пеўні, калі ў кола танцораў якраз і ўваліўся пан Міхал. У вывернутым кажусе, абматаны сухімі гарохавымі сцяблінамі і трасучы звонкімі бразготкамі, ён намагаўся разагнаць гасцей. Гэта азначала, што вяселле скончылася.

Але доўга яшчэ яго не слухаліся, хоць на ўсходзе, за таполямі, за шматкамі раскіданай чырвані пачынаў займацца дзень.

Неўзабаве пасля апошняга снедання, у часе якога хто сядзеў, а хто стаяў, наступала цішыня.

Ад іскрыстага снегу аж сляпіла вочы, ён рыпеў пад ботамі і палазамі, у марознай прасторы паступова аддаляліся і заціхалі гукі бразготак. Хоць і

раз'язджаліся, але ніхто не сумаваў: быццам цэны на лён пайшлі ўгару, ва ўсіх былі самыя найлепшыя прадчуванні.

## 18

Дзеля чаго я пра ўсё гэта напісаў? Бо і сёння ж бытуе думка, што трэба ўспамінаць незвычайныя справы, выключных людзей і асаблівы збег акалічнасцей. На мой погляд, нічога больш памылковага, чым гэта думка, няма, калі яна выступае ў абсалютных катэгорыях і адной з прычын якой з'яўляецца, уласна кажучы, жаданне вымыслу.

Апісваючы дробныя здарэнні, звычайных людзей на іх сацыяльным і геаграфічным фоне, вастрэй бачыш мінулы час у параўнанні з цяперашнім, калі мы ўсё больш ведаем і ўмеем і ўсё менш разумеем.

Паглыбляючыся ва ўспаміны, можна якраз апамятацца, адпачыць, як на лавачцы ў цяньку, асабліва калі ўлічыць, што было больш такіх хутароў і фальваркаў, было больш такіх вёсак, лугоў і садоў, было больш такіх, а хутчэй падобных да іх людзей.

Важна тут не адчуванне выключнасці, а адчуванне супольнасці і падабенства, бо гэта робіць больш лёгкім існаванне, спрыяе салідарнасці людзей, змяншае часовыя трывогі і змякчае апошнія страхі.

Я здымаю лямпу з цвіка, бо гэта насценная лямпа са шчыткам з аднаго толькі боку; такія лямпы ў дамах і хатах віселі на падобных цвіках, а гэта — палепшаная, шчыткам ёй служыць устаўленае ў бляху круглае люстэрка, якое ўзмацняе сілу святла; я здымаю лямпу з цвіка, апісваю ёй апошнія кругі над маёй маленькай Атлантыдай, шмат людзей і спраў якой я прамінуў, пра іншых сказаў мімаходзь, пакінуў убаку або не здолеў пра іх лепш расказаць. Акрамя таго, я разумею, што пазнейшае ўсведамленне тых часоў перашкодзіла мне апісаць падзеі ў храналагічным парадку, але ж хіба можна інакш.

Бывай, маленькая Атлантыда, хоць я таксама разумею, што карыстаюся ў гэтым выпадку рыцарычным выразам. Канчатковае развітанне можа надысці толькі тады, калі я зусім страчу свядомасць.

Палова першай. Праляцеў як час!
Палова першай. Як прайшлі гады!

# ЭНЕРГІЯ



Мэты акрэслі-
ваюць вартасць энергіі...

*З размовы*

## 1

Гулялі ў брыдж. Уся чацвёрка мела значны вопыт і веданне правілаў, і таму ў таргаванні ўсё часцей і часцей бралі голас фантазія і адвольнасць. Досціпы і прымаўкі, заўсёдныя спадарожнікі гульні ў брыдж, з кожнай чвэрцю гадзіны рабіліся ўсё меней вытанчаныя і забаўныя. Калі пані Жабіцкая, худая бландзінка з празмерна высокім ілбом, уголас задумвалася на тэму: «Што скінуць?» — ёй адказвалі, бессаромна пырскаючы: «Скіньце сябе пад цягнік...»

Дыдала з кааператыўнага саюза, таўстун з аплылым тварам, у якім стырчалі падобныя на шрацінкі вочкі, некалькі разоў гуляў на «онтра», а пад час розыгрышу са смакам, нібы еў бутэрброд з апетытнай ласасінай, паўтараў у адрас праціўнікаў: «А па дупцы трэба даць». І яшчэ ў дадатак шукаў вачыма ўсмешку пахвалы на твары пані Жабіцкай.

Магчыма, было ўжо за поўнач. Нягледзячы на тое што за вокнамі шумела даджлівая і халодная майская ноч, некаторыя часта выціралі пот з твару, памада на вуснах пані Жабіцкай размазалася, на вуснах іншых кабет, што былі ў суседнім пакоі, хутчэй за ўсё таксама. Урэшце, можна было меркаваць, што там пацелі куды больш, і памада хутчэй траціла сваю якасць, таму што кампанія,— пакінутая брыджавай чацвёркай — сядзела вакол вялізнага стала, застаўленага закускамі і пітвом. Гукі музыкі з магнітафоннай стужкі кожную хвіліну падымалі то аднаго, то другога да танца, не чутно было размовы — толькі выбухі раскацістага смеху, павіскванне і шоргат ног.

Каля нас, пад рукой, стаяў маленькі столік, на ім — філіжанкі з выстылай, недапітай кавай, бутэлькі з віном і лікёрам. Столік гэты ўжо каторы час нікога не цікавіў, толькі той, хто падказваў пані Жабіцкай у гульні, нехта Павельскі, чалавек, які часта падарожнічаў, наліваў калі-нікалі карычневай вадкасці і выпіваў яе, каб ніхто не бачыў, адзін. Калі ж ён прапанаваў лікёру пані Жабіцкай, зірнуў на яго з дакорам, бо мне здалося, што той кілішак можа стаць фатальным і давесці яе да поўнай непрытомнасці.

Я з цяжкасцю цярплю мужчын, якія п'юць, а п'яныя жанчыны абуджаюць ува мне абрыдлівасць. Можа, таму, што бачыць п'яных жанчын мы — пакуль што — менш прывыклі. Але, мабыць, не толькі з той прычыны. П'яная жанчына траціць усё тое, што з'яўляецца яе абаяннем, адметнасцю, алкаголь неяк асабліва яе зневажае. (Хаця, зрэшты, што яшчэ магло б зняважыць несімпатычную пані Жабіцкую?)

— Як вы тут упраўляецеся? — зноў схіліўся над намі гаспадар, старшыня кааператыва «Амега», Ежы.

— Выдатна! — усклікнулі мы амаль адначасова.

Толькі мой партнёр, начальнік аддзела, паскардзіўся, скрывіўшы твар у грымасе:

— Карта мне сёння не йдзе, каб яна здохла! — І дадаў: — Відаць, нехта ў мяне закахаўся... Можа, пані Эля? — звярнуўся ён да Жабіцкай, спрабуючы адначасова правай рукою, у якой не было карт, аб-

няць яе за талію, абвітую муарам, які зменліва пераліваўся ў электрычным святле.

— Я? — захіхікала бландзінка.— Рукі прэч ад польскай жанчыны і маткі! — дадала яна, не робячы, аднак, нічога ў падмацаванне сваіх слоў.

— А можа, хопіць ўжо таго брыджа? — казаў далей Ежы.— І далучыцеся да нас? Усе гэтага патрабуюць. Данута,— ён павярнуўся да мяне,— два разы пра цябе пытала, але яна як гаспадыня мае шмат клопату і не можа прыйсці...

Уласна кажучы, ён быў зацікаўлены, каб Дыдала зноў вярнуўся за гасцінны стол. Яшчэ на пачатку прыёму яны выпілі на «ты», але ўсё яшчэ, звяртаючыся адзін да аднаго, увесь час памыляліся. Трэба было паддаць яшчэ, каб умацаваць пераход на «ты».

Партнёры пераглянуліся, каб паразумецца і акрэсліць свае адносіны да просьбы гаспадара. Дыдала нават не ацэньваючы выразу нашых твараў, вынес прысуд:

— Ну, зразумела! Дайграем толькі робер! Пані Элю я папрашу раздаць карты, зробім чатыры без казыроў і — канец...— засмяяўся да партнёркі з самаўпэўненай мінай, бо, хоць ён граў няўважліва, забываючы хвілінамі, як склеротык, масць карт у адбоі, карта валіла яму шалёна.

— Ну, дык зрабіце чатыры без казыроў! — суцешыўся Ежы.— Чакаем вас да забавы! — І вярнуўся цераз хол у пакой, дзе танцавалі.

Робер мы дайгралі не на чатырох без казыроў, а на пяці чырвах. Па сканчэнні карпатлівых разлікаў мы адсунулі крэслы і рушылі да астатніх.

Другі пакой быў прастарнейшы. Можна было б назваць яго нават салонам, хаця ў звычайныя дні, напэўна, ён ім не быў, бо ўся кватэра Маеўскіх як людзей бяздзетных складалася з двух пакояў. Канечне, гэта былі толькі два пакоі, але затое з кухняй і ваннай, у грунтоўнай даваеннай камяніцы.

У салоне было весела, як на кірмашы, і душна. Адчыненае акно мала асвяжала паветра, з яго веяла вільгаццю, што пахла коцікамі з садка каля ціхай у гэты час вуліцы.

Я прапусціў перад сабою нядаўніх партнёраў і дарадчыка, а сам абапёрся аб вушак дзвярэй, каб

збольшага разабрацца ў сітуацыі. Яна нічым не нагадвала той, якая была некалькі гадзін назад, калі досыць нацягнутыя, нібы нясмелыя і ўрачыстыя, займалі месцы ля стала, каб есці і піць, фліртаваць, расказваць старыя анекдоты, гаварыць напышлівыя фразы, словам, святкаваць чарговы дзень нараджэння Дануты.

Зараз на абрусе цямнелі плямы, як на зімовай дарозе ў адлігу, сярод бязладна расстаўленых кілішкаў былі поўныя і парожнія, відэльцы і нажы ляжалі як папала, госці — хто сядзеў ля стала, хто танцаваў, хто швэндаўся па пакоі. Нейкая кабета схілілася цераз падаконнік, падставіўшы галаву пад дождж, каб працверазець. Часам сёй-той падыходзіў да яе, падымаў падол парчовай спадніцы, каб паглядзець вышэй каленяў зграбныя ногі. Некаторыя, відаць, асаблівыя знаўцы, у знак прызнання, адыходзячы, паляпвалі яе па азадку. Жэсты гэтыя, перакладзеныя на словы, маглі азначаць: «Брава, мілка, ты прыгожая!»

Гэтыя пятнаццаць чалавек гасцей рабілі столькі шуму і тлуму, што можна было падумаць,— нават калі ты мала піў, як я,— што тут сама мала трыццаць.

Сітуацыя мянялася штохвіліны. Вось перасталі ўжо танцаваць, толькі нейкі мужчына, схіліўшыся над магнітафонам, забаўляў сябе какафоніяй гукаў, торгаючы назад стужку або раптоўна мяняючы хуткасць ролікаў, між якімі яна перамотвалася.

Я адшукаў Дануту. Яна сядзела ля пісьмовага стала, на якім без разбору былі расстаўлены ў пасудзінах, рознай формы прынесеныя гасцямі кветкі. Была яна відавочна стомленая. Стомленая, але і неяк узбуджаная, відаць, не толькі ад выпітага.

— Як адчуваеш сябе, Данута?

— Дзякуй, добра. А ты як весялішся?

— Ты ж ведаеш, я ніколі не ўмею як след весяліцца!

— О, так! Ты заўсёды разважлівы. Ты заўсёды быў па-д'ябальску разважны.

— Прэтэнзія?

— Дапусцім...

— У такім разе я мушу ў сваю абарону сказаць, што і ты заўсёды была разважным стварэннем.

— Няпраўда! — амаль крыкнула яна і сарвалася з крэсла.— Гэта толькі ў тваіх вачах я такая! Такой быць мяне пераканалі, а я...

Ежы, які, відаць, назіраў за намі, апынуўся побач:

— Дануся, табе кепска?

— Чаго б гэта! — засмяялася яна занадта галасна, каб смех мог гучаць шчыра. І ледзь не паслізнулася на гладкім дубовым паркеце. Была, значыцца, больш п'яная і ўзбуджаная, чым здавалася. Яна выбегла на вольнае месца між сталом і вокнамі і скамандавала:

— Бабкі, робім стрып-цізі!

Усе, апрача той, што ляжала на падаконніку, павярнуліся да Дануты. Данута ж ўпраўлялася з сукенкай і іншым. Госці і апамятацца не паспелі, як яна ўжо стаяла, выпінаючы цяжкія грудзі наперад, як статуя з лёгка таніраванага гіпсу. Уражанне ас-лаблялі толькі ружовыя трусікі і панчохі, якія абаранкам спадалі ніжэй каленяў. Яна амаль крычала:

— Ну, хто яшчэ адважыцца?!

Пачуліся воплескі мужчын і крыкі:

— Стрып-ціз! Стрып-ціз! Просім, просім...

Я агледзеўся. Яшчэ тры пані пачалі поркацца са сваімі сукенкамі, блузкамі і спаднічкамі.

Насуперак шматлікім і шчырым пратэстам Маеўскі пачаў заклікаць жанчын да парадку і адначасова збіраць з падлогі параскіданыя, як на беразе ракі, сукенкі і бялізну і выправаджваць Дануту, якая ўпіралася, у ванную.

Паказ працягваўся, напэўна, карацей, чым можна аб ім расказаць. Цверазейшыя мужчыны — а асабліва жанатыя, з іхняй асабістай зацікаўленасцю,— схамянуліся. Мусіць, усе былі ашаломлены і цяпер пачалі прыходзіць да памяці, ва ўсякім разе фінал паказу прайшоў без двухсэнсоўных каментарыяў. І неўзабаве — нібы гэтае здарэнне азначала нейкую трывогу — было вырашана разыходзіцца па дамах.

У Маеўскіх, здаецца, засталася толькі тая, з падаконніка, бо — нягледзячы на зусім мокрую гала-

ву — не давалася, каб яе вялі з пакоя нават пры самым энергічным спадарожніку. Колькі разоў, ікаючы, спрабавала яна стаць на ногі, столькі разоў гэта сведчыла аб вострым парушэнні раўнавагі. Дужа хацеў паслужыць ёй Павельскі, але я — маючы на ўвазе яго рэпутацыю — хацеў, каб жанчына працвеpазела ў Маеўскіх.

Ежы аж тросся. Развітваўся няўважліва і паспешна, а з яго слоў, што не датычыліся непасрэдна здарэння, усё ж прабіваўся жах, каб не разнеслася плётка пра выхадку Дануты і тых паняў, якія з ахвярнай паспешнасцю тут жа, на месцы, адказалі на яе істэрычны заклік.

Хаця я разглядаў Дануту, калі яна распраналася, з прыкрым пачуццём няпрошанага сведкі і толькі з невялікай дамешкай цікавасці, выкліканай яе прыгажосцю,— мне было таксама не па сабе.

Паколькі я выходзіў адным з апошніх, Ежы паспеў мне адкрыць сваю думку:

— Як добра, што гэтага не бачыў мой любы швагерак!

Ён меў на ўвазе Зыгмунта Патылу, жанатага з Басяй, роднай сястрой Дануты.

Я вяртаўся вельмі павольна...

Уздоўж вуліцы тырчалі, нібы капрызна нагрымзоленыя вуглем на кардоне, чорныя дрэвы, а за імі масіўныя, яшчэ адданыя цямноццю, глыбы дамоў. Толькі ў некалькіх месцах залатым, ціхім бляскам ільсніліся вялікія вокны з маленькімі квадратамі шыб, з-за якіх далятаў манатонны шум машын, нібы нехта рытмічна ляскаў вялікімі, з металічнымі зубамі, сківіцамі.

## 2

З Данутай і яе мужам я пазнаёміўся ў Патылаў. Як казалі раней, у Зыгмунтоўства Патылаў. Некаторы час гэта была знаёмасць чыста фармальная, і нішто не гаварыла за тое, што менавіта гэты выпадак — дзякуючы разнастайным далейшым выпадкам, якія будзе трэба пазней назваць збегам акалічнасцей,— набярэ асаблівага значэння.

Хаця з Зыгмунтам, даўнім маім знаёмым, мы бачыліся пераважна ў горадзе, я ўсё ж заходзіў часам

і да іх на кватэру, сціпла вячэраў, а потым, няспешна папіваючы каву або чай, мы размаўлялі. Не адпужвала мяне, што ў Патылы цяжкія павекі часта ападалі на цёмныя вочы. У стольківх ён засядаў прэзідыумах, так часта прысутнічаў на розных сходах, на якіх адна-дзве зусім ясныя справы гразлі і душыліся без ратунку ў прамовах шматлікіх аратараў і дыспутантаў, што ён вырабіў сабе звычку вось так апускаць павекі. Гэта была самаабарона, уласцівая людзям, якія занадта часта выступаюць публічна: апушчаныя павекі не абавязкова сведчылі аб жаданні ўхіліцца, але гэтак жа добра гаварылі і аб засяроджанасці, якая спадарожнічае слуханню даклада або дыскусіі.

Гэта з'ява лёгкая для назірання: тыя, хто засядае ў прэзідыумах, хутка вучацца апусканню павек; тыя ж, што бяруць удзел у канферэнцыях,— маляванню зайчыкаў, малпачак і розных завіткаў, якія складваюцца ў геаметрычныя фігуры.

Мяне гэтыя апушчаныя цяжкія павекі спрацаванага дзеяча анітрохі не бянтэжылі. Калі заставала нас за размоваю крыху больш позняя вячэрняя гадзіна і дзяцей удавалася ўкласці спаць, далучалася да нас і пані Бася, якую я вітаў з ажыўленнем, бо любіў кампанію мілавідных і інтэлігентных кабет, якія вядуць гутарку з нейкай грацыяй, не лезуць у размову сілком толькі дзеля таго, каб праз хвіліну без ніякай падставы і заслугі зрабіцца цэнтрам вымушанай увагі прысутных.

Пані Бася, шчуплая шатэнка, была з тых асоб, якія выйграюць толькі тады, калі іх пазнаеш бліжэй. Патрэбны былі пэўны час і цярплівасць, каб яна магла выявіцца.

Схільная да жартаўлівай размовы, у якой бралі ўдзел жывыя, іскрыстыя вочы і вузкія ўсмешлівыя вусны, яна магла рабіць уражанне ахвотніцы пафліртаваць, таму што карысталася традыцыйна небяспечнымі словамі з вялікай лёгкасцю. Але хутка можна было пераканацца, што гэта быў толькі спосаб трымаць сябе. Як і жанкі многіх мужчын на сур'ёзных пасадах — яна працавала. Не была гэта, аднак, звычайная канторская праца, якая пазбавіла б яе магчымасці займацца домам і дзецьмі. Пані

Бася прадстаўляла ў нашым горадзе адну сталічную жаночую газету. Яна, несумненна, займала месца, дзякуючы становішчу мужа, бо я не думаю, каб драмаў у ёй нейкі больш відавочны журналісцкі талент. Так, яна спрытная і дасціпная, пакутавала над кожнай нататкай, надзімала вусны і ў задуме па шмат разоў пстрыкала ў іх каўпачком вечнага пяра; апрацоўка чужых тэкстаў, якія трэба было выслаць у сталіцу, таксама займала ў яе больш часу, чым у здольнага журналіста.

Патылы жылі ў адносным дастатку, хаця, мне думаецца, лічыліся з кожным грошам. Трое дзяцей — гэта не абы-які клопат. Проста шчасце, што гэта былі ўсё хлопцы, і адзенне старэйшага з іх, пасля адпаведнай пераробкі, насілі малодшыя. Пра пэўную іх заможнасць сведчылі: халадзільнік, радыёпрыёмнік, пыласос і тэлевізар, работніца, якая прыходзіла днём, паездкі на мора, хоць і не ў мясцовасці, якія лічыліся моднымі.

У пакой уварвалася прарэзлівае выццё пажарнай службы. Унізе мчаліся, мусіць, на нейкі пажар, чырвоныя машыны з людзьмі ў касках, складнымі драбінамі і цыстэрнамі, абматанымі шлангамі.

— Гэта бадай-што найбольш характэрны для нашага горада шум! — заўважыла пані Данута.— Няма дня, каб абышлося без гэтага выцця...

— Калі я пакіну калі-небудзь гэты горад,— падхапіў я заўвагу пані Дануты,— дык застануцца ў маёй памяці тыя рэчы: пажарныя машыны, таполі вакол фабрычных муроў і коміны з султанамі густога дыму.

— Я б дадала яшчэ і людзей! — умяшалася пані Бася.— Столькі тут людзей з вёскі, і хаця яны даўно ўжо сталі гараджанамі, а ходзяць спакойна, не адчуваючы тэмпу і руху, доўга затрымліваюцца на вулічных пераходах, трымаюцца так, нібы яны на палявых сцежках.

— Вы дарма абгаворваеце гэты працавіты горад, горад, якому належыць будучыня! А я люблю гэтыя клубы дыму над фабрычнымі комінамі! — заявіў Зыгмунт.

Не спадабалася мне яго дэкларатыўнае выступленне, хай нават і шчырае,— яно ўсё ж выпадала

з лёгкай размовы. Зыгмунт, зрэшты, толькі гадзіну як вярнуўся дадому, а гэтага яшчэ, мабыць, было замала, каб ён мог вылезці са скуры афіцыяльнасці, якую насіў цэлы дзень, і **вярнуцца ў сябе**, апынуцца ў хатніх пантофлях. Зыгмунт чакальна зірнуў на мяне, каб я падтрымаў яго, але я маўчаў. Змест сказанага я з лёгкасцю мог бы адобрыць, форма была не тая.

Гэта заўважыла пані Данута і нахілілася цераз стол, відаць, каб нешта сказаць яму, што зменшыла б напружанне, але, нібыта ў момант передумаўшы, хутка адхілілася. Нешта ў ёй застыла, хаця яна здалася мне кабетай з жывой непасрэднасцю. Сталася так, напэўна, таму, што яна ўспомніла: Зыгмунт яе не любіў, аб чым ведала ад яго самога задоўга перад гэтым спатканнем. Ён ставіў ёй у віну эгаізм, нікчэмнасць і фанабэрыю, якія цалкам падпарадкоўвалі вядомага мне яшчэ толькі па чутках мужа, Ежы Маеўскага.

Найбольш разважліва зрабіла пані Бася. Хаця мы меліся абмежавацца толькі кавай і чаем, яна дастала з буфета бутэльку і маленькія кілішкі.

Мы не пілі шмат, напаўнялі кілішкі час ад часу, і гэта стварала толькі повад да добрай размовы, якая ні да чаго не абавязвала. Я паспеў заўважыць, што і пані Бася не шукала выпадку да шчырай размовы са сваёй сястрой. Звычайна замужнія любяць нават пры самай жывой размове выкраіць хвілінку для нейкіх сваіх спраў, адасобіцца ад кампаніі. Гэтага імкнення я тут не адчуў. Гэта можна было тлумачыць тым, што Данута не мела дзяцей, а значыць сёстры былі ў зусім розных абставінах, між якімі не было нічога агульнага.

Менавіта пані Данута была аднолькавая да ўсіх у гэтай кампаніі. Выглядала на тое, што яна была як бы лішняй. Таму я задаваў сабе пытанне, а нашто, зрэшты, прыйшла?

Толькі пад канец яна крыху ажывілася. Спадабалася ёй нейкае маё выслоўе, якога я ўжо не памятаю. Было ў ім нешта пра старых халасцякоў, і пані Бася назвала мяне нешкадлівым дзіваком.

— Ах, дык значыць пан — кавалер? — Данута перасела на крэсла, што стаяла побач з маім, але не каля стала.

— Ці ж я не выглядаю на кавалера? Я яшчэ досыць малады...

— Так,— сказала без перакanання,— пан досыць малады, але ў вашым веку трапляюцца і па тры, па чатыры разы разведзеныя!

— Мяне не цікавяць рэкорды ў гэтай галіне!

— А чаму ж пан — кавалер? — нягледзячы на лёгкі тон, пытанне было бесцырымоннае, гэту бесцырымоннасць крыху злагоджваў яе твар, зычлівы і ясны, какетлівы.

— Што зробіш, такія часы! — паспрабаваў я перавесці гаворку на жарт.

— І не было якой-небудзь ахвотніцы.

— Адкуль я магу ведаць?! Можа, да той адной я, калі праўду казаць, не надта і рваўся.

— Ага, нешта прыхоўваем...

— Скажу вам,— стары халасцяк, а я такі, баіцца канфрантацыі сваіх, з гадамі назапашаных ўяўленняў пра жанчын — з магчымай практыкай. Хто ведае, можа, я халасцяк менавіта ад залішняй павагі да жанчын!

— Па-першае: канстатуем, што вы яшчэ ў прызыўным узросце. Вашыя, як я прыкідваю, чатыры дзесяткі — гэта ж самы росквіт мужчынскай прывабнасці. Па-другое: сапраўды, лішак пашаны можа зашкодзіць больш-менш,— і тут Данута шматзначна засмяялася,— фамільярным адносінам з жанчынамі...

Данута памалу ўцягнулася ў гутарку, да якой Зыгмунт прыслухоўваўся з паблажлівай абыякавасцю, а пані Бася, калі я не памыляўся,— з пэўным неспакоем. Яна баялася. За Дануту ці за мяне?

Вечар гэты прынёс мне вялікае задавальненне. Мы меліся выйсці разам з пані Данутай. У пярэднім пакоі я дапамог ёй надзець карычневы плашч, які вельмі пасаваў да восені, што ўжо траціла свае колеры. Данута падабрала густыя валасы пад цэлафанавы каўпачок, бо на дварэ імжыла. Быў кастрычніцкі імглісты дзень і вечар: усё нібыта прытоенае, недагаворанае, недамаляванае.

Я меў яшчэ шмат часу і праводзіў яе ў трамваі, і нават ад прыпынку давёў аж да дома, у якім яна жыла. На развітанне яна сказала мне, каб я прыйшоў да Патылаў у нядзелю. Не, не будзе ніякага прыёму, але яна будзе там з мужам. Так, хацела б, каб я пазнаёміўся з яе мужам. Ну, натуральна, я адказаў, што, калі акалічнасці дазволяць, то я пастараюся прыйсці.

«Ты ж ведаеш, я ніколі не ўмею як след весяліцца!»

«О, так! Ты заўсёды разважлівы. Ты заўсёды быў д'ябальскі разважны!» — «Прэтэнзія?» — «Дапусцім...» «У такім разе я мушу ў сваю абарону сказаць, што і ты заўсёды была разважным стварэннем...» — «Няпраўда!»

Каб сёе-тое сабе высніць, я мушу вярнуцца да таго фрагмента размовы, якую мы вялі ў досыць позні час і ў атмасферы забаўнай эйфорыі. Яна датычыла спраў і па сённяшні дзень важных для мяне, таму засталася ў мяне ў памяці, як урывак з нейкай класічнай драмы. Размовы звычайна бываюць далёкія ад драматургічных канвенцый, не кожнае слова і не кожны нават сказ мусяць абавязкова нешта азначаць. Рэдка калі нашы размовы даходзяць да кандэнсацыі, якая крые асаблівы сэнс. І аднак, у той раз...

Мушу вярнуцца да зімы, да тых некалькіх тыдняў да і пасля каляд. Так склалася, што ў К... я выехаў у водпуск неўзабаве пасля Маеўскіх. Угаварыла мяне на гэта якраз пані Данута. (Пані? Ну, тады яшчэ пані.) Маеўскі слухаў гэтыя ўгаворы з кіслай мінай, а на словах гаварыў зусім іншае. Дык чаго ж бы гэта я павінен быў звяртаць увагу на яго міну? Закаханыя мужы, а да такіх, відаць па ўсім, належаў і ён, жадаюць бачыць жонак у кампаніі выпадковых, а не ў кампаніі тых, каго запрашалі. Урэшце, я не меў падстаў лічыць, што буду для Дануты менавіта абраным сябрам. Дапускаў — бадай-што не без рацыі — што яна хацела быць пэўнай, што на ўсякі выпадак будзе, прынамсі, адзін вольны мужчына ў яе распараджэнні.

## 3

Учора цэлы дзень падаў ліпучы і мяккі снег, абшар запоўніўся белай, вільготнай цішынёй. Толькі тратуары цямнелі і дзе-нідзе брук, на якім у адбітках аўтамабільных шын ляжаў і конскі памёт. Пад вечар ртуць у тэрмометры ўпала крышачку ніжэй нуля, абуджаючы надзею, што ўрэшце снег затрымаецца на ўзбоччах, на дрэвах і на дахах. Павысыпалі там і сям зоркі, хмаркі не закрывалі месяца ані на хвіліну.

— Можа, хаця каляды сцягнуць сюды крыху людзей, бо зараз тут пустэча і нудзьга! — сказала Данута, калі мы ўтраіх вярталіся з кавярні.

— Гаспадары наёмных пакояў ужо вочы прагледзелі, чакаючы кліентаў! — дадаў я, спрабуючы слізгацца па тратуары.

— А я люблю адпачынак без таўкатні! — паведаміў Ежы, бландзін з размяклым плоскім тварам, які аздабляў толькі правільны нос і ладна вымаляваныя дугі броваў, занадта, на жаль, светлых, амаль белых.

— Я таксама не выношу таўкатні,— сказаў я,— але тут, у мясцовасці курортнай, недахоп людзей крыху нервуе. Спачуваю тым, хто звязвае свае надзеі з наплывам гасцей. Не люблю пустэчы і не люблю штурханіны!

— Здаецца мне, што вы, пане Сыльвестр, ва ўсім любіце памяркоўнасць! — заўважыла Данута крыху злосна.

— Перабольшваеце! Ёсць сітуацыі, у якіх я вораг любой памяркоўнасці!

— Хіба гэта магчыма? І што ж гэта за сітуацыі?

— Ну, урэшце! Вось вам сапраўдныя санкі з сапраўднымі званочкамі! — суцешыўся я, пазбягаючы такім чынам адказу на пытанне пані Дануты. На вуліцы сапраўды з'явіліся санкі, а ў іх сядзела нейкая калярова ўбраная групка: мабыць, бацькі і дзеці. У некаторых месцах палазы яшчэ чыркалі па вышчарбленым асфальце, але гэта ні ў каго не адбівала ахвоты катацца.

— Калі толькі снег патрымаецца, дык заўтра пайду на лыжах! — заявіла Данута каля форткі ў

двор зялёнай старасвецкай вілы, у якой спыніліся Маеўскія.

— А я,— сказаў я, цалуючы ёй руку на развітанне,— найму сабе санкі і паеду ў сінюю далячынь! Гэта ўжо, мабыць, шмат год сплыло, як я не ездзіў на санках! Можа, вы захочаце са мной, пане Ежы?

— Дзякуй, лепей лыжы!

— І кампанія пані Дануты...

— Лыжы гэта спорт. Здзіўляюся вам, што вы не займаецеся ніякім спортам. У вашым узросце трэба вельмі дбаць аб форме! — сказаў Маеўскі, напэўна, крыху дзеля таго, каб прынізіць мяне у вачах сваёй жонкі, хаця, шчыра кажучы, розніца ў гадах паміж намі магла быць выяўлена лічбаю чатыры або пяць.

Найлепей было аднесціся да заўвагі несур'ёзна, што я і зрабіў.

— Ну што ж, я ад нараджэння крыху недарэка! Паходжу ўрэшце з нізін, якія на лыжах разгуляцца не давалі... Добрай ночы!

Ужо амаль знікаючы за форткай, якая лёгка рыпнула, пані Данута яшчэ раз звярнулася да мяне:

— А якой гадзіне заўтра ўбачымся?

— Але ж вы йдзяце на лыжах!

— Я не выберуся раней дванаццаці...

— То добра: буду ў дзесяць.

Я жыў на адной з бакавых, аддаленых ад цэнтра вулічак, якіх зрэшты ў гэтай мясцовасці, вакол шашы, было не так многа. Вулічка падымалася крыху ўгору, я ішоў паволі, каб даўжэй быць аднаму сярод гэтага зімняга пейзажу, над якім вісеў ліхтар месяца. Недзе бразгаталі званочкі, сняжынкі былі рэдкія іападалі павольна, агеньчыкі ў вокнах на розных узроўнях набылі нейкае лірычнае значэнне.

Я тут быў ужо тыдзень. Маеўскія, як мне казалі, стараліся наведваць гэтую мясцовасць кожнаю зімой. Здзіўляўся трохі, што яны не хочуць ездзіць у Закапанэ, якое рухлівай пані Данусі лепей бы адпавядала. Мусіць, аднак, гэта было звязана з нейкім яе жаночым недамаганнем. Сапраўды, нібыта яна хадзіла да лекараў, бегала на нейкія працэдуры і нават піла ваду у павільёне мінеральных вод або забірала яе з сабою ў поліэтыленавай пляшцы. Не выпа-

дала мне бліжэй гэтым цікавіцца, але гэта магло мець сувязь з бяздзетнасцю, якая турбавала мужа і жонку. Здаецца, што гэты факт асабліва мучыў пана Ежы. Калі б яны мелі дзіця, шлюб іхні набыў бы трываласць.

Маеўскія апынуліся ў К... раней. Што да мяне, то яшчэ за некалькі дзён перад выездам мне нават на думку не прыйшло, што знайду іх менавіта тут. Вядома ж, я марыў аб адпачынку, але нічога канкрэтнага для сябе не вырашаў. Гэта пані Данута належала да кабет, якія прошаныя, а нават і не прошаныя, любяць за сябе і за іншых вырашаць таксама і ў выпадках, якія асабіста іх мала датычацца. От, абы толькі ў нешта ўварвацца. Заўжды яна ў нечым брала ўдзел, навязваючы какецтвам кожнаму асяроддзю сваю асобу.

Быць можа, аднак, што, каб не яна, я нікуды б не выбраўся. Ініцыятыва заўсёды давалася мне з цяжкасцю. Але яна апісала мне чароўнасць мясцовасці, падкрэсліла становішча чалавека, які прыязджае некуды, не маючы ніякіх знаёмых. «Вы будзеце, як у сям'і,— казала,— заўсёды будзе да каго звярнуцца, пакуль заведзяце новыя знаёмствы». Уласна кажучы, яна мела рацыю: нялёгка даваліся мне новыя знаёмствы. Прычынай гэтага было тое, што многія людзі рабілі на мяне непрыемнае ўражанне першымі ўжо жэстамі, першымі словамі, і тое, што я быў лянівы: трэба пазнаць, прынамсі, некалькі асоб, пакуль трапіш на нешта вартае таварыства, а можна і не трапіць!

Адчуваў я тут сябе ўвогуле добра. У пансіянаце, дзе наняў пакой з утрыманнем, жыло некалькі асоб, рэшта пакояў чакала калядных і навагодніх гасцей. Сустракаліся мы толькі ў абед, вечарам я ляжаў напаўапрануты на ложку, чытаючы дэтэктыўныя раманы. Днём альбо цягаўся сам, альбо з Маеўскімі. З імі мы штодзённа ездзілі ў вагончыках фунікулёра на Паркавую гару, дзе, размясціўшыся на ўзятых напракат шэзлонгах, самаахвярна падстаўлялі твары халоднаму сонцу. Быў гэта хутчэй рытуал, уласцівы мясцовасці ў прадгор'і, бо сонца ўвогуле не хацела даваць загару, а ў самай цярплівай з нас пані Дануты і без загару была смуглая скура.

Насуперак распаўсюджанай думцы ў мястэчку было спакойна, не чуваць было аб розных экстравагантнасцях, адпачываючыя і курортнікі паволі снавалі па вуліцы, якая была, уласна кажучы, адрэзкам шашы між мяккіх узгоркаў. Толькі калі глядзець з некаторых месцаў Паркавай гары, толькі тады магло наваколле лічыцца мясцовасцю, размешчанай між гор.

Што да мяне, то я вельмі марыў аб снезе. Аб некалькіх хаця днях белай зімы, занесеных сюды маразамі з вышэйшых лясістых узгор'яў.

Назаўтра, калі я глянуў у акно, была якраз зіма. Я глядзеў з палёгкаю на белыя лапы бліжэйшых дрэў, на ўзгор'і, на якіх серабрыліся і іскрыліся лясы. Адразу адчуў сябе жвавей, з'еў усё, што мне прынеслі на падносе, і неўзабаве збег уніз, да галоўнай вуліцы, каб вывела мяне за мястэчка, таму што да дзесяці было яшчэ нешта каля гадзіны.

Увесь гэты дзень быў рухлівы, хаця большасць гадзін я прабыў адзін, таму што панства Маеўскіх выбралася на лыжах.

Калі пад вечар я зноў з'явіўся ў пакоі Маеўскіх, аказалася, што Данута будзе адна, паколькі муж яе спаткаў нейкую важную птушку з прамысловасці і дамовіўся з ёй павячэраць у рэстаране на Паркавай гары. На маё здзіўленне, жонкі з сабою на гэты раз ён не ўзяў, аддаўшы яе ў дадатак майму апекаванню, растлумачыўшы, што тая важная шышка — адначасова яго школьны калега.

Праўду кажучы, я суцешыўся. Ежы раіў нам пайсці ў кавярню, але пані Данута, як толькі ён выйшаў, запытала:

— Ці праўда, вы хацелі б зноў тырчаць у кавярні?

— З вамі вельмі ахвотна...

— А ну яго! Люблю рух!

— То, можа, пойдзем на прагулку?

— А ну яе! Ногі ў мяне крыху баляць. Урэшце першы раз у гэтым годзе была на лыжах...

— Пані Данута, на санках паедзем! — крыкнуў я, удаючы энтузіязм, каб гэтая прапанова прагучала пераканальна.— Санкамі за мястэчка, коні пыр-

хаюць, бомы звіняць, а мы сядзім, маўчым, як... закаханыя! — шаржыраваў я.

— Гэта ўжо амаль канкрэтная прапанова! Але што далей?

— Што далей? Гм... Мы ж дагэтуль не былі ў такім тут рэкламаваным, важным, як Вавель у Кракаве, «Ціхім куточку»! Няёмка не пабываць, пані Данута.

Калі мы ўрэшце, перакідаючыся жартамі, выйшлі на паветра, ліхтары над слупамі ўжо калашмацілі цемру.

Дайшлі, крыху спяшаючыся, да пляцоўкі, дзе стаялі коні. Данута пакінула мужу запіску, каб не чакаў яе раней чым у дванаццаць. Калі яна сказала аб гэтым мне, зрабілася крыху несамавіта, бо я ўявіў сабе неспакой паны Ежы. Ён мог пасля гэтага бачыць ува мне, цалкам няслушна, суперніка. Я як супернік!

Выбралі санкі, запрэжаныя парай коней. Захуталі ногі кажухом. За мястэчкам была цішыня, спярэшчаная толькі гукамі званочкаў. Пані Данута зрабілася ажыўленай, сардэчнай. Дамовіліся, што спачатку паедзем далёка за «Ціхі куточак», які знаходзіўся на ўзлессі, а затрымаемся ля яго, толькі вяртаючыся назад.

Лес пагрузіўся ў цямноцце, якое ад гэтага нібы набракла, набрала нейкага асаблівага значэння, дрэвы ўздоўж шашы неслі на сабе нібы завітую сівізну, снег набыў матавы колер лою, угары беглі па месяцы воблачкі.

Пані Данута пытала, ці мне часам не холадна, дастала свае рукі з рукавічак і, хоць яны былі цёплыя, з какецтвам загадала мне іх грэць. Яны пахлі парфумай, што не дужа гарманіравала з пахам снегу, пахам, які нават нельга было ні з чым параўнаць.

У малым гардэробе «Ціхага куточка» пані Данута напамадзіла вусны і зноў адчула сябе па-гарадскому. Мы ўвайшлі ў мілую цеплыню драўлянага дома, які даваў натуральную прытульнасць, а звонку выглядаў, як асветлены і заснежаны домік са старых каляровых калядных паштовак.

Насупраць буфета сядзеў музыкант, ён жа і спявак. У жаўтаватым святле круцілася некалькі пар.

Мы знайшлі для сябе столік у другой зальцы ля самага акна. Сярод гасцей не было яшчэ на шчасце п'яных, толькі за адным столікам можна было ўжо намеціць кандыдатаў. Мелі яны, відавочна, шмат грошай і мала піяцкай культуры, хацелі фарсіць, голасна заказваючы абавязкова каньяк французскі, без дакладнай маркі.

З'явіўся перад намі кафейнік, бутэлька сухога віна. Пасля некалькіх глыткоў кавы і дзвюх чарак віна мы ўсталі на танга.

Я папярэдзіў пані Дануту, што не дужа ўмела танцую, але яна была памяркоўная і прыязная.

— Можаце не казаць мне пра гэта, пане Сыльвек.— Яна засмяялася.— Гэта адразу відаць. Буду старацца за сябе і за вас!

Я не ўзяў гэтага да сэрца, дбаючы толькі аб тым, каб не засапціся, таму што хутка стамляўся.

Пасля пары танцаў, пасля некалькіх чарак віна нешта ўва мне разыгралася. Я адчуў сябе, як на караблі, што плыве пад ветразямі праз снягі ў зімовую ноч, палюбіў штурханіну перад акардэаністам, глядзеў у вочы Дануце з большай зацікаўленасцю, чым гэта вынікала з маёй унутранай патрэбы; лёгкі, толькі тут прысутны, толькі тут неабходны і безумоўны, я стараўся, каб мае рукі, не парушаючы прыстойнасці, прылягалі, аднак, мацней да пані Дануты; каб умеў, я, можа, нават спяваў бы, як іншыя танцоры.

Уцякла ад мяне цалкам так характэрная для мяне боязь быць смешным, хоць і зараз я знаходзіў яе ў іншых танцуючых парах.

Пасля аднаго з танцаў, калі мы затрымаліся, каб вяртацца да століка, я пацалаваў пані Дануце руку, а потым дакрануўся да яе вуснаў. Чырвоных і поўных. Неяк гэта само здарылася, і я аж спалохаўся, але амаль тут жа, гледзячы ў вочы партнёркі, пераканаўся, што так і належала рабіць.

Пані Данута запрапанавала выпіць на «ты». Я адчуў сябе так, нібы раптам і незаслужана авансаваў. Толькі потым усведаміў, што гэта новая форма нашых адносін выкліча непрыемнае здзіўленне ў яе мужа. А што мне да нейкага там Маеўскага! — падумаў я, а на ўсякі выпадак выпіў яшчэ адну чарку

віна, што злёгку мяне ашаламіла. Менавіта ў гэты час я і сказаў ёй:

— Ута!

— Ута...— паўтарыла, паведаміўшы гэтым, што гэта пяшчотнае скарачэнне, такое простае, чуе першы раз. І дадала:— Ежы ніколі б не дадумаўся да такога! Нейкі ён без уяўлення і без паэзіі!

Я не прызнаўся ёй, што так калісь усе мы называлі адну з нашых сяброўак, малую і вяснушкаватую Дануту.

Калі мы апынуліся на ганку, гатовыя да вяртання, выглядаючы ў цемры якога-небудзь вазніцу, я зноў пачаў цалаваць Данку, але не гаварылася пры гэтым ніводнага слова. Зараз, у першы раз, я пачуў смак пацалунка, увайшла ў мяне цеплыня яе вуснаў.

Толькі ў сябе ў пакоі, распранаючыся, каб класціся спаць, вольны ад нядаўняга настрою, я занепакоіўся: ці не трапіў я ў нешта такое, што не было маім свядомым намерам? Ці не абавязвае гэта мяне да чагосьці? Ці не ўводзіць мяне ў нейкую справу, выцягваючы з самотнасці?

Потым, аднак, засынаючы, я пераканаў сябе, што Данута, напэўна, не надае тым некалькім больш-менш чулым жэстам ніякага значэння. Проста нам трэба было як найбольш прыемна правесці вечар, зместам якога была паездка на санках і прабыванне ва ўтульнай кавярні, што ўжо не мела ў тую хвіліну нічога ад карабля, які плыве праз снег і зімовую ноч.

Ну так, казаў я сам сабе ў думках, усё выразней адчуваючы перадсонны туман, толькі так гэта і ацэнім. Толькі так гэта і ацэнім, праўда, мілая партнёрка? Прыпаміналіся мне і чуткі, што хадзілі аб Дануце,— «паліпе з шаўковым позіркам», які штодзённа змяняе прычоскі і ўборы.

Гучыць гэта нават для мяне самога досыць дзіўна, але далейшыя дні ў К... неяк так прабягалі, што аніразу мы не звярталіся з Данай да вечара, праведзеная ўдваіх у «Ціхім куточку». Размовы ж нашы ажываліся. Ахвотна і многа мы гаварылі пра кнігі і фільмы. Ута вельмі міла грала ролю удзячнай вучаніцы. Вучаніцу найбольш цікавілі эратычныя

лініі, гаворачы аб фільмах, яна найперш гаварыла аб іх фабуле.

Паміж спатканнямі з Маеўскімі маё жыццё было багатае пустымі інтэрваламі, пра якія нельга сказаць нічога канкрэтнага,— я толькі адпачываў. Добрая гэта рэч: гультаяванне звальняе ад пачуцця, што час адплывае! Калі мы нічога не робім час нас не трывожыць; толькі калі нешта робім або хочам нечага дабіцца, чуем кожную гадзіну, як мала нам таго часу дадзена.

Пасля каляд, якія мы правялі традыцыйна, я маю на ўвазе асабліва куццю, яшчэ два разы мы былі ў «Ціхім куточку», але ў большай кампаніі, якая складалася з нейкіх прадстаўнікоў кааператыўнага асяроддзя, да якога, дарэчы, належаў і Маеўскі, з прадстаўнікоў гэтага асяроддзя і іхніх жонак, або (і, можа, нават хутчэй другое) кошачак, якіх ледзь можна было сцерпець.

Другое наведванне пакінула ў маёй памяці аж некалькі выразных момантаў.

Кампанію, у якой мы апынуліся, выносіў я, толькі беручы пад увагу Маеўскіх. Карацей, толькі з увагі да Дануты, таму што Ежы, з якім я завязаў добрыя адносіны,— знешнія, як здаецца,— адчуваў сябе сярод таўстуноў цалкам добра. Ён здаўся мне чалавекам досыць неглыбокім. Любіў, калі да яго звярталюцца, не мінаючы тытула інжынера. А ўрэшце ўся кампанія ахвотна і голасна «тытулавалася» ў тытунёвым дыме над двума састаўленымі столікамі, амаль бесперапынна чуліся звароты: інжынер, старшыня, дырэктар. Я таксама штохвілінна быў панам адвакатам.

Кампанія без роздуму ўхваляла ўсе забавы, якія не патрабавалі ні густу, ні фантазіі. Прынцыпам было: вызначыцца, паказаць сябе. Ішлі навыперадкі ў дарагіх напітках, падгаворвалі адзін аднаго да празмернага жэрцця з меню, спецыяльна заказвалі акардэаністу музыку. Я баяўся рахунку, аднак адчайна вырашыў аказваць ім супраціўленне, да чаго, аднак, не дайшло, таму што Маеўскі і атлетычна складзены мужчына, якога называлі старшынёй, доўга змагаліся за права яго аплаціць. Я быў зацікаўлены ў тым, каб заплаціць, прынамсі, за сябе,

але мае старанні скончыліся фіяскам. З «Ціхага куточка» аж на трох парах коней мы пад'ехалі да падножжа Паркавай гары, каб фунікулёрам дабрацца да рэстарана на вяршыні.

У рэстаране было некалькі вольных столікаў, але атлетычны мужчына раптам запрагнуў атрымаць столік каля акна, хаця ў гэтую пару можна было праз яго, ды і то з цяжкасцю, убачыць толькі бела-чорную пацканіну замест зімовага пейзажу.

Ён назойліва апеляваў да афіцыянта, каб той знайшоў такі столік. Ён зайшоў нават так далёка, што сказаў афіцыянту, каб той ад яго імя запрапанаваў адступное нейкай з групак гасцей, што сядзелі за столікам паблізу акна. Доўга яго пераконвалі, што гэта пахне скандалам, перш чым ён адмовіўся ад няўдалага помыслу і перастаў наддзірацца, шукаючы падтрымкі ў кабет.

— Я хачу, каб было рамантычна.

Я траціў цярплівасць, бо атлета распірала пыха, уласцівая тым, хто мае грошы, а не дужа яшчэ прывыкнуў да валодання імі. (Гэта ён у «Ціхім куточку» хваліўся, што ходзіць на працэдуры, калі яму падабаецца, ігнаруючы гадзіны, вызначаныя курортным раскладам. «Пане адвакаце, што я павінен сабе адмаўляць у той дробнай прыемнасці? Торкаю ў лапу пяцьдзесят злотых і кожны раз маю пяршынства!»)

— Ці табе тут сапраўды падабаецца? — запытаў я Дануту, калі ўрэшце мы размясціліся насупраць аркестра і, аднак, наводдаль ад акна..

— А што можна мець лепшага?

— А гэта кампанія?

— Кампанія таксама, бо і ты ў ёй... а музыка і віно дапаўняюць яе досыць яўныя заганы.

— Здзіўляюся я ўсім, што сядзяць у К..., усё ж неяк па традыцыі, у Закапанэ!

— Таму што гэтыя не дурныя: не любяць паказвацца, назаляць іншым вочы!

— Чаму?

Данута прыжмурыла вочы, а вусны сціснула насмешліва:

— Чаму, чаму? Юрысконсульт, а нічога не разумее!

— Ага-а! — буркнуў я, чуючы, як мяне аж па глотку запаўняе антыпатыя да ўсяго, што мяне ў гэтую хвіліну акружае. Хацеў нават знікнуць, але Данка гэта заўважыла і пацягнула мяне танцаваць. Была яна ўжо пад хмяльком, таму я паспрабаваў задаць ёй пару пытанняў, якія другім разам палічыў бы занадта смелымі:

— Твой муж таксама не любіць паказвацца?

— Не, мы толькі любім гэтую мясцовасць!

На хвіліну трапілі ў таўкатню і былі занятыя выключна танцам, а калі апынуліся ля сцяны, я зноў азваўся:

— Але ж вы тут толькі забаўляецеся, замест таго каб адпачываць.

— Я люблю жыццё эфектнае, яркае...

— Але ж гэта толькі знешняя яркасць...

— Але ж ты ўмееш быць нудным! Хай сабе знешняя. Што, зрэшты, не знешняе?

Данута, відаць, заўважыла у маім позірку нешта не надта прыхільнае да яе, таму што адразу нібыта апамяталася:

— Дзівак, ты што, не можаш без сур'ёзных размоў?! Быў такі мілы тады, у «Ціхім куточку»...— і шчыльней прыціснулася да мяне, прыспяшаючы адначасова рытм танца. Я хацеў нешта яшчэ ёй сказаць, магчыма ў сваё апраўданне, але з'явіўся Ежы і заявіў, што ён таксама прагне патанцаваць з Данутай.

Я пацалаваў ёй руку і вярнуўся да кампаніі, якая за гэты час узбагацілася нейкімі дзвюма малапрытомнымі асобамі з-за суседняга століка.

Данута і Ежы вярнуліся нейкія надзьмутыя, можа, пасля сцэны рэўнасці, не надта прыязныя адно да аднаго. Сведчыў аб гэтым іх зноў абуджаны энтузіязм да выпіўкі. Раптам Данута ўстала, схапіла мяне за руку і пачала прасіць:

— З мяне ўжо досыць! Адвязі мяне, Сыльвестр, дадому! Панове, забаўляйцеся без мяне!

Прапанова была няёмкая, збянтэжыла мяне. Добра, што не драмаў Маеўскі. Ён сарваўся з месца і пасадзіў Дануту ў крэсла, растлумачыўшы мне:

— У-у-упілася... Рэдка гэта з ёю здараецца. Хай п-пан не бярэ гэта да сэрца...

Данута тут жа абвергла яго:

— Не рабі з мяне ідыётку! Зусім я не п'яная. Хачу толькі, каб Сыльвек адвёз мяне дадому. А ты, Сыльвек, хочаш мяне адвесці дадому?

Я сядзеў непарушна, спачуваючы ў глыбіні душы Маеўскаму.

— Ты баязлівец!— закрычала Данута.— Вывездзі мяне прынамсі на снег, на паветра! Хачу падыхаць горным паветрам, а што — нельга?

Я падміргнуў шматзначна Маеўскаму, каб не працівіўся. Ён згадзіўся, але наліў сабе кілішак.

Абапёртая аб каменны мур асветленага будынку, са склеенымі касмылькамі валасоў на лбе, Данута расцірала ў далонях снег, паенкваючы:

— Як мне гэты Ежы абрыд. Як мне гэты ёлуп астабрыд. Глядзець часам на яго не магу...— І раптам закінула мне рукі на шыю, просячы: — Пацалуй мяне, ну, пацалуй! Я такая самотная!

Я пацалаваў яе, але неяк так сабе. Яна спрабавала яшчэ ўскласці мае рукі сабе на грудзі, аднак я пастараўся адвесці яе назад да цеплыні і музыкі, якая зараз здалася мне моташнай, убогай, зусім пазбаўленай меладычнасці, зведзенай да пары рытмаў, якія выбіваў ударнік.

Некалькі гэтых датканенняў вуснаў Дануты былі дагэтуль толькі мілым эпізодам, а яе асабістыя прызнанні я лічыў выбрыкамі ў стане алкагольнага ўзбуджання. Невядома, што там было ад сапраўднай горычы, а што толькі выражэннем хвіліннай дэпрэсіі або какецтва?

Я сумняваўся, каб яна магла вяртацца калі-небудзь думкамі да тых эпізодаў. Гэта я да іх, насуперак маёй волі, вяртаўся, аналізаваў іх, не мог адагнаць успаміны аб ім. Тым болей, што Данута, калі я з ёй развітваўся, сказала словы, якія павінны былі нешта азначаць: «Шкада, што нешта пачалося і...» Я прасіў, каб сказала ясней, але яна адрэзала толькі: «Калі нехта нездагадлівы, то няма на гэта рады!»

Здагадлівым я мог зрабіцца ў кожную хвіліну, але хутка рашыцца на вывады са сваёй здагадлівасці і дзейнічаць — гэта зусім іншае!

Часам здавалася мне, што завязаліся ўва мне вузлы, першыя вузлы нейкага здарэння, якое будзе

пагрозліва нарастаць. Тады я адчуваў, што да яго не падрыхтаваны, таму што колькі ўжо разоў у жыцці адчуваў я сябе непадрыхтаваным да здарэнняў, якія мелі пачацца!

Я вярнуўся з водпуска раней, чым сям'я Маеўскіх. Я не мог застацца даўжэй, меў дзве юрыдычных кансультацыі, чакалі мяне справы ў павятовым судзе. Ды і ўрэшце ўжо за два дні перад тым, як мне пакінуць К..., надвор'е пачало псавацца, збіралася на зацяжную слоту, сонца ледзь высоўвала з-за хмар руды лоб, ды і то мімалётна.

Я затрымаўся на два дні ў Кракаве. Калі толькі маю магчымасць, я заўсёды стараюся затрымлівацца ў старых гарадах. Належу да людзей, мо ўжо выміраючых, якім неабходныя гарады з архітэктурай, даўно ўвабранай тваім уяўленнем праз падручнікі, з вулачкамі, што ўражваюць так, як некаторыя напалову сцёртыя надпісы або ўрыўкі старых хронік.

У нашай кватэры ўсё ішло спакойна, манатонна. За гаспадаркаю глядзела яшчэ з поспехам, нягледзячы на пажылы ўзрост, маці. Елі мы разам з маці, сястрой, яе мужам і сынком, які хадзіў у першы ліцэйскі клас. Хаця сястра і яе муж працавалі, хлопец быў досыць добра выхаваны, руплівы, не знікаў з дому, каб швэндацца па вуліцах, меў свае інтарэсы, купляў кніжкі пра будаўніцтва караблёў, быў членам вяслярскага клуба.

Я меў пакой налева з калідорчыка, з вокнамі, што выходзілі падворак. Вось, мая кавалерка, у якой з прыемнасцю я правёў і ма́ю надзею, што яшчэ праведу столькі гадзін жыцця: вузкая, аднаспальная (хіба да канца жыцця?) тахта, паліцы з кнігамі, стары стол з сасновых дошак, завалены паперамі і мемуарамі, якія я нязменна купляў; на сценах рэпрадукцыі з карцін французскіх імпрэсіяністаў, а з некаторага часу (на пробу) рэпрадукцыі абстракцыйных карцін; у баку ад іх вялікая зашклёная рама, а ў ёй пацямнелыя даваенныя фатаграфіі, некалькі паштовак з відамі універсітэцкага горада, што я атрымаў у падарунак ад людзей, якія яго ў апошнія гады наведвалі.

Тэлефон, які належаў мне, стаяў у перадпакоі, каб уся сям'я магла ім карыстацца. З усёй сям'і, зрэшты, найбольш ахвотна, з некаторага часу, карыстаўся тэлефонам пляменнік. Ніколі, аднак, я не мог даведацца, з кім і аб чым ён размаўляе. Заўсёды я чуў толькі нейкія недамоўкі, бурканні, накшталт ну... ага... Рахункі за тэлефон плачу я, па-першае, таму, што найчасцей карыстаюся ім, па-другое, таму, што калі б я паспрабаваў правесці нейкі разлік, дык нават дробная сума магла б выклікаць зусім не дробныя сваркі і непаразуменні, абудзіць даўнія прэтэнзіі ці абразы, у якіх нідзе не бывае недахопу, а справа ж у тым, каб яны як найдаўжэй драмалі пад паверхняю банальнай ветлівасці. Быў я ў той кватэры самым заможным чалавекам, які дапамагаў толькі матцы. Велікадушна плаціў, значыцца, і за ваду і за ліфт...

Неяк на пачатку лютага, перад самым абедам, затрашчаў тэлефон, якога — як праз хвіліну выявілася — я часам усё ж чакаў. У мой пакой заглянуў ліцэіст.

— Дзядзька, нейкая пані да цябе!

— Ужо іду! — я ўстаў са скуранога крэсла, што стаяла ў канцы пакоя, каля стала, размешчанага наўскос паміж венецыянскім акном і сцяной.

— Віцінскі...

— Гаворыць Ута!

— Ах, як жа мне міла пачуць твой голас!

— Міла... міла... але ані разу да нас не пазваніў...

— Не хацеў перашкаджаць.

— Кпіш ты, ці што? Гэта такі бяздарны выкрут, што я перастаю верыць у твае адвакацкія здольнасці...

— Бо цябе, Данута, цяжэй ашукаць, чым каго-кольвек. Як бачу, не церпіш нават агульнапрынятых выкрутаў...

— Не цярплю!

— Як ты сябе адчуваеш? Як шаноўны муж?

— Муж неяк дае сабе рады, а я нуджуся!

— Часта гэта з табою здараецца?

— Часцей чым з кім-небудзь...

— Ніколі б не падумаў! Быў упэўнены, што ўмееш арганізаваць сабе жыццё. Менавіта ты!

Мембрана ў трубцы задрыжала прыязным смехам:

— І нягледзячы на гэта... Відаць, сапраўды адчайна нудзьгую, калі ўжо званю да цябе...

— Так, гэта можа сведчыць аб тым, што ў цябе псіхічнае расстройства!

— Яшчэ горш, калі ўжо я ў дадатак гатова пайсці з табою на каву...

— Сапраўды, ты, мусіць, зусім надламаная: так рызыкаваць!

— Зараз ты ўжо, значыць, ведаеш, што са мною нядобра.

— Усведамляю гэта сабе цалкам і поўнасцю.

— Маеш вольны час?

Я занепакоіўся, завагаўся.

— Бадай-што... Пасля абеду, вечарам...

— Можа, у пяць?

— Добра. А дзе?

— У «Грамадцы»?

— У гэты час там вельмі цесна.

— Дык прапануй што іншае!

— Што ж у гэтым горадзе можна прапанаваць?

— Такім чынам?

— Добра, буду чакаць!

— Цудоўна! Прыйду пунктуальна.

— Да пабачэння!

Жартаўліва паправіла:

— Да... прыемнага пабачэння!

Ідучы ад тэлефона да сталовай, я адчуваў сябе прыемна ўзбуджаным. Нібы раптам паплавок пачаў ныраць у вадзе, а праз хвіліну на канцы лёскі затрапятала не плотка нават, а шчупачок... Я належаў да мужчын, якіх рэдка шукаюць кабеты, а тут без ніякай маёй у гэтым кірунку ініцыятывы прапануюць мне спатканне! І хто прапануе? Данута, пра якую ў Патылаў заўсёды казалі, што мае шчасце на мужчын, хаця наогул любіць іх перабіраць.

У абед я ўдзельнічаў у звычайнай размове, а думкамі быў у «Грамадцы», хаця адначасова здзіўляўся гэтым думкам і ставіўся да іх з іранічным крытыцызмам.

Сталася яшчэ горш: другі раз за той дзень я па-

галіўся і нават — што амаль ніколі са мной не здаралася — змяніў кашулю і гальштук.

У кавярні, як я і прадбачыў, не было месцаў. Толькі праз пару хвілін тырчання пад калонай, якая прыкідвалася мармуровай (нават калоны нечым прыкідваюцца!), я заўважыў, што нейкія дзве панюсі вызвалілі адзін столік пад сцяной. Я выйграў гонкі да таго століка з нейкім не вельмі добра ўмытым юнаком, якому я мог бы быць бацькам. Усеўся, але прыгнечаны гонкамі. Каб не Данута, ніколі бы не ўдзельнічаў у іх. Калі ўжо, аднак, умовіліся, належала адваяваць столік і два крэсліцы, абцягнутыя зялёным рыпсам.

Яна прыйшла амаль дакладна. Шчочкі былі яшчэ зарумяненыя, хоць, напэўна, у гардэробе трохі пастаяла перад люстрам. Я прыглядаўся да яе, калі яна лавіравала паміж століками і крэселкамі. Былі на ёй зялёны світэрок і шэрая спадніца. І гэты ўбор выдатна пасаваў да яе фігуры.

Калі мы прывіталіся, яна сказала такім тонам, нібыта мы яшчэ гаварылі па тэлефоне.

— Я пунктуальная. Гэта мой звычай. Толькі як пачую ўпэўненасць у сабе, пачынаю капрызіць.

— Не вельмі магу паверыць, Данута. Калі ўжо сама аб тым гаворыш, гэта азначае, што ты не здольная да засад.

Засмяялася.

— О наіўнасць! Мае засады, калі ўжо я на іх рашаюся, не так лёгка разгледзець! Ты мяне недаацэньваеш!

— Не думаю, каб я настолькі цябе цікавіў, што ты хацела б на мяне паставіць сіло. Урэшце я спрытны ліс. Найлепшым доказам гэтага ёсць тое, што я нежанаты.

— Які гэта доказ! — выкрыкнула Данута, адпіўшы крыху кавы з філіжанкі і зацягваючыся дымком цыгарэты.— Можа, ты самы звычайны баязлівец.

— Не адказваю на такія заўвагі. І, акрамя таго, хачу быць крыху загадкавым...

Яна па-мацярынску дакранулася да майго падбародка, падымаючы такім чынам мой твар да святла:

— Не такія, Сыльвек, я загадкі разгадвала!

Неяк выпадала вярнуцца ў размове да нядаўняга адпачынку. Ён, аднак, не вельмі доўга служыў нам тэмай. Данута заключыла:

— Самым прыемным здарэннем быў той вечар у «Ціхім куточку»... — Уздыхнула: — Шкада, што ён не меў працягу.

— Як гэта разумець?

— Як хочаш... — Адразу пасур'ёзнела: — Але раю гэта разумець толькі так: шкада, што не выбраліся мы туды яшчэ раз... Здаецца, што ты ўжо тады збаяўся, Сыльвек!

— Чаго, Данута?

— Таго, што другім разам трэба было ісці далей...

— Ты кажаш гэта шчыра?

Данута або знецярплівела, або з іншых меркаванняў перарвала гэтую найважнейшую для мяне ніць размовы.

— Шмат клопату.

— Вы і клопаты?

— Так, «Амега» прайграла працэс!

— «Амега» гэта не ты і нават не толькі Ежы.

— І аднак, гэта непрыемная справа. Год пачаўся нядобра.

— А ў чым справа?

— Я не вельмі цямлю ў гэтым. Увесь час гэтыя стылоны, арталіёны, нейлоны, замшы. «Амега» павінна была пастаўляць вырабы з нечага там замежнага, а пастаўляла ■ нечага айчыннага.

— Чаму?

— Заграмічнае, відавочна, было патрэбна камусьці іншаму. Нічога б не было, каб у супольным з «Амегай» кааператыве не змянілі кіраўніцтва...

— Ага.

— Ну, і Ежы мае шмат непрыемнасцей. Кожны вечар вяртаецца падпіты, бо шукае патрэбных кантактаў. Так, прынамсі, тлумачыць.

— Цалкам сучасная прычына алкагалізму!

— Не жартуй! Найгорш тое, што юрысконсульт «Амегі» стары няўклюда. Не ўмеў у судзе, як мне расказаў Ежы, аргументаваць.— У гэтым месцы Данута пачала перадражніваць невядомага мне калегу па прафесіі. — Я лічу, пан старшыня, што іск абгрунтаваны. Мы павінны адказваць за нетэрміно-

васць і іншую няякасць! Што гэта за адвакат, які загадзя прызнае рацыю працiўніка!

— Думаю, што часам так уласна і павінна быць. Ідзе ж справа аб дабры рынка...

— Ты так думаеш? Сур'ёзна?

— Сур'ёзна...

— Закажы мне яшчэ адну каву і каньяк, бо я адчуваю сябе расчараванай. Бо я лічыла, што цябе злаўлю на юрысконсульта «Амегі»...

— Данута, у мяне столькі працы і абавязкаў, на колькі мяне хапае!

— А грошай?

— Грошай меней, чым заслугоўваю, але зноў жа не маю намеру гнацца за імі, мае патрэбы не празмерныя.

— Рэдка ад каго ў цяперашнія часы можна чуць такое пазітыўнае прызнанне.

— Прызнаю, што досыць рэдка! Але я ў асобным становішчы: самотны, крыху падтрымліваю сям'ю, якая плаціць мне за гэта ўдзячнасцю. А пра машыну, пра тэлевізар нават не мару...

— На тэлевізар у цябе бадай-што хапіла б?

— Досыць, што яго маюць суседзі. Зусім, урэшце, праз гэта яны ні высакароднейшыя, ні мудрэйшыя, больш таго — нязносныя...

— Старасвецкі ты тып, даваенны! — Пасля паўзы дадала: — Можа, уласна таму мяне й цікавіш? У нашым коле найчасцей бачыш гонкі — найперш да халадзільніка, пасля да машыны, пасля да вілы. І ўсе ўзаемна падбіваюць сабе ў барабан. А ілюстраваныя штотыднёвікі таксама не маўчаць! — Засмяялася, прыпамінаючы заклік, які бачыў і я: «Самым прыемным калядным падарункам з'яўляецца аплочаны білет экскурсіі цеплаходам «Баторый» на Канарскія астравы...»

— Але вы, калі не памыляюся, спыніліся на тэлевізары і машыне?

Данута прыкрыла доўгімі падмаляванымі вейкамі свае інтэнсіўна блакітныя вочы:

— Усякія сур'ёзныя гонкі маюць свае этапы, ці не так?

— Такі маюць...

Зноў запаліла цыгарэту:

— Вельмі шкадую. Думала, зацікаўлю цябе прапановай юрысконсульства. А можа, ты хацеў бы на гэтую тэму пагаварыць з Ежы?

Я пакрыўдзіўся:

— Данута, за каго ты мяне прымаеш? Сама сказала, што я старасвецкі. У пэўным сэнсе гэта так. Лічу, напрыклад, што абмежаванне або селекцыя сваіх патрэб дае, скажам гэта крыху патэтычна, пэўнае пачуццё незалежнасці. Найгорш даць сябе паланіць малым мэтам, якія ў канцы цалкам падпарадкоўваюць сабе людзей.

— І што ты робіш з той незалежнасцю? З тым пачуццём незалежнасці?

Я адказаў жартам:

— Хаджу з ім вечарамі па горадзе. Страшэнна люблю прагулкі.

— Самотныя?

— Цалкам самотныя.

— Прабач, мой дарагі, але мне калі-нікалі здаецца, што ты сябе папросту марнуеш. Каб адчуваць жыццё, трэба быць менавіта ў яго гушчы, а ты выбіраеш кніжныя палі, наваколлі! Не баяцца трэба гушчы, рызыкаваць!

— Гэта залежыць ад таго, якой гушчы! Я па-свойму адчуваю сябе ў гушчы жыцця, назіраю за людзьмі і іх узаемаадносінамі, бяру ўдзел ў розных справах...

— Не сваіх...

— Вучуся любіць свой упрыгожаны, убраны горад. Бяру ўдзел у справах пляменніка. Шукаю.

— Але вернемся да тэмы,— перабіла Данута.— Я ж не скончыла аб працэсе! (Відавочна, апошнія выпадкі вельмі яе паглыналі, і дзеля іх яна мяне сюды запрасіла.) — Крыху баюся, што Ежы хочуць заблытаць. Ён звольніў аднаго бухгалтара, а той напісаў у газету...

— Нашто?

— Што яго звольнілі за крытыку становішча спраў у «Амезе». У сувязі з сёдламі!

— На жаль, здараецца, што сумленная, самая найсумленнейшая крытыка вядзе да звальнення!

— Лічу,— сказала Данута,— што амаль за кожнай крытыкай крыецца жаданне павярнуць акалічнасці на сваю карысць.

Я абурыўся:

— А ты не ўяўляеш сабе крытыкі як турботы аб карысці грамадства?

— А ты сабе ўяўляеш?

— Без малейшага напружання.

— Але ж і размова ў нас! Нейкая такая прынцыповая! — усклікнула Данута.

— Аб чым жа мне гаварыць, каб быць цікавым субяседнікам? — спытаў я, хаця, менавіта, яна круцілася вакол далікатных пытанняў.

— Тыя, што хочуць быць займальнымі для кабет, не пытаюць пра гэта, яны маюць інтуіцыю. Мы выбіраемся на баль. Канчаецца карнавал, а я яшчэ не была ні на адным прыстойным бале. Хацела б, каб ты пайшоў з намі...

— Я кепска танцую...

— Няпраўда! У «Ціхім куточку» выпісваў някепска.

— Аднак, бадай-што не выберуся. Штурхатня, усе спатнелыя, з кожнай хвілінай у зале ўсё болей п'яных...

— Але ты быў бы са мной. Я танцавала б з табою.

— А Ежы злаваўся б?

— Ці гэта я яму лёс выбірала? Паркі або мойры!

— Але ж гэта ты ягоная парка!

— Дык што з таго!

— Я веру, што ты жартуеш,— сказаў я сур'ёзна.— Я перакананы, што па сутнасці вы з'яўляецеся добрай шлюбнай парай. Наколькі магу меркаваць, Ежы робіць усё, каб табе забяспечыць добрыя ўмовы, і нават патурае тваім капрызам.

— Або сваім амбіцыям! Гэта ён нявольнік тых малых мэт, пра якія ты казаў.

Зараз ужо мне хацелася змяніць тэму гаворкі. Бо мы ўжо некаторы час гаварылі насуперак сваім жаданням.

— Данута, прабач! Ты чароўная, прыгожая жанчына! Прыкідваешся толькі халоднай і заледзянелай!

— Люблю быць каханай...

— Але не любіш кахаць, ці не так?

Задумалася.

— Можа, і ёсць тут нешта ад праўды?

— Як гэта добра, што ў мяне няма такой жонкі!

— Каб нешта аб тым ведаць, трэба найперш мець.

— Так, у жыцці мы спазнаём праўду толькі тады, калі позна ўжо рабіць практычныя вывады... Гэта і палохае!

— І таму некаторыя нічога па сутнасці не хочуць ведаць аб жыцці, прабягаюць крадком паўз яго...

— Каго мы маем на ўвазе?

— А пэўнага пана, які сядзіць насупраць мяне і маралізуе так, што трэба яго пакінуць... Пойдзеш з намі на баль?

— Падумаю.

— Добра, не буду настырнай. Прыручайце дзікуноў з настойлівасцю і паслядоўнасцю, але паступова.— Сказаўшы гэта, яна зірнула на гадзіннік і ўскрыкнула з прытворным жахам: — Авой, ужо восьмая! А мне яшчэ трэба да краўчыхі. Была б рада, каб ты саставіў мне кампанію. Прымерка не будзе доўгай...

Па бруку імчалі з пранізлівымі гудкамі пажарныя машыны. Падаў мокры снег на мокрыя тратуары, на асфальт, які хлюпаў пад коламі.

Невялічкая бландзінка з інтэлігентным тварам раз-пораз зіркала на мяне, нібы з цяжкасцю намагаючыся нешта прыпомніць...

Мы ўселіся абедаць за стол, накрыты на шэсць персон. Былі ўжо ўсе. І ўсе выдралі з пуцёвак абедзенныя талоны.

Позірк бландзінкі — які на свой лад вабіў — дайшоў урэшце да мяне, абуджаючы ў памяці некаторыя падрабязнасці. Дык гэта ці не пані Гэлена...— прыпомніў я ўрэшце, але яшчэ не быў упэўнены.

Тым часам афіцыянтка паставіла супавую вазу, і пачаліся цырымоніі, як гэта заўсёды бывае сярод адпачываючых,— хто павінен каму наліваць.

...Прыгожы твар са светлай скураю, акаймаваны светлымі валасамі, зграбная фігурка — я паўярхоўна прыгледзеўся да бландзінкі яшчэ тады, калі яна падышла да стала з банальным пытаннем аб вольным месцы. Калі б яна сядзела побач са мной, можа,

я і адважыўся б спытаць, калі мы пазнаёміліся, каб канчаткова рассеяць сумненні, уцвердзіцца ў здагадцы. На жаль, бландзінка сядзела насупраць, з другога боку стала, перагаворваліся мы вяла, неяк абыякава, ат, абы толькі не маўчаць.

Урэшце я рызыкнуў, далікатна ківаючы галавою ў бок бландзінкі, сілячыся адначасова на ўсмешку:

— Дык пані таксама ў адпачынку?

— Пан адвакат?

— Здаецца, мы пазнаёміліся ў Маеўскіх?

Бландзінка зычліва згадзілася.

— Менавіта, у майго брата...

— А-а-а, зараз ужо я ўпэўнены! — уцешыўся я.

Ну так, гэта ж была сястра Ежы. Бачыў яе я бадай-што адзін раз, і, менавіта, тады, у дзень нараджэння. Яна сядзела ў той вечар зводдаль ад мяне, звярнула на сябе мала ўвагі, а паколькі ўвесь час трымалася карэктна, як прынята, дык не дужа мог яе вобраз замацавацца ў маёй памяці. Няшмат у яе было падабенства з братам, можа, толькі занадта светлыя, не фарбаваныя бровы нагадвалі Ежы. Я ведаў, што некалькі год таму назад яна скончыла хімічны факультэт і працавала ў нейкай лабараторыі, звязанай з вытворчасцю фарбаў.

— Як даўно вы тут?

— Тыдзень. А вы?

— Толькі ўчора прыехаў і акліматызуюся!

— На жаль, надвор'е падвяло. Можа, вам болей пашанцуе.

Дзякуючы гэтай заўвазе, уся кампанія, якая сабралася за абедзенным сталом, знайшла ўрэшце тэму, размова зрабілася агульнай.

Сапраўды надвор'е падвяло. За вокнамі віселі хмары, як вата, насычаная нейкай цёмнай вадкасцю, праз хвіліну мог пайсці дождж, магло з'явіцца сонца. Добра, што, прынамсі, было цёпла, а горш, што ў зале было душна. Дом адпачынку быў вялікі, і таму сталовая, у якой было толькі дзве залы, не ўсіх магла змясціць, і харчаваліся ў дзве змены.

Я прыглядаўся да пані Гэлены. Між столікаў праціскалася шмат людзей, але нішто не гаварыла аб тым, што яна паспела пераразнаёміцца, бо ніхто яе

не аклікаў, яна таксама за ўвесь абед ледзь разы са два кіўнула галавой. Я заўважыў, што гэтыя кіўкі датычыліся нейкіх паняў. Дзякуючы гэтаму я пераканаўся, што, магчыма, буду мець субяседніцу і сяброўку па прагулках, таму што два мае выпадковыя суседы з нашага пакоя нічым мяне не цікавілі, хаця і не нервавалі, бо трымаліся яны спакойна, нават далікатна, амаль адразу ўстанавіліся між намі найбольш правільныя адносіны: не перашкаджаць адзін аднаму.

— Што вы робіце пасля абеду? Спіце?

— У мае гады?! Хацела б прайсціся, люблю шмат хадзіць...

— Я таксама.

Я, аднак, выехаў з горада! Насуперак сваім поглядам на правядзенне адпачынку! У сваё апраўданне (уласна кажучы, перад кім або чым?) я магу прывесці аж некалькі прычын. (Калі ж некалькі, то, мабыць, ніводная з іх не мае вялікага значэння). Меў крыху вольных дзён; пакутаваў часам бяссонніцай і пазбягаў глытаць таблеткі; пачала мяне ў дадатак да ўсяго мучыць адсутнасць у горадзе некалькіх асоб, перш за ўсё Дануты, якая — нават мне аб гэтым не паведаміўшы — выехала з мужам на Чорнае мора. І я падумаў, што нечая адсутнасць найбольш адчуваецца ў месцах найбольш з той асобаю звязаных.

Была ў тым праўда: тут, сярод лясоў, праз якія праплывала ў нізкіх, але маляўнічых берагах вузкая рака са сціплай прыгажосцю, увогуле я не павінен быў думаць ані пра Дануту, ані пра каго іншага з горада.

Не хацелася мне ехаць нікуды далей, і я пайшоў, не вельмі разлічваючы на поспех, у бюро адпачынку. Выявілася, што можна было адпачыць у мясцовасці, зусім недалёка, гадзіны за дзве язды аўтобусам. Было гэта ў самы раз для мяне, для прыхамаці — гэта, можа, найважнейшая прычына для людзей самотных, якія лёгка мяняюць свае рашэнні. Заплаціў за дзесяць дзён і вось адпачываў...

Мая здагадка была слушная: Гэлена (выявілася, што яна яшчэ не замужам) відавочна ўнікала знаёмстваў.

Аднойчы, а дзень быў выключна сонечны, той, які дасягае праменнямі аж да каранёў дрэў і хмызоў, мы ляжалі на пледзе, прынесеным мною, паблізу ракі і загаралі. Размова пасля трох дзён знаёмства стала больш шчырай.

— Прабачце, я недаверлівая.

— Як гэта разумець?

— Не веру ў трываласць курортных сімпатый ці, як іншыя гэта залішне шумна называюць — каханняў...

— Але ж здараюцца і такія выпадкі!

— Не выключаю іх. Найчасцей, аднак, усё канчаецца разам з водпускам! — Пані Гэлена гаварыла паволі, таму што адначасова ўцірала ў твар нейкі крэм.— Ужо не першы дзень як пачаў хадзіць за мной адзін увогуле сімпатычны мужчына.— Хутка, аднак, ён пераканаўся, што не атрымае лёгкага поспеху, і пачаў шукаць сабе іншую прыяцельку... О, гэта, уласна, тыя! — пані Гэлена паказала рухам галавы на хударлявага мужчыну і значна за яго вышэйшую кабету, якія, аж надта весела, уваходзілі ў ваду...

— Ці гэта азначае, што ніхто з нас у водпуску не можа мець у вас аніякага шансу?

Гэлена глянула на мяне з сімпатычным дакорам на твары.

— Шансы трэба адчуць, а не пытаць пра іх... Прабачце, найбольш уражвае мяне тое, што вы наогул такія нецярплівыя: абы толькі нечага дасягнуць!

— Але. А хіба калі-небудзь было іначай?

— А бадай-што так... Не тое, каб мужчыны былі іншыя, але папросту звычкі навязвалі іншы падыход... Урэшце, гэта мой погляд, і можна толькі мне з ім лічыцца.

— Відавочна! Праўду кажучы, мне таксама здаецца, што поспех, якому не папярэднічаюць цяжкасці, наогул не поспех. Дасягаецца толькі тое, што абодва бакі спусташаюцца, пазбаўленыя якога б там ні было пачуццёвага жыцця.

— Падпісваюся пад заявай! — усклікнула пані Гэлена.— Я вораг указання Боя*:

* Тадэвуш Бой-Жаленскі (1871—1941) — польскі пісьменнік, публіцыст, перакладчык і крытык.

Хоць пад акном трубадуры
Гінуць ў лірычнай агоніі,
Смейся з усёй літаратуры,
Ўлазь акном без цырымоніі.

— Бой жартаваў!

— Чаму! Іншая рэч, што ягонай справай была барацьба за выкрэсліванне з жыцця такіх частых у яго часы і такіх непатрэбных трагедый...

— Дэмаскаваў пэўныя правілы добрага тону!

Гэлена ўздыхнула:

— Так іх урэшце здэмаскавалі, што зараз ужо чалавек пачынае аб іх пацІху тужыць. І дадала: — Старыя здэмаскавалі, а новых трэба чакаць.

— Чаканне звязана з рызыкай. Гады мінаюць!

— Ну дык што?

Потым мы перайшлі, ясная справа, на абгаворванне вядомых нам асоб. Асцярожна, але з упартасцю я скіроўваў размову на Маеўскіх.

Аднак толькі двума днямі пазней, перад сваім ад'ездам, Гэлена выказалася на гэтую тэму:

— Прабачце, яшчэ два гады таму назад Ежы быў цалкам іншы чалавек. Быў вельмі бескарыслівы, дапамагаў мне, каб скончыла інстытут. Быў энергічны і працавіты.

— Гэта характарызуе яго і зараз.

Гэлена адказала ўнікліва:

— Энергія можа быць розная. Уся яго энергія знайшла іншае магнітнае поле.

— Раскошнае жыццё? Людзі, якія выйшлі з убоства, часта ўпадаюць у крайнасці.

— Ах, не тое! — Гэлена нібыта завагалася: — Не тое.

— Што ж тады?

— Робіць усё, робіць... зашмат, абы дагадзіць той сваёй Дануце. А ёй ніхто не дагодзіць!

— Вы яе дэманізуеце.

— Яна зрабіла так, што цяпер у Ежы бельмы на вачах. Яна, якая, насуперак вонкаваму выгляду, не мае ніякага ўнутранага жыцця.

— Я бараніў бы яе ад гэтага абвінавачвання. Яна цяжкая, гэта праўда. Але, можа, ніхто не здолеў, не змог яе знайсці, папасці ў яе душу? Можа, каб мелі дзіця...

— Дзіця? Данута калісьці, калі яшчэ бывала са мною шчырая, сказала мне, што выклікаць людскую істоту з небыцця гэта занадта вялікая адказнасць.

— Ну, бачыце, пані, нельга яе абвінавачваць у адсутнасці ўнутранага жыцця! Думае!

— Думае, але эгаістычна! — Гэлена прыўзнялася на локці, нібы намерылася ўстаць, але не ўстала.— Любоў, прабачце, як я яе разумею і прашу не смяяцца з маёй старасвецкасці, гэта пакора дваіх перад сабою і горды гонар перад светам. Тады ўсё, нават у цяжкім жыцці, можа яшчэ неяк скласціся. Гэтага ў іх няма. Зрэшты, я амаль у іх не бываю. Спрабавала пераконваць Ежы, але гэта мала дапамагло. Ці ж можна камусьці наладзіць жыццё? Ах, як я баюся за Юрка! Вы сабе гэтага нават не ўяўляеце...

Я не ўяўляў сабе, таму што занепакоіўся за сябе. Чаму, падумаў я са шкадаваннем, цікаўлюся менавіта Данутай, а не, напрыклад, мілай і гожай, досыць нэпасрэднай і, як здаецца, сумленнай паннай Гэленай? (Што можна ёй закінуць: можа... гэтыя светлыя, выцвілыя бровы? Дурны закід. Але чаму яна іх не чэрніць? Гэтыя выцвілыя бровы робяць тое, што я гляджу на яе твар нібы праз твар Ежы, якога не люблю, а хутчэй мушу не любіць, бо ён муж Дануты!)

Вечар таго дня я правёў за чытаннем. Не хацелася мне нікуды выходзіць, быў я маркотны, хоць лясы прыносілі мне ў падарунак свае паляны і сцежкі, пахі і травы. Адчуваў я сябе ўсё ж паршыва. Вельмі паршыва!

## 4

Данута наведала мяне яшчэ чатыры разы, у розны час. На апошняе спатканне рашалася досыць доўга, адкладвала яго, капрызіла, сумнявалася.

У той перыяд я жыў пераважна тым, што аддаваўся ўспамінам пра Дануту, удакладненнем яе псіхічнай структуры. Нагадвала гэта, калі шукаць параўнанняў, працу разьбяра, які з гліны ці дрэва не можа здабыць пажаданых яму формаў, што адпа-

вядалі б яго найглыбейшай патрэбе выражэння, выяўлення, калі мастак адыходзіць і зноў вяртаецца да каменя. Зараз, калі я быў ёю так моцна ўсхваляваны, я ведаў аб ёй менш чым калі-небудзь.

Сам для сябе я таксама быў кожны дзень неспадзяванасцю, адкрыццём. Зніклі мае дакоры сумлення перад мужам Дануты. Я мог з ім бачыцца, не адчуваючы ані найменшага сораму.

Часам нават замест пакутаў сумлення я адчуваў да яго пагарду. Здавалася мне, што я больш ведаю яго найінтымнейшыя справы, чым ён сам. З'яўлялася ўва мне нейкая пыхлівасць, хмурная пыхлівасць. Не думаю, каб ён у нечым мяне падазраваў, але я лічыў за лепшае яго пазбягаць, таму што ў яго прысутнасці ўпадаў у непакой, падобны да таго, які, напэўна, раз'ядае сэрца ўзломшчыка пасля злачынства. Калі я з ім размаўляў, то бачыў двухсэнсоўнасць у сваіх самых звычайных і банальных словах і жэстах, супакойваў сябе, што гэта толькі маё ўяўленне. І гэта, мабыць, сапраўды было так.

Усё сур'ёзней я пачаў думаць аб давядзенні справы да апошняй мяжы, гэта значыць, каб Данута зрабілася маёй жонкай. (Пазней я здзіўляўся са свайго неабдуманага імкнення да таго, што патрабуе столькі адрачэнняў). Раз я нават сказаў ёй аб гэтым.

Здаецца, што я зрабіў гэта перадчасна, бо яе адказ быў уніклівы.

— Ці хацела б ты быць маёй жонкай?

— Не задумвалася над гэтым.

— А паспрабуй, Данута, задумайся...

— Ці нам кепска без роздуму?

— І аднак.

— Мяркую, што такія планы шмат у чым перадчасныя...

— Але ж мы не можам падманваць Ежы. Крыўдзім яго.

— Як можна кагосьці крыўдзіць, калі ён сам нічога не ведае аб сваёй крыўдзе?

— Толькі на выгляд ты маеш слушнасць! У катэгорыях маральных...

— Як ты смееш гаварыць аб маральнасці, калі мы ляжым голыя побач!

## 5

Што ж гэта такое: нібыта жывеш у вялікім горадзе, што падсоўвае чалавеку разнастайныя прапановы, а ў канцы ўсё зводзіцца так ці іначай да пэўнага сцісла абмежаванага кола спраў, людзей, прасторы. Рэдка выходзіш з таго кола, крэйдавага кола.

Калі ўчора, пасля працы, я выйшаў прайсціся і апынуўся на галоўнай вуліцы — а пачынала ўжо змяркацца, і ліхтары над брукам, нібы злёгку кранутыя нябачнай рукою, напаўняліся святлом,— убачыў перад сабою Дануту, што ішла з мужчынам. У першую хвіліну, як я ўбачыў Дануту, нешта прасвятлела ўва мне, як у тых каўпачках са святлом. Але толькі ў першую хвіліну. Хутка я сарыентаваўся, што таварыш Дануты не яе муж, хаця меў падобны сілуэт, ішоў нязграбна, як Ежы, нібы злёгку калышучыся, але быў, аднак, значна вышэйшы.

Я запаволіў крок, каб не дагнаць іх, але і не страціць з вачэй. На тратуары быў даволі вялікі рух, але ніхто не спяшаўся, людзі ішлі расслабленыя, вызваленыя ад напружання, не дбаючы аб сваіх справах, не думаючы аб працы наступнага дня. Часам нехта затрымліваўся, каб напіцца піва або купіць цыгарэты, а некаторыя, можа, дзеля таго, каб разявіць рот на месяц, што нясмела вырысоўваўся на не дужа чыстым небе.

— Я не мог, хаця гэта і непрыстойна, перамагчы недаверлівай цікаўнасці — з кім гэта ішла Данута? Гэта мог быць нейкі яе знаёмы, аднолькава абыякавы для яе, як і для мяне. І наогул, якая мне да гэтага справа, калі Данута належыць мне?

Я ішоў за імі досыць доўга, яны не спяшаліся. Спачатку я баяўся, што Данута выпадкова гляне назад і заўважыць мяне, і тады я павінен быў бы прыбавіць кроку і абагнаць іх. Але яна не аглянулася. Яны ішлі ўсё павольней, відаць, вялі нейкую размову, якая захапіла іх. Тое, як яны ішлі, сведчыла аб цеснай сувязі: то ён, калышучыся, нібыта наўмысна яе падштурхваў, то зноў яны адсоўваліся адно ад аднаго.

Раптам — я заўважыў гэта, хаця поле зроку закрылі мне тры маладыя чалавекі, якіх мне не ўдало-

ся абмінуць,— ён узяў яе за руку, праз хвіліну іх далоні сплякліся. А потым ён прыблізіў сваю галаву і пацалаваў яе. Трохі нібыта ўстрывожаная, яна адхіснулася, але не было ў тым руху пратэсту, хлопнула яго лёгенька па руцэ. Гэта хутчэй заахвоціла яго да новай спробы.

Яны ішлі прытуліўшыся, хада мужчыны перастала быць валкай. Я хацеў параўняцца з імі, прамінуць, павярнуць галаву ў паклоне, каб даць ёй зразумець, што ўсё бачыў. Але ці было б гэта разважна? І што, уласна, я даў бы ёй зразумець?

Мне здалося, што я ведаю гэтага мужчыну, але не мог сабе прыпомніць. Маё жаданне параўняцца з імі аслабіла боязь, што калі я павярну галаву ў паклоне, дык на маім твары будзе відаць збянтэжанасць, якую заўважыць і гэты высокі, раскалыханы мужчына ў акулярах. Гэта прынізіла б мяне!

Я не змог далей ісці за імі. Звярнуў у адну з бакавых вуліц, каб неяк прыйсці ў сябе. І тут зноў напалі на мяне пытанні. Хто гэты высокі ў акулярах? Што азначаюць іхнія жэсты? Ці сведчаць яны толькі аб мімалётным флірце, ці з'яўляюцца ўступам (а можа, ужо расцветам?) да чагосьці больш сур'ёзнага, адна думка аб чым агортвае мяне жахам...

Паветра насыцілася цемраю, месяц набыў выразныя абрысы, але я гэтага амаль не заўважаў.

Я ўсеўся на лаўцы ў парку побач з нейкімі дзяўчатамі, але не дайшло да мяне аніводнае іхняе слова, хаця — як здавалася — звярталіся яны да мяне. Я курыў цыгарэту за цыгарэтай, глыбока зацягваючыся дымам. Быў злы на сябе, што ўсё бачыў, але потым зноў адчуваў садысцкае задавальненне, што вось яна і выяснілася, уся мая прыгода з Данутай.

Хаця нічога ж не выяснілася. Аднолькава добра можна было ўсё, што я бачыў, што, можа, хацеў бачыць, акрэсліць як... памылку майго зроку! Можна таксама было ўбіць сабе ў галаву, што бачыў тую пару ў сітуацыі, якая якраз адпавядала маёй падазронасці.

Першы раз у жыцці апынуўся перад буфетам у бары сам-насам з сабою, па ўласнай ініцыятыве. Папрасіў сотку гарэлкі. За першай соткай прыйшла і другая.

Дзякуючы тым соткам я мог у ніштаватым настроі вярнуцца дадому, умыцца халоднай вадой і заснуць.

Яшчэ перад тым апанавала мяне спакуса пазваніць да Маеўскіх. Вельмі хацелася ведаць, ці вярнулася Данута дадому. На жаль, была адзінаццатая гадзіна, і званок у такую пару патрабаваў нейкай сур'ёзнай выдуманай прычыны, а я не ўмеў прыдумаць ні адной такой прычыны.

## 6

Мы сядзелі з Данутай на тэрасе, а хутчэй пад навесам атэля, прыстасаваным на час сезона пад кавярню.

З часу таго здарэння мінула тыдні тры. Спачатку я не шукаў выпадку, каб убачыцца з Данутай, бо адчуваў сябе ўнутрана цалкам разбітым. Толькі ўчора здалося мне, што я дастаткова спакойны, і таму пазваніў Дануце, просячы аб спатканні. Спачатку яна спрабавала адкруціцца, бесцырымонна пытаючы, што там у мяне такое важнае для паведамлення.

— Так многа, што нельга сказаць па тэлефоне!

— А коратка?

— Коратка? Ёсць справы, якія прашмыгваюць па жыцці не толькі коратка. Бадай, і ты такія час ад часу маеш?

— Не разумею...— прамармытала яна і, магчыма, там, у сябе ў пакоі, пацiснула плячыма.

— Данута...

— Добра, можам спаткацца заўтра!

Я сіліўся намеціць нейкі эскіз размовы. Але дарэмна было ўсё гэта. Усялякія спробы ўзрывала рэўнасць, расчараванне і туга. Я ішоў, цвёрда пастанавіўшы захоўваць, прынамсі, стрыманасць, а што да астатняга — аддацца абставінам.

На жаль, пасля многіх абыякавых сказаў я не вытрымаў:

— Данута, што сталася?

— З чым?

— З намі... Раптам нешта парвалася. Менавіта тады, калі павінна ўмацоўвацца...

— Чаму павінна?

Яе вочы былі халодныя, нібы згаслыя. Я хацеў яе заатакаваць прама, не захоўваючы асцярожнасці.

— З кім гэта ты ішла тады?.. У чацвер вечарам!

— Адкуль я магу памятаць?

— Галубіліся! — выбухнуў я.

— Я-а-а? — прыкінулася здзіўленай.

Аднак, відаць, нешта ўспомніла, бо збянтэжылася, потым пасур'ёзнела, нібы задумалася. Я быў перакананы, што яна ведае, пра які чацвер і пра каго ідзе справа, але марудзіла з адказам. І я атакаваў далей.

— Прабаваў цябе цалаваць. Ты не супраціўлялася! Відаць, значна раней дапусціла яго да фамільярнасці, якая яго ўпаўнаважыла на такія паводзіны.

Данута засмяялася.

— Ах, ужо ведаю: я ішла з Качароўскім! Ты забаўны...

Зараз толькі і я ўсвядоміў, што гэта быў магістр Качароўскі, намеснік Зыгмунта ў «Развіцці». Адчуў палёгку. Можа, справа ішла ў яе аб усмірэнні гэтага жартаўніка? Але зноў ахапілі мяне сумненні.

— Тое, што ён Качароўскі, нічога не праясняе...

— Чаму не? Гэта наш добры знаёмы, ды і Патылаў таксама...

— А я? Я таксама твой знаёмы, як і Патылаў, і што?

— Ага! — у голасе Дануты была злосць, сапраўдная або ўдаваная.— Дык ты хочаш сказаць, што я кабета, якая з рознымі мужчынамі... Ці так?— Данута ўстала, каб пайсці.

Я з цяжкасцю яе затрымаў.

— Я нічога не хацеў сказаць, Данута! Але вашы жэсты сведчылі, што...

— Значыць, лічыш, што я такая! Віншую цябе!

— Сядай, Данута! Ты ж ведаеш, як ты мне неабходная...

— Як нехта любіць мучыць сябе, дык заўсёды знойдзе да гэтага повады! — сказала з крыўдай. Але я, відаць, меў вельмі прыгнечаны выгляд, бо яна палагаднела: — Ніколі не займалася праміскуітызмам! І ведай, што я не люблю мужчын занадта высокіх. І лысеючых!

— Гэта мяне не пераконвае!

— А мяне гэта мала датычыцца! — адрэзала гнеўна.

Я пачаў адступаць, унікаючы шорсткасці. Узяў яе далонь на хвіліну ў сваю руку, зніжаючы голас.

— Данута, ты вельмі мне патрэбная...

— І лічыш, што гэта дае табе права падазраваць мяне ў розных непрыстойнасцях?!

— Але ж...

— Дурненькі ты, Сыльвестр! — Данута гаварыла ўжо зычліва.— Ну, так, патрэбен мне Качароўскі, але з зусім іншых прычын...

— Якіх?..— Я чуў, як уваходзіць у мяне надзея.

— Табе бадай-што магу сказаць. Лічу, што ты чалавек, які ўмее захоўваць чужыя таямніцы. І зычлівы да мяне.

— Я таксама так лічу, Данута!

— То слухай: Качароўскі — чалавек энергічны, намагаецца скінуць Патылу з пасады. Разыгрывае партыю, зараз перавага за Патылам, але я перакананая, што гэта перавага не будзе, не можа трываць доўга. У Варшаве давяраюць яшчэ Патылу, але час зробіць сваё, калі не будзе спаць...

— Але ж Патыла твой швагер, муж тваёй роднай сястры!

— Ну і што ■ таго? А чаму Патыла не хоча памятаць аб тым, што я сястра яго жонкі? Тое, што тады не былі на маім дні нараджэння,— гэта дэманстрацыя Патылы супраць нас.

— Зразумей: вы прадстаўляеце розныя асяроддзі. Можа, гэта толькі антыпатыя Патылы да асяроддзя твайго мужа? А прызнайся, што яно не вельмі прыцягальнае.

— Вузы сямейныя павінны абавязваць незалежна ад асяроддзяў.— Не хацеў я ўдавацца ў палеміку, каб не адыходзіць ад таго, што мяне больш за ўсё абыходзіла.

— Патыла прыстойны чалавек. Шмат у жыцці зрабіў.

— Гэта святоша, ханжа! Не дарую яму ніколі гэтага паказвання перад намі сваёй вышэйшасці.

— Ніколі я такога паказвання не заўважаў. Данута, ты памыляешся!

— Я ведаю, што кажу. Вельмі хацела б, каб Патыла атрымаў па сваёй шырокай макітры!

— І дзеля гэтага дазваляеш такую фамільярнасць Качароўскаму?

Данута натапырылася.

— Здалося табе. Разумееш? Здалося табе! — Данута сказала гэта з такой рашучасцю, каб я неадкладна паверыў і капітуляваў. Я маўчаў...— Хачу так завесці Качароўскага, каб вёў барацьбу далей, да канца... А я маю на яго сякі-такі ўплыў!

Я ўстрывожыўся.

— Данута, вы ж можаце зруйнаваць цэлую сям'ю, жыццё сястры і пляменнікаў.

— Не парабольшвай! Нічога Патылу не зробіцца. Залішне многа важыць і занадта ва ўсё ўрос карэннямі. Ат, трохі яго прыніжу, павінен будзе перайсці на іншую пасаду.

— А калі твой Качароўскі ў загорбак атрымае або сарвецца? Паколькі ж гэта ты яго штурхаеш да дзеяння, ты павінна і такі паварот справы браць пад увагу?

— Не атрымае, не сарвецца!

— Адкуль такая пэўнасць?

— За ім таксама нехта стаіць.

— Ах, так... Ці можна даведацца, хто?

— Пэўны энергічны чалавек. Але не пытай больш ні аб чым, бо ні аб чым не даведаешся!

(Я не пытаў, хаця памяць паслужліва падсунула мне гэтага чалавека з аднаго прыёму ў Патылаў, яго няўдалае выступленне. Хтосьці шапнуў мне, што гэты таўстун, амбіцыі і самалюбства якога сягаюць куды далей, чалавек, які перад вайной вызнаваў, а можа, толькі прапаведваў цалкам іншыя погляды, здаўна носіцца з намерам арганізацыі канкуруючага таварыства з мэтамі, падобнымі да тых, якія свецяць «Развіццю». Я глядзеў тады на яго — а ён пераможна паражэнне — са зласлівай цікаўнасцю.)

Калі б у мяне хапіла адвагі, я сабраўся б і пакінуў Дануту, якая смакавала чарговае піражнае. Я абурыўся за Зыгмунта і пані Басю, а таксама і за сябе. Я сказаў бы, што думаю аб энергіі, якую ўжываюць на бясплодныя фокусы і вылузванні са скуры. Але, на жаль, я не меў на гэта волі. Не хапіла мяне

і на тое, каб выказацца катэгарычна, што веру сваім вачам, сваім назіранням. І я падавіў у сабе амбіцыю, стараючыся ўсё разрадзіць і змякчыць, давесці да добрага канца:

— Хадзем, Данута, да мяне!

— Нашто?

— Кахаю цябе!

— А тут, у кавярні, ты мяне не кахаеш? — яна зноў была зласлівая, тая, што джаліць.

— І тут, і паўсюль...

— То нашто мне ісці да цябе?!

Я зразумеў, што чакаюць мяне цяжкія хвіліны.

## 7

Цяжкія хвіліны, якія мяне чакалі, не былі выкліканы паводзінамі Данyты, яны былі выкліканы пэўнай непрыемнасцю, бо пакуль што гэта была толькі непрыемнасць, якая павінна была скончыцца пакутамі, пра якія я не меў ніякага ўяўлення, якія на нейкі час адапхнулі ўсё ў цень, надоўга парушылі маю раўнавагу.

З некаторага часу непакоіла мяне нейкая мука: час ад часу я адчуваў у крыжы пранізлівы боль.

Спачатку я не надаваў гэтаму значэння: можа, трохі пяску ў нырках? Урэшце ўсё гэта неяк прыходзіць да ладу, або дзеля душэўнага спакою людзі ідуць у аптэкарскі магазін па зелле для адвараў. Калі, аднак, я выпадкова сказаў пра гэта матцы, тая заўпарцілася, патрабавала, каб я пайшоў да доктара.

Яшчэ і пасля візіту да доктара я ставіўся да гэтага легкаважна. І толькі калі ішоў да яго з аналізамі і рэнтгенаўскім здымкам, пачаў адчуваць трывогу. Чакаючы сваёй чаргі, нецярпліва пазіраў на гадзіннік, лічыў хвіліны, час мінаў павольней чым заўсёды, а я хацеў як найхутчэй апынуцца ў кабінеце доктара, каб пачуць словы супакаення...

Заявілі мне, што трэба выдаліць левую нырку. У першую хвіліну я не мог гэтага ўсвядоміць, я не паверыў, але, як вярнуўся дадому, адчуў сябе раптам асуджаным, як пакрыўджаным, і рухнуў на тахту, нікому доўгі час не адклікаючыся.

Нырка перастала дзейнічаць, хаця ў мяне быў адзін — і то некалькі год назад — прыступ колікі, які шмат гадзін курчыў цела і кідаў мяне па пакоі. Трохі ў той час я лячыўся, нават ездзіў з тэрмафсам у чамаданчыку, каб і ў дарозе рабіць сабе праграванне, але неўзабаве пастараўся пра ўсё забыць, да ўсяго паставіўся несур'ёзна, трымаючы на прывязі сваю фантазію. Праўду кажучы, спрыяў гэтаму і доктар, які па ляноце сваёй або па слабасці характару не настояў, каб я зрабіў кантрольныя здымкі.

Але нашто вяртацца да мінулага? Здарылася! Здарылася, халера ясна! Паглынула мяне сур'ёзна маё цяперашняе становішча. Час ад часу я яшчэ ўпадаў у аптымізм, кароткачасовы, бо вядома было, што здымкі і аналізы не хлусяць, чытаюцца толькі адназначна.

Я адчуў сябе крыху як бы прысвечаным ў тайну, але, уласна, ў якую? Як бы там ні было, першыя дні маёй непрыемнасці зрабілі так, што я з нейкай вяласцю рэагаваў на іншыя свае справы, яны трацілі вастрыню. Часам аж злосць брала.

Зараз, знаходзячыся сярод людзей, якія бесклапотна размаўляюць і смакуюць алкаголь, я глядзеў на іх, як нехта іншы, занепакоены непрыемнасцю, аб якой яны не могуць мець і найменшага ўяўлення. А калі б ім аб тым сказаць, то адгаварыліся б банальнымі спачуваннямі, надавалі б розных дурных парад, чаго я не выносіў.

Данута, калі мы раз спаткаліся зусім выпадкова зноў у Патылаў (я не ўмеў ці не хацеў расказаць ім нешта аб Качароўскім, каб не адкрыць, на чыім я баку), хутка заўважыла, што я змрочны, як бы наогул не выходзіў на вуліцу. Адказаў ёй на гэта:

— Ілюзія.

— Бася, а хіба ж ты не заўважыла ў ім ніякай змены?

— Заўважыла.

— І што...

Я шкадаваў, што апынуўся тут, хаця і хацеў тут апынуцца, бо мне ўсё ж карцела пагаварыць з Зыгмунтам. І таму я адказаў унікліва:

— Сапраўды, вам здаецца. Можа, кепска пагаліўся. Са мною гэта часам здараецца.

— Сыльвестр,— заявіла Данута,— на жаль, ты паголены ідэальна.

— Ну так, бываю змрочны, але неўзабаве ўсё праясніцца! — прыкончыў я допыт, і мне здавалася, што ў гэтае імгненне я дэталёва прысвечаны ў тайну...

(І сапраўды, адчуў нейкі танненькі жаль да сябе, успамінаючы К... і язду на трох парах коней з «Ціхага куточка» да падножжа Паркавай гары, каб фунікулёрам дабрацца да рэстарана на вяршыні, хаця гэта і не скончылася тады прыемна, але язда санкамі, снег і снег, вокны ўздоўж трасы і над ёй, вокны, запоўненыя цёплым золатам...)

8

Вось так я і ўлез у бальнічную піжаму: у паласатыя блакітныя штаны (занадта кароткія) і ў паласаты блакітны каптан (з занадта доўгімі рукавамі). Як на штанах, так і на каптане, кашулі і на кальсонах не хапала гузікаў.

Такую вось недапасаваную бялізну я ўжо меў адзін раз у жыцці, было гэта напрадвесні 1945 года, калі я быў салдатам. Але тады я дужа з яе цешыўся, хаця кашуля наогул не мела гузікаў, толькі тасёмкі. Зараз жа я адчуваю сябе няёмка, каб не сказаць — па-дурному.

Я ў аддзяленні адзін з многіх хворых, маё месца ў жыцці засталося там, у горадзе, а нашы плюмажы — асеннія паліто і гарнітуры, боты і кашулі, калі мы іх мелі, засталіся ў прыёмным пакоі, у раздзявальні, адкуль потым перанесены на склад, хай і не назаўсёды.

Бальніца — гэта адно з месцаў, у якім чалавек набывае ўласцівыя яму параметры. Усе атрымліваюць стандартныя, сто разоў перад гэтым для іншых мытыя, піжамы і шлафрокі, якія паспяхова ліквідуюць тое, што нас адрознівае ў свеце здаровых людзей, індывідуалізуе нават на першы погляд. Нішто ў гэтым выпадку не сведчыць аб нашых прафесіях і жыццёвых узроўнях, ніякія значкі не выдаюць нашай арганізацыйнай прыналежнасці; ніякая дэталь не падкрэслівае нашых матэрыяльных

магчымасцей, нашых схільнасцей; ніякі жэст не вызначае ўзроўню здабытага намі ў жыцці прызнання ці ўлады. (Цягаецца, праўда, па калідоры нейкая лысіна з ордэнскай істужкай на змятым штрыфелі піжамы: альбо не мае пачуцця гумару, альбо разлічвае на асобую ўважлівасць дактароў. Але ці можа чалавек смешны, што ў нас з'яўляецца найгоршай, а часам, на жаль, адзінай магчымасцю кампраметацыі, ці можа ён разлічваць на ўважлівасць. Самае большае — на паблажлівасць, на патуранне.) Адрозніваемся мы між сабою перш за ўсё кандыцыяй, мукамі, рознымі дыягназамі. Тут ты толькі пацыент, да якога, можа, часам крыху лепей адносяцца.

Хаця і гэта не ўся праўда. Менавіта ў бальніцы, у асяроддзі людзей, асуджаных на мукі, выступае ў поўнай бессаромнасці або ў своеасаблівым німбе нервовы стан і ўстойлівасць. Тут, у час змагання за здароўе, дэмаскуюцца, уласна кажучы, характары. І менавіта тут выступаюць найлепшыя рысы людскія: дабрыня, зычлівасць, пачуццё прыналежнасці да таго самага людскога гатунку, адданага тым самым законам і апошнім і крайнім справам, калі ўсё прадвырашана. Вонкавасць тут нічога не значыць.

Я ў бальніцы... Перш чым гэта, аднак, наступіла, я досыць доўга марудзіў, каб падрыхтавацца да гэтай яшчэ адной цэзуры ў маім не занадта эфектным жыцці. Нават адтэрміноўваў заяву ў бальніцы, каб падрыхтавацца да гэтай цэзуры. Аказалася, што няшмат мне гэта дапамагло, ат, толькі перадаў тры справы, якія я вёў, калегу, напісаў позву, выклікаючы ад імя прадпрыемства, у якім я працаваў юрысконсультам, у суд скаапераваны з намі кааператыў «Амега», бо кааператыў яшчэ раз не паставіў некаторых дэталяў згодна з дагаворам.

Потым я з'явіўся ў прыёмны пакой спалоханы і горка перакана765ны, што ні да чаго я не здолеў падрыхтавацца, нічога не выясніў у сваіх справах і адносінах; я ўсё яшчэ не разумеў Дануту, не разумеў паводзін людзей, сярод якіх часта бываў: не насыціў нават вачэй асеннімі адценнямі жаўцізны, бронзы, чырвані і зелені. Нічога важнага так і не сказаў страшна занепакоенай матцы. А найгорш тое, што

і сам сабе не здолеў сказаць нічога важнага. Іншая рэч, што я падрыхтаваўся да пакут, а не да развітання. Аперацыя, якая мяне чакала, відаць, не заключала ў сабе ніякіх неспадзяванак, патрабавала толькі прафесійнасці і добрага дагляду, а дактары, ад якіх я павінен быў пэўны час цалкам залежаць, мелі рэпутацыю добрых спецыялістаў, кіраваў імі рухавы і вельмі імпульсіўны прафесар ў мундзіры палкоўніка; бальніца, у якой я апынуўся, мела рэпутацыю саліднай бальніцы, добра абсталяванай.

Нават, аднак, і ў тым выпадку, калі працэдура (як яны гэта эўфемістычна называлі!) дазваляе прадбачыць вынік без якіх-небудзь істотных неспадзяванак, нават у такім выпадку не ў адну гадзіну набягаюць на чалавека розныя пытанні: ці ўсё ўдасца? Ці моцна будзе балець? Які гэта будзе мець вынік? Што, калі?..

Калі я ўвайшоў ва ўказаны мне санітаркай пакой, адзін ложак быў заняты, а другі, аддзелены ад таго малой тумбачкай,— чакаў мяне, за акном, крыху наводдаль, вецер лёгка хістаў галіны дрэў. Але не на іх звярнуў я ўвагу.

У майго ляжачага суседа быў немалады твар, нібы засяроджаны ў антыпатыі да ўсяго. Ён пакутаваў. І цяпер ні ад каго не мог чакаць дапамогі. Абязбольваючы ўкол якраз пераставаў дзейнічаць, а чалавек ведаў, што да наступнага яшчэ шмат падзеленага на адасобленыя секунды часу.

Год таму назад ампутавалі яму нырку, але ў другой, ужо адзінай, сфармаваўся каменьчык, і трэба ўсё зрабіць, каб, справакаваны, будзячы лютыя болі, ён выйшаў. Суседа прывезла ўчора «хуткая дапамога» ў вельмі кепскім стане: прыскораны пульс, запор мачы, высокі ціск і тэмпература. Тую найгоршую фазу сусед ужо меў за сабой, але чакалі яго доўгія гадзіны, напоўненыя болем і чаканнем.

Даведаўся я аб тым усім не адразу і не ад яго.

Я ўвайшоў, значыць, у жыццё, у якім усё зводзілася да элементарных спраў: боль, запор мачы, уздуцце, гарачка і пот, бяссонніца, а потым, у сваю чаргу,— пасля некалькіх дзесяткаў мінут соннага адурэння,— да вечара.

Я яшчэ, аднак, функцыяніраваў паводле іншых правіл — гэтыя прыкметы не мяне датычыліся, пра іх я толькі ведаў, назіраў іх, сам не ўцягнуты ў іх.

Паступова ўсё сакрэтнае і кампраметуючае рабілася яўным. Ніхто тут нічога не саромеўся. Назаўтра ў шэсць раніцы таўсташчокая бландзіначка ў белым халаце, яшчэ цёплая ад сну, ўвайшла ў пакой, раздала нам тэрмометры, а праз некалькі хвілін вярнулася, разабрала тэмпературу, замерала пульс, запытала кожнага пра стул і адказы запісала ў гісторыю хваробы.

На чацвёрты дзень мне сказалі, што на другі дзень мне зробяць аперацыю. Наколькі дагэтуль я нудзіўся, з цяжкасцю пакараючыся бальнічнаму раскладу, настолькі цяпер мне адразу здалося, што занадта хутка набліжаецца тое, што было мэтай майго знаходжання тут.

У той час, калі я нудзіўся, трохі непакоячыся і спачуваючы іншым, снуючы па доўгім калідоры, абменьваючыся нейкімі заўвагамі з санітаркамі і дактарамі, мяне спраўна падрыхтоўвалі да аперацыі, бралі кроў, прасвечвалі, ацэньвалі сэрца паводле электракардыяграмнага запісу, рабілі апошнія аналізы.

Хаця я настойліва стараўся адпачыць перад аперацыяй, спаў я ў тую ноч вельмі дрэнна, няшмат дапамаглі дзве таблеткі. А найбліжэйшым у той вечар чалавекам быў мне адзін маёр з іншага пакоя, якога меліся аперыраваць у той самы дзень, што і мяне.

Вядома, у душы я быў перакананы, што яго аперацыя была значна больш малаважнай, што яго пузыр дастаўляе яму менш непрыемнасці, чым мне мая нырка. Я не пытаў яго, але думаю, што гэтак думаў і ён пра маю нырку. А можа, і ўвогуле не думаў пра тое, што чакала нас заўтра: усё ж, каб яго ліха, маёр, кавалер ордэнаў.

Калі ўрэшце мне ўдалося заснуць, тады менавіта ўторглася ў мой сон дзяжурная санітарка, якая пачынала сваё ранішняе падарожжа па пакоях. Сусед яшчэ ўчора нарадзіў той няшчасны каменьчык, які ў боце не перашкаджаў бы нават у доўгай прагулцы па горадзе.

Сусед з задавальненнем гаварыў аб выпісцы са шпіталя, адчуваў сябе трохі як нейкі гістарычны пераможца, раскашаваў спакоем, які запанаваў у яго змучаным целе, і таму быў мне зусім чужы.

Затое я адведаў свайго маёра, пажылога чалавека з каротка падстрыжанай сівізной, з губчастым, але сімпатычным тварам. У яго апатычных вачах я не знайшоў нічога ад таго, што сёння чакала нас, і гэта мяне крыху супакоіла. Не выпадала мне выдаваць, што я хацеў бы, каб урэшце пачалася тая фатальная восьмая гадзіна, пасля якой, мусіць, наступіць аперацыя. Я задумаўся над тым, як доўга буду ўсведамляць усё тое, што будзе рабіцца на аперацыйным стале. Каб скараціць чаканне, наведаў некалькіх хворых. Неспакойна паглядаў на дактароў, але яны трымаліся так, нібы зусім мяне не заўважалі, не хацелі мяне палохаць.

Мой доктар сказаў мне вярнуцца ў ложак. Праз хвіліну ён з'явіўся са шпрыцам, у якім быў морфій. Значыць, пачынаецца! Пасля ўкола было непрыемна, я не адчуваў нічога з таго, што нібыта дае славуты морфій, які абуджае цікавасць, калі пра яго чытаеш у раманах. Я адчуў сябе адураным, як бы нехта нечакана грукнуў мне кіем у лоб. У носе і ў роце ўсё перасохла. Потым я пераваліўся на падстаўлены вазок, вывезлі мяне да ліфта, з якога калідорам на верхнім паверсе я даехаў да аперацыйнай залы. Вазок мінаў разнастайныя, не знаёмыя мне ані назвай, ані формай апараты і абсталяванне і ўрэшце затрымаўся каля стала пад велізарным абажурам.

Аперацыйныя дактары яшчэ не з'явіліся. Мяне пачалі прывязваць, паднялі левую руку і ўмацавалі яе нада мною вертыкальна, як куст з памідорамі да тычкі. Я адчуваў, што мяне паступова занявольваюць, і адразу ж у маёй галаве прамільгнула: «А што каб вось так сарваўся і ўцёк? Яшчэ памятаю, у якім баку знаходзяцца белыя дзверы!» Аднак добра, што мне далі морфію. Дзякуючы яму быў часткова сонны, у роце было суха, як у даспелым арэху. Далі мне ўкол евіпану, дзесь паблізу я пачуў словы, якія па гучанні голасу прыпісаў прафесару. Потым я сказаў «А рэведэрчы!».

(На нейкі час дакладны падлік не мае значэння, але я задумаўся над гэтым значна пазней. Можа, толькі назаўтра. Задумаўся над тым, ці сапраўды ў целе не было ніякага болю, ці было магчымае аж такое выключэнне нервовай сістэмы? Я мог бы і не вярнуцца да жыцця, не сказаўшы перад гэтым аніякіх узнёслых, або хаця б толькі важных слоў. Мог — бо ці мала што бывае — назаўсёды і канчаткова застацца ўспамінам пра чалавека, астатнімі словамі якога было жартаўлівае развітанне «а рэведэрчы!»... Ах, было б хіба някепска каб вырашальны момант, які чакае недзе сваіх акалічнасцей, меў такое ж годнае заканчэнне, каб не заключаў у сабе нічога прынізлівага і кампраметуючага, што так часта папярэднічае людскому скону. Каб удалося мне заснуць у Богу, як абвяшчаюць старыя надмагільныя камяні і некралогі!)

Я яшчэ не ўвайшоў у рэчаіснасць пакоя, ложка, свайго цела, але пачуў ужо, зноў пачуў сам сябе: «Дайце піць, дзеля бога! Піць да яснай халеры!»

Потым, нібы вяртаючы вочы святлу, я заўважыў металічную вешалку ў нагах майго ложка і ўздоўж яе шкляныя рэзервуарчыкі ў сетцы гумавых трубачак — абсталяванне для пералівання крыві.

Мне змачылі вусны тампонам...

— Прабачце, пане, хіба зноў дождж?

— Не, увесь час цудоўнае надвор'е...

— Дык чаму я ўвесь час чую шум дажджу?

— Гэта з крана пад умывальнікам падаюць кроплі. Трэба яго дакруціць...

Так я размаўляю са сваім новым суседам. Дакручванне не дапамагло, днём, а асабліва ноччу я чую цярплівы і раўнамерны шум асенняга дажджу. Час ад часу ўпэўніваюся, што ніякага дажджу няма, і ўсё ж яго чую. Часам у гэтым шолаху з'яўляецца нейкі музычны матыў, ціхі, але ўзварушлівы.

Спачатку амаль зусім не балела, таму што балела ўсё і наогул. Праз некаторы час боль лютуе толькі ў вобласці левага сцягна.

Некалькі сутак я засяроджаны толькі на болю. Мару аб абязбольваючых уколах. Ні пра што іншае не думаю. Я — толькі збалелае цела. Мне здаецца, што можна было б без вялікай рызыкі прынесці

мне самыя найгоршыя весткі, калі толькі такія недзе ёсць, якія ў іншых акалічнасцях балюча ўваходзяць у лёс чалавека.

Калі заўважыў на століку паблізу ад увахода ў пакой два букеты кветак (адзін, напэўна, ад сям'і, а другі ад каго? Можа, ад Дануты?»), я са злосцю падумаў, што не мне яны належаць. Хутчэй дактарам, санітаркам. Што мне [illegible] тых ідыёцкіх кветак у гэтым стане фізіялагічнага прыніжэння? Так, прыніжэння, апошленасці! Няма тут важнейшых спраў, чым увядзенне катэтара. Справа апаражнення ўзводзіцца ў ранг самай важнай падзеі.

А ўначы, цалкам самотны, таму што сусед увогуле някепска пахропвае, я чакаю світання, якое набліжаецца да роспачы павольна, праяўляючы абрысы розных рэчаў. Рукі мае ахвотна служылі б мне, дастаючы папяросу, ваду з кропляй лімоннага соку альбо лігнін, але я не магу пасунуцца на край ложка, і мала што знаходзіцца ў радыусе дзеяння гэтых маіх беспрацоўных рук. Ах, даўно ўжо я не быў аддадзены чужой — часам шорсткай і неахвотнай, а калі-нікалі добразычлівай — дапамозе!

Кроў і гной прагрызаюць перавязкі, якія часта мяняюць. Ледзь некалькі дзён і начэй аддзяляе мяне ад першай, несамастойнай спробы выкараскацца з ложка. Аб тых некалькіх днях і начах чакання, аб немагчымасці пераскочыць праз іх, аб выкрасленні іх з біяграфіі нехта іншы мог бы напісаць цэлы раман, але як рэдка, па сутнасці, уменне пісаць супадае з вопытам і перажываннямі. Гэта, уласна, можа, часам уражваць: колькі ж найцяжэйшых выпрабаванняў гіне, гніе чорт ведае ў якім маўчанні, бо іх ахвярам не хапае адпаведных слоў.

Першае наведванне: прыйшла маці з сястрою. Прымірэнне, спачуванне і такая рэдкая ў штодзённых днях лагоднасць, якую нясуць у сабе такія адведзіны. Я не хачу сёрбаць булёну, не цікавяць мяне кавалачкі курынага мяса, якія плаваюць у ім, цешыць мяне яго блізкая канкрэтнасць, я радуюся цёмнаму бляску судка і яго накрыўкі. Дакранаюся да яблыкаў, абы ўсвядоміць сабе іх форму, адпіваю крыху кампоту, каб адчуць у сабе салодкую вільгаць, якая разбаўляе нават боль.

З дапамогаю маці і сястры спрабую ўстаць, трымаю ў руцэ лейцы з бандажу, прывязаныя да рамы ложка. Праз хвіліну, аднак, павольна ападаю на пасцеленае на ложак — пракрустава ложа ўначы, калі нават на чвэрць гадзіны нельга знайсці, выбраць у гэтым маім гаротным абмежаванні хоць нейкае трохі больш зручнае становішча.

«Энергічны, неэнергічны» — гэта я часта чую ў размове аб людзях. Энергія бывае розная. У мяне цяпер няма ніякай. Але затое можна шмат думаць.

Што мне да Данутьі? Як часта вяртаецца зараз да мяне гэта пытанне. Шукаю розных адказаў, хаця ведаю, што, калі б нават выясніў справу, гэта не мела б ніякага значэння. Насуперак таму, што цяперашняя розніца ў нашым становішчы дае мне пачуццё дыстанцыі, нават незалежнасці.

Энергія! Яны ўсе энергічныя. Але тыя, што такія, як я, па-за якой-небудзь ініцыятыўнай дзейнасцю з яе заўсёднай патрэбай прыняцця рашэнняў, яны больш выразна ўсё бачаць. Ці маюць, аднак, рацыю. Рацыя лёгка служыць тым, якія вядуць,— так калісьці я сказаў пані Басі, калі аднойчы яна крытыкавала мужа за тое, што, на яе думку, ён зрабіўся ў сваёй установе менш актыўны.

Энергія павінна шукаць выйсця. Не заўсёды знаходзіць належнае. Мне скардзіўся калісьці Дыдала, які паходзіць з вёскі і, значыць, па натуры мае ў сабе нейкую самастойнасць, што яго паралізуе бюракратызм. Каб перамагчы яго, ён выдаткуе столькі энергіі, што потым на многія справы махае рукой.

— Але, пане Станіславе, мы ж бачым паўсюль энергію ў яе найлепшых праявах: дамы, фабрыкі, школы. Энергію індывідуальную і калектыўную.

Дыдала не пярэчыў, толькі схаваўся за прыклад:

— Часам наша работа, як вялізны капрыз, як бы нехта загадваў нам увесь час раскідаць капіцы сена і ўвесь час гэтае сена збіраць. Калі чалавеку гэтага досыць, то тады...

— Што тады?

Дыдала паглядзеў на мяне прыплюшчанымі вочкамі і змяніў тэму на зусім нейтральную.

Урэшце, адкуль я магу ведаць, ці энергічны чалавек Дыдала Энергія бывае розная. Мне зараз не

хапае ніякай. Але затое я магу думаць. Хаця б над тым, колькі разоў не хапіла мне энергіі рашучасці. Гэта ж я два разы адмовіўся ад жаніцьбы, гэта значыць, ад акрэсленасці ў сваім асабістым жыцці. А колькі ў мяне таго жыцця?

Можа, толькі раз адважыўся на энергічнае рашэнне. Тады, калі насуперак бацьку, які яшчэ жыў, пайшоў у войска дабравольцам. Ці была гэта, аднак, мая энергія, а не энергія, удзеленая мне іншымі маладымі людзьмі?

## 9

Той другі букет, ананімны, складзены з пяці гваздзік, быў, аднак, ад Дануты. Значыць, прадчуванне (ці толькі мара аб тым, каб менавіта так было) не падманула мяне. Як добра ведаць, што хтосьці аб кімсьці памятае, нягледзячы ні на што, нават на суровыя і крутыя сваркі і непаладкі. Не губляецца вера ні ў каго, пакуль існуе перакананне ў магчымасці паразумецца. Часам не трэба нават старацца ажыццявіць гэтай магчымасці, не трэба спрабаваць, каб не падвергнуцца паўторнаму паражэнню.

Я здабываў уладу над сваім прыніжаным целам. З кожным разам даўжэй сядзеў на ложку, сам сябе абслугоўваў, пачынаў хадзіць, вучыцца хадзіць на манер, уласцівы дзецям. Здаралася яшчэ, што мусіў тую навуку перапыняць, але ўжо не губляў пачуцця, што перапынак гэты — хвілінны і праз некалькі гадзін я вярнуся да навукі гэтага алфавіта двуногіх, вынікі якой не ўнушалі ніякіх сумненняў.

У пагодлівы папалудзень — а гэта не быў дзень наведванняў — нехта пастукаў у дзверы нашага пакоя. Дзверы пасля нашага дазвалення адчыніліся, паказалася галава Дануты, а потым — абаперты на падушкі — я ўбачыў і ўсю Дануту. На ёй быў накінуты абы-як, дзеля задавальнення правілаў, белы бальнічны халат, у руцэ трымала кветкі і нейкі пакуначак.

Яна закруцілася, нешта там перасоўваючы і пераастаўляючы. Я папрасіў, каб яна падсунула крэселка да ног майго ложка, таму што занадта вузкая прастора, што дзяліла два нашых ложкі, не дазваля-

ла падсунуць крэсла бліжэй. Сусед, каб не перашкаджаць нам у размове, далікатна пакінуў пакой. Урэшце, ён і так часта выходзіў пакурыць.

Размова не адразу, аднак, склалася ў сказы, уступам для яе, досыць зацягнутым, былі толькі іх абломкі, мізэрныя рэшткі... Праўду кажучы, да самага канца размовы я не спасылаўся на справы, для мяне самыя важныя. Не было спрыяльных акалічнасцей, належала пазбягаць усяго, што крыла ў сабе завусеніцы і іголкі. Мы стараліся ўтрымацца на гладкай паверхні, не трывожачы глыбіні.

Перш за ўсё я падзякаваў за той букет.

— Была ўпэўнена, што не здагадаешся, ад каго ён.

— Забаўная ты! У тым выпадку домысел мае крыніцу ў марах, а гэта значыць, сам напрошваецца.

— А каб гэта не пацвердзілася?

— Каб не пацвердзілася...— паўтарыў.— Ну што ж, мары маюць такую ўласцівасць, што рэдка збываюцца, я, стары конь, ведаю пра гэта даўно, а таму заўсёды захоўваю ў сабе месца для расчараванняў, клапаны над тым месцам,— пажартаваў я,— ніколі не зачыняюцца!

Потым, вядома, я расказаў пра хваробу і аперацыю, стараўся не нагружаць расказ падрабязнасцямі. У адным месцы проста перарваў сябе, пытаючы:

— Але што ў цябе, Данута, чуваць?

Яна нахмурылася:

— Ах, нічога добрага! Выключна нічога добрага!

(Мне вельмі хацелася спытаць пра Качароўскага, але гэта перакрэсліла б усю вартасць наведвання, а па-за тым, у гэтых акалічнасцях, было б невыбачальным свінствам!)

— Кажы. Я ж не меў ніякіх звестак пра цябе.

— А ці, прынамсі, цікавіўся мной?

— Тая зацікаўленасць сядзіць ува мне. Патыла сюды ані разу не з'явіўся, прыслаў толькі ліст, на які яшчэ тады не мог яму адказаць...

— Ён такі!

— Ох, не! Іначай быць не магло, да мяне ж дапускаюць толькі самых блізкіх... Маці казала, што пані Бася ўвесь час пра мяне пытае па тэлефоне!

— А я, як бачыш, сама сябе дапусціла! — умя-

шалася Данута, жадаючы, каб я пахваліў яе знаходлівасць у пераадоленні перашкод.

— Ты хоць куды! Дазволь мне пацалаваць тваю руку.— Яна ўстала з крэсла і працягнула мне далонь.— Але расказвай, Данута!

— Ежы сядзіць! Забралі яго тым самым ранкам, што і Дыдалу... Што ж, я мушу табе пра гэта сказаць, хоць хворых нерваваць нельга.

— Што ты кажаш?! — усхапіўся я гвалтоўна.— За што?

— Пакуль што нічога не вядома. Але ўсё разам паскудна пахне. Выраблялі на ўласны рахунак, сыравіна без разнарадкі.

— Дык, значыць, злачынства гаспадарчае.

— А якое ж яшчэ. Ідзе следства. Але нашто табе засмучацца! Не будзем пра гэта!

— Спачуваю табе, Данута.

Яна з цяжкасцю засмяялася.

— Я тым больш сабе спачуваю. Добра яшчэ, што аўтамабіль схавалі...

— Якой маркі? — пытанне было дурное, непрыстойнае, але прагучала раней, чым я здолеў прыкусіць сабе язык.

— Ты забаўны. Форд Сандэрбірд!

Я прыплюшчыў вочы.

— А што ў Патылаў?

— Не ведаю, не бываю. Не думаю, каб там вочы прагледзелі, чакаючы мяне! Сустракаюся часам з Басяй, але ў горадзе.

— Гэта дрэнна, што ты ў іх не бываеш.

— Яны іншыя людзі.

— Менавіта таму.

Запала доўгае, проста-такі чутнае маўчанне. Яна глядзела на мяне, я на яе. Прамільгнула ў мяне ў галаве: зараз, або ніколі! Я моцны, дзякуючы... таму што захоплены хваробай. Дзякуючы ёй магу думаць толькі пра сябе. Рашаючыся на вялікае ўнутранае намаганне, але адначасова і фізічнае, бо я ж чуў, як пот выступае на маім ілбе, кроплі поту былі, як шпілечкі; колкім шэптам, які, магчыма, яе крыўдзіў, я папрасіў:

— Ідзі сабе, Данута, ідзі.

# ЗМЕСТ



ЯН ГУЩА
Пан Грициан и другие
На белорусском языке

Рэдактар В. С. Сёмуха. Мастакі С. В. Мітурыч, Л. М. Мітурыч. Мастацкі рэдактар Ул. Ул. Даўгань. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар А. Т. Глушчанка.

Здадзена ў набор 16/IV 1976 г. Падп. да друку 30/VII 1976 г. Тыраж 6000 экз. Фармат 84×100 1/32. Папера друк № 1. Ум. друк. арк. 14,04. Ул.-выд. арк. 14,44. Зак. 3180. Цана 1 руб. 9 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.